ЗОК-1/1714

# ПОЛЫМЯ

## № 4 (12)



МЕНСК — 1924

ЗОК-1
1714




Ба 05 1865

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

Пад рэдакцыяй З. ЖЫЛУНОВІЧА,
І. ЛІМАНОЎСКАГА і І. ШЫПІЛЫ

№ 4 (12)
1924




Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК — 1924



## НАШЫ СУПРАЦОЎНІКІ:

Александровіч А., Арэшнікаў П., Байкоў М., Баліцкі А., Баравы М., Бядуля З. (Ясакар), Вольны А., Вольфсон С. проф., Гарбацэвіч В., Гартны Ц., Грамыка М., Гурло А., Дзяржынскі Ў., Друшчыц В., Дубоўка Ў., Журба Я., Замоцін І. проф., Ігнатоўскі Ў. проф., Колас Я., Купала Я., Караневускі Я., Лесік Я., Ліманоўскі І., Маразоўскі М., Моркаўка А., Мялешка М., Некрашэвіч С., Неманскі Я., Нодэль В., Пічэта У. проф., Пушча Я., Пятровіч Я., Пятуховіч М. проф., Родзевіч Л., Смоліч А., Херсонскі Х., Хлябцэвіч Я., Хмарка, Цьвікевіч Я., Чарот М., Чарнушэвіч Н., Шукевіч-Трэцьякоў Р. і інш.



У. Ігнатоўскі.

1

# ЭТАПЫ РЭВОЛЮЦЫЙНАЕ ЧЫННАСЬЦІ т. Ў. М. ІГНАТОЎСКАГА.

31 сьнежня адбудзецца сьвяткаваньне дваццацёхгадовага юбілею рэволюцыйнае чыннасьці т. Ў. М. Ігнатоўскага і пятнаццацёхгодзьдзе яго беларускае культурна-рэволюцыйнае працы.

У 1904 годзе, будучы студэнтам гісторыка-філёлёгічнага інстытуту ў Ленінградзе, т. У. М. Ігнатоўскі прыняў чынны ўдзел у студэнцкай дэмонстрацыі, быў арыштаваны і пасаджаны ў „Дом предварительного заключения". У вастрозе ён прасядзеў каля трох месяцаў і, вышаўшы, ізноў папаў пад рэпрэсыю за дзейнае сьвяткаваньне гадавіны так празыванага „вызваленьня" сялян з-пад прыгону. На гэты раз т. Ў. М. Ігнатоўскага выслалі з Ленінграду на радзіму, у Горадзеншчыну.

Захоплены цалкам рэволюцыйным рухам, ён дома не астаецца, а нелегальна адпраўляецца ў цэнтр краю, у Вільню, дзе знаёміцца з соцыялістымі-рэволюцыянэрамі і з сябрамі Бел. Соц. Грамады і захапляецца цалкам палітычна-рэволюцыйнай працаю. Тут ён задумваецца над беларускім пытаньнем. Аднак развой руху ў агульна-расійскім маштабе на гэты раз не дазваляе т. Ў. М. Ігнатоўскаму аддацца працы на глебе беларускай і ён, паехаўшы ў Ленінград у 1906 годзе, каб паступіць у ўнівэрсытэт, прылучаецца да тэрорыстычнай організацыі. Адначасова цесна зьвязваецца з рабочымі абухаўскага заводу і вядзе сярод іх агітацыйна-пропагандыцкую работу.

У 1907 годзе перамогшая рэволюцыйны ўздым рэакцыя востра распраўляецца з рэволюцыянэрамі. Палявыя суды, катарга, крэпасьць—перапаўняюцца прадстаўнікамі соцыялістычных партый. Разам з іншымі пападае ў рукі драпежнае ахранкі і т. У. М. Ігнатоўскі, якога і высылаюць у Алонецкую губэрню, у Лёдэйнае Поле—адміністрацыйным парадкам. У ссылцы ён не пакідае рэволюцыйнае працы, якую праводзіць сярод настаўніцтва, застаўшыся сам у школу працаваць, і сярод гарадзкога рамесьніцкага жыхарства. Поліцыя гэта хутка празнае і выключае са школы, паставіўшы за т. У. М. Ігнатоўскім строгую сочку.

У 1909 годзе т. У. М. Ігнатоўскі скончыў ссылку і па падробленым дакуманце паступіў у Дэрпцкі Ўнівэрсытэт.

У Дэрпце ён зараз-жа сышоўся з гуртком беларусаў-студэнтаў і крута павярнуў сваю энэргію ў бок беларускае культурна-рэволюцыйнае чыннасьці. У гэтым годзе ён разам з іншымі падпісвае сваё імя пад вітаньнем беларускай газэце „Наша Ніва" ў трохгодзьдзе яе існаваньня.

Зьвязваецца цесна з Беларуск. Соцыялістычнаю Грамадою. Беларускае пытаньне моцна кратае яго пачуцьці і думкі, захапляе яго цалкам; загэтым, скончыўшы ўнівэрсытэт, т. У.М. Ігнатоўскі рашае ня ехаць нікуды, а застаецца працаваць у цэнтры Беларусі, у Вільні. Дзякуючы нядобранадзейнасьці ў воку начальства, ён не дастае месца ў казённай установе, а становіцца настаўнікам прыватнае гімназіі. Паміма іншай працы, жывучы ў Вільні т. У. М. Ігнатоўскі вядзе чынную падпольную рэволюцыйную працу сярод салдат сапёрнага батальёну.

З 1914 году т. У. М. Ігнатоўскі паступіў выкладчыкам грамадзянскіх дысцыплін і экономічнай географіі ў Менскі Настаўніцкі Інстытут, у якім працаваў да 1920 г. Паміж офіцыйных лекцый, маючы ўплыў на студэнтаў, ён трымаў іх у курсе палітычных падзей. Гэтак, у адносінах да вайны ён заняў паражэнчую позыцыю і ў часы прыезду цара ў Менск адгаварыў вялікі лік студэнтаў ісьці сустракаць яго.

Калі Інстытут эвакуаваўся ў Яраслаўль, то т. У. М. Ігнатоўскі заложыў з студэнтаў гурток „Маладая Беларусь“ і павёў шырокую культурна-асьветную і рэволюцыйную працу сярод беларускіх бежанцаў. Інстытут стаў асяродкам палітычнага беларускага жыцьця ў Яраслаўлі.

З 1918 году т. У. М. Ігнатоўскі пераехаў з інстытутам назад у Менск. У Менску ён сустрэў згодніцкую палітыку беларускае Рады і пачаў вясьці супроціў яе настойнае змаганьне. Абвяшчэньне Беларускае Савецкае Рэспублікі захапіла яго дарэшты і ён шчыльна падышоў да комуністычнае партыі. Перад польскаю окупацыяй менская організацыя К. П. Л. і Б., эвакуіруючы Менск, даручыла т. У. М. Ігнатоўскаму многія партыйныя заданьні. Выпаўняючы іх, ён узіму 1920 году з'організаваў беларускую комуністычную організацыю. Апошняя пад яго кіраўніцтвам павяла шырокую працу ў окупаванай Беларусі. Організацыя выдзеліла паўстанцкі комітэт, наладзіла сувязь з падпольшчыкамі ад К. П. Л. і Б., павяла змаганьне з окупантамі, радаю і яе агітацыяй і інш.

Калі Чырвоная Армія з беларускімі працоўнікамі вызваліла Беларусь і была выдана дэклярацыя, якая падцьвердзіла існаваньне Беларускае Савецкае Рэспублікі, то т. У. М. Ігнатоўскі падпісаў яе ад прэзыдыуму Бел. Ком. Організацыі.

З гэтага часу ён стаіць на адпаведным месцы — перш камісарам земляробства, а пасьля народным камісарам асьветы.

Савецкая Ўлада Беларусі і Комуністычная Партыя даручала і даручае яму адпаведныя заданьні. Зараз т. У. М. Ігнатоўскі зьяўляецца сябрам прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту Беларускае Савецкае Рэспублікі і сябрам прэзыдыуму ЦВК СССР. Па партыйнай працы ён займае месца загадчыка АПО ЦК КПБ, будучы сябрам яго бюро.

---

Пахаджэньнем т. У. М. Ігнатоўскі з сялян Горадзеншчыны, Берасьцейскага павету, вёскі Такары. Бацька яго—вясковы настаўнік—сын селяніна-прыгоньніка. Зараз т. У. М. Ігнатоўскаму 43 гады.

3

# ЧАПІЛА ДУШЫ

## Цішка Гартны

На другім поверху малюткі пакоік; як каюта ў караблі; адно вакно—на ўсю вулічную сьценку. Аблезлы стары, адномесны ложак шчыльна прыцісьнуты да сьценкі, наўскасяк кругленькі маленькі столік—пад шапку ўмесьціцца—з чарніламі ў чарапку, з паленцам, замест асадкі, пасярэдзіне. У другім куточку, ад дзьвярэй, дзе ўкрадчыва паказваецца кавалачак, самы руб печы—уціснута некалькі адзежын, падвешаных на паржаўленых, пагнутых цьвіках; сярод іх чысты гарнітур разап'яты на вешалцы й бярэжна прыгорнуты газэтаю. Зэдлік, у плямах, нарысаваны нагцямі ды нажом, заўсёды бяз места, а больш ужыўны пры вакне; тры запыленых літографіі ў кутку—„Царевна Софія“, „Убійство царём Іваном Грозным своего сына“ і „Апофеоз войны“—Верашчагіна. Гадоў пяць не мянятыя абоі, павуціньне ў куткох пад стольлю—гэткі ўнутраны выгляд пакою, у якім жыве Васіль Крыга вось ужо пяць год.

Плаціць пяць рублёў МУНІ, а гадоў тры жыў дарэмна. Лічыў, што мае права на гэтае, бо заслужыў перад рэволюцыяй... Адзнавалі гэта яго права і жыльцы-суседзі, і дамком, і жылішчны аддзел. Не намякалі ні разу. Мо й цяпер не казалі-бы, але што-ж—нэп—гэткі час—калі нельга нічога дарам.

Васіль ворагам быў гэтай новай політыкі, спрачаўся на ячэйцы, выступаў на агульным сходзе організацыі, нават свае асабовыя думкі адзін раз згразіў заўважыць у пратаколе ячэйкі.

Хоць схіляўся перад вялікасьцю таварыша Леніна, а лічыў, што ў справе нэпу можна пасупярэчыць і яму. І супярэчыў—хоць папракалі яго ў лявізьне.

Васілю думалася, што НЭП падарве моц Савецкае ўлады, за якую ён шчыра ды безкарысна, поўны натхненьня ваяваў: і на Урале, і супроць Дэнікіна, і з палякамі. З царскае арміі ён падаўся ў чырвоную гвардыю: хадзіў на Кярэнскага пад Гатчыну, браў юнкерскія казармы... Лічыў гэта сваім абавязкам, сваёю місыяй: змагацца, адкінуўшы ўсе іншыя думкі, усе жаданьні блізкія й неадымныя ад кожнага чалавека.

І ўсе тры гады наведамі бываў у сваім пакоі, як госьць у готэлі—выпадкамі. Комітэт зваў—ён выходзіў, запіраў на ключ і забываў, што мае прыстанішча.

Зачым было яму думаць аб яго недастачах? Кончыцца змаганьне перамогаю рэволюцыі—можа й прыдзецца чапіць гэтых думак. Але калі будзе тое?

Ён так думаў, а вышла іначай. Раз нечакана, вярнуўшыся з паходу, Васіль мусіў бліжай прыняць да сэрца справу з кватэраю. Гэтаму была вось якая прычына: у госьцях у брата—спаткаўся з дзяўчынаю. Моцна самому кінулася ў вочы, чапіла душу, а рэшту бабы ўхвалілі; угаварылі сыціся. Чаму-б не! Дзяўчына, як портрэт. А к таму гады прышлі, пачуцьцё заскрабло душу.

Аб матар'яльным баку не задумваўся—няўжо рэволюцыя яго не забясьпечыць? Няўжо ня знойдзецца ў іспалкоме яшчэ аднае каморкі ў дадатак да першае? Ня варта клапаціцца, то ня справа рэволюцыянэра. Кожны дзень мусіць брацца з бою, ці-ж у яго ня хопіць сілы?..

Дзяўчына звалася Люба. І дзень за днём гутарыў ён з ёю больш і бліжэй. Абгаварвалі пытаньне за пытаньнем, знаёмыя ўсім, але новыя для іх... Люба ўводзіла яго, Васіля, у гушчу сямейных патрэб; перш з асьцярогаю, а што далей—сьмялей, ставіла ўмовы, вытыкала пляны. Умела ўхарошваць іх выгляд, умела прыдаваць ім сур'ёзнасьць, кабечы спрыт. І Васілёва душа захаплялася імі. Спакусы яго веры ня было ў іх. Перашкодаў да рэволюцыйных заданьняў ня мелася. Наадварот—прыдзецца пайсьці ў паход—вернецца да Любы. З фронту—пісацьме лісты, у якіх дзяліцьмецца перажываньнямі...

То было ў галодны год... Людзі жылі прагным чаканьнем лепшае пары. Улада гэраічна змагалася з недастачамі. Рэволюцыя зьбірала апошнюю напружанасьць, каб адбіць насядаўшага ворага. Аб чым было думаць у гэткі момант Васілю?

Ён паёк заслужыў, хадзіў у прадком і браў мякінны хлеб, таранкі, сухую гародніну, соль, крупу і цукар. Выдаваў таварыш і прыпускаў. Другія й таго не даставалі—ведаў і знаў ён. Для дваіх хопіць. А паедзе, часамі—для аднэй Любы задосыць.

Казаў ёй, як помніць, так вось:

— Пажывом з год у гэтай каморцы, а там знойдам новую. Комітэт папрашу—здыме з арміі—і буду служыць у грамадзянскай установе, найду й табе службу...

Люба згаджалася, хоць ківала галавою, гледзячы на ложак. Як яны ўлягуцца ў дваіх? На чом адно з іх сядзе, калі другое займе аднюткі зэдлік?

Сама Люба не магла нічым пасобіць Васілю. Яна была вельмі бедная, служыла да рэволюцыі прачкаю, у час саботажу, праўда, заведуючай сталоваю, а пасьля—сэкратаршай. Тады запісалася кандыдатам у партыю. Хадзіла на сходы колькі разоў, але не спадабала дысцыпліны і запусьціла з партабавязкамі... Прышлося вярнуцца ў сталоўку, але ўжо не заведуючай, а кэльнершаю...

Былі моманты, што магла-б нажыць што-кольвек, хоць самае па трэбнае, але не хацела йсьці супроць сумненьня. Трымалася думкі бескарысьця... „Навошта яно мне чужое. Яно мусіць быць усіх, а не маё“... судзіла яна.

Пасьля сьмяялася над сваёю чэснасьцю, але толькі з ёю магла прыці к Васілю. Заявіла таму адкрыта і не бяз гордасьці, калі любіш— любі.

І за гэта асабліва цягнула Васіля да Любы. Асабліва надалася яна яму. „Ня мае нічога“, думаў тады ён, „дык што-ж за дзіва, што хоча мець, ці будзе хацець“.

Тыя ноткі ў яе гутарцы, якія зычэлі ка гэты лад, не неспакоілі яго. Неспакоіла, што яны асьцярожна зычэлі. Чаго заглушаць іх? Што маю— дам, а вышэй поясу не падскочу.

І вузкая, убогая каморка, з вакном на ўсю сьцену, з кругленькім столікам у кутку, з сіратлівым зэдлікам, заслужаная яе жыхаром за свае ахвяры рэволюцыі, адданыя ім,—гэтая каморка вось-вось магла ўгледзіць і другога жыхара.

Але новы вызаў яго комітэтам—супроць Антонава на гэты раз— далі чародную гісторыю з ключом. Позьнім часам, як заўсёды ў экстраных выпадках, павярнула рука замок, і застылі дзьверы ў шчыльных выемках вушаку.

Выпадкова ключ апусьціўся ў глыбокія кішэні паношаных галіфэ— замест таго, каб перадаць яго Любе. Ёй пасьпеў чыркануць некалькі слоў і няпэўны адрэс: пяхотныя казармы, Крызе Васілю. Нядбала, умоўна вышла—ды ці наведае яна, каб сарваць яго цыдульку з францускае шпількі на дзьверах у цёмным калідоры?

Азіраўся Васіль, выходзячы, каб праканацца, ці прыметна яго разьвітальнае слаўцо. Яму было прыметна, а Любе? „Усяраўно, напішу. Заеду за Маскву і напішу. Будзе чалавекам—выпаўніць просьбу, абмане— не зарыдаю. Не мяняць агульнай справы на прыватныя задумы“.

Сказаўшы гэта, ён дужа спакойна матнуў рукою, але адчуў нейкі голас у нутры—ня трэба паліць мастоў. Няхай сьцелецца роўная, гладкая дарожка, каб лёгка было кожнаму прайсьці настрэчу адно другому.

Не рашыцца Люба, зробіць Васіль...

З Казлова кінуў ёй першы ліст. Пісаў у паходзе—горача і натхнена; коратка:

„Убачай, што ня мог разьвітацца. Ня было калі—ішоў раптоўна. Я—партыйны: мушу безадказна выпаўняць дысцыпліну. Ты-ж ведаеш сама. Ты ведаеш маю натуру, таксама—я цалкам аддany Савецкай уладзе. Звыкся, палюбіў, бо сам век быў батраком, бяспрытульнікам і прагнуў свабоды. Ужо пяты год змагаюся за яе. Загартаваўся ў вагні—трэба-ж абараняць людзкую волю... Я абараняю шчыра...

І далей.

Да цябе ня думаў аб жанкох, нігодная не зацікавіла, нігодная не прайшла ў душу. Цябе, Люба, спадабаў. Ня ведаю, як ты мяне. Хацеўбы думаць, што ты аддаеш мне тым самым... Вярнуся я незадаўга—што значыць справіцца з бандытамі? Не такіх калацілі!.. Убачай, што ключа не пакінуў. Сьпяшыў,—што-ж зробіш.

Твой Васіль Крыга.

Хутка напішу другое".

За гэтым ня прыставіў адрэсу. Ці варта ёй адпісываць? Па шчырасьці верыў, што і дзяўчына аддалася яму так, як ён ёй.

Таму і цешыўся надзеяй аб наступным. Меркаваў у вольную хвіліну: як складзецца далейшае жыцьцё, за што прыдзецца зачапіцца.

Плянаваў аб кватэры, думаў пра службу...

Месяц, паўтара, два... Праляцеў час, як вецер між вакна. Тры пісьмы напісаў—як вырахаваў, на кожны месяц па адным. Чацьвертае—тольк і зьбіраўся. Запас паперы і мерыўся з дня на дзень, як раптам яго часьць рашылі вярнуць. Антонаўцаў амаль ня ўсіх вылавілі—ня было патрэбы ў буйных сілах.

І ў час пасадкі ў вагоны, і ў дарозе Васіль жыў спатканьнем з Любаю. Здавалася, дагэтуль ніколі не адчуваў таго, што ў гэтыя перажываньні. Сам дзівіўся, што ёсьць гэткая сіла ў пачуцьці да кабеты... Што гэтая сіла абурае трыццаціпяцігадовых, здавалася-б, закаржэлых людзей. Што за праява ў тым?

Прыехаўшы, ледзьве вычакаў дзень, каб не праведаць Любы... Па памяці пайшоў шукаць сталоўку, дзе яна служыла... Далёка—у другую, супроцьлежную частку гораду, за рэчку. Ішоў і думаў—думаў, што ёй сказаць пры спатканьні...

Што ёй сказаць? Што яна скажа?

Перад знаёмым мурам спыніўся. Асьцярожна, з нейкай казлычнай жахлівасьцю прайшоў між муру, не азіраючы яго. Пасьля вярнуўся й пачаў шукаць шыльды над вакном—яе ня было. Пачаў углядацца ў вокны, у дзьверы—былі непадобны.

„Ці тут гэта?"

Нядбалая рука не зьняла на выеме пры дзьверах пашарпаную бляжку з рукою; унізу—надпіс: „Войсьце ў сталовую". Жалезныя балясы збоку дома—знаёмыя, старыя.

Не ашукаўся.

„Значыць, няма!"—было зразумела. І таксама было зразумела, што прыдзецца пільней пашукаць. Прыдзецца.

Тое, што не знайшоў—заінтрыгавала. Можа крыху й добра—працягне перадстрэчную асалоду, а мо, цалкам дрэнна—дзе-ж будзе тая стрэча?

Зашамацела ў Васілёвым нутры пачуцьцё баязьлівасьці. Закарцела падозраннасьць; засуцэленыя пляны, умеркаваньні, надумы—задком, задком адышлі ўбок.

Надзея адна—а мо брат ці яго жонка што ведаюць пра Любу?

Вечарам Васіль быў у брата. І не пасьпеў яму расказаць пра сябе, як запытаў пра Любу.

— Два месяцы, як ня бачыла яе,—зьдзіўлена паведала братавая:—Згінула недзе, ня відаць. Тыдні тры пасьля твайго ад'езду спаткалася ў трамваі. Скардзілася, што без работы.

— А мяне ўспамінала?

— Абмовілася некалькімі словамі; мо'б сказала больш, але мне трэ было злазіць... Я прасіла зайсьці да нас—абяцала; усё-ж—не заходзіла.

Гэта гутарка яшчэ больш занеспакоіла Васіля; рабілася ясна, што для яго Люба згінула... Толькі дзівіла, чаму так таемна? І чаму дурыла голаў некі час сваімі прызнаньнямі? Дзівіла, завошта падвяла—Васіль лічыў гэта падвохам.

І сумняваўся ад шчырасьці, а мо якія раптоўныя прычыны заставілі яе на тое?.. Ласьне ня бывае таго? Ог калі... Добра, каб так... Бач, як добра?.. Дзе тая дабрата? Але лягчэй перанясьці няшчасьце, ніж крыўду. Васілю асабіста.

Ужо ў сваёй табакерцы-пакоіку, вярнуўшыся ад брата, назаўтра і праз тыдзень, і праз месяц не знаходзячы Любіных сьлядоў, не спатыкаючыся выпадкова, займаўся ён сам-на-сам, варочаючыся са службы—ужо цывільнай—пільным, заўзятым самааналізам: чаму павінна паслужыць пражытая гісторыя з Любаю. Якую навуку ён мусіць атрымаць ад яе?

Вывеў тады Васіль на сонца ўсе даказы за сваё апраўданьне і ў віну Любе.

Заключыў:

Ён—незаплямленая асоба; у жыцьці—справядлівы, як ні варочай гэты тэрмін, бескарысны, незайздросны; для людзей—добры, адданы, пераконаны ў агульную сілу... Люба—кабета Як усе кабеты—дробная, мяшчанскі-хцівая, прэтэнзыйная няўмеру. Нечага хацела, да адумалася, угледзіла нязбыўнасьць сваіх пажаданьняў. Кінула яго і пашла ў сваю будучыну іншым шляхам. А скутак гэтага разыходу між імі адзін—

— Кінуць думку аб Любе...

Так парашыў, хочучы каб, так было. А падсьвядома нешта карцела ды карцела...

І мінуў год, цэлы год, а Люба ня выходзіла з нутра. Абы аставаўся адным дома—зразу пераносіўся ў думках да сваеадзіноты, цяжыўся ёю, злаваў сам на сябе і ўспамінаў Любу: тады падыходзіў гэтаму канчатак... А цяпер—ізноў процьма ўперадзе. Ды яшчэ якая!

Жыцьцё ўваходзіла ў спакойнае ўлоньне. Фронты—зьніклі; порах—сушыўся. Душа, якая прывыкла сапці парахавым дымам, чуць ігру кулямётных ды гарматных стрэлаў, жыць дынамікай змаганьня,—Васілёва душа пачала нудзець. Сходы, пасяджэньні, мітынгі—палітыка і экономіка, пляны, кампаньні, агітацыя,—усё, што казала аб мірным будаўніцтве, пахла спа-

коем, цішою, навявала здром. Ня спалася, як трэба, ня елася, як належыць. Аднаму, зусім аднаму, хоць таварышоў—цэлая ячэйка, пяцьдзесят чалавек. Можа-б пры Любе было-б іначай?

II.

У гэты дзень, як мы заглянулі ў Васілёў пакойчык, яго гаспадар прышоў дадому а шостай гадзіне. Кончыў працу а чацьвертай і трэба было зайці ў комітэт—выклікалі павесткаю.

Зайшоў. І там паведамілі Васіля, што назначылі яго сябрам камісіі „па змаганьню з простытуцыяй".

Гэта—у дадатак іншых абавязкаў.

Зьдзівіўся, але не адказаўся—абавязак.

Распуста—ліха, якое павінна зьнішчыцца.

Васіль тэорэтычна прадстаўляў сабе, якім шляхам яно павінна йсьці к гібелі. А як з ім ваяваць—толькі тады падумаў, калі яго паведамілі аб назначэньні.

Прышоў на кватэру пад уражаньнем новых заданьняў. Прысеў на ложку і пачаў думаць. „А дзевятай пасяджэньне камісіі ў камісарыяце юстыцыі"—у комітэце сказалі. Прыдзецца абгаворваць спосабы барацьбы з гэтай хваробаю. Якавы-ж тыя спосабы?

Ён ведаў, што ўжо да яго камісія некалькі з іх ужывае: карае зводнікаў, утрымацеляў, адпраўляе распусных жанок у справіцельныя дамы. Кожны вечар робіць на вуліцах аблавы. Вядзе прасьветную працу...

Васіля раптам зацікавіла ўсё гэта: ён ад сябе сумее многае запрапанаваць...

І думаючы над тым, што-ж усё-ткі ён запрапануе, Васіль няпрыметна зьбіўся на другія думкі—на думкі аб самых распусьніцах, аб іх лёсе.

Яму стала шкода гэтых людзей, на якіх мусіў іці вайною. Ён сказаў сабе: ваяваць! Іх трэба ратаваць. Гэта напалову згіблыя людзі. Ці нойдам мы сілу, каб вярнуць іх у звычайнае жыцьцё? Ці дойдзе да іх наша слова, наш вокліч? Я думаю, нам трэба перш усяго зьнішчыць тыя ўмовы, якія іх плодзяць". Аб гэтым Васіль намерыўся сказаць рашуча, неадступна трымацца за гэту думку, як будзе на камісіі. Толькі як яе вылажыць ямчэй, з большым пераконаньнем?...

Задумаўся.

Хадзіў па каморцы—два крокі ўперад, два назад—трымаючыся праваю рукою за бараду, прыгнуўшы голаў; шукаў слоў і іх сувязі.

Хацелася, каб пакінуць сьлед—чаго-ж дарма хадзіць?..

Пры гэтым—душэўнае здавальненьне.

І вось, толькі злажыўся ў галаве складны сказ—блíснула думка-сумненьне?

— Ня зьвіхнулася адно Люба, часамі?

Сплюнуў у прачынетае вакно, мэрам-бы хочучы выкінуць з свайго нутру агідную думку.

„Хто яе падаслаў?“

Не хацелася верыць, а яна, як назойлівая муха, гула над вухам.

Усё галасьней ды выразьней, наглей.

„Што я—гэткая сталая, сур‘ёзная дзяўчына!“—рашуча вымавіў сам сабе.

І выклікаў Любін вобраз—вобраз не знадворнага выгляду, а з нутранога пабудаваньня. Пачаў успамінаць, што і як яна казала яму, з якім выглядам трымалася, якім тонам вымаўляла словы...

„Комуністкаю-ж была. Чэсная, справядлівая... Няўжо ў яе натуры магла сыграць паважную ролю цяга да сваволі?..“

І яшчэ:

„Ня вытрымала дысцыпліны і вышла з партыі. Але таму ўжо два гады!“

— Ха-ха! Што я!

Матнуў рукою. Матнуў і, як быццам-бы, прагнаў з думак Любу.

Супакоіўся. Перанёсься думкамі ў сваю ўстанову. Перабраў да аднэй тыя справы, што вырашаў за дзень—крануў думкамі тых, што засталіся на заўтра.

Іх многа ў яго, многа! А гэта добра—шэсьць гадзін—неадгінна заняты на службе, хоць бяз вінтоўкі, а на варце.

„Адкажу соцстраху першым. У губсуд з пакетам пашлю Гнедку. З губсаўнархозам—разлаюся. Добрая рэч—гэткую дрэнь дастаўляе, а лупіць шкуру“.

Усё гэта—з програмы заўтрашняга дня.

„Сёнешні—здавальняючы. Дзень—поўны работы, як кубак з пітвом. Нават і на вечар асталося...“

— Ці не пара?

У вакно пёр гарадзкі шолам. Відаць было па одсьветах на стрэхах дамоў, у вокнах—што сонца на захадзе.

Чырванела неба—на пагоду.

— Але ці не пара?

„Вот, без гадзіньніка—бяда настаяшчая. Абавязкова трэба нажыць“.

Намерыўся зайсьці да суседа запытаць, ды сумеўся.

— Надаядае, часта. Падумае, што я наглядаю за ім. Няхай ужо. А калі на хвілін 20 засьпяшу.

Рашыў ісьці.

Мігам апрануўся і пакінуў табакерку-каморку.

## III.

Пакой сьледавацеля па важных справах, дзе назначана было пасяджэньне комісіі, быў пусты, калі прышоў Васіль.

У невялічкай люстры з пяцьцю лямпачкамі гарэла адна, бакавая. Сумнае сьвятло толькі на стале больш-менш выдзяляла расстаўленыя рэчы: атрамэнтны прыбор, кіпу ўзаконеньняў правіцельства, некалькі аправак з блёк-нотаў, зашмальцованую папку.

Пры сьценах—крэслы танулі ў цягучым змроку. Чым яны былі аббіты—невядома. Гінулі ў тым-жа змроку твары на портрэтах, што віселі на сьцяне.

Нешта з дзесятак іх, урад, вакола.

І толькі Маркс з сваімі кудрамі ды барадою выдаваў сябе.

Васіль сеў у правым ад дзьвярэй кутку і ўперыўся вачыма ў Марксаў твар.

Глядзеў насторожна, як-бы хочучы пачуць ад яго хоць адно слова. За яго ж, такіта, навуку столькі працярпеў.

— Эх, каб ды жыў цяперака ён,—прамігнула ў Васілёвай галаве,—колькі-б чаго расказаў яму я!

Але ціха, нячутна адчыніліся дзьверы і ўвайшоў адзін таварыш, а праз хвілю другі і трэці.

Павіталіся з Васілём і тут-жа загаварылі між сабою аб рэчах, яму невядомых. Здавальняюча пачалі лаяцца на кагось і сьмяяцца. Пасьля перайшлі да пытаньняў сёнешняй павесткі.

Таварыш з міліцыі выказаў сумненьне ці будзе што талковае з арыштаў заядлых, неўгамонных простытутак.

— Вунь сядзіць у мяне ў часьці штук дзесяць. Ну, калі сядзяць—та нічога, а выпусьці—ізноў на панэль... Прапа-ашчыя ўжо людзі...

— Згодзен, таварыш, з вамі.

Васіль прыўстаў, падаўся корпусам уперад.

На яго паглядзелі. Ува ўсіх на твары выраз:—кажы, кажы, паслухаем.

— Мне здаецца, ваяваць нам з распустаю можна толькі праз зьнішчэньне тых умоў, якія памагаюць яе разьвіцьцю. Арыштам простытутак мала зробім...

— Гэта вырашым на пасяджэньні комісіі.

— Я скажу тое самае й на комісіі. А як-жа павашаму? Бачыце—да нэпа было лягчэй, ну, а цяпер—цяжкая справа. Сам нэп за іх...

Трое, як адзін, украдчыва засьмяяліся з Васілёвых слоў.

Паглядзелі на гадзіньнік.

— Так доўга няма!

— А каго яшчэ чакаеце?

— Дваіх.

— Бяда—ня прывыклі трымацца парадку. Абавязкова любяць спазьніцца. Ня так важна, думаюць.

Гэта недаволіўся таварыш з міліцыі.

Васіль быў на яго баку. Злаваўся сам. Карцела пачаць пасяджэньне комісіі.

— Дык чаго-ж іх чакаць? Старшыня тут?

Старшыня—таварыш з міліцыі.

Заняў месца за сталом і рашыўся адчыніць пасяджэньне, не чакаючы даўжэй.

— Ну, дык мы пачнем...

Якраз падасьпелі астатнія двое сяброў.

— Чаму так позна?—запытаў старшыня.

— З пасяджэньня—ня пускалі, ледзьве вырваліся...

— Дык пачнем...

Уселіся і змоўк'і.

А старшыня, гаваркі, рухавы хлапец, прывыкшы да прамоў, пачаў казаць нешта накшталт праграмнай рэчы. Зачапіў ад пачатку заснаваньня комісіі—прарэвізаваў мінуўшую яе працу і скуткі гэтае працы. Пасьля перайшоў да асьвятленьня далейшых спосабаў змаганьня...

Пералічыў усё, што, па яго думцы, магло прынясьці посьпех у іх справе.

Нарэшце запрапанаваў абгаварыць яго плян і ўносіць папраўкі.

Пачаліся спрэчкі.

Васіль выступіў другім.

З натхненьнем, з запалам пераказаў тыя словы, якія прышлі яму на думку яшчэ ўдому, на кватэры.

Праслухалі з увагаю, але не пераканаліся.

Двое, як на перакор Васілю, патрабавалі ўжываньня рашучых мер змаганьня. Крытыкавалі нядбайнасьць міліцыі.

Васіля іх прамовы абурылі.

К чаму яны так гарачацца?

Але пасяджэньне было за імі—комісія рашыла прыняць рашучыя меры.

Еднасьць усіх сябраў комісіі ўплыла на Васіля і ён замест таго, каб галасаваць проціў унесенай пропозыцыі, толькі ўстрымаўся, думаючы:

— А хто яго ведае—яно такі сапраўды нельга абысьціся бяз строгага закону. Зьбіваюць з толку нашага брата, разносяць пранцы...

Таварыш з міліцыі давёў пасьля пасяджэньня процант хворых гэтай хваробаю, што прымалі лячэньне ў гарадзкіх дыспансэрах.

Страшны процант!

А другі з сябраў комісіі расказаў жахі, атрыманыя з вёскі, на гэты шчот.

— Памойму,—заключыў ён,—іх трэба выганяць з кожнага жылога памяшканьня, каб ня труцілі паветра.

А, нарэшце, выходзячы з пакою, дзе адбывалася пасяджэньне, старшыня комісіі паведаміў, што сягоньня ім загадана аблава па горадзе.

Васіль вышаў на вуліцу поўны недаўменьня ад чутага і ад перажыванага.

## IV.

Было за поўнач.

Цёмная ноч хавала пад сваім цалуном гарадзкое жыцьцё.

Рэдкія ліхтарні туліліся да будынкаў, бязмоцныя, каб расьсеяць гушчу цемрыва.

Васіль перш думаў прайсьці дамоў папярочнымі перавулкамі, кудэю было некалькі бліжэй. Пасьля раздумаў і павярнуў на галоўную вуліцу —імя Рэволюцыі.

Тут выглядала шумней, жывучай. Сьпяшыла ўзад ды ўперад некалькі рэдкіх, апозьненых праходжых.

На скрыжаваньнях вуліц, пад ліхтарнямі, якія па гэтай вуліцы віселі на сярэдзіне, стаялі міліцэйскія.

Васіль, неазіраючыся, пайшоў правым бокам вуліцы.

За першым кварталам напаткаў абход—трох міліцыянэраў і двух цывільных.

Адзін казаў таварышам:

— Давайце мы пройдзем па вуліцы Працы...

— А тыя кудэю?

— Яны захопяць канец вуліцы Рэволюцыі і заломяць на Савецкую.

Васіль не азірнуўся, хоць справа йшла аб пытаньнях і яму часткаю падлежных.

Ён бачыў, што панэлі ачышчаны ад дзяўчат, дзякуючы гэтай пяцёрцы.

Раптам знапераду данёсься рэзкі жаночы піск.

Дзікі, няпрыемны.

За ім—голасная гутарка.

Пасьля змоўкла ўсё...

А праз хвілю перасьвісталіся між сабою вартавыя міліцыянэры.

Сьвіст, здавалася, прайшоў праз усе будынкі і заляцеў далёка за межы гораду.

У процілежным канцы якісьці мудрагель зглуміў дзьве дранкулі, стрэліўшы.

Васіль вылаяўся.

— Усыпаць-бы прахвосту, каб зубамі страляў.

То ўжо на павароце было.

За высокім мурам—астаўся рагавы ліхтар.

Хлынула зябкая вільгаць. Васіль ускорыў хаду, бо цісн́ула дрыготка—троха ад холаду, а болей ад утомы...

З-пад брамы чацьвертага дому, параўняўшыся, пачуў умольны, нерашучы окліч:

— Таварыш, пачакайце.

Было раптоўна—ажно ён сумеўся.

Азірнуўся і стаў.

Угледзеў дробны агеньчык цыгаркі.

— Таварыш, прашу вас...

Агеньчык блізіўся да Васіля.

Яшчэ праз некалькі хвілін перад ім стаяла кабета, маладая дзяўчына.

Ад яе нясло таннай пудраю „Лебедзь“—„Простытутка, на яе ліха“.

— Пойдам са мною.

— Ідзі ты к е...

Абурэньне, злосьць ахапілі Васіля.

Ён разам падняў нагу, каб ісьці,—вярнула ад яе.

Яна хапіла яго за рукаў:

— Прашу вас... пойдам са мною... правядзеце мяне да Дваранскае вуліцы... правядзеце...

— Я... што я, думаеш...—хацеў рэзка вылаяцца Васіль, але словы захрасьлі ў горле: штосьці паперашкодзіла ім выліцца ў належнай суцэльнасьці.

Дзяўчына пачала плакаць.

— Абход мяне затрымае, калі я пайду адна... Даведаюцца знаёмыя... Я не перанясу ўсяго сораму... Прашу вас, калі маеце спагаду пойдам удваіх...

Васіль памякчэў—задумаўся.

— Не магу.

— А я пайду за вамі і скажу, што ваша жонка... Няўжо ў вас няма каліва спачуваньня?

— Вас сьледуе караць...

— Завошта? За тое, што...

„І ўпраўду—завошта?“...

— Хадзем, я правяду да Сысоеўскага завулку.

Дзяўчына глыбока ўздыхнула ад палёгкі і ўзяла Васіля пад руку.

Пачала няпрошана расказваць сваю біографію—поэтычны, натхнены роман, абяцаўшы, як заўсёды, залатыя горы і знатную будучыну... і агідны фінал—панэльнае жыцьцё.

Ужо пяць гадоў гэтага жыцьця мінула.

— Ну, а далей што думаеш рабіць?

Роўнадушша ў яе голасе зацікавіла Васіля.

„Пяць гадоў—і нібыта тая!“.

— Далей... я маю каханка—у другім горадзе жыве... хутка прыедзе і мы зажывом чэсным жыцьцём... Ён хоча, каб я да яго ехала, а я клічу да сябе.

— Так, так... Я раджу табе ехаць да свайго каханка. Навошта табе марудзіць? Навошта распрадавацца стрэчнаму ды папярэчнаму; цярпець людзкую пагарду, хавацца, таіць сябе ад сьвятла... Пяць год! Бяры і заўтра-ж выяжджай да яго...

Дзяўчына маўчала, не праракала.

А Васілю думалася, што ён папаў ёй у балючае месца душы, што вось-вось выратуе ахвяру.

Ды такім лёгкім спосабам—ёмкім словам, цёплым спачуваньнем, шчырым удзелам да яе долі.

„Вось, бачыце,—казаў ён сабе:—ці трэба лепшае рады?“

І зноў перайшоў да ўгавораў:

— Пакінь... пакінь вуліцу... Падумай аб наступным—чым нясе на цябе шэраг надыходзячых дзён? Увайдзі ўглыб свайго становішча, перабяры да дробкі кожную думку...

Васіль не знаходзіў мацнейшых выказаў і браў пачуцьцём, жэстыкуляцыяй.

Глядзеў уперад, а не на яе.

А дзяўчына гіранічна ўсьміхалася і, калі Васіль з усёй шчырасьці запытаў яе:

— Ну, што скажаш?

Яна цынічна адказала:

— Маць яе... гэта жыцьцё... што мне яго шкадаваць... яно мяне не шкадуе...

Гэта быў стук молата па галаве.

Васіль спыніўся, зрабіў жахлівую міну і вось-вось гатоў быў накінуцца на дзяўчыну... Ужо сударажна сашчапіў кулакі, вызьверыў вочы...

— Ах, ідзем, а то, вунь, набліжаецца абход,—балючым шэптам вымавіла яна і пацягнула за рукаў Васіля.

Той рушыў—безадгукна—на спатканьне абходу...

Іх падзяляў ліхтар. Яго промень асьвятляў усё больш ды больш чатыры фігуры, што йшлі ім настрэчу.

Дзяўчына ўсё шчыльней тулілася да Васіля, хочучы зьліцца з ім, каб ня прымецілі...

Нарэшце падблізіліся на адгон некалькіх сажняў.

Сярод мужчын была жанчына.

Васіль нядбайна зьвярнуў управа, думаючы цішком разьмінуцца.

Некалькі хвілін і ўсё было-б добра, як раптам, на стыку з абходам даняслося:

— Сонька, мілая, гэта ты? Скажы, што я буду начаваць у вучастку... Мяне заарыштавалі... Чуеш, Сонька?

Васіль азірнуўся—нешта чапіла яго душы.

А дзяўчына—як немка—ні слова.

Тады аклікаўшы голас, ужо з далей, поўны злосьці, ізноў данёсься да вушэй:

— Ах ты, курва паганая, яшчэ й адгукнуцца ня хоча! Па-стой-жа, свол-ач...

Гэтыя словы завяршыліся пакатным сьмехам.

— Хто там за яна?—запытаў Васіль, супыніўшыся.

Дзяўчына агідна сплюнула і пагардным голасам праказала:

— Любка, блядзюшка... Такая паганка, што...

— Люба-а?!!

Васіль зьнесхаця скалануўся ўсёй постацьцю, раптам абярнуўшыся ўбок аддалёнага абходу.

— Любка, кажаш?

Падарожніца сумелася, гледзячы скрозь змрок Васілю ў твар.

— Люба Плыток? Кажы!

Ён сьціснуў ёй руку, ажно тая піснула з болю.

— Люба, Любка, па нашай клічцы—Прачка...

Васіль як стаяў, нібы на цьвякох, так мігам кінуўся бегчы за абходам, крычачы:

— Тавары-шы-ы! Сто-ой! Люба, Люба-ачка-а!.. Пачакайце-э...

Крык агаласіў вуліцу, разьляцеўся па горадзе, зазьвінеў.

Выклікаў сьвісткі ў трох канцох.

Васілю— хоць-бы што Заняўшы дух, ляцеў па панэлі, цахкаючы абсацамі па каменных плітках.

Тах, тах. тах, тах!

Абход спыніўся на другім квартале.

Настаражыліся абходныя.

— Тава-а-рышы-ы... я...—засопшыся пачаў казаць Васіль, дагнаўшы абход.

— Я... таварышы... я член... комісіі для „Змаганьня з простытуцыяй“...

Ён пакуль не ўзіраўся на арыштаваную кабету, якая стаяла збоку.

— Вось мой манда-ат...

Рука шустра лазіла па кішанёх жакеткі.

— Вось... чытайце-э...

Васіль падсунуў міліцыянэру чырвоную картку.

— Ну, што вам нужно, таварыш?

— Я... я прашу... патрабую, каб вы...

Ён ня мог адсапціся.

— Каб вы пусьцілі яе пад маю паруку... Люба—не простытутка... Яна не павінна быць...

— У чым рэч?

Тады Васіль падбег пад затрыманую, зазірнуў ёй у вочы і ўголас праказаў:

— Люба, пойдам са мною, пойдам да мяне... Як ты магла да гэтага дайсьці? Як ты рашылася?..

— Вінават...—перабіў міліцыянэр, палажыўшы на Васілёва плячо руку.

— Дайце мандат я запішу нумар і вашу фамілію.

Ня гледзячы на міліцыянэра, Васіль выняў з верхняе кішэні жакеткі ўжо пасьпеўшы зьмяцца мандат і даў яго міліцыянэру; а сам ня сьціхаў, гаварыць да кабеты:

— Люба?—ты не пазнаеш?.. Як ты магла? Што ты зрабіла для?..

Міліцыянэр перабіў:

— Наце мандат... Васіль Крыга—добра.

Абход аддзяліўся ад Васіля і пайшоў наперад, пасьвістваючы ды сьмяючыся.

А Васіль яшчэ з пяць хвілін пастаяў з Любаю, засыпаючы яе запытаньнямі, пасьля ўзяў яе пад руку, і яны ўдваіх вярнуліся назад, насустрэч мігутнаму сьвятлу ліхтарні.

## V.

Як пайшло далей Васілёва жыцьцё?

Усё ў той-жа каморцы-каюце, пры той мэбліроўцы.

Люба была прапашчаю.

Што ёй яго цёплыя словы?

Васіль астаўся адзін. Адзін, аброшчаны кіпучай, творчай працай, цалкам адданы ёй, але нездавольны яе мірным станам, жыве ён. І марыцца яму фронт, змаганьне, паходы, паходы. Калі тое будзе, што ён павядзе храбрыя ўзводы туды, на захад?

Люба чапіла сэрца—Люба—дробны выпадак самотнага жыцьця. Чапіла і згінула. Не ўдалося—прайшло. Так бывае ў жыцьці... Значыць ён нарадзіўся жыць не для сябе, а для ўсіх.

Дзе-ж паказаць гэта ясьней, як ня ў бойцы за свабоду?

# НАШ ЛЕТАПІСЕЦ

**Янка Купала**

Пасьвячаю Ў. Ігнатоўскаму ў дзень пятнаццацёхгодзьдзя яго культурна-грамадзянскай працы на ніве Беларускай.

Пад нашэпты пушчаў-бораў,
Пад напевы завірухаў
Летапісец творыць творы,
А ты слухай, шчыра слухай.




Беглі векі, як ручаі
Паміж нашых сьцежак, межаў,—
Чужаніца байкі баіў,
А ён толькі праўду рэжа.

Як жылі, як вечавалі,
Як пасьля былі ў прыгоне,
Адаб'е, як у крышталі,
Летапісец наш сягоньня.

Думкі мудрыя ён піша,
Нібы пацеркі з бурштынаў,—
Як пазбыцца лішніх крыжаў,
Як падняць дабро краіны.

Вызначае шлях наперад—
Дзе, кудой ісьці нам лепей,
Каб ня ўпалі зноў у нерад,
Каб палон не ашчарэпіў.

. . . . . . . . . . .

І ўзбуялі нашы людзі,
Пачалі ўвысь голаў высіць...
Зручна жыць на сьвеце будзе,
Калі ёсьць свой летапісец!

Менск, 12 XI-24 г.

# „БРА... ГІНЬ“...

## У. Дубоўка

...Звалі дзяўчыну тую: Алеся...
Цяпер у нас ня любяць гэта імя...
*(З народнае легэнды).*

1.

Калі неба ускоўдрылі хмары
і месяц твару ня мые ў вадзе,
значыцца—з багуністых амшараў
едзе бяда на бядзе.

Спахмурнела і вёска ў лесе:
ты, васеньняя ноч, ня пужай!
Дык чаму-ж, дык чаму, Алеся,
прыгажэй ты за ўсіх дзяўчат?

Ці-ж ня ты хадзіла ў брусьніцы
пазаўчора адна-аднэй?
Перасталі і хвалі бруіцца,
хаваючы зірк твой на дне...

Ты сьпявала, а гукі галасілі,
і шумлівы лес галасіў.
Колькі сьлёз тады жоўтых і сініх
пазьлятала з дубоў, асін...

Гэта-ж пан з паляваньня ехаў,
прыпыніў свайго каня:
— Ці ня здань?—Але з рэхам
твае песьні жыцьцём зьвіняць.

То ня хмель завіваецца стромка:
гэта вусы пан закруціў.
Ляжа маці старая на саломку,
будзе моцна паноў клясьці...

Спахмурнела і вёска ў лесе:
ты, васеньняя ноч, ня пужай!
Дык чаму-ж, дык чаму, Алеся,
сьцены хаты старэнькай дрыжаць?

Панаехалі сваты нечакана,
ня пыталі у маці, братоў.
— Чым сястру даць на зьдзекі пану,—
лепш яе хай шлюбуе дол...

— Дзе-ж мае вы, таварышкі-сёстры?—
Расплятайце косы, вядзеце на пасад...

Зазваніў брат сякерай вострай
— наўцекі адзін і другі брат.

Да зямелькі прыгнуліся вольхі,
і звалілася зорка з неба, адна...
— Сьмерць і вам!—пан шалёна загойкаў,
але іх—ня спыніць, не здагнаць...

2.

Шпарка бегаюць панскія коні
праз пагуркі, лясы і пяскі.
Не здагнаць дзяцюкоў ім ніколі,
бо помстай гараць дзяцюкі.

Праз лясы і пяскі, і пагуркі
праляцелі ужо яны.
Перагналі і ноч, а грукат
конскі—праглынулі туманы.

Не пярун загрымеў там, дзе зоры:
спатыкнуўся малодшы брат.
— Ой, мой родны, на наша гора
лёс маю сілу ўжо забраў...

І сьлязьмі заліліся вочы,
застагнала цяжка зямля.
Стуль крыніца цяпер плюскочыць:
да Дняпра яе хвалі шумяць...

— Нашы сьлёзы нам сьцежку значаць,—
ты устань, мой малодшы брат!
Па сьлядох нашых едуць гарачых;
на вяроўках пацягнуць назад...

І пайшлі да лоняй Дняпровых
праз пагуркі, пяскі і лясы.
На дарозе—палынь і чарнобыль,
а ноч—запляла валасы...

3.

Цяжка капыты вобземлю звоняць,
даганяюць жыцьцё не сваё.
За балотам ня будзе страшыць пагоня;
на балота брат брата узьвёў.

То ня сонца хмары пакрышыла
і праменьні прыгоршчамі разьліло,—
большага брата прыгарнула па шыю
і за шыю сьціскае балота далонь.

Кд 1893





Ня туман папоўз над лясамі,
не на сьцежкі раса лягла,—
гэта вочы братом завязалі,
завязала журбы імгла...

— Мне ня шкода жыцьця маладога,
непражытых ня шкода гадоў.
Каб яшчэ, каб яшчэ нядоўга,—
прывялі-б мы назад цэлы полк...

То ня дуб нахіліўся да дуба,
у зямлю каранямі урос:
брат ня верыць, што брата згубіць,
ды прадоньне багністае скрозь.

Ужо большаму вусны вада замыкае,
ужо меншаму мые калені вада.
На памежку жвірам рассыпаўся камень:
-- Не давай... не давай...

Не давай, а балота цалуе пояс,
не давай, а далёка, аж дзе берагі...
Застагнаў у паветры немы голас:
— Бра... гінь...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раса не зіхацела на сьцежках...
Асака ня шумела з трысьцём...
Толькі адзін узышоў на памежак...
Вецер кругі на могілцы сьцёр...

4.

Было, адзьвінела, а пыл нябыцьця
зраўняе з зямлёй нават камень.
Адны толькі дрэвы лісьцём шамацяць,
ды песьня гучыць, ня зьнікае...

У цёмныя ночы галосіць туман,
у ночы васеньнія—„Бра... гінь“...
Няма дзяцюкоў тых, дзяўчыны няма,
а вырас на беразе Брагін.

Мястэчка наўкол абымае рака,
на звалі Брагінкаю людзі...
Ня кіне яна на паноў наракаць:
да помсты і звала і будзе...

4 жніўня 1924 г.
На Палесьсі.

# МАЦІ

## Я. Неманскі

### I.

Два-тры смалякі, што датлявалі на прыпеку, ледва разганялі цемру ў хаце. Полымя то замірала, то йзноў некалькімі язычкамі ўскаквала; здавалася, што па хаце лятае вялізарны матыль і скрыдла яго з аднаго боку чорныя, а з другога белыя. Стол, услон, тапчан і іншае начыньне ў хаце было нібы жывое: усё рухалася, рабілася то большым, то меншым, толькі ня чутно было ніякага гуку. Толькі знадворку, за вакном чуцен быў бязупынны посьвіст ветру і ляскат чым-та аб сьцену.

Старая Тацяна сядзела на лаве супроць печы і нямігучымі вачмі глядзела на тлеўшыя корчыкі. Як-бы не ўглядацца ў яе з боку, нельга было сказаць, што гэта сядзіць жывы чалавек: ні адна жылка ў яе твары ня краталася, вочы былі быццам заслонены цяжкаю завесаю, сухія рукі сьціснуты на грудзёх. Усё яе аблічча якраз падыходзіла пад цемень хаты і пад тыя бязгучныя скокі, што рабілі па хаце розныя прадметы пад гукі музыкі—ветру. Толькі пры моцных уздымах ветру, калі ляскат знадворку раздаваўся і ў сьцену і ў дзьверы сяней, яна ўздрыгвала і галава яе паварочвалася ў бок ваходу. Але зразу яна йзноў прымала звычайную позыцыю, толькі на нейкую хвіліну па твары яе праходзіла цень нездавольнасьці. Так сядзела яна доўга, ня ведаючы ні гадзін, ні хвілін.

Многа начэй правяла яна адна ў сваёй пустой хаце. Даўно ўжо яна скончыла сваё жыцьцё, здольнасьць уцяміць бягучыя зьявішчы. Усе яе думкі, усё пачуцьцё—у мінулым, і гэтае мінулае яна варочае кожную ноч у сваёй старой галаве. Няма ў яе і ніякіх жаданьняў, апроч аднаго, якім яна жыве ўжо пяць-шэсьць гадоў. У доўгія ночы яна перабірае ўсіх сьвятых, вядомых ёй, зварочваецца да ўсіх патаемных сіл, просіць у іх да сябе літасьці, каб жаданьне яе выпаўнілася. Але дарэмны ўсе яе модлы, усе скаргі...

Тацяна са сваім Васілём доўгія часы жылі ў Петрыкаве. Пажаніліся яны, як Васілю ўжо было гадоў каля дваццацёх васьмёх, і ён быў ня толькі добрым цесьляю, але нават пачаў пакрысе сам брацць падрады на пабудоўлю невялікіх бярлін. Далей-болей, і Васіль Талока зрабіўся

найбольш вядомым з пятрыкоўскіх майстроў і падрадчыкаў. Зажылі яны зусім добра, мелі ўласны дамок з трыма пакойчыкамі. Старэйшага хлапца свайго, Міхася, Васіль захацеў зрабіць „вучоным“ і паслаў яго ў гарадзкое вучылішча. Праз год-два Міхась стаў запраўскім панічыкам і, прыяжджаючы на лета дадому, ганарыста шпацыраваў у сьвята каля царквы. Маці не магла нацешыцца сваім Міхасём і ў яе было толькі й гутаркі з суседкамі, што аб старэйшым хлопцу. Меншы сын, Рыгор, зусім быў няўдалым; няпрыемны з твару, маўклівы, непаслухмяны, ён яшчэ малым быў прыкрым мацеры. Яго таксама хацеў бацька вучыць у школцы, але тае карысьці, што чакаў ён ад вучэньня сына, ня было. Рыгор вучыўся, але раптам з ім нешта зрабілася і, калі ўвосень яго хацелі паслаць у вучылішча, ён адмовіўся ехаць. Ні ласкі ні пагрозы не памаглі: Рыгор выстаяў на сваім і застаўся дома. З гэтага часу паміж ім і бацькамі пачалася нясупынная барацьба, давёўшая да таго, што як-бы Рыгор ні рабіў, усё не падабалася ні бацьку ні мацеры. Старая Тацяна і цяпер, седзячы адна цэлымі начамі, ніяк не магла пагадзіцца са сваім малодшым сынам.

Калі Рыгору было гадоў шаснаццаць, ён зусім пакінуў бацькоў і пайшоў на работу да аднаго з пятрыкоўскіх кавалёў. Міхась-жа скончыў вучэньне і чакаў нейкі час, выбіраючы, куды пайсьці на службу. Але выбраць яму так і не давялося. Раптам паўсюль пранеслося слова „вайна“, і Міхась быў узяты на вайсковую службу. Тацяна як перад сабою бачыць ясную раніцу, калі з Петрыкава пацягнуўся доўгі шнур маладых хлапцоў, па баках якога ішло і галасіла ледва ня ўсё мястэчка.

Прайшла зіма, пачалося лета, а вайне ўсё ня было сьціханьня. У Петрыкаве завялося ўжо некалькі калек—хто бяз рукі, хто без нагі. Тацяна са ўсьцішшам думала аб сваім Міхасі, бачачы кожную хвіліну яго ў сваіх думках то забітым, то скалечаным. Але Міхась быў на нейкі час захаваным: яго паслалі вучыцца на афіцэра. Ён знарок доўга ня пісаў са школы, а маці рвала на сабе валасы і цэлымі днямі галасіла па ім, як па пакойніку. За тое-ж яна страціла розум ад радасьці, як ён заехаў дадому з блішчастымі наплечнікамі. Да радасьці, што яе Міхаська жывы і здаровы, яшчэ далучалася пагарда мацеры за сына, які „вышаў у людзі“. Ня было ў мястэчку чалавека, якому-б яна не пахвалілася сваім сынам. Але ўсё так каротка ў жыцьці: Міхась праз тыдзень ізноў паехаў туды, дзе траслася зямля і дзе сьмерць шырока махала сваёю касою. Ізноў пачала Тацяна кожны дзень хадзіць да пошты, чакаючы вестак, ізноў сэрца яе калацілася, як яна давала Васілю чытаць атрыманы ліст.

— Ах, божа-ж мой, божа! Што гэты ліст,—прычытала яна,—можа ў тую хвіліначку, як мы чытаем, яго ўжо злажылі ў сырую зямельку.

Васіль утрымліваў яе, але ненадоўга. Так ішлі дні, тыдні, месяцы, гады...

Ужо пацягнулі ў салдаты і Рыгора. Як яго партыя выходзіла з мястэчку, ніхто ўжо не галасіў. Вайна зрабілася звычайным зьявішчам і не хапала ў жанок і мацярок сьлёз. Была і яшчэ адна розьніца: здадзеныя ў салдаты ішлі моўчкі, бяз царскіх портрэтаў; некаторыя гаварылі сваім:

— Нічога, мы хутка дома будзем!

Рыгор перад адпраўкаю заскочыў да сваіх бацькоў і проста разьвітаўся з імі. Тацяна заплакала і пачала хрысьціць яго на дарогу.

— Ня плачце, матка, і ня хрысьцеце мяне, гэта ні мне ні вам не пасобіць.

— Адшчапенец быў, адшчапенцам і застанецца,—прамовіў бацька.

Вайна ўсё цягнулася. Васіль неяк зразу надта пастарэў і ўжо ня мог выходзіць на работу. Работы таксама пачало станавіцца ўсё меней, гандаль скарочваўся, плыты і бярліны ўсё менш сталі паказвацца на Прыпяці. Дзень за дзень Васіль усё больш марнеў, а каля апошняе прачыстае, заснуўшы раз увечары, не ачнуўся.

Тацяна пачала жыць адна. Пацягнулася доўгая зіма. Ня было ўжо хлеба, і Тацяна хадзіла па суседзях. Потым пайшлі чуткі, што скінулі цара, што хутка скончыцца вайна. Тацяна спалохалася,—як прыдзецца жыць без цара, але адна думка аб тым, што разам з царом кончыцца вайна, а тады вернецца яе Міхась, ну і Рыгор, сьцішала яе несупакойства. Але час ішоў, вайна не супынялася. Рыгор не падаваў аб сабе ніякае весткі, Міхась-жа часта пісаў лісты, у якіх ён усё больш ды больш скардзіўся на салдатаў, на нейкіх „соцыялістых“, якія зусім зьняважваюць офіцэраў, нават б‘юць іх. Для Тацяны слова „соцыялісты“ стала варожым, а людзей, якіх так звалі, яна называла зладзеямі.

Мінула лета, пачалася восень. Вайне ня было відаць канца. Тацяна ўжо зусім ня мела на што жыць. Добра, што адзін з старых сяброў яе мужа параіў прадаць дом. Знайшоўся нейкі ахвотнік купіць яго, і Тацяна з соткамі двума ў кішэні перабралася ў невялічкую вёску вёрст за пяць за мястэчкам, дзе далі заняць ёй пустую хатку з краю.

Як толькі пачаліся халады, па гасьцінцы з Турава на Петрыкаў пацягнулася шмат салдатаў з таго боку, дзе была вайна. Асабліва ўночы ўсе хаты ў вёсцы дапоўна набіваліся імі. З іх гутаркі Тацяна зразумела, што хутка скончыцца вайна, што ўсе разыходзяцца дадому. Сэрца ў Тяцяны задрыжала ад радасьці: вось і яе Міхась будзе дома. Яна то ў аднаго, то ў другога пыталася, ці ня ведалі, ці не сустракалі офіцэра Міхася Талоку.

— Офіцэра? А ліха іх мацеры, шмат іх было, ды ня будзе больш,— адказвалі ёй.

— Як ня будзе?

— А так і ня будзе! Усіх трэба перадушыць!

Тацяна хрысьцілася і чула, як на нейкую хвіліну сэрца яе пакідала стукаць.

— Соцыялістыя,—думала яна,—і адкуль гэта іх так многа набралася?

Трывога яе з кожным днём усё пашыралася, без канца. Людзі ішлі, ехалі на конях верхам, на вазох, ішлі днём і ноччу; здавалася, што там за Туравам ужо нікога не засталося. Тацяна цэлымі гадзінамі прастойвала і глядзела на захад, але таго, каго яна хацела ўгледзець, ня было. Усё часьцей ды часьцей пачала залазіць ёй у голаў думка, што яго забілі—свае ці немцы, усё роўна. Ішоў тыдзень за тыдням, думка аб сьмерці Міхася зрабілася звычайнаю, надзеі гасьлі, а разам з імі замірала пакрысе жаданьне жыцьця. Маці, быццам ахопленая летаргіяй, усё часьцей і падаўжэй нярухома сядзела там, дзе ёй прышлося сесьці.

Хваля, крануўшых з вайны салдатаў, прайшла. Некалькі дзён было так нязвычайна ціха, што жудасьць брала ад гэтага раптам устаўшага супакою. Але гэты супакой быў нядоўгім: ізноў забразгала на шляху, ізноў пацягнуліся вайсковыя, але толькі ня скопам, а роўненькімі шнуркамі; адзежа і ўвесь выгляд іх быў чым-та іншым, чужым. Прышлі немцы. Тацяна без баязьлівасьці, без зацікаўленьня глядзела на праходзячыя шнуркі чужых людзей. Што яны маглі зьмяніць у яе жыцьці? Усё скончана: няма ні страху ні цікавасьці.

У гэтую ноч у душу Тацяны на нейкую хвіліну заскочыў праменьчык і разагнаў крыху цемру. Нешта каля вялікадня ў поўнач раптам зьявіўся Рыгор. Тацяна помніць, як у яе зразу спала заслона з вачэй, як сэрца ізноў пачало пажывому варушыцца ў грудзёх, як яна імкнулася хоць і на Рыгору выказаць усю сваю ласку, увесь імпэт растоптанага даўно пачуцьця. Але і тут над ёю пакпіла жыцьцё.

— Нам трэба рабіць рэволюцыю,—сказаў Рыгор,—я з табою заставацца не павінен.

Што гэта за рэч такая—рэволюцыя, дзеля якое можна кінуць аднэю мацер, Тацяна не магла ўцяміць. Рыгор чуць сьвет на другі дзень згінуў, і Тацяна засталася ізноў адна. Нечаканае паяўленьне Рыгора закінула з аднаго боку надзею, што вось можа так раптам вернецца Міхась, а з другога ўзьняло абурэньне на Рыгора за яго жорсткасьць, за нядбальства да яе, да мацеры.

Немцы доўга стаялі, потым прышлі расійцы-бальшавікі. Рыгор заходзіў да мацеры, але нават ня скідаў свае шкуранае жакеткі і рэменю з пісталетам. Потым была вайна, прышлі палякі, яшчэ ваявалі—так без канца... А Міхася ўсё няма... Надзеі то ўздымаліся, то надоўга гасьлі... А Рыгор прадаў матку за рэволюцыю...

Тлелі корчыкі на прыпечку, скакалі па хаце цені. Тлелі надзеі, гасьлі; скакалі думкі ад вайны к вайне, і крывавая заслона закрывала вочы...

Сядзела Тацяна адна перад сваім агоньчыкам, мінулае праходзіла перад яе вачмі, сучаснае-ж яе ня цікавіла і яна ня ведала, што робіцца на сьвеце.

Знадворку нешта забраскатала мацней, чымся ляскаў дагэтуль вецер. Тацяна ачнулася ад сваіх думак, прыслухалася. Хтосьці хадзіў каля хаты, а далей пачуўся ляскат колаў. Ляскат усё бліжыўся і хутка спыніўся.

— Ну, прыехалі, злазь з возу,—пачуўся мужчынскі голас,—а ты, Хведар, распражы ды пакармі каня.

Зараз у сенцах раздаўся шаркат каля дзьвярэй. Яны адчыніліся і ў хату ўвайшлі мужчына з кабетаю. Тацяна прыглядалася пільна, але не магла разглядзець твару ні мужчыны ні кабеты. Увайшоўшыя таксама ня бачылі Тацяны, якая сядзела ў цемені, куды не дасягалі праменьні ад тлеўшых вугольчыкаў.

— Тут так ціха, быццам бандыты прайшлі,—прамовіла ўвайшоўшая кабета.

— Можа матка кудысь вышла... Ну, разьдзявайся,—зьвярнуўся мужчына да кабеты і пачаў рашпільваць гузікі свайго кароткага кажушка.

— Рыгор, гэта ты?

Тацяна кінулася к сыну, які ад нечаканасьці адскочыў убок.

— Пачакай, пачакай, матка! Тут нічога ня відаць, запалі ты лямпу!

— Якую лямпу? У мяне і газоўкі нават няма; вось гэтыя смалякі—усё сьвятло ў мяне.

Тацяна нагнулася, узяла пад прыпекам некалькі смаловых корчыкаў і кінула іх на вугольля. Праз хвіліну полымя ўскочыла і асьвяціла пярэднюю частку хаты.

Прыехаўшыя ўжо распрануліся, і Тацяна, павярнуўшыся ад агню, угледзела прыгожую маладзіцу ці дзяўчыну.

— Гэта мая жонка,—паказаў рукою Рыгор,—Алесяю зваць.

Тацяна падышла, павіталася, а далей ня ведала, што рабіць. Зразу яна хацела выказаць і да сына і да нявесткі як найбольш ласкі і радасьці, але дзесьці ў горле стаў нейкі клубок, які не даваў гаварыць. Яна так даўно чакала хоць капелькі радасьці, так даўно пахавала беспасрэднае пачуцьцё, што яно цяпер ашаламіла яе і яна была быццам прыціснутая цяжарам усхлынуўшых раптам даўно страчаных перажываньняў. Дзесьці яшчэ ў глыбі разуменьня і пачуцьця шавяльнулася і скарга на сына, што ён ажаніўся, сышоўся з гэтаю чужою кабетаю, жыве ўвесь час з ёю, тады як яна, яго маці, валачэ сваё жыцьцё аднэю, нікому непатрэбнаю, аднэю з ператрываным ёю ўсьцішшам. Клубок усё павялічваўся, не даваў дыхаць, і Тацяна, як ні шчэплівала губы, ня стрымалася: старое цела яе затраслося ад цяжкага плачу, і яна, аслабеўшы, апусьцілася на зямлю.

Ачнуўшыся, Тацяна ўперад за ўсё ўгледзела схіліўшыйся над ёю твар Алесі. Апошняя сваёю рукою ціхенька гладзіла яе голаў, а другою падносіла да яе носу нейкую маленькую бутэлечку. Тацяна прымеціла ў твары Алесі такую дабрату, што зразу ёй стала лёгка і ўся няпрыемнасьць, якую яна адчувала да яе ўперад, раптам саскочыла.

адчувалі сябе тыя, хто йшоў за саветы і хто быў зьвязаны з зямлёю і ня мог кінуць гаспадарку, каб уцячы на ўсякі выпадак. Багацейшыя-ж ды шляхтуны цешыліся таму смутку, які апанаваў вёску і мястэчка. Словам, ніхто ня быў супакоен, але кожны адчуваў сябе пасвойму.

Тая трывога, якая пачалася, асабліва захоплівала людзей уночы. Як толькі падаў змрок, у розных бакох уздымаліся ўверх чырвоныя слупы полымя, якое зіхацела скрозь усю ноч і прымушала кожнага быць напагатове. Апроч таго, то там, то тут знаходзілі па дарогах няма ведама кім застрэленых ці зарэзаных людзей. Дзе-та вораг ходзіць, дае аб сабе ведаць, але хто гэта, як ён моцны, дзе ён хаваецца—ніхто ня ведаў. Гэтая таемнасьць, неспадзяванасьць яго дзей рабілі яго яшчэ больш страшным, складалі вакол яго яшчэ болей усялякіх чутак і казак. Настатку, то ў той ці іншай вёсцы пачалі зьяўляцца людзі, якіх ніхто ня ведаў, хто яны такія. Яны то дапытваліся, дзе жыве той ці іншы грамадзянін, дзе знаходзяцца грамадзянскія і дзяржаўныя ўстановы. Кожны чуў нешта нядобрае ў гэтых досьледах, але ўзяцца за дасьледчыкаў ці баяўся, ці ня рупіўся.

Аднэю раніцаю, яшчэ сьцямна, Алеся вышла па ваду знарок рана, каб менш сустракацца з людзьмі. Толькі-што яна хацела з вадою ўвайсьці ў сені з вуліцы, як яе запыніў нечы голас.

— Чыя вы будзеце, кабетка?

Алеся азірнулася. Кроках у трох ад яе стаяў барадаты чалавек высокае постаці, добра адзеты, хоць і пасялянску. Алеся ведала траха ня ўсіх сялян свае вёскі, хоць і мала паказвалася, але такога яна ня бачыла. Алеся хацела, нічога не адказаўшы, зачыніць дзьверы, але мужчына пераступіў парог і йшоў за ёю сьледам.

Алеся пачула нядобрае ў гэтым чалавеку, але прыпыніць яго яна ня ведала як і чым. Пакуль яна думала, што рабіць, незнаёмы быў ужо ў хаце і прыветна разьвітаўся са старою.

— Якая ганаровая ў вас дачка ці нявестка: не захацела адказаць мне, чыя яна.

— А навошта вам гэта ведаць?—запыталася Тацяна.

— Так сабе, іду—бачу незнаёмая кабета, ну і запытаўся.

— А самі вы скуль будзеце?

— О, я то далёкі, але ўсіх тут вакол ведаю, бо доўга езьдзіў з поштаю між Петрыкавам і Туравам, а вас я нешта не прыкмячаў тут уперад.

— Я раней жыла ў Петрыкаве.

— Вось як? Ці ня жонка вы Васіля Талокі?

Тацяна ўглядалася ў незнаёмага, але пазнаць яго не магла.

— Адкуль-жа вы ведалі майго мужа?—зьдзіўлена запыталася Тацяна.

— Ведаю, у яго было два сыны, з якіх адзін нядаўна забраны бальшавікамі. Але вы не клапацецеся, ён хутка будзе з вамі.

Тацяна ня ведала, чаму дзівіцца: ці сьвядомасьці гэтага чалавека, ці таму здарэньню, якое выпадала йзноў на яе долю з сынам.

— Ну, бывайце здаровы! Ня ў доўгім часе мы пабачымся з вамі А ты, кабетка, ня надта ганаруй, хоць і прадсядацелева жонка,—сказаў ён, выходзячы за дзьверы, Алесі.

Гэты нязвычайны чалавек са сваім раптоўным паяўленьнем у такі час спалохаў абедзьвюх кабет. Алеся зразу сваім пачуцьцём устанавіла ў ім ворага. Тацяна-ж ня ведала, вораг ён ці прыяцель, але чула, што гэты, усё ведаючы чалавек пераверне яе жыцьцё—не дарэмна-ж ён заходзіў сюды.

Пачаўся дзень. Алеся не магла адалець сваю трывогу. Заставацца ў гэтай глухой вёсцы бяз Рыгора ў яе больш ужо не хапала сілы. Яна парашыла йсьці ў мястэчка, каб адтуль паехаць да мужа, дзе-б ён ні быў. Тацяна не перашкаджала ёй, і яшчэ з раніцы Алеся пайшла да мястэчка.

Рыгор ужо некалькі дзён не прыпыняўся на месцы. Са сваёю невялікаю дружынаю, чалавек у пятнаццаць, ён за дзень абыходзіў дзьве-тры воласьці, аглядаючы ўсе куткі, дзе маглі-б захавацца бандыты. Але з кожным днём праца станавілася ўсё маруднейшаю, бо прыходзілася сустрачацца ў лясох са значнымі часткамі ворага і вытрымліваць запраўдныя бойкі; вёскі-ж напаўняліся бандытамі, якія пракрадаліся па аднаму-два чалавекі, пралічыць якіх было нязвычайна трудна. Атрад Рыгораў усё меншыўся ў ліку і тым, хто заставаўся, выпадала на долю яшчэ больш цяжкае заданьне. Падтрымліваць сувязь з рэўкомамі станавілася ўсё трудней. Ужо два дні як атрад ня меў ніякіх вестак з Петрыкава. Асобныя людзі, што пасылаліся Рыгорам у рэўком, не варочаліся назад: няведама—даходзілі яны ці не да месца. У той дзень, як да Тацяны наведаўся той надзвычайны мужчына, Рыгораў атрад быў акружаны ў лесе. і толькі пасьля гарачае бойкі палавіне яго людзей пашанцавала вырвацца і ўцячы; астатнія былі пакінуты забітымі. Рыгор увесь дзень блукаўся па лясох, накіроўваючыся на поўнач, каб дабрацца ўночы да Петрыкава, але гэта ня збылося.

Тацяна, апыніўшыся адна без Алесі, ня ведала, да чаго прылажыць рукі. Той чалавек, што заходзіў у хату раніцою, унёс вялікі смутак у яе душу. Міхась ізноў можа быць з ёю, і нават хутка. Але якім-жа чынам гэта зробіцца? Можа ізноў брат прывядзе брата, хоць ужо старэйшы малодшага. Не, лепш няхай ні адзін так не паказваюцца сюды. Каля поўдня новае зьявішча дадало ёй яшчэ болей смутку: гасьцінцам праз вёску праехала шмат конных вярхамі са стрэльбамі, кулямётамі; яны ехалі на Петрыкаў. Па іх рознастайнай адзежы, узросту Тацяна зразумела, што гэта ня войска, а тыя самыя бандыты. Яна зусім сумелася, як з гуртка гэтых людзей выдзеліўся адзін і пад'ехаў да яе хаты: гэта быў той самы, што і раніцою.

— Ну, што, няма твайго прадсядацеля з жонкаю?—запытаўся ён, адчыніўшы дзьверы ў хату.

У голасе яго ўжо ня было ніякае прыемнасьці, і ён падазрона азіраўся па бакох. Ён падышоў бліжэй да Тацяны і са злосным позіркам запытаўся:

— Ты скажы, дзе хаваецца твой Рыгор? Ты бачыш, я ўсё аб ім ведаю, і табе лепей будзе, калі скажаш.

— Я за Рыгорам не хаджу: дзе ён—я ня ведаю.

— Брэшаш! Вы адна шайка-лейка,—і ён перацягнуў Тацяну тоўстым гарапнікам.

Тацяна ні слова не адказала, нават не паглядзела ў яго бок і, прысланіўшыся к сталу, стала пазіраць у другі бок. Не чакаўшы такіх вынікаў, бандыт зьмяніўся і лісьліва пачаў прасіць, каб Тацяна адказала на яго пытаньне. Але Тацяна нібы ня бачыла, што перад ёю стаяў чалавек.

— Добра,—скрыгочучы зубамі, прамовіў ён:—мы яшчэ з табою пабачымся і пагамонім, як мае быць.

Ён выляцеў за дзьверы.

Дзень цягнуўся доўга. Алеся не варочалася з мястэчка, і Тацяна хацела, каб яна зусім там засталася, альбо калі пойдзе дадому, то зьвярнула-б са шляху. Думка яе ўсё часьцей ды часьцей варачалася да Рыгора, хоць яна ўжо ня лічыла яго сынам пасьля таго, што было з Міхасём. Ёй здавалася, што да Рыгора яна нічога ня можа адчуваць, апроч ненавісьці: ні жальбы да яго, ні літасьці ў яе не павінна застацца. А тымчасам з самага ранку—не-не—ды надыдзе нешта трывожна-цёплае, як толькі думка зьвернецца да Рыгора. Яна праганяла ад сябе думкі аб Рыгоры, настройвалася варожна да яго, але нічога не памагала. Мімавольна яна жадала, каб ён прышоў да яе, каб яна сама абараніла, схавала яго ад бяды, якая, чула яна, яго чакала.

Позна ўвечары, ужо пад поўнач, хтось ціха адчыніў дзьверы ў хату і, азірнуўшыся па бакох, увайшоў. Тацяна, сядзеўшая ні то ва сьне, ні то проста ў сваіх так звычайных для яе думках, ня зразу прыкмеціла, хто ўвайшоў.

— Гэта я, матка.

— Чаго табе тут трэба, Рыгор?

— Стаміўся я, матка, і некуды мне больш ісьці.

— А калі я тамілася, тамлюся штодзень, ты прышоў да мяне?

Рыгор, як сноп, зваліўся на лаву. Тацяна падбавіла агню на прыпечку. Сьвет і цені затрапыталі па хаце сваімі бязгучнымі крыламі. Твар Рыгора быў такі бляды, што Тацяна бачыла белую пляму нават у тыя хвіліны, як агонь зусім заміраў і рабілася цёмна так, што іншых рэчаў ня было відаць. Рукі й ногі яго трасьліся, як у трасцы, на губах выступіла пена. Маці сполахна глядзела на змучаны твар сына і падчас ёй

здавалася, што ён канае: так цяжка ўздымаліся яго грудзі. Яна падышла да сына і палажыла яму на лоб руку: лоб быў мокры ад поту і халодны, вочы то адкрываліся, то заплюшчваліся.

— Ох, як-жа я стаміўся, матка,—не сказаў, але прастагнаў ён:— а дзе Алеся?

— Алеся пайшла да мястэчка яшчэ раніцою і не зьвярнулася.

Рыгор ускочыў з месца і, хістаючыся ў бакі, захадзіў па хаце. Вочы яго загарэліся. Ён сунуў у кішэню рэвольвэры, якія ляжалі на лаве, насунуў шапку і нарыхтаваўся ў дзьверы.

— Рыгорка, сынок! Куды-ж ізноў пойдзеш? Супачынь,—з модлаю ў голасе пачала прасіць Тацяна.

— Ты разумееш, матка, яны закатуюць яе: Петрыкаў-жа захоплены імі.

— Што-ж ты зробіш з імі адзін, сынок? Іх тут цэлая процьма праехала. Застанься!

Яна абхапіла яго рукамі, губамі сьцірала сьмяртэльны пот з яго твару. Ёй здавалася, што як толькі ён ступіць за парог у цемру ночы, то больш ужо ня вернецца ніколі. Яна трымала, моцна сьціснуўшы рукамі, як самае даражэйшае на сьвеце, свайго сына. Пусьціць яна яго—і бяссупынная хваля адарве яго і панясе, разаб'е, і застанецца яна адна сярод пусташы навекі.

— Ня йдзі, яны зловяць цябе, яны сьцерагуць кожны твой крок, яны загубяць цябе! Я захаваю, абараню цябе, я аддам сябе ўперад, а ты жыві, змагайся.

— А як з Міхасём? Ты ня маеш на мяне помсты за яго?

Маці аслабіла рукі, і рысы гора нязьмернага і пакуты прайшлі па яе твары. Але гэта было толькі адзіны момант. Яна ізноў схапілася за сына і пацягнула яго ад дзьвярэй.

— Не, матка, родная мая, не затрымлівай мяне! Я павінен, я мушу ісьці! Няхай я пайду на верную сьмерць, на пакуту, але я павінен ісьці! Ты падумай толькі: гэтыя сабакі зловяць яе, будуць зьдзекавацца над яе целам, будуць катаваць, абясчэсьцяць, а потым выкінуць разарванаю на вуліцу. О, я добра ведаю, што яны рабілі і робяць з нашымі жанкамі. Ты можа яшчэ лічыш мяне катам за тое, што я аддаў нашаму суду Міхася? Але каб ты ведала, удзельнікам якіх паскудзтваў ён быў, ты-б сказала, што я іначай ня мог зрабіць.

Тацяна яшчэ мацней сьціснула сына, бяз слоў кажучы, што яна адпушчае яму ўсё, у чым да гэтых часаў вінавацііла яго.

— Я ня меў часу ахоўваць цябе, матачка,—казаў далей Рыгор:—Мы жывём у такія хвіліны, калі трэба змагацца, і я ўсе свае лепшыя гады аддаў барацьбе і змаганьню—і не шкадую. Каб у мяне былі яшчэ дзьветры моладасьці, то я ізноў-бы бяз жалю аддаў-бы іх. Зразумей мяне, матка, і ня помстуй на мяне... Ну, а цяпер...

Рыгор не дагаварыў і моцна сьціснуў Тацяну.



С. А. Б.

— Ну, ідзі! Я ўсё зразумела. Ідзі!

Бяз жаднае сьлязінкі, бяз енку праводзіла Тацяна сына да дзьвярэй на двор і доўга стаяла, гледзячы яму ўсьлед. Рыгор ужо схаваўся ў цемры ночы, ужо ня чутно стала яго крокаў, а Тацяна ўсё стаяла.

— Ня вернецца,—шапталі яе сухія губы.

Яна ўвайшла ў хату, прыпынілася каля парогу і перад ёю так выразна стала думка аб непатрэбнасьці далей жыць, што яна зьдзіўлена аглянулася на ўсё сваё жыцьцё—навошта яно было патрэбным? Але не, яна-ж узгадавала Рыгора, які можа страціць сваё жыцьцё, але за вялікую справу. Не, яна не дарэмна жыла, хоць і ашуквалася так многа, так доўга...

— Гэй, ты, адчыняй дзьверы!—раздаўся моцны, гучны голас.

Тацяна не кранула і пальцам.

Праз хвіліну перад ёю стаялі ўдвох, абвешаных з галавы да пят аружжам. Адзін быў той, ранешні.

— Дзе тут захованы твой бальшавік?—накінуўся ён на Тацяну.

Яна, не пазіраючы на бандыта, супакойна адказала:

— Я ўжо раз казала вам, што аб сыне нічога ня ведаю: чаго-ж вы яшчэ хочаце?

— Лжэш, ён быў тут нядаўна і ня мог нікуды выйсьці з вёскі; мы яго даўно ловім, і ты мусіш сказаць, дзе ён.

На гэты крык адказам была поўная моўчка, нібы бандыт крычэў у сьцену.

— А, дык ты ня скажаш? Давай, Вінцук!

Старое цела Тацяны скацілася на падлогу, і абсацы Вінцука прайшліся раз-другі ўздоўж яе. Барадаты бандыт паласаваў яе бізуном да тых часоў, пакуль яна не пакінула кратацца. Бандыты прынесьлі вядро вады і палілі парванае, пасінелае цела. Кроў расьцякалася па ўсёй хаце і пачырваніла ўсю зямлю. Тацяну паднялі, але яна стаяць не магла; ні носа, ні вачэй ня было відаць—усё зраўнялася з тварам, разьбітым, чырвона-сінім.

— Ну, скажаш цяпер, сьцерва?

Моўчкі.

Барадаты, як ашалелы зьвер, кінуўся да яе, схапіў за горла, ізноў паваліў і пачаў тыльлём шаблі сыпаць пабоі адзін за другім.

— Пачакай трохі,—супыніў яго Вінцук,—ты яе зусім заб'еш, тады нічога не даведаемся.

Пабоі прыпыніліся. Тацяна пластом ляжала на зямлі і нават няпрыкметна было, каб яна дыхала.

— Ты мусіць прыкончыў яе,—шкода.

— Няма чаго шкадаваць, усё роўна ён, мусіць, уцёк так, як і гэтая яго шлюха. І як яны пралезьлі, ліха ведае!

Барадаты са злосьцю кінуў шаблю далоў і яшчэ раз са ўсяго размаху ўдарыў нагою крывавае цела, нібы на ім хацеў спагнаць сваю злосьць.

Тацяна зеханула і скрозь камяк крыві прышамшыла:

— Вы яго не... здавілі?... Мне больш... нічога... ня трэба... Помста будзе...

— А, ты яшчэ жывеш?—зароў Вінцук.

— Не, я ўжо ня буду жыць, але-ж... і вам... панства... ня бачыць!.. Здохнеце! Сынок мой, за ўсіх спагані...

Барадаты два разы ўзмахнуў шабляю, і галава Тацяны з выбітымі вачмі адляцела ў бок.

Ноч ішла сваёю чаргою. На вёсцы прапяялі пеўні. На прыпечку тлелі смаловыя корчыкі, а па хаце скакалі, трапыхалі крыламі блядыя цені, з куткоў пазіраў сьляпы змрок, толькі вочы ў яго то шырыліся, то звужаліся. Доўгія, адзінокія думкі Тацяны вылецелі з галавы і на крылох сьвету і ценяй шукалі сабе выйсьця з цеснае хаты на вольны сьвет.

# ВОСЕННАЕ

**Цішка Гартны**

I.

Па зялёнаму лугу блішчастымі плямамі
Кінула восень чырвоныя талеры;
Залацяцца тканіны узорныя хвалямі,
Цешацца вочы дзяўчыніны карыя.

Ці ня там, у дуброве, шумелі бярозамі
Цёплыя летнія ветрыкі-повеі?
Разьвіналіся думкі агністымі рожамі,
Сьпелі жаданьні званкамі, куколямі?

Перапёлкаю рэзваю песьня кацілася,
Мяккай кудзеляю косы спускаліся...
Дратавалася сэрца, аж нікла ў ім сіла ўся:
„Прыдзе ён, прыдзе! Вунь штось паказалася!“

Ў раскалыханых думках—жаданьні праглівыя
Ўсьпеняцца вірам, ўсклякочуць крыніцаю...
Па прагаліне шарай, пад вольхай санліваю
Пройдуць дзьве поступі сьвежай травіцаю...

Ці ня там? Ці ня тут? Ці даўно?—Ўжо за хмарамі.
Рэзва гай хіліць бязьліснай каронаю...
У аддзяку за тое, што сонца за талеры
Восені стрэчу вабрала трызвонамі.

II.

Мне кажуць: нудзіць лес згалелы,
І вецер песьняю жудлівай
Над нівай шэрай, амяртвелай,
Жуду пяе над соннай нівай;

Гракі крычаць, як б'юць у труны
Цьвякі, каб ўзьдзець на доньнік века.
Жалейка льле нястрымным сумам
І плача тым-жа сумам рэха.

Мне кажуць: гіне ўздым душэўны
Ў тумане слотным, ў хмарах шэрых,
Настрой ападае няпэўны,
Няпэўных думак будзіць шэраг.

Мне кажуць: восеньню завецца
Вось гэны вобраз, гэты тэрмін,—
А я кажу: то вам здаецца,
То боль у вас сапсутых нэрваў.

Бо ў чым нудлівыя калёры,
Што сэрца ваша так сумуюць?
Ў зялёнай руні, што прасторы
Палёў раскінутых красуе?

Ў дажджы, што нівы разьвільжае
Ды глебу поіць жыўным сокам?
У хмарах мяккіх, што зганяе
Іх вецер рэзвы к нам здалёку?

Ці ў шоўку шамкім, ў пухкім лісьце,
Што лес разьдзеў і дол стаптаны
Старэнна ўбраў, гасьцінна выслаў,
А сам пяе зіме вітаньне?

Ці ў стуку гучным ў поўных гумнах
Цапоў сялянскіх па збажыне,
Ці ў песьнях стройных, ў песьнях шумных
Вячоркі—дбайнае дзяўчыны?

Мне кажуць: восень—заміраньне,
Жуды глыбокай час ўрачысты...
А я кажу: хто глыбей гляне,
Той жыцьця ўгледзіць промень іскры!

# ЛЕТНІЯ АДПАЧЫНКІ

**Міхайла Грамыка**

I.

Ляжу пад бярозай за садам старым,
І вокам, і думкай—над краем маім.
Лясы па узгорках, і жыта, і луг,
І ветрык над гэтым, мой сябра, мой друг.
Ён дыша, цалуе, ён поўна жыве,
Ён думкі хістае ў маёй галаве.
І думкі, як хвалі на жыце,—вунь там.
Аддам я іх ветру, хоць зараз аддам.

—Бяры, вырывай іх, трапі па кустох,
Хай хітрыя дзеці заглохнуць ў лістох,
Заціснуцца ў лісьціках грушы старой,
Што сьпіць без дагляду пад гэнай гарой.
Эх, вецер, эх, братка! Ну, вольна-ж табе!
Павеці, і хаткі, і поле ў сяўбе,—
Усё ты цалуеш адразу і ў міг,
Цалуеш адхоны узгоркаў маіх,
І хмуры сасоньнік, і гучных дзяўчат,—
Усім ты вясёлы, жаданы сабрат...

А люба у неба з-за сонца глядзець,
Праджніўныя песьні з-пад воблака пець.
А сонца хай грэе, хай смаліць сьпіну,
Пакуль, абсмуглелы, пад ім не засну.
Гультайна прачнуся, пайду пад вірок
І жабку спужаю у ім незнарок.

II.

Пад лесам, на ўзгорку хвалюецца жыта.
Яно, як зямелька мая, ня ізжыта.
Па ім, як па сьвеце, бягуць тыя хвалі,
Што ветра чакалі, што ветра прыждалі.

Шум шэрага шэпту па жыце шыбае,
А жаўранка сьпевы у сіні купае...
—Цюр-цюр-пі-цю-пі-цю-пі!
Лі сьпевы, лі сьпевы, лі!
Кінь працу, кінь працу, кінь!
Сінь неба, сінь неба, сінь!

І лёг я на цень свой, паўдзённа-аршынны
Пад голаву кветка—матыль канюшыны.
І пах яе пышны нязьнятага мёду

Гадоў паскідаў мне да першага году,
Пайшоў чырванець мой падсонечны твар—
На скуру і думкі набыў я загар.

Заснуў. А той ветрык шаптаў мне у вушы
Пра поўныя соку зялёнага йгрушы;
Шаптаў мне пра сьліў недасьпеўшую цэру,
Пра смакі-зародкі, пра слуцкія бэры...

І так не хацелася з сонцам змагацца!
Кудысь захавалася строгая праца,
Напэўне, купацца пайшла у вірок,
Дзе сьпеў свой прасьцецкі заводзіць юрок.

Лясы па узгорках, і жыта, і луг,
Я ім толькі сяньні і сябра і друг.
Аддамся я сяньні увесь адпачынку,
Бо чэрвень ня зробіць благога учынку.
Мне люба сягоньня за садам старым,
І вокам і думкай над краем маім...

# З ЦЫКЛЮ „РЭВОЛЮЦЫЯ“

**А. Гурло**

I.

## БУРАЛОМ

Ён ідзе—зямля трасецца,
Гнецца к долу стары бор,
Хоць-ня-хоць, а адгукнецца
Яхам голасным простор.

Буралом ня любіць гнілі,
Буралом—магутны меч;
Ён дае простор для былі,
Нябыліцы гоніць прэч.

Буралом, як вал дзевяты,
Не баіцца перашкод—
Ломіць ён стальныя краты,
Толькі-б выбіцца ўпярод.

Моцна тое, што жыцьцёва,
А гнілое—вон з жыцьця:
Буралом сарве аковы
З цела, духу, пачуцьця.

З бураломам той, хто моцны,
Хто надзеямі жыве,
А пясок жыцьця наносны
Ад жыцьця ў даль паплыве.

Паплыве, ў вякох загіне
І зьмяцецца памялом,
А свабодная краіна
Будзе помніць буралом.

II.

## У ЖАЛЕЗНЫХ ЗВОНАХ

У жалезных звонах,
        У звонах сталі
Гучыць сягоньня
        Дух паўстаньня.
Ў кругох кружэньня,
        Ў шалёным руху—
Простор імкненьня
        Для завірухі.
Гудуць моторы,
        Як рой пчаліны,
Нясуць ў просторы
        Прывет айчыне.
Сягоньня сьвята!—
        Гучаць сырэны,—
І рэзва ў хату
        Нясуць збавеньне.

# АДНА ПАРТЫЯ Ў ШАШКІ

М. Зарэцкі

Гэта—з таго часу, як у маладой савецкай краіне полымем барацьба бушавала, як у сьмяротную бойку схапіліся былі паўстаўшыя работнікі з сваімі адвечнымі ворагамі—панамі. Тады кожны куток нашай краіны працяты быў вострай напружнасьцю, якая часам прасякалася агнявымі бліскавіцамі бурных уздымаў.

У той час на кожным кроку хаваліся ў цемры падкалодныя гадзіны. Часам выпаўзалі яны на сьвет і атрутныя джгалы паказвалі. Мужыкі—сярмяжнікі зьніштажалі іх сваімі рукамі мазольнымі, карузлымі. І ня было тады меры мужычай моцы жалезнай, ня было меры й гневу народнаму, бурнаму.

У фальварку Струшні тры дні паслугачы панскія сядзелі замацаваўшыся. Акружаны былі кальцом непарушным—чырвонаармейскім атрадам на чале з Асначом—селянінам-гэроем. Не здаваліся, хоць і бачылі, пэўна, што ня будзе ратунку. А мо‘ чакалі адкуль дапамогі?

Аснач наўмысьля ня браў фальварка з бою: хацеў жыўцом захапіць непакорных бандытаў. Растанавіў вакол панскага дому людзей сваіх, сам сядзеў у старажоўскай халупцы, што ад дому крокаў на сто ля дарогі стаяла. Пад вусамі густымі вялізнымі хаваў увесь час хітравата-вольную ўсьмешку. Пэўна, сам сабе думаў:

— Няхай пасядзяць сабе троху, адпачнуць пасьля працы. А канец—адзін...

Ноччу панскі дом хаваўся ў старожкую цемру. Тады Аснач падыходзіў да дому і хадзіў вакол бязупынку. У паўголаса аклікаў чырвонаармейцаў, бадрыў іх жартам вясёлым. А сам усё хадзіў і ўсё слухаў пільна, уважна, ці ня робіцца што там за сьцяной, ці не гатуюцца да чаго няпрыяцелі.

На трэцюю ноч, калі ён хадзіў так—бяссонны, настарожаны,—яго чулае вуха злавіла ледзь чутныя рухі ў пакоях. У момант ад чалавека да чалавека перадалася чырвонаармейцам яго перасьцярога. Шчыльней абступілі дом, ля дзьвярэй, ля вакон пасталі з нарыхтаванымі стрэльбамі.

Застыгла ўсё, быццам самлела наўкола. Так ціха было, што, як з саду над домам праляцела нейкая птушка начная, дык чуцен быў мерны ўзмах яе скрыдлаў.

Часінка, другая...

Раптам адчыніліся дзьверы панскага дому. Уздрыганула паветра ад стрэлу. Невядома, хто першы страляў: ці армейцы, што чакалі каля дзьвярэй, ці мо' бандыты, каб спалох узьняць нечакана, палягчыць сабе магчымасьць уцячы.

Потым ужо ў пакоях пайшла страляніна. Тлум, замятня... А праз колькі хвілін асьвяціўся дом сьвятлом няроўным, дрыжачым; з вакон косы віхрыстыя заскакалі па кустох палісадніку.

Гэта Аснач рабіў вобыск па дому. Замест лямпы, з паперы зрабіў нібы факелы і асьвятляў імі пакоі.

Доўга не аставаліся ў доме. Аснач хутка сабраў сваіх хлопцаў.

— У вёску, усе... Пільна сачыць за бандытамі... Рукі скруціць... як мае быць... Марш!..

Пасунуліся няроўнай чарадой па цёмнай дарозе. У невялічкай вёсцы—вярсты тры ад фольварку—спыніліся. Там мусілі начаваць.

Разышліся па хатах, а забраных бандытаў стоўпілі ў адзін з сялянскіх сьвірнаў. Да іх варту прыставілі. Толькі правадыра іхнага павёў з сабой чамусьці Аснач. Двое чырвонаармейцаў яго вартавалі, трымалі нарыхтаваныя стрэльбы.

Увайшлі ў сялянскую хату. Аснач сеў адразу за стол, задумаўся, паклаўшы твар на далоні. Усе маўчалі. Толькі гаспадар з гаспадыняй нешта шапталі ўцішку. З цікаўствам паглядалі на гасьцей і больш за ўсё на таго, што стаяў паміж двух узброеных салдат.

Яго выгляд прыцягваў да сябе ўвагу. Вопратка нібы панская, але так абшарпалася, што зусім страціла свой калішні выгляд. Калматым шкумацьцем недалужна зьвісьлі парваныя полы сурдуту, а скрозь дзіркі на каленках сьвіцілася брудная бялізна.

Стаяў ён панура нярухома, у дол апусьціўшы сярдзіта прыжмураныя вочы. Твар быццам драўляны, быццам мёртвы. На ім застыгла, закамянела хваравітая напружнасьць.

Аснач раптам узьняў галаву. Акінуў хату ўраз павесялеўшым, сьветла-іскрастым паглядам.

— Гаспадыня! А як будзем з вячэрай, га?..

Замітусілася баба, забегала па закуцьці.

— А бадай яно цямілася. Гэта-ж мне з галавы вон. Т'кі праўду кажуць, што сыты галоднаму не спагадае...

Неяк ураз зьмяніўся ўсіхны настрой. Быццам нейкі гульліва-радасны промень працяў тую напружную цяжкасьць, што гнётам вісела ў хацёнцы. Закулдыячылі дзеці, загаварылі армейцы. Гаспадар падсеў к Асначу, пачаў гаманіць з ім—сьперш асьцярожна, нясьмела. Зазіраў у яго добрадушныя вочы з цікаўствам, з павагай, распытваў пра падзеі ў фольварку. Аснач апавядаў, і ўсе сьмяяліся давольна, радасна.

Толькі адзін палонны маўчаў. Быццам ня чуў, не ўважаў, што наўкола, углыбіўшыся ў думкі свае асабістыя.

Падалі вячэру. Аснач разгарнуўся, рашпіліўся, вольна раскапусьціўся за сталом, гатуючыся як мае быць узяцца за ежу. Па твары разьлілася давольнасьць—шырокая, млявая, якая заўсёды бывае ў тых, хто пасьля цяжкае працы знаходзіць сабе адпачынак.

У гэты момант пагляд Аснача спаткаўся з паглядам бандыта. Толькі хвілінку глядзелі яны адзін у вочы другому, але гэтага досыць было, каб Аснач згадаў тое, што пераж ывае ў гэты момант зьбянтэжаны пан. Скрозь усю тую варожасьць і злосьць, якія сьвіціліся ў прыжмураных вачох, нястрымана прарывалася моцнае жаданьне, і гэта жаданьне, відаць, панавала цяпер над усім пачуцьцём, над усёй істотай гэтага чалавека.

— Есьці! Есьці!—быццам крычалі напружна-бліскучыя вочы бандыта.

І тады Асначу яшчэ весялей зрабілася. Ня было ўжо злосьці на недалужнага, бясьсільнага ворага. Нават жаль нейкі зьявіўся. А панская ўпартасьць, замкнёнасьць здалася сьмешнай і недарэчнай. Ён праказаў вясёла з захаваным сьмяшком:

— Можа пан не адмовіцца павячэраць?

Злосьцю і пагардай блiснулі панскія вочы. Адвярнуўся, не глядзеў нават у бок Аснача. Але Аснач ведаў, што голад пераможа ўпартасьць.

— Хлопцы! Разьвяжэце пану рукі, няхай падмацуецца троху...

Разьвязалі. Пан ня рушыўся з месца. Відаць, змагаўся з сабой. Але ўрэшце ня вытрымаў. Утупіўшы вочы, падышоў да стала. Больш не чакаў, каб прасілі, накінуўся на страву, як зьвер галодны. Мусіць, доўгі час нічога ня еў.

Як скончылі вячэру, як у ціхай сямейнай прытульнасьці зацягнуў сваю ветлую песьню самавар ля парогу, Аснач заўважыў на вакне дошку ад шашак.

— А бач! Вось дык знаходка... А дзе шашкі? Дзядзька!—зьвярнуўся ён да гаспадара.

— А ліха іх ведае... Як быў сын у двар э, гулялі часам хлопцы... А потым, мусіць, параскідаліся, бо гуляць няма каму, так вось бадзяюцца...

— Кепска, кепска. Але нішто, мы наробім...

Узяў кавалак хлеба і пачаў крышыць шматкамі маленькімі.

— Ну, сядай, хлопцы, згуляем...

Але з чырвонаармейцаў ніводзін ня ўмеў гуляць.

Аснач зірнуў у бок пана. Той сядзеў за сталом, упяўшы пагляд некуды ў пусты працяг. Думаў усё. На твары цяпер спакой быў, ціхамірнасьць.

— Ці згуляе ці не?

Хочацца Асначу ў шашкі пагуляць, дужа хочацца. Шашкі—гэта-ж яго ўцеха найпершая... Пэўна, гуляе пан, але ці згодзіцца? А цікава было-б з ім...

Ён абярнуўся да пана, і той, быццам схапянуўшыся, зірнуў на яго чакаючым паглядам.

— Можа згуляем партыю?—запытаўся Аснач.

— Давайце.

Узяў нейкую паперку з вакна і пачаў таксама, як і Аснач, гатаваць шашкі.

Растанавілі—Аснач хлеб свой пакрышаны, а пан кавалкі паперы.

Чамусьці раптам заціхлі ўсе ў хаце. Армейцы падсунуліся бліжэй, глядзелі з цікавай усьмешкай.

Пачалася гульня. Напружаная, цягучая ціша агарнула хацінку. Настойным, назольлівым гнётам павісла пытаньне:

— Хто каго?

Глядзела гэта пытаньне з цікавых вачэй армейца, з маўкліва-ўпятага ў шашаніцу пагляду гаспадара. І нават гаспадыня, сноўдаючыся па хаце, часам падыходзіла да стала і зазірала на шашкі, хоць і не разумела ў іх нічагуткі.

Аснач насупіўся. Упарта глядзеў на дошку, асьцярожна, зважна пераставіў кавалачкі хлеба. І чым далей, тым больш і больш моршчыліся яго бровы, а вусы шавяліліся, як у таракана.

Дзіўная была гульня ў Аснача з панам. Абодва напружыліся, абодвых цалком захапіла адна вострая, палкая думка: каб не прайграць.

У Аснача пад звонку нібы зусім спакойным выглядам хавалася моцнае абурэньне. Адно зьвінела, гудзела ў мазгох: ён павінен абыграць, ён не павінен паддацца. Чаму—невядома, але так трэба, так павінна быць.

І нешта дзіўнае, нязвычайнае рабілася з Асначам. Ніколі ён ня гуляў з гэткім запалам. Быццам усёй істотай увайшоў ён у шашкі, у гэтыя цьмяныя кавалачкі хлеба, усю моц сваю, волю ўклаў у іх. І здавалася, што гэта ня шашкі ўжо, што ня іх справа. Здавалася, што няма ўжо шашак, што счэзьлі яны, распаўзьліся, разгарнуліся ў нешта вялікае, шырокае, у нешта бяз форм, без пачатку й канца. І асталіся тут толькі яны ўдвух—адзін проці аднаго—з гэтым панам, што блішчыць варожа вачмі, што ўсьмяхаецца сьмешкай саманадзейнай.

Абыграць яго, перамагчы! Бо йначай—няма ведама што...

Гульня к канцу падыходзіла. Асталося па некалькі шашак у кожнага. Абодва не паддаваліся.

Напружнай чырваньню пакрыўся акамянелы твар Аснача, вочы заблішчэлі агнём жорсткім, сталёвым. Упарта глядзеў на дошку. У ваччу ўжо ня хлебныя крошкі, а нейкія вялізныя камлыгі каменныя. Здаецца, заваліў-бы, раструшчыў імі гэтыя заядлыя белыя паперкі. А разам з ім і гэтага ўпартага, злоснага ворага.

У парозе гаротна, недалужна пішчэў самавар. Усе на яго забыліся, усе абступілі гульцоў, з зацятым дыханьнем чакалі, чым скончыцца. Ува ўсіх на твары відаць было шчырае спачуваньне Асначу, жаданьне, каб выграў ён, не паддаўся. І разам трывога, напружная, палкая.

— А што, калі ды прайграе?..

Гэтак і вышла. Зрабіў Аснач ход дрэнны, няўдалы; і твар пана раптам зайграў давольнай, радаснай усьмешкай.

Аснач прайграў. Аснач паддаўся варожаму пану

Раптам глыбокая цішыня стала жудаснай, злавеснай. Дзіўна дапасаваў ён завыўны, жалобны посьвіст самавара.

Узьняўся Аснач. Упяў пагляд проста ў твар пану. У гэтым поглядзе нешта гарэла, бушавала шалёнае, лютае.

Пан таксама ўстаў. Сьмела глядзеў у твар Асначу, усьмяхаўся злорадасна.

І вось тады здарылася тое, чаго, пэўна, ніхто не чакаў, што спалохам агнявым усіх агарнула.

Аснач вынуў з кішэні наган і навёў яго на пана. Стрэл быццам ускалануў, разадраў усю хату.

А пасьля—ціха стала, як у магіле. Пан марудна, паволі апусьціўся на лаву.

Аснач стаяў нярухома. Ня ведаў ён сам, нашто забіў пана, за што.

Ды й ня думаў пра гэта. Нешта падказала з нутра, што трэба так, што павінен забіць, што вораг гэты кроўны, упарты,—узяў і забіў...

Усё моўчкі стаялі, спалоханыя. Усе узіраліся ў недалужна-паніклае панскае цела. І дзіўна, што ні ў каго ня мігнула ў гэты жудасны момант думка асуджэньня. Быццам усе згодны былі з Асначом, быццам кожны разважаў сваім простым, нямудрым розумам:

— Яму трэ' было гэтак зрабіць...

Дык вось якая была адна партыя ў шашкі. Гэта было тады, як у нашай краіне барацьба бушавала, як у сьмяротную бойку схапіліся былі паўстаўшыя работнікі з сваймі адвечнымі ворагамі—панамі.

Тады ня было меры мужычай моцы жалезнай, ня было меры й гневу народнаму, бурнаму...

# ЖАЛЕЗНЫ КРЫК

**Кузьма Чорны**

I.

У цемені ночы ўперлася ў чорнае неба маса каменьня і жалеза, раскінула пры зямлі і ўскінула ўвыш роўна-бліскучыя сонцы і загула роўна-крыкліва. Шырокімі формамі цяжка прыпала да зямлі, грузна яе прыдавіла, урасла ў яе нярухома... І заліла ноч пахам гарэлага вугольля й бэнзіну.

Здалёк—дзівосным сваімі абрысамі здаецца гэтае месца: сьветлая выспа на цёмнай зямлі, грымучы горад зблізку—стаяць нярухома высокія сьцены, за імі ходзіць-выплывае шырокі гул, нешта настойчывае кіпіць і рвецца ў гарачых трубах...

З правага боку, дзе асьвечаныя сьцены гранічаць з ноччу, выткнуў горад у палявую цемень тры круглыя вочы некага хітра-шыпучага, жывога. Яно дыхае цяжка гарачаю парай і раз-по-разу хрыпла крычыць, для нечай прадасьцярогі. Доўга і роўна выцягнулася яго цела,—нізкае, чорна-блішчастае. Здаецца ўздымаюцца ад нецярплівага подыху яго абкураныя грудзі, нешта ў іх калоціцца, мокра клякоча, вырываецца. А тры круглыя вочы ня міргаюць—глядзяць у густую ноч, як-бы рыхтуючыся рынуцца ў яе й разагнаць яе слупамі свайго роўнага сьвету...

Ноч хітра падышла палямі к гораду, прысунула бліжэй чорныя кучы кустоў, больш згусьцілася, як-бы задаўшыся мэтаю ня пусьціць у сябе жалезнага пасланца гораду. Адгранічылася яна ад бэнзінна-вугольнага паху вострым пахам палявой сырасьці, прэлага лісьця, гнілога дзерава. „Тут мае абшары“—гаворыць яе дзікая ціш. І ўсё там здаецца вечна-сонным, няжывым, ахвачаным адвечным тленьнем, баязьлівасьцю ўсяго жывога, няпрыціхшага... І глухнуць там у кустох стогны начное птушкі і плач панурыхваўкоў...

Ад магутнага крыку раптоўна страсянулася ноч. Жоўты слуп пару ўскінуўся ўгору над трыма круглымі вачыма. Крык вырваўся з жалезнага горла, стукнуўся ў каменныя сьцены й пабег над соннымі кустамі; некалькі разоў празычэў у далёкім лесе, слабым для таго, каб ня прыняць яго ў сябе. Радасным звонам абазваўся жалезнаму крыку дрот на слупох,

ахвачаны ноччу ў пустым полі, а поле сьцішыла воўчы плач і птушыныя стогны. Толькі заплакала нешта ціхім, сьлізкім плачам за кустамі ў балоце...

Абкураныя грудзі дыхнулі глыбока, і жалезнае, доўгае цела рынулася з гораду ў цёмнае поле. Сьвет вачэй разагнаў цемень ночы на дарозе, рассунуў кусты. Грануў жалезны марш шыбкага ходу:

— Та-та-тах, та-та-тах!—застукала зьнізу.

— Дзі-гі-дзі!—засьпявала зьверху звонам жалеза.

— Пых-пых!—шырока-часта задыхалі жалезныя грудзі...

Грымела звонка і суха паветра вакол, енчыла ноч баязьлівай слабасьцю. Цягнік рэзаў прастору грудзьмі і крыкам...

Там, далёка ў палёх, туліліся да зямлі ноччу нізкія хаты. Заплаканыя вокны іх асунуліся да прызбаў з кастрыцы, жоўкла перад імі ў сырасьці асеньняй ночы млявая крапіва. У хатах пад парванымі кажушкамі спалі ціхамірныя людзі. За гнілымі сьцянамі збоку—іх адвечныя таварышы ў палявом жыцьці—каравыя ціхія конікі. Хаты, агарнутыя ноччу, маўчалі ў тумане—драмалі так, як і поле вакол іх і дзікія кучы дрэў...

Жалезны крык цягніка дакаціўся сюды ў поўнач, гулка і моцна. Абазваліся ціхенька, баязьліва абуджаныя хатнія птушкі пад вокнамі на кастрыцы, конікі бяздоннасьцю вачэй пастараліся ўглядзецца ў цемень хлявоў, прыніжаныя крыкам старыя хаты, яшчэ больш, здаецца, прыгнуліся гарбамі саломы да зямлі. І толькі ў ціхіх, сонных людзей, хто пачуў жалезны крык, закалаціласа ў сэрцы нешта сьвежае, непадобнае да таго, што бывае пры лірніцкім, аднатонным скрыпе калёс. Гэта новае ў сэрцы сонных людзей зьявілася на момант ад жалезнага крыку, несьвядома, раптоўна і востра, як подых сьвежага паветра ў пограб. Рэдкая зьява—быў тут жалезны крык. У гэтым шэрым кутку, у царстве ціхіх скрыпаў дзерава, плаксівых песень ветру, ціхіх людзкіх крыкаў на пакорных коняй чуўся ён толькі раз у тры дні, кожны раз у поўнач.

І кожны раз абуджваў ён людзкія пачуцьці—ніяк не маглі звыкнуцца тут з ім людзі.

Над белаватай плямай вады зьменшыўся ход цягніка. На балотных выспах-куп'ях ціха шапталася сухая асака, жаўцела ў белаватым ад вады й чырвоным ад паравіка адсьвеце шчаціна скалечанага касою чароту. Растуліўся густы іх вялікі адвечны лес-пушча—даў дарогу грымучай жалезнай машыне. А там ізноў шырокае поле, скованае начным туманам, укрытае па мокраму іржышчу цеменьню ночы.

Ціха і цёмна...

Гучна і сьветла...

З жалезным громам і крыкам імчаўся цягнік па дзікай зямлі.

II.

На паравіку, абапёршыся локцямі на гразкі, запацеўшы, жалезны выступ, стаяў машыністы—чалавек чорны й маўклівы, пакрыты тонкім пластам мокрай сажы й мутнага поту. Уся яго буйная, акруглая фігура выяўляла сабою цьвёрдую ўпэўненасьць у сваёй сіле, веру ў патрэбнасьць і вернасьць свае справы. Сухімі кручкаватымі пальцамі ён час-ад-часу браўся за вісячы шнурок, і паравік хрыпла крычаў. Тады машыністы высоўваўся збоку паравіка на двор галавою й грудзьмі, асьвечаны чырвоным бляскам, пільна ўглядаўся наперад. І ў яго шырокіх вачох сьвяцілася жаданьне саскочыць з свайго цеснага месца на паравіку і моцна пабегчы між блішчастых рэек, далёка пакінуўшы за сабою скоры цягнік. Крык паравіка жыў ува ўсёй яго істоце, громам і стукам быў повен усякі рух яго мускулаў. Для яго ўвесь сьвет быў ахвачаны жалезнымі зыкамі і часта ня трэба было, а ён застаўляў крычаць паравік.

Збоку ў яго, радам, мятусіўся высокі, тонкі і верткі чалавек, з шырокай лапатай у руках. Раз-по-разу абварочваўся ён назад, набіраў на лапату вугольля й размашыста кідаў у рот машыны, у якім суха гуло й сьвістала гарачынёю. Вузкія, хітрыя вочы яго весела, насьмешліва бегалі па бакох, і здавалася, што хоча ён пагаварыць з кім-небудзь, ды не адважыцца зачапіць задумённага машыністага...

Некалькі разоў засаб крыкнуў паравік. І тады адтуль, дзе качагар браў лапатай вугольля, ссунуўся зьверху худы і шчуплы чалавек, з тварам зеленаватага колеру, абросшым рэдкімі, мяккімі валасамі.

— Ты што?—сказаў яму радасна качагар.

— Не магу,—адказаў ціхі, вялы і сьлязьлівы голас,—на што ты крычыш так часта, без патрэбы?

Маўкліва й сурова глянуў вакол машыністы.

— А што, хіба нявесела ад крыку?

Гэта качагар насьмешліва і пільна пазіраў у вочы чалавеку.

— Прыпыні машыну, я зьлезу, калі так,—сказаў той і стаяў, сагнуўшыся, успёршыся на палку, з клункамі за плячыма.

Узяў яго качагар за дзесяць вёрст ад гораду, на разьезьдзе: папрасіўся пад‘ехаць „вёрст сорак“.

І цяпер стаіць ён сутулы, мізэрны на паравіку. Каменем падаюць словы яго:

— Ня крычы, стой, дай зьлезу...

— Ды куды табе трэба і адкуль ты ідзеш?

— Ніадкуль і нікуды—хаджу я па зямлі, гляджу і шукаю.

— А чаго шукаеш?

— Цішыні.

— А на што яна табе?

— Каб жыць... Не магу я жыць у шуму і крыку. Усюды жалеза, людзі, як жалезныя. Гіне цішыня, радчэй стаў чуцён ціхі царкоўны звон людзі рвуцца да шуму...

— Дык ты воўк, ідзі ў лес, там табе будзе ціха, адзін там будзеш.

— Няма і там цішыні: прыдуць у лес людзі ды папытаюць—хто ты такі?

— Дык жыві ў людзях, калі так.

— Не магу; людзі другімі робяцца. Прападае іх цішыня. Даўней людзі былі сьлязьлівыя, мяккія, а цяпер—іншыя. Ахвацілі яны сабою ўсё, працягнулі лапу сваю на ўсю зямлю. І няма дзе супачыць ад людзей.

— Хэ-хэ! А ты хіба не чалавек?!

Плаксівы чалавек больш яшчэ сагнуўся, мацней прыціснуўся да чорнай сьцяны. Загаварыў, як-бы сам сабе, ціха, задумёна:

— Пайду я куды-небудзь у глухую мясьціну, пашукаю там людзей ціхіх, а калі не знайду—адзін, разам з птушкамі, дажыву свой век...

— Эй ты, слухай!..—гэта машыністы раптоўна абярнуўся тварам да чалавечка—на чым ты цяпер едзеш? Ты ведаеш, на чым стаіш ты?! Слухай! Усе вагоны за намі, пляцформы, укрыты, напоўнены машынамі. Вязём мы іх з вялікага гораду ў ціхія куткі, дзе людзі жывуць з птушкамі. Усе гэтыя машыны грымучыя, крыклівыя, з большым яшчэ крыкам, як гэтая наша, якая імчыць нас. І ня знойдзеш ты нават месца такога, куды-б не працягнула гэтая наша машына свае сілы. Так што дарэмна ты шукаеш... Людзі сталі „жалезнымі“ душою, ды затое моцнымі у жыцьці. Во, бачыш?!

Машыністы рвануў на сабе бразэнтавую сарочку і агаліў грудзі й жывот. Там быў шырокі, чырвонаваты рубец, крывы і тонкі, як вяроўка. Прыліп ён з правага боку да цела машыністага.

— Во, бачыш?!. Даўней, калі панавалі такія як ты ціхія людзі, калі ня ймчаліся так, як мы цяпер на машыне, а хадзілі, як ты з палкаю, як мурашкі, прапаў-бы я, са сваёю гэтаю хваробаю. На шчасьце маё радзіўся я ў цяперашні век машын. І два месяцы таму назад „машынны“ чалавек—вучоны чалавек, разрэзаў быў мне вось тут цела і перайначыў там нешта. І я вось здароў і ганю цяпер сваю машыну. Чалавек—сам машына і знае сябе. І калі адна трубка ў сярэдзіне папсуецца—можна яе паправіць. А ты што?! А ты прападзеш ціха, як зьвер у лесе, як птушка ў полі, ад самай маленькай прычыны... Зямля жалезным, машынным крыкам гаворыць, што ёсьць чалавек на ёй!..

Чалавечак яшчэ больш прыціснуўся да чорнай сьцяны. Уся яго істота выяўляла ўжо баязьлівую, маўклівую пакорнасьць. Барада яго апусьцілася ўніз і вочы пацямнелі.

— Ды ты хто такі раней быў?

— Таксама хадзіў.

Машыністы шыбчэй пусьціў паравік, нэрвова рвануў шнурок...

Доўга ў палявым змроку зычэла гулкае рэха.

III.

Зямля—як зялёнае мора, роўна-шырокая дарога—-як роўная жалезная істужка, перарэзаўшая зямлю.

Поле ўсё ўкрыта макратою ад растаўшага першага інею. Сьмяецца жоўтай ад сонца ўхмылкай дарога, звонкая ад дрыжачых рэек.

У дзіч сініх паплавоў урэзалася яна.

Бягуць яны насустрэч зьбітаю сіньню сваёй атавы, зьліваюцца ў бясконцны абшар рэдкімі сухімі былінкамі, струхлеўшымі на ветры сухімі конскімі касьцьмі.

Пахне ветрам, кружацца далёка чорныя кропкі варон, плачуць купіны шумам травы...

Асьвечаныя ранешнім сонцам—за паравіком нізкія пляцформы. Яны ўзьнімаюцца ўгору сваім цяжкім грузам. Іх груз—жалезныя машыны. Бязформенымі масамі ўзьнімаюцца пераблытаныя калёсы, тоўстыя прэнты. Зьзяюць чорнымі, расчыненымі дзіркамі; кожная дзірка—рот машыны.

Блішчыць груз пляцформ пад сонцам белым срэбрам абгладжанай сталі, адлівае зеленьню высахшай фарбы.

З пляцформ у бакі навісьлі і тырчаць нейкія трубы. Іх многа. Некалькі іх роўна ўзьнялося вышэй тоўстага коміну паравіка, цягнуцца стройна ўвыш, як-бы хочучы падняцца верхнім канцом вышэй чорна-густога дыму, пажоўклага ад сонца...

Дзень прышоў ціхі і сьветлы. І ад яго сьвету і цішыні, як-бы стаў раўнейшым, больш рытмічным, грымуча-жалезны марш бешанага хору цягніка.

Сьпявалі калёсы радасную песьню вялікага ймкненьня, цяжка ад жалезнай натугі дыхаў-соп паравік, клякатала, рвалася нешта ў ім. Сьвістам гаварыла нешта тонкае, поўнае дзікага захапленьня, і жалезны машынны груз, усімі сваімі, самымі маленькімі, шрубкамі і кручкамі, зычэў, ад шыбкага руху. Уся жалезная маса грымела, цяжарам сваім імчалася.

Радасная песьня была ў жалезным громе...

З сілаю, шыбчэй наперад, па дзікай і пустой, роўнай палявым выглядам, зямлі!..

На момант цягнік прыпыніў бег каля жоўтай, маленькай будыніны пры дарозе. А з другога боку шурпаціўся пад сонцам каравы плот-частакол, за ім куча раскіданых у беспарадку, шэранькіх хатак. Хаткі панура, як-бы кагадзе ўцешаныя ад плачу, пазіралі мокрымі вокнамі на сонца.

На частаколе тырчыць угору пагнутым сашнікам дзеравяная саха, пад часткoлам іржавее маленькі, крывы, старасьвецкі плужок.

Каля хат, гатовы да адходу, трашчыць новенькі, блішчасты аўтомобіль. Каля яго поўна людзей. Яны, гэтыя людзі, павольныя ў руху, нязграбныя ў сваёй грубой адзежы. Яны тупаюцца на адным месцы, прыглядаюцца сагнуўшыся.

На аўтомобілі таксама стаяць кучаю людзі.

Цераз плечы іх абвіліся жоўтыя трубы, блішчастаю медзьдзю адзначыліся ад гнілое саломы на зямлі каля хат.

І хвацілі людзі трубамі мэлёдыю зычную, радасную, сьветлую.

Яна зьмяніла грымучы марш цягніка; і было ў яе рытмічных пералівах нешта агульнае з гэтым маршам, нешта такое-ж радасна-моцнае, поўнае захапленьня.

Толькі ня крычала яна аб сваёй сіле, ня глушыла сабою ўсяго... Ёю былі поўны хаты й платы, людзі—пры ёй і паводаль. Сьветлымі ўхмылкамі пакрыліся ад яе твары нязграбных людзей каля аўтомобіля. І машыністы, высунуўшы голаў з свайго цеснага месца, затрос у такт ёй плячыма.

З музыкаю пакаціўся аўтомобіль ад хат, а людзі падышлі бліжэй да цягніка.

Ён стаяў вышэй хат—жалеза, радам з саломай.

Вось падышоў адзін нізкі, худы, шчуплы. Ногі яго ў вялікіх лапцёх, мякінаю абсыпаны вострыя плечы. Ён лахматы, нязграбна падпаразаны, запылены. Паправіў ён на сваім частаколе саху, каб ня ўпала, і пайшоў, разам з усімі, да цягніковага грузу.

А-я-й!..

О!..

Гэта галасы былі пры пляцформах.

Гэта каравыя пальцы шчупамі калёсы і прэнты машын.

Гэта вочы ўглядаліся ў зялёнае жалеза.

Рукі тузалі вялікі трактар на пярэдняй пляцформе. Бляск яго вялікіх і вострых сашнікоў укрыўся людзкімі рукамі.

І здаецца, саха на плоце і прымітыўны плужок пад ім сталі для людзей няпрыкметнымі, зьліліся зусім з саломай і зямлёю.

І больш, як ад меднай мэлёдыі, асьвяціліся радасным захапленьнем твары людзей, ад нябачаных, вялікіх машын-плугоў.

— Эх ты!..

— Вось яно!..

— Зьняць-бы яго сюды ды прайсьці па нашай зямлі!..

— Ато, эх ты!..

— Гэта ў вас што за музыка была з аўтомобілем?

Голас у машыністага гулкі—прывык ён да вечнага шуму машын.

— Гэта ў нас шэфы былі з гораду—два дні, з музыкаю.

Голас у каравага чалавечка ціхі, прывыкшы да шэпту травы і саломы...

— Шэфы!..—загулі больш галасы.

— Шэфы з гора-аду!..

А тонкі і высокі качагар, у сярэдзіне свае будкі, гаварыў з плаксівым чалавечкам-пасажырам.

— Дык што, бачыш?!—гаварыў качагар—дзень прышоў і людзі рады. А ты што і як?..

— Радасьць на зямлі ў іншым; для мяне яна ў цішыні. Чалавек павінен быць ціхім і пакорным, калі хоча быць радасным ціхаю радасьцю. Былі даўней людзі такія, ішлі людзі ад людзей, у пустыя месцы, а гэта другое на зямлі. Шэрыя вунь хаты, ціхія, а каля іх бешаная музыка і людзі рады ёй. Дзе мне знайсьці цішыню дзікай травы?

— Ды ты даўней чым займаўся?

— Таксама хадзіў па зямлі.

— А чым жыў?

— Людзі давалі.

— Дык-жа людзі, чым больш адракаліся ад твае гэтае дзікае цішыні, тым больш мелі. І ты гэтым жыў, а не разумееш!..

Ціхі чалавечак ня слухаў, раптоўна, сагнуўшыся, пайшоў з паравіка. Спусьціўся ён уніз і згінуў наперадзе.

— Шэ!..

Загулі яшчэ раз галасы, і людзі раптам адхвацілі рукі ад жалезнага грузу пляцформ.

— Шэфы—дагадаўся машыністы на ходу машыны. Ён зноў напоўніўся нястрыманым імкненьнем імчацца.

Людзі асталіся ззаду...

І сталася так, што той каравы і шчуплы, узьняў рукі ўгору і пабег за цягнікам. Машыністы непакойна агледзіўся. Нешта чорнае, маленькае асталося ззаду на дарозе, абкружанае людзьмі. Тады машыністы спыніў ход цягніка і, саскочыўшы, пабег па дарозе.

— Сам кінуўся!—шурпаціўся голас у кучы людзей...

Разрэзанае напалам калёсамі ляжала ўпоперак на дарозе цела чалавечка-пасажыра. І цяпер толькі машыністы, нагнуўшыся, добра разгледзіў яго.

Было яно тонкае, худое. На белабрысым твары яго вызначалася нешта такое, што гаварыла:

— Тое што было, творанае некім невядома калі, мінулася,—было яно прывычнае, спакойнае і роднае. Тое што прышло—чужое, незразумелае. Патрабуе яно ўласнага актыўнага ўдзелу і яно чужое... Вакол—жах існаваньня...

І быў роспач у шырока расплюшчаных, шкляных вачох перарэзанага чалавека.

Набегшыя людзі адцягнулі яго ўбок ад дарогі, да мокрых кустоў.

Ішлі з лапатамі за плячыма на працу рабочыя. Яны бачылі высокі цягнік з грузам, застыўшы на месцы, збоку, каля кустоў—кучку людзей і падышлі бліжэй. Зышліся і яшчэ людзі.

І многія пазналі разрэзанага чалавечка.

Сказалі машыністаму, што ён даўней многа раз праходзіў тут, ідучы „на пакланеньне“ і зьбіраючы па вёсках „на сьвечку“.

І чамусь-то ніхто не пашкадаваў яго. Як-бы чужым сабе ўсе адчувалі яго.

Яго адцяглі яшчэ бліжэй да ядлаўцовага куста і кінулі. Уехаў ён худым затылкам у выскубленую жывёлай траву, перамешаную з дробным мохам. У сваёй постаці захаваў ён адзнакі натугі—пальцы былі сьцісьнуты ў кулакі, ніжняя губа была глыбока пракушана зубамі.

З запазухі ў яго вылез, павешаны на шнурку на шыю, жоўты мяшэчак, з надпісам: „Сьвятыя мошчы“. Ногі яго, у вострых ботах, шырока раскінуліся наскамі ў бакі, пакудлачанае калёсамі ватовае пальто падцягнулася ўверх і было такое ўражаньне, як-бы й няжывы хоча ён усхваціцца і рынуцца куды-небудзь ад людзей...

Людзі-ж ад яго сталі неўзабаве зьнікаць і сьпешна зноў падыходзіць да прыпыненага цягніка. Зноў каравыя рукі з любасьцю пагладжвалі і абмацвалі вялізны, чатырохлямешны трактар на пярэдняй пляцформе. А на задняй, філёзофскі-маўчліва высілася тоўстая дынама.

І так было пакуль цягнік не аглушыў крыкам асеньнюю раніцу і зноў не пабег па блішчастых рэйках, поўны сваім вечным імкненьнем—імчацца.

IV.

Вось там, пры самай дарозе, стаяць вясёлыя людзі, глядзяць на цягнік і чагосьці сьмяюцца. Яны ў момант азіраюць груз цягніка і раўняюць з тым, што самі маюць.

А паводаль ад іх, па шырокаму, чорнаму полю, коціцца на шырачэзных калёсах трактар. Вернецца набок пад ім шырокімі плітамі цьвёрды дзірван, узьлятаюць вырваныя карэньні даўнейшага лесу, трашчаць пад вострымі сашнікамі.

Адзін чалавек сядзіць на трактары, а другія, многа, стаяць пры дарозе і сьмяюцца.

А на той бок дарогі, за плотам з мокрых прутоў, цягне маленькі плужок дробненькі конік. Шэранькі чалавечак грудзьмі ўзьлёг на плуг, уехаў з натугі лапцямі ў кепска пакорпаную ральлю, цяжка дастае адтуль ногі, нехаця валачэцца ззаду. Ён утомлены, спацеўшы. І відаць, як трудна яму карпаць сваю зямлю.

І здаецца ён тут фантастычнаю істотаю, папаўшаю сюды выпадкова.

Пад ім—пакорпанае поле, куды конік яго губіць апошнюю сілу.

— Но, но!..—як стогн, каменем падае голас яго.

Вясёлы сьвісток перабівае яго голас па другі бок дарогі. Поле там роўна абложана плітамі ральлі. Чалавек горда езьдзіць на сваёй машыне.

— Ма-а-шы-ны-ы!...

Машыністы з паравіка дагадваецца, што гэта кажуць вясёлыя людзі на ральлі.

— Ма-а-шы-ны-ы!..

І той каравы чалавечак абварочваецца на грукат цягніка і з любасьцю, з агнём у вачох глядзіць на яго шыбкі бег...

Што хвіліна—то новы кавалак зямлі перад вачыма.

І раптоўна буйная вясёласьць ахватвае машыністага. Яны ўдвох з качагарам мятусяцца ў нейкай нецярплівасьці ў сваім чорным кутку, самі такія-ж чорныя, закураныя.

Некалькі раз засаб тузае машыністы шнурок.

Некалькі раз засаб захлёбваецца зямля ў жалезным крыку.

І раптоўна вынырнуў з бакавой дарогі аўтомобіль.

З хвіліну ён, разам з паравіком, імчаўся ў адну дарогу збоку.

І ўлавіў машыністы вухам абрывак мэлёдыі, нахаду яшчэ больш жывой музыкі.

Яна—шыбкая, як ход машыны.

Радасная—як імкненьне імчацца.

На момант яна зьлілася з маршам бегу цяжкага цягніка і заскакала ў вушох, над зямлёю.

І ў машыністага яна доўга жыла.

Сьпявала ўсё нутро машыністага:

Пір-пар-пір-пар-піра-пара-пар!..
Піра-пара-піра-пара-піра-пара-пар!..

І яшчэ і яшчэ, усё больш і больш тузаў ён за сыгнальны шнурок...

...Весела жыць!..

---

На глухім паўстанку, дзе павінна была астацца цяжкая дынама, што была на задней пляцформе, сабралася многа людзей. Прышлі яны сустракаць сваю, выпісаную з далёкага гораду, машыну доўгачаканую.

Яны рознакалёрыя. Тут і сяляне пазіраюць на адчэпленую пляцформу, тут і нейкія чысьценькія спрытныя людзі. З любасьцю глядзяць—пагладжваюць халодна-гладкае жалеза.

Машыністы, ужо супакоены, вышаў да людзей.

— Ну што?

— Ды нічога.

— А ўсё-ж такі?

Машыністы ўхмылкай прыцягнуў да сябе бліжэй людзей.

— Бач махіну якую вам прывёз. Многа вас ёю асьвяціцца думае?

— Шэсьць вёсак і станцыя.

— Бум, бум, бум!..

Пробуюць гучнасьць жалеза нанешта; падыходзіць кожны...

## V.

Плакала раз восень імглістымі сьлязьмі, галасіў над мокраю зямлёю нудна вецер. Разьляглася шэрасьць макраты па пустым полі.

Крайняя хата асунулася да зямлі гнілою саломай і так нудна пазірала на гразь вуліцы, як нудна сьпявалі калёсы драбін...

У хаце вілі ў куткох густое павуценьне павукі, тараканы шушукаліся па сьценках.

І было ўсё тут ціха, зусім спакойна. Усе шумы і стукі былі павольныя, разьмераныя і баязьлівыя. І так-жа ціха гаварылі тут людзі...

На пасьцелі, пры сьцяне ляжаў худы чалавек.

Хвароба падняла яго твар уверх, зрабіла яго вострым, расьцягнула шырака вочы, сіненькімі жылкамі пераблытала лоб.

Кожны дзень падыходзіў да яго хлопчык некалькі раз, кожны дзень выслухваў яго—хворага бацьку па некалькі раз і йшоў рабіць на двор тое, што сказаў і што навучыў бацька.

Прыходзілі да яго ў цёмную хату людзі, ціха шапталіся, прыносілі з сабою здаецца яшчэ больш цішыні.

Ківалі яны галовамі, плакалі, бясьсільныя зрабіць што-небудзь.

І было жудасна хлопчыку глядзець у шырока-расплюшчаныя, застыўшыя вочы хворага бацькі.

Доўгімі начамі лезла вільгаць праз шчыліны ў хату, варушылася нешта над хатай ціхае.

А ночы былі доўгія, бясконцныя і, як усё заўсёды тут,—ціхія.

І ў гэтай цішыні, доўгі час, паволі ўміраў тут чалавек. У яго сьвядомасьці ўкаранілася за жыцьцё і за хваробу рахманая пакорнасьць, як-бы ўпэўненасьць, што гэтак трэба, што чалавек слабы, каб перамагчы адвечную цішыню, нярухомасьць жыцьця...

І пачала гэтая ціхая пакорнасьць уваходзіць у хлопчыка.

І неяўмеўся ніхто, неяўмелася нічога, каб ажывіць людзей, каб зьняць з уміраючага чалавека зусім лёгкую, зусім простую хваробу...

Ахвачаныя цішынёю жыцьця, людзі былі беспарадныя, як дзеці.

Кончыўся чалавек ад лёгкай хваробы, паступова зьела яна яго.

---

Гэта-ж успомніў машыністы сваё дзяцінства, на малым паўстанку, пры адчэпленай машыне.

Стаіць вось мізэрны чалавечак, худы, абарваны, напамінаючы машыністаму даўно памёршага бацьку. Стаіць ён і абмацвае рукамі машыну, радасна сьмяецца.

Машына шумная, грымучая.

Пачынаюць гусьці машынамі глухія куткі, шэранькія людзі парушылі імі цішыню сваіх дзён.

І дні іх бягуць, уздымаюць сваіх людзей вышэй.

Адтуль пачынаюць бачыць людзі зямлю ўсю, розныя прычыны ўсяго...

Адышоўся машыністы задумена ад адчэпленай дынамы, раптам зьявілася ў яго пачуцьцях і думках:

— Эх, ты, зямля чалавечая!

— Закрычы ты ўся, загрукай жалезам машын!

— Загрымі гулам жалезнага імкненьня чалавека!..

— Г-гэй, адыходзь далей, г-гэ-э-эй!..

Жалезны крык на момант аглушыў ціхі паўстанак, рвануўся, аж страсянуў жалезнае горла, перабег цераз поле і раскаціўся там многімі рэхамі.

І здавалася, што ўся зямля чула яго.

---

Працягнуў каменны горад жалезную руку нізенькім, далёкім хаткам пры дарозе. Сьціснула жалезная рука саломеную руку. І вырастае ў прыдарожных хатах жалезная страха.

Пачынаюць зычэць жалезным звонам прыдарожныя хаты.

І ад звону сьмяюцца людзі...

...Самая апошняя на дарозе, глухая станцыя прыняла ўвесь груз цягніка. Азелянілася яна фарбаваным жалезам, напоўнілася людзьмі запыленымі, мякіннымі.

Жалезнымі тварамі машыны маўкліва-філёзофскі пазіралі на мокрую зямлю і на людзей, як-бы думаючы цьвёрдую думу моцна, навекі ўрасьці тут у глебу...

## VI.

Поле перарэзана рэйкамі, як нажом. Жоўтая сьцежка ўецца на ўзгорку да лесу. Па сьцежцы гуляюць дзікія птушкі, крычаць павасеньнему. Трасуцца па сьцежцы скрыпучыя драбіны, у паветры над імі калышацца кудлатая галава і жоўтыя рагі дзеравяных віл, раз-по-разу фыркае конь, трасе вострым задам. Худыя рэбры яго зрэзаны пугаю, а голас у кудлатага чалавека сухі, траскучы, як скрып сухога дзерава на беразе лесу ў буру:

— Ну-ы!..

Апошнюю працу канчаюць людзі на полі. Узьдзіраюць астачы іржышча, так нечага карпаюцца па адным пры шырокіх, апусьцеўшых за восень ад травы, межах, купчастых ад густога палыну і быльніку... Глядзяць на свае мэты й ківаюць галовамі:

— Чым ты ўзьдзярэш іх?!

Вось зьлез там, каля лесу, кудлаты чалавек з свайго скрыпучага воза і корпае нешта ў зямлі сваімі дзеравянымі віламі. І думаецца:

— Чаму не адзет ён яшчэ ў зьвярыную шкуру?

І чуцён шум апошняе працы на полі:

Галасы на коняй.

Сухі. ціхенькі стук пугаўя аб дзерава.

Шурпатае шушуканьне дзеравяных віл з сухою мяжою...

А на ўзгорку дымяць у каламутнае неба коміны ранішнім дымам. Дым і туман клубкамі ходзіць каля платоў і скардзяцца ў ім недзе на нешта гусі...

З-за павароту рэек каля лесу выскачыла нешта вялікае, шырокакрыклівае.

І ўзьняло яно ўгору голаў чалавека з віламі пры мяжы, і ўсіх на полі заставіла кінуць пугі.

Глядзяць яны ўсе да лесу і ў вачох іх поўна радасьці, новым бляскам поўны яны на сваіх тварах.

Ідзе да іх нешта новае, зычнае...

Качагар бачыць з свайго месца чалавека з жоўтымі віламі пры самай дарозе і ківае яму галавою.

Чалавек глядзіць і сьмяецца...

Машыністы рвануў шнурок і жалезны крык страсянуў туманнае поле.

# ОЙ ДЫ, ПЕСЬНІ МАЕ, ЦЁМНАВІРЫЯ!

**Язэп Пушча**

(*Сябра „Маладняка“*)

Ой ды, песьні мае, цёмнавірыя!
Ну, куды вы вяслуеце раньнем душы?
Ці-ж ня лепей сакаліным ды выраем
Карагодзіць вясны сінякудры узвыш?

Ну, нашто, вы усьпенілі музыку слоў
І паводкай шумуеце вобразаў сьмелых?
Ці ня хочаце толькі быць новым паслом
Ад сялянскіх мурожных аселіц?

Ну, добра,—я з вамі згаждуся,—
Хай выбрыкуе рытм сівагрывы.
Эх, бывае,—маркотным хаджу я,
Бо ня з тых-жа, душою што крывяць.

Але гэта нічога,—пабачым,
Хто дню новаму ўскіне заслону?!
Хоць я вырас, як сын той сабачы,
Ўсё-ж жыве у грудзёх сакалінае слова.

Я люблю яго болей, як моцна.
Мяне вабіць уцеха блакітам вачэй.
Гэй вы, размахі юнацкага сонца,
Каласіце маіх думак ячмень!

* * *

Не ўдалося у гэта мне лета
Мэндляў песень аўсяных зажаць.
Не ўдалося, каб ліпень, зарою адзеты,
Ўскудлачыў душы сенажаць.

А й хацелася-ж ў шыр белазорую;
Паваляцца ў кудлатай лазе.
Мо‘ хто скажа, што гэта і сорамна,—
Але што-ж мне рабіць блазнаце?!

Ужо гэтакі поўдзень буяе
У сэрцы маім маладым
У ім песьні базыраць буяна
І на новыя хочуць цымбаліць лады.

Я уцехай быў рэдка ахмелены
У закураных вуліцах Менску.
Вось за гэтым і цягне на аселіцу,
Дзе я бегаў у лапцях маленькім.

Ой вы, нівы, з вусатым калосьсем,
Сваю радасць я ў вас утапіў!
Ўспамінаю, як езьдзіў ў калёсах
І зарою аўсяніўся песень наліў.

Ўспамінаю, як сівенькім дзедам
Умываўся туман у рацэ.
Вось загэтым і ліпень, зарою адзеты,
Ў маім сэрцы сягоньня расьце.

## ЛІПНЁВЫ КРУГАБЕГ

**Н. Чарнушэвіч**

Ў сівай сьвітцы сьвітаньне
Адмыкае дню вароты,
Падол заскарузлага ўбраньня
Ноч наўцёк за сабою валочыць.

Кудрыцца золак палойкамі
Ў смужна-зарлівай сіні...
Вецер абуджаны ловіць
Пужлівы шопат асіны.

Патухае ліхтар зарніцы
Пад фабрычнай сірэны кашаль.
Скора і сонца агністае
Рогі свае пакажа,—

Пацалуе тварам заспаным
Пасьля ночы росныя стрэхі
І да лесу ўздагон забуяніць
За фабрычна-гучліваю рэхай.

* * *

Патомленых жнеяк за полудзень
Пасадзіўшы на мяккай мяжы,
Наранкамі зранены поўдзень
Са здрокам па полю бяжыць.

Падласак з аўсяных іржышчаў
Ён пудзіць галопам ў хлявы,
А сам ужо ў горад імчыцца,
Абедны гудок дзе завыў.

А потым за сонцам ўлягае,
За хмарку, дагнаўшы, занёс
І громам здалёк пужае
Снапоў зарублёваны воз.

Сонца-ж з паўднёвых абоймаў
Памалу спаўзае наніз...
Скора захад яго абойме,
Абарве праменную ніць.

* *
*

Канец працы... гучыць гудок...
Заціхае шумлівы лес...
Вартаўнічым у сонны садок
Вечар пад плот залез.

Засьлязіла газоўка ў вакно,
На сьцяне палажыла цень...
Конь чакае начлегу даўно,
Абварочвае шаткі пляцень.

Захад зор зажаў пракос,
А сам у вагні сканаў...
Русыя месяца косы
Запляліся ў грыве каня;

Разьліліся ў садку малаком,
Срэбнай мглою ляглі на дварэ
І сатканым з цішы канчуком
Кажаноў выганяюць з-пад стрэх.

* *
*

Ночка цэдзіць сьлязіначкі-росы,
Хвалі ў рэчцы спыняюць бег...
Пад заснуўшай да ранку бярозкай
Ў гэты час я чакаю цябе.

Ты—дзяціна палёў сінявокіх,
Я-ж—варстату рухавага сын.
Страхі ночы, што шэпчуць навокала,
Ня спужаюць сваім нас зыкам.

Цэлы дзень нас праца лашчыла,
Нашы рукі кусаў мазоль...
Хай-жа вечар навее нам шчасьце,
Збае казку стагодніх лясоў.

Запаліўшыся прагным каханьнем,
Ты забудзеш дарогу дамоў...
Пакуль ўсход зарумяніцца раньнем.
Падарунак жыцьцю мы дамо.

3 XI—24 г.

## СЁМАЯ ГАДАВІНА

**П. Трус**

Пад напевамі ветраў асеньніх,
Над прасторамі ўзораных гоняў,
Карнаваліць жыцьцём вызваленьня
Векапомны Кастрычнік сягоньня.

І на вогнішчы буры віхрыстай,
На магіле мінуўшчыны дзікай.
Беларусь! над табой агнявіста
Новай квадры настаў маладзік.

Яго погляды—далі люстраныя,
Волі дух—сакаліны палёт.
Яго грудзі—уздым акіяну
Плытагонам вітаюць Заход.

Чую—там падымаецца лёскат,
Разьліваецца полем аўсяным,—
Гэта звонціць кужэльная вёска,
Да Кастрычніка туліцца ўся.

І глядзіць туды вокам арліным,
Каб узьняцца на крыльлях вясеньніх,
Дзе равуць вольна-гучна машыны
Над краінай бясьсьмертнага Леніна.

Эх, бязьмежнае ты. расьсьвітаньне!
Сьмела шырыцца з песьняю шаг,
Калі поўна сусьветным паўстаньнем
Маладой Беларусі душа.

Вольных песень стыхійныя хвалі
Вірабурна прывольлем буяняць;
І нясуць у замежныя далі
Кліч прыгнечаным—кліч да змаганьня.

Прыдзе час і пад сьцягам свабоды
Павянчаецца з Нёманам Вісла.
І над Вільняй зазьзяе пагодай,—
Хай панурыя хмары ня віснуць.

Пад напевамі ветраў асеньніх,
Над прасторам квітнеючых гоняй,
Карнаваліць жыцьцём вызваленьня
Векапомны Кастрычнік сягоньня.

# МАРКСЫЗМ, ЛЕНІН І СУЧАСНАЯ КУЛЬТУРА

## А. Дэборын

Буржуйныя крытыкі марксызму часта адмячалі тое, што ў Маркса няма паважных філёзофскіх твораў, якія-бы далі ім мажлівасьць далічыць яго да іх цэху. Усё-ж. калі Маркс ня быў філёзофам у школьным сэнсе слова, то хто цяперака стане адмаўляць, што гэты гэні зьяўляецца найвялікшым мысьліцелем і што ён мог зрабіць перакрут у навуцы менавіта тым. што адкінуў школьную мудрасьць і паглядзеў з няскрытнаю агідаю на офіцыйных служак навукі. Ніводзін мысьліцель не зрабіў ніколі гэткага вагромнага ўплыву на жыцьцё сапраўдных гушч, як Маркс. які стварыў адзіны ў сваім родзе навуковы сьветапогляд, прасякнуты жыцьцём і яго крэўнымі проблемамі, бач, практыкаю ў ісьціным сэнсе слова. Дзесяткі міліёнаў людзей паступова прасякаюцца гэтым сьветапоглядам. Гэты сьветапогляд вырас з жыцьця і з яго ўмоў; ён складае абвагуленьне жыцьця і гэніяльны сынтэз рэчавістых адносін, а ня выссан з чыстага розуму, як гэта робяць усе ідэалістыя. На нашай эпосе ляжыць пячатка творчае думкі Маркса таму, што яго думка абгорнута целам і крывёю самога жыцьця. І дзеля ўсякага, хто ўмее думаць, вачавідкі, што далейшая гісторыя будзе падцьверджваць правіловасьць яго прогнозу адносна гістарычнага лёсу чалавецтва.

Мы маглі-бы паказаць на тое, як некаторыя сучасныя патэнтаваныя і дыплёмаваныя філёзофы пад уплывам теражытага заняпаду сусьветнай вайны і надыходзячай пролетарскай рэволюцыі, асабліва ў краінах пераможаных, пачынаюць прымаць асобныя палажэньні марксызму, адзяючы іх, зразумела, у адпаведны мэтафізычны гарнітур. Гэтыя філёзофы ня здатныя ўразумець марксызм таму, што яны належаць да буржуазіі. Але, разам з тым, іх калыханьні маюць вагромністае паказваючае (сымптоматычнае) значэньне: яны сьведчаць аб разбурэньні ды гніеньні старога сьветаразуменьня. Сьветапогляд пануючай у сучасным вобчастве клясы— бязмоцны. Ён ня здатны стварыць жыцьцё. Паміж тым, марксызм ці матар'ялізм, выяўляе сабою тэорыю разбурэньня старога і стварэньня новага вобчаства.

Ленін — самы буйны мысьліцель сучаснае эпохі, бо мысьліцелем, з нашага пункту гледжаньня, зьяўляецца той, хто ў дадзеную гістарычную эпоху выказвае яе сутныя „рысы“, яе патрэбы, і хто вядзе за сабою гу-

шчы да лепшае будучыны, хто разьвязвае насьпеўшыя рэволюцыйныя сілы і хто ажыцьцяўляе тую рэчавістасьць, якая ўжо рэальна (жывуча), але якая яшчэ павінна быць вызвалена са старое лупіны, што яе атульвае ды вяжа. Дзеля гэткай рэчавістасьці — а марксызм і ёсьць навучаньнем рэчавістым—патрабуецца і адпаведная тэорыя. „Вялікшы ў сьвеце вызваляючы рух прыгнечанае клясы, — кажа Ленін, — самай рэволюцыйнай у гісторыі клясы, немажлівы без рэволюцыйнай тэорыі. Яе нельга выдумаць, яна вырастае з сабранасьці рэволюцыйнага вопыту ды рэволюцыйнай думкі ўсіх краін сьвету. Таму-жа марксыцкі матар'ялізм, уся марксыцкая філёзофія ёсьць ня што іншае, як рэволюцыйная крытыка ўсёй сабранасьці сучасных грамадзянскіх адносін.

Калі дыплёмаваныя філёзофы жахнуцца, пачуўшы гэткую „профанацыю“, „набожную мудрасьць“, то мы можам паказаць ім на вялікага Гэгэля, які ніяк ня можа быць западозраны ў прыхільнасьці да матар'ялізму, і які, гледзячы на францускую рэволюцыю, як на найвялікшае здарэньне ў сусьветнай гісторыі, вялічны ўсход сонца, хваліў матэр'ялістычную і атэістычную (супроцьбожную) філёзофію XVIII стагодзьдзя за тое, што яе крытыка руйнавала ды разбурала тагочасны грамадзянскі лад і зьвязаную з ім ідэолёгію, бо ідэолёгія, бач, ёсьць частка — няхай ідэолёгічная — дадзенае дзейнасьці, рэчавістасьці.

Што-ж то гэткая ёсьць філёзофія (бач, наогул тэорыя)? І Гэгэль дае гэткі адказ: філёзофія (тэорыя), як навука пра рэчавістасьць па самай сутнасьці сваёй ёсьць крытыка існуючага; і таму, што сьветавы дух (бач, панашаму, поступ, разьвіцьцё), ніколі ня спыняецца, а йдзе пераможна наперад, то філёзофія, якая зьяўляецца адбіткам у сьвядомасьці об'ектыўнай рэчавістасьці, прыходзіць у супярэчку з самою рэчавістасьцю, якую яна павінна падгарнуць усебаковай крытыцы, ці з пункту гледжаньня новага прынцыпу ці, як выказваецца Гэгэль, з пункту гледжаньня новае формы жыцьця духу. Загэтым Гэгэль, разьвінаючы свой погляд на разьвіцьцё філёзофіі і на ролю філёзофаў, заяўляе, што ўсякі раз, калі зрушала сьветавая гісторыя, прысутнічалі філёзофы. Яны прымалі і павінны прымаць жывы і беспасрэдны ўдзел у справе разбурэньня старога парадку і старое ідэолёгіі. „Самымі апасьлівымі, самымі пасьледаўнымі і рашучымі рэволюцыянэрамі зьяўляюцца філёзофы“, кажа Гэгэль. Трэба сказаць, што Гэгэль да вядомае ступені праўдзіў, але толькі да вядомае ступені. Калі на гістарычную арэну выступае новая грамадзянская кляса, то яна вытыркае сваіх мысьліцеляў, сваіх тэорэтыкаў, якія граюць рэволюцыйную ролю, адкідаючы старыя ідэолёгіі і аджыўшыя грамадзянскія адносіны. Яны вытыркаюць новыя прынцыпы, бач, новы сьветапогляд і з яго высаты крытыкуюць дадзены ім сьвет. Звычайна гэтая крытыка зачапляе ня толькі грамадзянскія адносіны, соцыяльны сьвет, але ўсю сабранасьць зьявішч. Крытычныя эпохі беспасрэдна зьвязаны з „пераацэнкаю ўсіх каштоўнасьцяй“. Вялікі мысьліцель тым і вялікі, што ён

вытыркае новы прынцып, новыя мэтоды ведаў, якія дыктуюцца разьвіцьцём грамадзянскага жыцьця. Гэтыя мэтоды і прынцыпы распаўсюджваюцца цалкам на ўсю прыроду, бо кожная грамадзянская кляса мае нахіл (тэндэнцыю) з свайго прынцыпу ствараць суцэльны сьветапагляд. Разумеючы так, то філёзофы зьяўляліся часта ў гісторыі рэволюцыянэрамі. Ніводная рэволюцыя не адбываецца без акрэсьленай тэорыі і ідэолёгіі, у якой ідэальным чынам адбіваюцца і формулююцца адносіны рэчавістасьці. Але было-б, вядома, неправідлова настойваць, што філёзофы наогул заўсюды зьяўляюцца самымі пасьлядоўнымі і рашучымі рэволюцыянэрамі. Бач, і тыя клясы, што вымiраюць, выстаўляюць сваіх філёзофаў, як-то: ідэолёгаў, тэорэтыкаў, якія чапляюцца за старое і ўсяляк яго апраўдваюць ды абасноўваюць. Гэткім чынам прыходзіцца адлічаць мысьліцеляў аджываючага сьвету ад мысьліцеляў таго новага сьвету, які нараджаецца. Гэтыя апошнія, бясумненна, зьяўляюцца перадавымі заўсюды, вядуць чалавецтва наперад і ўжо праз гэта самае яны рэволюцыянэры. Іх тэорыі насычаны па мажлівасьці навуковым зьместам, бо яны выказваюць патрэбы ў тым, каб разьвіналіся вытворчыя сілы дадзенае эпохі і таму, што адпавядаюць ступні дасягнутых грамадзянствам (вобчаствам) тэхнічных ды тэорэтычных ведаў.

Але калі часамі філёзофы зьяўляюцца „апасьлівымі рэволюцыянэрамі“, то няма сумлівасьці ў тым, што сапраўднымі філёзофамі, якія перайначваюць сьвет, а не вынаходзяць толькі тую ці іншую сыстэму, зьяўляюцца вялікія рэволюцыянэры. Творчасьць, бач, ператварэньне сьвету, і філёзофія, бач, усё ахопліваючая тэорія—узаемна цесна зьвязаны. Вялікі вызваліцельны рух рабочае клясы, як правідлова кажа Ленін, немажлівы без рэволюцыйнай тэорыі, без рэволюцыйнай філёзофіі. Усякая філёзофія новае клясы ў гэтым сэнсе праз самую сутнасьць сваю рэволюцыйна.

Сава Мінэрвы пачынае лётаць змрокам, казаў Гэгэль. Калі існуючы сьвет пачынае калоцца, калі на гістарычным паземе выяўна адзначаецца заход старога сьвету, калі рэчавістасьць выяўляе з некаторым акрэсьліваньнем свае нутраныя супярэчкі, тады вылятаюць мудрыя совы і пачынаюць сваю руйнуючую працу. Быцьцё папераджае сьвядомасьць. Тая крытыка, што разьядае сьвядомасьць, пачынаецца тады, калі рэчавістасьць сама сябе ўжо значна падвяла „самакрытыцы“ ў сэнсе самараспаду. Філёзофы прыходзяць занадта позна, калі яны маюць у воку захаваць існуючы сьвет. Але калі яны прыходзяць, маючы сваім заданьнем крытыкаваць і разбураць існуючы сьвет, то іх прыход учас, менавіта, змрокам. Прыход Маркса адзначае для капіталістычнага сьвету пачатак яго заходу, пачатак яго пагібелі. Мудрая сава Марксаваю асобаю падказала сьмерць сучаснаму вобчаству, якое заснавана на прыгоне працы, на абіраньні чалавека чалавекам. З таго часу сапраўднымі рэволюцыянэрамі

зьяўляюцца выключна пролетарскія мысьліцелі, якія сапраўды прысутнічаюць пры вялікім зрушэньні сусьветнае гісторыі.

Маркс вырашыў проблему ўзаемаадносін паміж тэорыяй ды практыкаю. У нашу эпоху, якая ёсьць эпохаю монополістычнага капіталізму, ці імпэрыялізму, Ленін, прадоўжваючы традыцыю марксызму на вышэйшай ступні разьвіцьця таго-ж капіталістычнага сьвету, які набліжаецца ўжо да свайго заняпаду, разам з пролетарыятам як быццам агаласіў, што чэсьць тэорэтычнага прынцыпу вымагае яго практычнага ажыцьцяўленьня, як вымаўляецца Гэгэль, бо ў самым тэорэтычным прынцыпе ўжо закладзены практычныя адносіны. Тэорыя павінна давясьці сваё прызваньне панаваць над сьветам—тым, што атрымоўвае практычную перамогу, яна павінна выявіць сваю праўдзівасьць, сваё „права" ўрадаваць на практыцы. Бяз гэтага яна паходзіць на бясплённую смокву.

У агні сьветнае катастрофы буржуйная філёзофія і ўсе яе тэорыі поўнасьцю разбурыліся. Найболей удумныя прадстаўнікі буржуйнай думкі пачынаюць разумець, што толькі марксызм (як тэорыя) вытрымаў вялікі экзамін, што кожны дзень прыносіць новыя даказы таго, што науковыя вяшчаньні Маркса, якія ім зроблены назад таму 75 год, правідловы. Але, як няздатныя з прычыны клясавай сьлепаты прыняць і прызнаць марксызм, яны адмахваюцца ад яго ўсялякімі праклёнамі.

Вялікія гістарычныя здарэньні захапілі буржуазію і яе мысьліцеляў раптам. Грош каштуюць тыя тэорыі, якія няздатны перадбачыць наступны лёс чалавецтва і тэндэнцыі яго разьвіцьця. Буржуйная думка па самай сутнасьці сваёй павінна была пацярпець крах, бо, папершае, яна агідзілася гісторыяй, падругое, яна ўстроілася практычна і, праз вядома, тэорэтычна ў гэтым сьвеце так, як быццам ёй паперад стаяла вечнае жыцьцё. На зьверхгістарычным фундаманце, на фундаманце адвечнасьці яна і будавала свае сыстэмы, свой сьветапагляд. Яна абстойвала нязьменнасьць грамадзянскіх форм і распрацоўвала адвечныя нормы ды ісьціны, якіх не павінен датыркацца дых адвечна-цякучага жыцьця, дых часу.

Некалі буржуазія пасадзіла на пасад б а г і н ю  р о з у м у, якая царствуе й дагэтуль у яе разумох. Гэтая багіня зьяўляецца адзінай давальніцаю законаў. На яе катэгорыя часу, як быццам, не распаўсюджваецца. З таго часу ўся бадай філёзофія буржуазіі будавалася на прыродзе адцягненага розуму. Сьвядомасьць і яго адвечная, нязьменная прырода служыла галоўнай рэччу ў цікаваньні мысьліцеляў. Само быцьцё, уся рэчавістасьць была ўмешчана ў межы сьвядомасьці, як у вастрог, адкуль ня было выйсьця на вольнае паветра ўскрынічага жыцьця. У сваім д у м а н ь н і яна супынялася каля парогу рэчавістасьці і не адважвалася небясьпечна скочыць у бурлівыя хвалі жыцьця. Гэты і д э а л і з м у д у м а н ь н і не мяшаў у той-жа час буржуазіі п р а к т ы ч н а  б у д а в а ц ь жыцьцё і сваёю

рэчавістасьцю падгатовіць умовы свае ўласнае пагібелі. Гэткі нутраны разлад буржуйнай культуры.

Філёзофія стала ведамі ведаў. Яна займалася выключна вынаходжваньнем натуры сьвядомасьці, лёгічнай структуры розуму. Гэты філёзофскі напрамак орыентуецца на матэматычныя ды фізычныя навукі. Гэты бег думкі прасякнуты наіўнаю вераю ў тое, што ўсе проблемы вырашаюцца праз бясчасныя думкі, бо сьвядомасьць улучае ў сябе быцьцё. Абсолютная ісьціна ёсьць выраз гэтай непадлеглай часу сьвядомасьці, у якой заложаны нярухомыя законы моралі, дзяржаўнага жыцьця, мастацтва ды інш. Бясьцельны Логос лунае над зямлёю, ён знаходзіцца ў нас саміх. Праўдзівая „развага“ здатна даць праўдзівае пазнаньне аб сьвеце. Чалавек пазнае сьвет праз разуменьні, праз чыстую думку. І тое, што адрозьнена ад думкі ці ідэі, сьвет матар'яльны, ёсьць хлусьня. Усе навукі, усе веды, згодна гэтага ўзгляду, вырастаюць з лёгікі. Лёгіка ўзвышаецца над часовым, эмпірычным струменем зьявішч. Прынцыпы яе ёсьць моцныя, адвечныя палі, на якіх трымаецца ўвесь будынак сучаснае навукі, як і рэальныя формы жыцьця. У думаньні яны шукаюць і знаходзяць ня толькі веду рэчы, але і рэч веды. У гэтых адносінах аднакава сыходзяцца марбурская, бадэнская і гэтынгэнская школы.

У проціленжнасьць лёгістым і абсолютыстым, так празваныя рэлятывістыя стаяць на глебе псыхолёгізму. Гэтая цеча можа быць акрэсьлена, як дробна-буржуйны напрамак у філёзофіі—гэта ўжо правідлова было адмечана Леніным. З пункту гледжаньня рэлятывізму і фэномэналізму, рэчавістасьць для нас недасяжна. Мы коўзаемся на поверху рэчавістасьці, як цень, і няздатны пранікнуць у яе об'ектыўную прыроду. Пытаньне, ці праўдзівы нашы прадстаўленьні ды ідэі, вырашае ня якасьць лёгічнага разуменьня, як то ў лёгістых, а пераҗываньні суб'екта. Сьвет сам па сабе прадстаўляе сабою нейкі першабытны хаос. Толькі чалавек організуе, гэтак кажучы, прыроду. Рэлятывізм орыентуецца на псыхолёгію і біолёгію. У асобе Файгінгэра сучасны рэлятывізм прыходзіць да скутку, які кажа, што ўсе нашы пазнаньні ня маюць об'ектыўнага зьместу. Ісьціна прадстаўляе сабою, як кажа Файгінгэр, выключна „мэтазгодную аблуду“. Гэткім чынам фікцыя, бач, хлусьня, сьвядома паднімаецца ў ісьціну. Матэрыя, надворны сьвет, жорсткае клясавае змаганьне, рэволюцыйныя навальніцы,—усё гэта спрэс фікцыі. Аднак вядомая фікцыя, скажам, бог, маюць практычную каштоўнасьць, у чым і месьціцца іх дасканалы сэнс.

Абудва каратка акрэсьленыя напрамкі філёзофскае думкі адкідаюць матар'яльны сьвет, патрэбнасьць перамогі матэрыі (матар'ялізму) і вызваленьне з-пад духу „цяжкасьці“ об'ектыўнага сьвету, як дасьціпна выказвае адзін пісьменьнік па іншай прычыне. Об'екты цісьнуць на чалавека ўсёю сваёю цяжкасьцю, вымагаюць лічыцца з сабою, а ідэалізм, напераҡор гэтаму, заяўляе, што ён ня згодзен прызнаць таго, што яны ня маюць

ніякае рэальнасьці, што ён адкідае існаваньне якіх-бы там ня было об'ектыўных законаў прыроды і гісторыі.

Дасягненьні ў галіне прыродазнаўства, у асобку ў фізыцы, з аднаго боку, і рэволюцыйныя выбухі ў грамадзянстве, з другога боку, павінны пераканаць кожнага, хто яшчэ канчаткова не асьлеп ад схолястыкі, што сьцьвярджэньне пра немянючасьць прыроды і грамадзянства ўяўляе з сябе недарэчнасьць; ачулыя штурхі, якія выходзяць з об'ектыўнага сьвету, павінны-б абудзіць ад стану ідэалістычнага сомнамбулізму самага закаранелага суб'ектывістага. Сапраўды, гэтыя зьявішчы яшчэ болей таўхаюць іх у абдым фэномэналізму і ідэалізму з тае простае прычыны, што буржуйная думка азначаецца асабістымі ўмовамі рэчавістасьці, якая робіць ёй немажлівым зразу прысвоіць самыя простыя ісьціны.

Дыялектычны матар'ялізм, ці марксызм, ёсьць адзіная навуковая тэорыя, якая знаходзіць шлях да рэчавістасьці. Матар'ялізм не адрывае пазнаньня ад жыцьця. Асабістасьць марксызму, якая адрозьнівае яго ад лёгізму і псыхолёгізму, складаецца з таго, што ён орыентуецца пераважна на **гісторыю**. „Па сутнасьці кажучы, мы ведаем толькі адну адзіную навуку,“ пісаў Маркс у „Нямецкай ідэолёгіі“, а менавіта: „навуку пра гісторыю, якая падзяляецца на **гісторыю прыроды** і **гісторыю людзей**. **Гісторызм** складае адметную рысу марксызму, а **грамадзянскае жыцьцё**—асяродкавую яго проблему. Менавіта **практычнае** жыцьцё людзей упяршыню стала ў марксызьме асноўным зьместам **тэорыі**, сьветапагляд мае свае апошнія карэньні і аснову ў практычнай рэчавістасьці, у культурнай творчасьці, у грамадзянска-гістарычным жыцьці“.

Марксызм ня ведае заўсёдашніх сумненьняў у пазнавальных здольнасьцях чалавека; кляса, якая прызвана гісторыяй да будаўніцтва жыцьця, да яго організацыі, ня можа, натуральна, дакляроўваць бязмоцнасьць навукі, як гэта робяць прадстаўнікі буржуйнай філёзофіі. Пролетарыяту ўжыўны здаровы творчы оптымізм. Ён не здавальняецца сузіраньнем жыцьця, ён разбурае старое і стварае новае жыцьцё. Тут няма месца разрыву паміж тэорыяю і практыкаю, як няма адказу ў тым, каб завaладаць сьветам і пранікнуць у яго тайны. Сьвет наскрозь падаецца пазнаньню. І калі прадстаўнікі старога сьвету сумліва заяўляюць, што „гісторыя ёсьць вялікая няўдача“, то ідэолёгі пролетарыяту, і ў асабістасьці Ленін, даказалі, што загуба аднае грамадзянска-гістарычнае формацыі адзначае нараджэньне новае, што гістарычны процэс ёсьць бязупыннае падніманьне з нізшае ступні на вышэйшую. Сьледам за руйнуючаю чыннасьцю ідзе чыннасьць будаўнічая, бо ў **адмаўленьні** месьціцца **зацьверджаньне**. У жывым дыялектычным процэсе прыроды, бяручы яго, як цэлае, гістарычнае жыцьцё чалавека, гістарычны процэс складае частку ўсеагульнага процэсу сусьвету.

Гістарычны процэс адрожніваецца двума істотнымі рысамі: папершае, ён мае кіданьне да **будучага**. Рэчч гісторыі зьяўляецца ня

толькі мінулае, але і наступнае; гістарычны процэс уяўляе сабою ня толькі могілкі ўспамінкаў, але і надзеі на наступнае. Цяперашняе ня толькі гіне ў непаваротным мінулым, але яно адвернута сваім тварам і да наступнага. Гісторыя ёсьць тое наступнае, якое становіцца[1]), заўсёды ўліваецца ў цяперашняе. Цяперашняе-ж цячэ ў наступнае. Час зьяўляецца асноўнаю катэгорыяю гісторыі, як і жыцьцё наогул. І менавіта таму, бач, таму, што ўсё мяняецца, існуе гісторыя; яна складае аснову ўсіх зьявішч. У гэтым сэнсе і трэба разумець Маркса, калі ён кажа пра адзіную навуку—гісторыю. Але чалавечая гісторыя ёсьць частка гісторыі прыроды. Усёпажыраючаму і адначасна ўсёажыўляючаму струменю часу ды процэсу зьмен аднакава падлягае ўсё тое, што існуе. Няма дыалектыкі бяз часу, бо ён складае абстрактную форму ўсякае зьмены.

Гісторыя па самой сутнасьці сваёй рэволюцыйная, бо яна ёсьць і сувязь з мінулым і парыў з ім. Рэакцыйныя і консэрватыўныя сьветапагляды зьвязаны з мінулым і цяперашнім, яны адмаўляюць наступнае. Рэволюцыйны сьветапагляд, зьвязаны цёнгля з наступным, ёсьць прарыў у наступнае і разрыў з мінулым. Усякі рацыоналізм і абсолютызм у галіне філёзофіі і тэорыі выяўляецца праз незалежнасьць ад часу тых ісьцін, якія ён устанаўляе: гэтым яны набываюць абсолютны і, разам з тым, абстрактны характар. У гістарычным-жа аспэкце ўсякая ўстанова і ўсё тое, што існуе, мае выключна адносную каштоўнасьць. Нічога ня можа быць адарваным ад гістарычных, бач, конкрэтных умоў і ўсё мае цякучае існаваньне. У аснове дыалектычнага матар'ялізму ляжыць вялікая асноўная думка пра тое, што сьвет складаецца не з гатовых, скончаных рэчаў, а ўяўляе сабою злучнасьць процэсаў, у якой рэчы тыя, што нам здаюцца нязьменнымі, усё роўна, як і мысьленыя, адбіткі-разуменьні, што робяцца галавою, знаходзяцца ў бязупыннай зьмене: то вынікаюць, то зьнішчаюцца[2]).

У сваім гістарычным жыцьці чалавек стварае нейкі самастойны сьвет. Рэлігія, права, мастацтва, філёзофія, навука, гаспадарства ды інш., бач, тое, што складае прадмет так званых „навук аб духу“, з ь я ў л я е ц ц а т в о р а м колектыўнага чалавека. У гэтым зьмяшчаецца іх розьніца ад рэчаў прыроды ці ад самае прыроды. Створаныя чыннасьцю людзей, гэтыя продукты адчужаюцца ад іх і супроціў стаяць ім, як об'ектыўныя рэальнасьці, як нейкія самастойныя сутнасьці. Да пары да часу людзі ўважаюць, што ўсё гэта створана якімісьці вышэйшымі сіламі, што стаяць над людзьмі і над грамадзянствам. Марксызм спусьціў рэлігію, мэтафізыку, права—увесь гэты духоўны сьвет—з пазавоблачнай вышыні на зямлю і даў ім матар'ялістычнае тлумачэньне. Людзі, разьвінаючы сваю матар'яльную вытворчасьць, разьвінаюць ды зьмяняюць у гэтай сваёй

[1]) Ад слова „становление“ (der Werden). Увага перакладчыка.

[2]) Энгэльс, Л. Фэербах, ст. 62.

чыннасьці сваё мысьленьне і продукты свайго мысьленьня, як кажа Маркс. Увесь зьмест гістарычнага жыцьця і чыннасьці людзей вядзецца да зьмены прыроды, да бязупыннага ператварэньня яе і да адпаведнае зьмены „духу“, бач, усёй ідэолёгіі. Гэткім чынам уся ідэолёгія зьяўляецца продуктам гісторыі і на кожнай дадзенай ступні—скуткам азначаных адносін чалавека да прыроды і людзей адно да другога. Гісторыя астаецца пры гэткіх умовах асяродкаваю проблемаю ўсякага навуковага сьветапагляду.

Гэгэль перанёс асяродак цяжкасьці філёзофіі з прыродазнаўства ў грамадзянска-гістарычнае жыцьцё. Культура ў шырокім сэнсе слова стала для Гэгэля асноўнаю проблемаю. Гістарычная рэчавістасьць уяўляе сабою, у параўнаньні з прыродаю, вышэйшую форму быцьця, бо ўсякае быцьцё выяўляе сваю сапраўдную прыроду, сваю нутраную сутнасьць у станаўленьні.

Але культура ёсьць ператварэньне прыроды праз супольную працу. Калі праўда, што прырода толькі тады з сваіх нетраў магла радзіць чалавека, калі ствараліся ўмовы для чалавечага жыцьця, то культура адзначае зьмену прыроды праз тэхніку, праз яе дапасоўнасьць да чалавечых недастач і патрэб.

Проблема адносін суб'екту да об'екту вырашаецца не праз с у г л я д а н ь н е, а шляхам практычнага заўладаньня об'ектам. Толькі цераз п р а ц у, ч ы н н а с ь ц ь чалавек рашчыняе сутнасьць рэчаў, пранікае ў таемнасьць быцьця. Перамога суб'екту над об'ектам дасягаецца праз тэхніку, працу. Філёзофы ўважалі, што нашы адносіны да сьвету вычарпаюцца м ы с ь л е н ь н е м. Цяперака мы ведаем, што сапраўдныя адносіны нашы да сьвету знаходзяцца ў ч ы н н а с ь ц і. Мы жывом не для таго, каб мысьліць, а для працы, для чыннасьці. Хто не працуе, той стаіць па-за к у л ь т у р а ю, па-за г і с т о р ы я й. Сьвет існуе ня як об'ект разважаньня выключна, а як о б' е к т п р а ц ы. Само мысьленьне зьяўляецца сродкам да чыннасьці і яго продуктаў. Мысьленьне йдзе за чыннасьцю, яно зьяўляецца яго арудзьдзем. Гістарычная рэчавістасьць ёсьць частка б ы ц ь ц я н а о г у л, бо быцьцё ахапляе як прыроду, гэтак і гісторыю. І падобна да таго, як быцьцё пазнаецца праз сьвядомасьць і сьвядомасьць праз быцьцё, гэтак прырода, будучы об'ектам чыннасьці чалавека, рашчыняе свае таемнасьці праз гісторыю. З часу Маркса проблема гістарычнага сьвету складае асяродкавую проблему жыцьця і філёзофстваваньня, бо ў гістарычнай рэчавістасьці концэнтруюцца, як у фокусе, усе нашы адносіны як да прыроды, гэтак і да духоўнага сьвету,—усё жыцьцё.

Некаторыя філёзофы з буржуазнага лягэру мараць аб паваroце ў бок „гістарызму“. Яны размаўляюць пра неабходнасьць пабудаваць сьветапагляд на глебе гісторыі, бо проблема г і с т о р ы і, як вымаўляецца адзін з гэткіх філёзофаў, „с т а л а п ы т а н ь н е м л ё с у, у с я г о н а ш а г а і с н а в а н ь н я“. Сапраўды буржуазны сьвет, здавалася-бы, за-

штрахаваў сябе ад нямінучых рэволюцый тым, што яго мысьліцелі абвясьцілі сьвет нязьменнаю сыстэмаю вечных і разумных адносін. Але калі глеба пад нагамі буржуазнага сьвету пачала рухацца, калі пачаліся соцыяльныя катастрофы, тады ідэолёгі старога сьвету ўспомнілі, што яны прагледзілі гісторыю. Але гісторыя ідзе супроціў іх: гісторыя да іх адвернута сьпіною. Гісторыя стаіць на баку поступу, на баку рэволюцыі, на баку рабочае клясы. Тварам сваім яна абернута да пролетарыяту, які пазваны ёю асьвяжыць і абмаладзіць чалавецтва.

За гэтым гісторыя сапраўды набывае характар лёсу для існаваньня буржуазіі. Прызнаць гісторыю—гэта значыць адказацца ад таго пагляду, праз які наш эмпірычны сьвет абвяшчаецца абманнаю відочнасьцю, хлусьнёю, а сапраўднаю рэчавістасьцю—адвечныя і нязьменныя разуменьні ці ідэі.

Дробна-буржуазны рэлятывізм дыхтуецца, апроч заняпаду фізыкі, які цяпер перажываецца—гэта адмячае Ленін,—а яшчэ і соцыяльнымі прычынамі. Дробная буржуазія ў эпоху разьвінутага капіталізму адрываецца ад глебы рэчавістасьці. У сьвеце няма нічога сталага, нічога разумнага. Сьвет уяўляе з сябе хаос, які патрэбна як-колечы організаваць. Дробная буржуазія не знаходзіць у гэтым сьвеце ніякае лёгікі, ніякае правамернасьці. Об'ектыўны гістарычны процэс заменьваецца, падменьваецца струменем псыхічных перажыткаў.

Марксызм перамагае рацыоналізм і нямаючы глебы рэлятывізм. Дыалектычны матар'ялізм ёсьцека переважна сьветапагляд гістарычны Прырода быцьця, усяго таго, што існуе, адчыняецца на тых яго шляхох, дзе ён вынікае, бач, гістарычна разьвінаецца, бо сьвет заўсёды мяняецца, а не зьяўляецца чымсьці мёртвым, астыгшым і гатовым. Сьветавая гісторыя ёсьцека асаблівая форма сьветавай эволюцыі. Гісторыя, гэткім чынам, складае форму існаваньня ўсяго сусьвету. Калі гэта так, дык яна становіцца асноўнаю навуковаю дысцыплінаю.

Зьмест гісторыі людзей—людзкая чыннасьць, наколькі яна выражаецца наперад усяго ў вытворчасьці матар'яльнага жыцьця. Для Гэгэля гаспадарства, экономіка ўяўлялі неабходную ступню ў разьвіцьці ідэі. Тым самым экономіка была ўведзена ім у сыстэму розуму. У літаратуры было, паміж іншым, адмечана, што разуменьне працы складае мэтафізычны прынцып усяе сыстэмы Гэгэля. Беспасярэднасьць, у якую дух, спачатку занураны, перамагаецца працаю. Гісторыя ёсьцека, уласна, панства працы, бо з дапамогаю працы адбываецца процэс разьвіцьця, бач, усход на вышэйшыя ступні культуры. Але Гэгэль ня быў здатны пранікнуць у прыроду гаспадарства, дзе дыалектыка для яго перастае дзеяць. Гэгэль ня бачыў унутранага жыцьця і разьвіцьця гаспадарства, хоць ён ляпей іншых сваіх сучасьнікаў зразумеў наогул яго значэньне. У той час, як дыалектыка ў іншых абсягах выяўляе нутраное непакойства рэчавістасьці, у той час, як мастацтва, рэлігія і філёзофія пад-

лягаюць дыялектычным перакіданьням, бач, ідэальныя продукты гісторыі ня дадзены ў скончаным выглядзе, то экономічна-тэхнічны базыс гістарычнае і грамадзянскае рэчавістасьці ўяўляўся Гэгэлю скончаным і ня маючым патрэбы далей карэнна перайначвацца. У кожным выпадку гаспадарства стала для Гэгэля філёзофскаю проблемаю. Сапраўдным філёзофам соцыяльнага сьвету стаў Маркс. Маркс устанавіў, што ўзровень разьвіцьця гаспадарства, разьвіцьцё вытворчых сіл складае рухомы фактар культуры, што зьмест гісторыі ёсьцека разьвіцьцё гаспадарчых форм і што навука, філёзофія, мастацтва ўтвараюць ралкі ці часткі гэтае гістарычна-абумоўленае, якая разьвінаецца, матар'яльнае культуры. Значэньне гаспадарства не вычарпаецца тым, што здавальняе нашы матар'яльныя патрэбы, але яно зьяўляецца сродкам у чалавечай грамадзкасьці заўладаць прыродаю, стаць яе гаспадаром. Гаспадарства ёсьцека вялікая об'ектыўная творчасьць організаванага і аб'яднанага чалавецтва. І ў гэтай творчасьці, у гэтым дзеяньні ўсе чалавечыя веды, усе навукі маюць сваю апошнюю падставу. Разам з гэтым Маркс падняў на філёзофска-тэорэтычную вышыню конкрэтную грамадзянскую практыку. Менавіта практычнае жыцьцё, практычная чыннасьць чалавека ўпяршыню становіцца рэччу—і самаю важнаю рэччу—для тэорэтычнае працы думкі. Тут об'ект процістаіць суб'екту, як нешта чужое, суб'ект яго фармуе і мяняе. Сам-жа суб'ект, бач, чалавек, мяняецца разам са зьменаю надворных об'ектаў—прыроды. Вытворчасьць матар'яльнага жыцьця служыць сувязьзю паміж об'ектам і суб'ектам, паміж прыродаю і грамадзянствам.

II.

Чарговым „парушэньнем“ сусьветнае гісторыі, сталася, збываецца цяперака пад сьцягам дыялектычнага матар'ялізму, пад сьцягам марксызму. Буржуйныя тэорыі пацярпелі крах, бо ня мелі мажлівасьці ні зразумець хады гісторыі, ні передбачыць гістарычных здарэньняў. Гэта тлумачыцца тым, што буржуазія няздатна ўжо кіраваць жыцьцём, што яна сама адышла ўжо ў гісторыю. Ёй не належыць заўтрашні дзень, хоць яна і можа яшчэ часова трымацца на поверху гісторыі. „Навука ёсьцека прароцтва,—казаў Ленін,—але прароцтва, якое заснавана на вопыце“. Да гэткага навуковага прароцтва буржуйныя ідэолёгі няздатны, бо прароцтва мае справу з наступным, а наступнае не належыць буржуазіі. Яна чапляецца за мінулае і цяперашняе. Яна марыць пра тое, каб спыніўся час, каб застанавілася гісторыя, і за гэтым ёй патрэбны зьверхгістарычныя, надчасныя, адвечныя ісьціны. Але ў адвечныя ісьціны ўзводзяцца ёю *часовыя, гістарычна-абмежаваныя* формы сьвядомасьці і жыцьця. Пролетарыят парываецца ў наступнае; ён бярэ прыступам праз рэволюцыйнае змаганьне гэта наступнае, якое належыць яму аднаму. Загэтым сьветапагляд пролетарыяту, будучы гістарычным у вышэй растлумачаным сэнсе, орыентуецца, выходзячы з усёй сумес-

насьці ўмоў цяперашняга, на наступнае, на комунізм, які, згодна вымаву Маркса, не зьяўляецца складаньнем, а рэальным рухам.

Сапраўднае быцьцё—гэта наступнае; наступнае—гэта разьвітнае ды ажыцьцёўленае цяперашняе. Загэтым быцьця нельга ўзяць і зразумець, як застыгшае і скончанае састаяньне. Наадварот, толькі праз наступнае робіцца зразумелым цяперашняе, толькі station становунасьць адчыняе сапраўдны сэнс жыцьця. Цяперашняе гэта скутак прайшоўшага, яно зьмяшчае задатак наступнага, як кажа Гэгэль.

Супярэчнасьць паміж тэорыяю і практыкаю перамагаецца тэю тэорыяю, якая зрабіла сваім прынцыпам практыку. Усякая тэорыя, якая адарвана ад людзкога жыцьця, ад практыкі,—бязмоцная. Нямецкі філёзоф Фіхтэ казаў, што філёзофія мае каштоўнасьць і значэньне ўсяго гэтулькі, наколькі яна зьяўляецца прыладаю супроціў несправядлівасьцяй грамадзянскага ладу. Гэтак казаў вялікі рэволюцыянэр напярэдадні буржуйнай рэволюцыі ў Нямеччыне. Не здарма Фіхтэ глядзеў з натхненьнем на францускую рэволюцыю.

Некалі ў Грэцыі філёзофамі празывалі знатных закладчыкаў дзяржаў. Цяперака-ж лічаць філёзофамі „закладчыкаў“ сыстэм і тых пісьменьнікаў, якія пішуць на філёзофскія тэмы. Але відаць, што сапраўдным філёзофам, як то разумець папролетарску, зьяўляецца той, хто робіць штокольвечы сутнае для людзкога поступу і галоўнае для вызваленьня чалавецтва з-пад прыгону, словам той, хто ня толькі раздумоўвае аб прыродзе ды гісторыі, але і *стварае* гісторыю, праз гэта самае зьяўляючыся ўдзельнікам сьветавага процэсу. Бо толькі організаваная і злучаная праца вызваліць чалавецтва з-пад прыгону і дасьць яму мажлівасьць заўладаць сіламі прыроды, то вачавідкі, што чыннасьць у гэтым напрамку зьяўляецца самаю шляхетнаю і ўзьнёслаю. І хто працуе, каб лепш організаваць людзкое вобчаства, каб яго пераіначыць, той зьяўляецца сапраўдным „філёзофам“.

Мы бачылі, што, згодна Гэгэлю, новая філёзофія, бач, новае разуменьне рэчавістасьці, новая „форма духу“, як-бы ён сказаў, ці новая *форма грамадзянскае сьвядомасьці* нараджаецца на захадзе азначанае грамадзкае формацыі. Гэта новая сьвядомасьць прадпрыймае работу крытыкі і разбурэньня тае *формы рэчавістасьці*, *якую* гісторыя абракла на злом. Новая форма сьвядомасьці ці ідэолёгія зьяўляецца продуктам тае-ж самае грамадзкае формацыі, але разам з тым і яе memento mori. У нашу эпоху самым яскравым, пасьлядоўным і бясстрашным выказчыкам новае насьпеўшае грамадзянскае сьвядомасьці, гэта знача новай, якая нараджаецца, формы рэчавістасьці, зьяўляўся Ленін. Імпэрыялістычная вайна пацягнула за сабою згубу для соцыялізму. Марксызму чужы фаталістычны пункт гледжаньня. Чыннасьць людзей, трыманьне клясаў і партый зьяўляюцца рашучымі фактарамі ў гістарычным змаганьні. Няма ніякага сумненьня ў тым, што соцыял-

дэмократыя стаяла і стаіць дагэтуль на фаталістычным пункце гледжаньня, пагарджаючы ролю рэволюцыйных клясаў і пераносячы асяродак цяжкасьці ў бок „аўтоматызму“, натуральнае хады рэчаў. Гэты „аўтоматызм“ тлумачыцца тым, што некаторыя слаі пролетарыяту і партыі, што іх прадстаўляюць, так ці іначай „зрошчаны“ з сучасным ладам, з дробнаю буржуазіяй, з імпэрыялізмам. Нямецкай соцыял-дэмократыі, пасьля рэволюцыі 1918 году, прадставіўся шчасьлівы „выпадак“, злучыўшыся з расійскім пролетарыятам, пачаць новую эпоху сусьветнай гісторыі. Але яна перапалохалася ўласнае перамогі, перапалохалася паперадстаячага змаганьня і парашыла аддацца на волю „натуральнае хады рэчаў“, апраўдваючы сваю палахлівасьць тым, што яшчэ Нямеччына не падгатавалася да соцыялізму, што яна разбурана; а таксама і баючыся Антанты. Гэткім чынам нямецкая соцыял-дэмократыя два разы зрабіла праступак: першы раз—апраўданьнем і прыданьнем сьвятасьці імпэрыялістычнай вайне і другі раз адказаўшыся і па сваёй волі адышоўшы ад рэволюцыйнага змаганьня за соцыялізм. Партыя перадавое клясы, якая ня сьмее перамагчы, грае ўжо тым самым рэакцыйную ролю і сваёю-ж чыннасьцю падгатоўлівае перамогу рэакцыйных клясаў. Пераказ задоў аб несваечасовасьці соцыялістычнай рэволюцыі пры сучасным становішчы рэчаў сьведчыць аб тым, што ў гэткіх „марксыстых“ безнадзейна тупы розум. З гэтых абставін, што ў аснове політыкі ляжыць экономіка, выводзяць, што політычнае змаганьне мае другараднае значэньне, чым прыніжаюць—згодна слоў Леніна—політычнае змаганьне да экономічнага.

Падобна таму, як Маркс, на фундаманце вывучэньня мэханізму капіталістычнага вобчаства і ўспрыняцьці смутных імкненьняў, адчуваньняў і перажываньняў рабочае клясы, стварыў цэлы сьветапагляд і стаў правадыром чалавецтва, гэтак у нашу эпоху Ленін, успрыняўшы тое-ж матар'ялістычнае марксыцкае сьветаразуменьне, сумеў у хаосе імпэрыялістычнае вайны ўлавіць дасканалыя імкненьні пролетарыяту, падслухаць цюканьне яго сэрца ў акопах і пры варстатах і ператварыць яго сумныя, несфармаваныя перажываньні і пачуцьці ў вышэйшую форму сьвядомасьці. Мысьліцелем ёсьцека той, хто выказвае найболей яскрава „дух часу“, хто ўзвышвае на ступню сьвядомасьці несьвядомыя імкненьні свае клясы. Мысьліцель-жа перадавое клясы ёсьцека правадыр усяго чалавецтва. Рад тэорэтычна правідловых палажэньняў марксызму ўпяршыню быў практычна выпрабаваны. Комунізм з аддаленае мэты абярнуўся ў практычную проблему сёньнешняга дню. Гэта вагромністая заслуга належыць Леніну, колькі наогул можна казаць пра ролю асабовых людзей. Яшчэ ў 1905 г. ў „Двух тактыках“ Ленін дасканала вытлумачвае некалькімі словамі значэньне дыалектычнага матар'ялізму, адрозьніваючы яго ад старога матар'ялізму. Дыалектычны матар'ялізм мае сваім заданьнем ня толькі апісваць і

тлумачыць зьявішчы. Тыя, што прытрымліваюцца гэтага пункту гледжаньня „прыніжаюць матар'ялістычнае разуменьне гісторыі праз тое, што ігнаруюць нязрушаную, кіраўнічую ролю, якую маюць і павінны адыгрываць у гісторыі партыі тыя, што зразумелі матар'яльныя ўмовы перавароту і сталі на чале перадавых клясаў". Матар'ялізм (марксызм)— гэта тэорэтычны комунізм, комунізм-жа—гэта практычны матар'ялізм. Гэта нутраное яднаньне тэорыі з практыкаю, матар'ялізму і комунізму, дасканала разумеў Ленін. І таму ён так чужыўся гэтае „раздвойнасьці" соцыялізму на мэту і шлях, які да яе вядзе. Эд. Бэрнштэйн некалі пусьціў свой рэвізыйны крылаты сказ, які стаў сымболем веры сучаснае соцыял-дэмократыі. „Канчатковая мэта нічога—рух усё", казаў бацька рэвізыёнізму. Ленін адрозьніваўся ад іншых марксыстых тым, што ён дасканала валадаў рэволюцыйнаю дыялектыкаю. Таму гэткая мэтафізычная супроцьлежнасьць руху і мэты была яму органічна чужою і незразумелаю. Паўзучы эмпірызм можа задавальняцца дробным крохаборствам. Я тут не ўваходжу ў разгляд тых соцыяльных умоў, якімі выклікаецца гэты паўзучы эмпірызм ці рэвізыёнізм, мяне ў гэтай сувязі цікавіць выключна адно філёзофска-тэорэтычны бок пытаньня. Для кантыянцаў „канчатковая мэта" ляжыць на тым баку рэчавістасьці і, уяўляючы сабою нейкі transcensus, ніколі ня можа быць зьдзейсьнена ў эмпірычным сьвеце. Адгэтуль выходзіць пераацэнка руху і ўрачыстасьць паўзучага эмпірызму. Дыялектычны матар'ялізм ня мае нічога агульнага з гэткім эмпірызмам ці ідэолёгізмам (які складае другі бок паўзучага эмпірызму). Пасьлядоўцы за кантыянскім соцыялізмам захоўваюць звычайна сваімі зычнымі сказамі пра высокія, недасяжныя для чалавека ідэалы, якія ляжаць на той бок эмпірычнага сьвету, свае антырэволюцыйныя, опортуністычныя і занадта ўжо эмпірычныя чыннасьці.

Канчатковая мэта і рух для дыялектычнага матар'ялістага складаюць адну цэлую конкрэтную еднасьць. Але ў той час, як опортуністыя аддаюць у падлегласьць канчатковую мэту руху, рэволюцыйны марксызм аддае рух у падлегласьць канчатковай мэце. Ідэя верхавенства пролетарыяту, што высунуў упяршыню Г. В. Пляханаў, складала кіраўнічую і асяродкавую ідэю ўсяе рэволюцыйнае чыннасьці Леніна. Ён ніколі ня выпушчаў з воку канчатковае мэты, бач соцыялізму, на ўсіх ступнёх рэволюцыйнага змаганьня. Гэгэмонія пролетарыяту ў буржуйнай рэволюцыі пераходзіць у дыктатуру пролетарыяту пасьля перамогі над буржуазіяй. Таму задача пролетарыяту месьцішча ў тым, каб прымаць самы актыўны ўдзел у рэволюцыйным змаганьні на ўсіх яго ступнёх, каб ім кіраваць і самаму падгатаўляцца да захопу ўласьці для мэты ажыцьцёўленьня соцыялізму. „Пролетарыят павінен прывясьці да канца дэмократычны пераварот, прылучаючы да сябе гушчу сялянства, каб сілаю расьцісьнуць супраціўленьне

самадзяржаўя і спаралюшыць няўстойнасьць буржуазіі. Пролетарыят павінен спраўдзіць соцыялістычны пераварот, прылучаючы да сябе гушчу поўпролетарскіх элемэнтаў насельнасьці, каб зламаць сілаю адпор буржуазіі і спаралюшыць няўстойнасьць сялянства і дробнае буржуазіі“ (Ленін).

Расказваць на працягу ўсяе свае політычнае чыннасьці пра ідэю дыктатуры пролетарыяту, разглядаючы яе, як арудзьдзе для таго, каб зрабіць соцыялістычны пераварот, Ленін быў болей іншых суб'ектыўна падгатаваны да таго, каб стаць на чале рэволюцыйнага руху, які вырас на ўмовах імпэрыялістычнае вайны. Ленін, розьнячыся ад іншых правадыроў соцыялізму, падыходзіў „сур'ёзна“ да ўсіх проблем соцыялістычнага руху. У той час, як вагромная большасьць соцыялістых у імпэрыялістычную вайну насупрокі ўсім рашэньням паміжнародных конгрэсаў падтрымлівала „грамадзянскае замірэньне“, Ленін упяршыню высунуў лёзунг, які атрымаў рашучую значнасьць для змаганьня пролетарыяту супроціў буржуазіі, той лёзунг, які, бяссумненна, складае эпоху ў гісторыі чалавецтва і які зычыць: „абярнеце імпэрыялістычную вайну ў вайну грамадзянскую“. Ленін зусім праў і калі ён піша: „Ніякімі выгукамі злосьці, плётак і хлусьні яны (ворагі бальшавікоў) не загаламуцяць таго сусьветна-гістарычнага факту, што першы раз за сотні і за тысячы гадоў нявольнікі адказалі на вайну паміж прыгоньнікамі адчыненым агалашэньнем лёзунгу: абернем гэтую вайну паміж прыгоньнікаў, якую яны вядуць, каб падзяліць сваю здабычу, ў вайну нявольнікаў усіх нацый супроціў прыгоньнікаў усіх нацый“.

„Першы раз за сотні і тысячы гадоў гэты лёзунг абярнуўся з сумнага і бязмоцнага чаканьня ў ясную, выразную політычную програму, у непарушнае змаганьне міліёнаў прыгнечаных пад кіраўніцтвам пролетарыяту, абярнуўся ў першую перамогу пролетарыяту, у першую перамогу справы зьнішчэньня войн, справы саюзу рабочых усіх краёў над саюзам буржуазіі розных нацый, той буржуазіі, якая і годзіцца і ваюе за кошт нявольнікаў капіталу, на кошт наймітаў рабочых, на кошт сялян, на кошт працаўнікоў“[1]).

Рад вядомых лятуценьнікаў-філёзофаў марылі аб спыненьні войн. Яны пры гэтым апіраліся на ўсялякія абычайныя запаведзі і адвечныя законы розуму ды інш. Але, як бачым, гэтыя „мары“ не парушылі справы згоды ні на шаг. Наадварот, гісторыя разьвіналася напрамкам да мілітарызму. Найжорсткія і найкрывавыя войны скалынаюць час-ад-часу людзкія грамады. Натуральна, што ў капіталістычную эпоху, якая прышла, каб зьмяніць фэодальнае вобчаства, войны абярнуліся ў час-ад-часу паказныя сутычкі паміж народамі, паміж вагромнымі дзяржавамі. Чым далей,

---

[1]) Ленін. Збор твораў, т. XVIII, ч. I, стар. 367-368.

тым гэтыя паміжнародныя сутычкі будуць больш жорсткія і больш разбураючыя. „Хімічныя“ і розныя іншыя войны ў наступным сапраўды пагражаюць разбурэньнем, пры нязначнай затраце энэргіі, цэлых гарадоў і дзесяткаў міліёнаў людзей. Трэба быць сьляпым, каб ня бачыць таго, што чалавецтва йдзе насустрэч жахліваму працэсу самаразбурэньня, самазьнішчэньня. Вытворчыя сілы сучаснага вобчаства выяўляюць свой разбураючы характар. Яны прышлі ў супярэчку з вытворчымі адносінамі. Але войны вядуцца пануючымі клясамі, прыгоньнікамі, якія ня спыняюцца перад тым, каб перабіць чалавецтва, калі гэтага патрабуюць іх сваекарысныя інтарэсы. Кіраўніцтва войнамі належыць буржуазіі, але кроў сваю за іх інтарэсы ліюць рабочыя ды сяляне, якія маюць адзіны інтарэс—гэта скінуць уладу прыгоньнікаў.

Найвялікшаю заслугаю для Леніна застанецца тое, што ён клікаў да замены імпэрыялістычнае вайны ў вайну грамадзянскую, што ён падняў сьцяг паўстаньня супроціў вайны, не абмяжоўваючыся аднымі рэзолюцыямі пра неабходнасьць абвясьціць вайну вайне. „Калі сапраўды“— праўдзіва пісаў Ленін ужо амаль ня ў самым пачатку сьветавое вайны, „што цяперашняя вайна ёсьцека вайна імпэрыялістычная, што імпэрыялізм ёсьцека цэлаю гістарычнаю стадыяй, у разьвіцьці якое засуцэльваецца капіталізм; калі праўдзіва, што цяперашняя вайна можа адкрыць сабою цэлую эпоху паўторных імпэрыялістычных войн; калі эпоха імпэрыялістычных войн пагражае нам нязьлічанымі бядотамі, пагражае морамі крыві, міліёнамі афяр, пагражае аслабленьнем паміжнароднай салідарнасьці, пагражае адкінуць далёка назад увесь вялікі вызваліцельны рух пролетарыяту; калі ўсё гэта так, а гэта бяссумненна так,—то мы, рэволюцыйныя соцыял-дэмократы, павінны запытаць сябе, як-жа змагацца супроціў надыходзячага на нас ліха, з чым нам пайсьці на спатканьне гэтай надыходзячай цэлай эпосе, як перасьцерагчы тыя згубчыя скуткі, якія ўжо прынясла з сабою першая з „вялікіх імпэрыялістычных войн“.

Гэтае праклятае запытаньне стаіць перад паміжнародным пролетарыятам і дагэтуль. Адзінае выйсьце з таго становішча, што стварылася,— гэта паўстаньне пролетарыяту, пролетарская рэволюцыя, захапленьне ўлады рабочаю клясаю і змаганьне за соцыялізм. Практычны матар'ялізм становіць перад сабою мэту, казаў Маркс, рэволюцыянізаваць існуючы сьвет. Ён практычна, а не тэорэтычна толькі, ня моўна, не плятонічна, як гэта рабілі ранейшыя філёзофы,—зьвяртаецца супроціў старога сьвету і перайначвае яго. Без змаганьня нічога вялікага не зьдзяйсьняецца ў жыцьці. Гэтую столькі-ж глыбокую, скольки і простую ісьціну расказвае марксыцкі матар'ялізм, матар'ялістычная філёзофія. Праз гэта ясна, што ўсякі, хто становіцца на іншы пункт гледжаньня, хто думае, што можна перайначыць сьвет праклёнамі, харошымі рэзолюцыямі, той фактычна становіцца на глебу ідэалізму, той здраджае матар'ялізму. Вялікія су-

сьветна-гістарычныя заданьні, якія стаяць перад перадавою клясаю сучаснага вобчаства, могуць быць вырашаны толькі клясаваю барацьбою. Нізрынуцьце ўласнай буржуазіі і ўстанова дыктатуры пролетарыяту складаюць пачатак новае гістарычнае эпохі. Ленін, робячы падрахунак Кастрычнікавай рэволюцыі, пісаў: „Мы маем правы гардзіцца (і мы гардзімся) тым, што на нашу долю выпала шчасьце пачаць будоўлю савецкае дзяржавы, пачаць гэтым новую эпоху сусьветнае гісторыі, эпоху панаваньня новае клясы, прыгнечанае ўва ўсіх капіталістычных краёх і йдучае ўсюды да новага жыцьця, да перамогі над буржуазіяй, да дыктатуры пролетарыяту, да збаўленьня чалавецтва з ярма капіталу, ад імпэрыялістычных войн“.

*(Канчатак будзе).*

З расійскае мовы ператлумачыў **Дож.**

# ПАНСКАЯ ПОЛЬШЧА ПРАЗ ПОЛЬСКАЕ ЗЕРКАЛА

**Я. Ліманоўскі**

Сыстэма нацыянальнага і асабліва соцыяльнага ўціску, якую ўжывае польскі панска-буржуазны ўрад у адносінах да беларусаў і ўкраінцаў у Польшчы, якія да 90 процантаў складаюцца з сялян-хлебаробаў, змушае апошніх збройна выступаць супроць паноў-абшарнікаў і адміністрацыі на Крэсах Усходніх. Паводлуг газэтных вестак (польскіх газэт) партызанска-сялянскі рух на Крэсах Усходніх пашыраецца, мацнее.

Польскі клясава-буржуазны і нацыянальна-шовіністычны ўрад сваёй політыкай уціску і прыгнячэньня беларусаў і ўкраінцаў стварыў варункі, якія павінны былі выклікаць збройны рух сярод сялянства. Байкі аб тым, што гэты партызанскі рух ёсьць—„дывэрсыйныя банды,“ якія прышлі з савецкай тэрыторыі, маюць для польскай як „правіцы“, так і „лявіцы“—агітацыйную мэту: труіць польскіх комуністых і рабочых, якія шчыра вядуць барацьбу з польскай буржуазіяй. Польская прэса многа пісала пра меншавіцка-буржуазнае „паўстаньне“ ў Грузіі, але збройная барацьба сялянства на Крэсах Усходніх для яе—„савецкія дывэрсыйныя банды“.

Гэтым байкам, аднак, ужо ні польскае, ні эўропэйскае грамадзянства, на якое яны і разьлічаны, ня верацъ, прыглядаючыся да штодзенных фактаў.

### Чаго можна спадзявацца ад польскага ўраду.

Як-бы не называла гэты рух польская буржуазія, ён мацнее і шырыцца. Так доўга цягнуцца ня можа. Тыя ці іншыя мерапрыемствы патрэбны. Вось тут зьяўляецца пытаньне: якія мерапрыемствы будзе праводзіць польскі ўрад? Ці пойдзе ён на ўступкі ў галіне нацыянальнай і соцыяльнай, каб унясьці супакоеньне (хоць, можа, часовае)?

Ці ён далей будзе трымацца сыстэмы ўціску і займацца такімі „карыснымі“ рэформамі, як конструкцыя шыбеніцы альбо ўвядзеньне аднальковай кары сьмерці[1]), г.-ё. старацца зьнішчыць рух збройнай сілай, акрутным тэрорам.

---

[1]) У Польшчы існавалі тры спосабы кары сьмерці: праз растраляньне, праз павешаньне і праз адсячэньне галавы. Дык вось па газэтных вестках польскі ўрад распрацоўвае проэкт, каб ва ўсёй Польшчы ўжываць адзін толькі з гэтых спосабаў кары сьмерці. Альбо па апошніх вестках міністэрства справядлівасьці распрацоўвае проэкт конструкцыі шыбеніцы.

Ці можа польскі ўрад будзе застасоўваць абодвы мэтоды па даўнешняй думцы царскага ўраду: „спачатку супакоеньне, а пасьля рэформы?“

Ведама, што на соцыяльныя рэформы буржуазія йдзе толькі тады, калі другім чым ня можа ратаваць становішча. Такім чынам, яна праводзіць рэформы, якія канчаткова нават карысны для самой буржуазіі. Бісмарк, напрыклад, праводзіў „соцыяльныя“ законы аб рабочым забясьпечаньні тады, калі такая краіна старога работніцкага руху, як Англія, іх ня мела. Адначасова ён праводзіў і так званыя „выключныя законы супроць соцыялістых“.

Альбо ёсьць у гісторыі і гэткія прыклады, калі рабочы рух выкарыстала адна частка буржуазіі ў барацьбе з другою.

Нават і расійскую мартаўскую рэволюцыю скарыстала-б у сваіх інтарэсах расійская буржуазія, каб не бальшавікі, каб не Кастрычнікаўская рэволюцыя.

Вось, калі мы гэта ўсё ўспамінаем, то само сабою напрашаецца пытаньне: ці можа скарыстаць з цяперашняга руху на Крэсах Усходніх польская „лявіца“ (складаецца з дробнай буржуазіі і мяшчанства) для барацьбы з польскай буржуазіяй крупнай? На гэта пытаньне мы павінны адказаць адмоўна.

З часу, калі работніцкі ці, нават, сялянскі рух мацнее і пагражае маемасьці і існаваньню буржуазіі, тады яна ўсіх фарбаў і напрамкаў організуе адзіны фронт.

Так і ў Польшчы „лявіца“, якая адбівае інтарэсы дробнай буржуазіі, выкарыстоўвае сялянскі рух, але не для барацьбы з буржуазіяй, а для барацьбы з тым, хто пагражае існаваньню буржуазіі, г.-ё. з рабочымі-комуністымі.

Польская „лявіца“ сапраўднай барацьбы з буржуазіяй не вядзе і далей слоў ня пойдзе.

Што-ж датычыцца да польскага ўраду, то патрэбна разглядзець: з якіх элемэнтаў складаецца польскі ўрад і яго ўстановы, якім мэтодам карыстаюцца кіруючыя краінай буржуазныя партыі і як адносяцца да гэтых мэтодаў кіраваньня розныя колы грамадзянства і яго політычныя організацыі.

Каб ня быць západoзраным у староннасьці пры асьвятленьні гэтай справы наогул і ў прыватнасьці, пры асьвятленьні сутнасьці польскага ўраду, мы скарыстаем адпаведныя характарыстыкі з польскіх-жа, не „бальшавіцкіх“ крыніц.

**Ідэолёгія польскай буржуазіі.**

Пан І. Дамброўскі ў сваёй кніжцы „Względy i urzędy“, Warszawa 1924 г.* паступова асьвятляе як ідэолёгію, так і дзейнасьць польскай буржуазіі.

Вось асобныя моманты з гэтай характарыстыкі:

„Жылі мы, аднак, столькі гадоў пад уражаньнем наіўна-простай, прыгожай і ўзмацняючай дух, але не сапраўднай з грунту, легэнды аб

тым, як гэта шляхоцкая брацьця крывавілася ў паўстаньнях, у барацьбе за волю, палала каханьнем да гэтай вольнасьці і чакае моманту, калі сьцяг гэтай барацьбы будзе магчыма аддаць у рукі малодшай брацьці—люду".

Але як аб гэтым думалася:

„...Заплюшчваючы вочы на сутнасьць рэчаў, на пасыўнасьць шляхоцкай брацьці, для якой адпашваньне быдла і гадоўля пшаніцы былі заўсёды справамі многа блізшымі, чымсь унівэрсал паўстанчы" (старонка 6).

„Патрыотызм польскіх уласьніцкіх клясаў пачаў быць патрыотызмам гаспадарчым" (ст. 9).

Польская „шляхоцкая брацьʼ" прыстасавалася да расійскага, аўстрыяцкага і гэрманскага царызмаў,—з ім ёй лепей былоісьці, чымсь з „польскай малодшай брацьцю", г. ё. народам.

Гэта ілюзія аб патрыотызьме, надклясавым патрыотызьме буржуазіі, ілюзія, пад уражаньнем якой былі (спадзяваемся і цяпер ёсьць) многія Дамброўскія і інш., пазваляе вызначыць, да якой клясы яны належаць.

Клясавая сьвядомасьць і солідарнасьць у буржуазіі ёсьць больш разьвінена, чымсь клясавая сьвядомасьць у пролетарыята. Каб было-б іначай, буржуазія ня ўтрымала-б улады там, дзе яна сёньня яшчэ ўтрымлівае

У надклясавы „патрыотызм" буржуазіі верыць той, хто ня мае наогул ніякай клясавай сьвядомасьці. У яго можа, напрыклад, верыць і польская мяшчанская дробна-буржуазная „лявіца", якая не апіраецца ні на пролетарыят, ні на буржуазію, гэтыя дзьве галоўныя клясы.

Зьвяртаемся да тэмы: Пакуль верыцца ў патрыотызм польскай буржуазіі, пакуль польская „лявіца" ўпэўняе ў гэтым рабочую клясу, буржуазія ня траціць часу.

Вось пачалася Эўропэйская вайна. Польская буржуазія жыве з думкай: „Ня страціць улады і кіраўніцтва ў народзе! Ня страціць уласна сягоньня, напярэдадні—хто-ж ведае?—аўтономіі! Быць тымі, у чые рукі царызм аддасьць урадаваньне і ўкомплектаваньне ўрадавых установ. Лойяльнасьцю бязумоўнай, нахільнай да афяр, забягаючай, дзейнай—купіць правы да ўлады" (ст. 10—11).

У выніку рэволюцыі расійскай, а затым рэволюцыі аўстрыяцкай і нямецкай стварылася Польшча. Пад уплывам часу, пад націскам рабочай клясы ў Польшчы таксама праводзяцца „зьмены". Няпэўныя, нясьмелыя, малыя, дзякуючы таму, што „лявіца" больш баіцца рэволюцыі, чымсь улады буржуазіі і адцягвае ад барацьбы рабочую клясу. Аднак падзеі занепакоілі польскую буржуазію:

„Хто ведае, як глыбока, як далёка дасягненьне зьмен можа давясьці? Адразу столькі згубленых позыцый: усеагульнае права галасаваньня, работніцкае законадаўства, васьмёхгадзінны дзень працы, колектыўныя ўмовы, права коаліцыі. Пагроза адабраньня ўласнасьці ў выглядзе про-

экту зямельнай рэформы. Што можа быць далей? Новыя людзі могуць прынесьці новыя ідэі. Гэта мост да анархіі, керанпічына! Хто-ж згадае, дзе пачынаецца небясьпечнасьць, каторы крок стане гэтым першым здрадніцкім крокам да згубы? Дык вось ад першага дню незалежнасьці ідзе муць, вархольства, крык: ратуйце народ! Здрада, бальшавізм, жыдоўства, адабраньне ўласнасьці, роўнапраўе,—адным словам руіна“ (ст. 12—13).

Для буржуазіі гэта было нешта ў родзе бабілёнскага стаўпатварэньня. Нават і польская „лявіца“ перапужалася, спыніла барацьбу з буржуазіяй і павяла барацьбу з работніцкім рухам, з комуністымі, з рабочымі саветамі, якія стварыліся ў першы момант існаваньня Польшчы. Пэпэсаўскія ўрады Дашынскага і Марачэўскага, урады польскай „лявіцы“ ўрадуюць пад знакам барацьбы з работніцкім рухам у Польшчы. Аб гэтым сьведчаць многія факты і дакумэнты.

Далей. Што пачынае рабіць буржуазія?

„Ад першага дню незалежнасьці культывуе і пашырае нянавісьць да ўсяго, што мусіла прыйсьці з вольнасьцю айчызны. Да сучаснага тыпу дзяржавы. Да парлямэнтарызму. Да дэмократыі. Да ўмяшацельства дзяржавы ў галіне вольнай і несарамлівай эксплёатацыі“...

„Патрыотызм уласьніцкіх клясаў душыць ненавісьцю, жыве ў ёй, як саламандра ў агні. Выплёўвае з сябе гэту нянавісьць у літаратуры, у адмоўніцкай зьняважлівай прэсе, мае сваіх ідэолёгаў, дэмагогаў, казнадзеяў нянавісьці... мае ў сваёй гісторыі карты, збрызганыя крывёю скрытабойства, і масавае шаленства на грунце абажаньня для здродні“.

„Гэта ўсё дзеецца для таго, каб незалежную Польшчу зрабіць падобнай да Польшчы пад панаваньнем цароў—для таго, каб утрымаць панаваньне абшарніка, клёха, фабрыканта, майстра, утрымаць пад напраньнем часу грамадзянскую гэрархію, якая распадаецца (ст. 13).

Вось так „надклясавы патрыотызм!“

Якія-ж мэты ставіць перад сабой польская буржуазія?

„Не адмяняць нічога! Перафарбаваць на польскія колеры царскія інстытуцыі, на польскую мову пераложыць царскія правы і наказы. Збудаваць Польшчу паводлуг захопніцкіх узораў. Так, уласна, будзе добра. Бо цяпер мы ёсьць гаспадары! Польскі мундзір жандарскі, у польскіх колерах і з польскім знакам, дух маскоўскі, прускі, аўстрыяцкі, польскае юнкерства—так марыцца ў снох аб моцы, аб прышласьці у раеньнях аб уладзе. Іначай згінуць фальваркі, сындыкаты, дывідэнды...“ (ст. 15).

А то яшчэ бяды дачакаецца буржуазія, бо новыя людзі могуць прынесьці новыя мэтоды ўрадаваньня.

„Гэтыя новыя чужыя людзі, якія паходзяць „у прост з Польшчы“, з яе народнай гушчы, людзі з працы падзёмнай, з сасланьня і катаргі? Зложаць на плечы дзяржавы цяжар грамадзкай апекі, змаганьня з нэндзай, беспрацоўем, хваробай, эпідэміямі. Паквапяцца на кішэні ўласьніцкай пласты дзеля падаткаў. „Разбалуюць“ работніка і батрака, надаючы ім

правоў, дзеля іх абароны законы. Пакуль гэта „няшчасьце“ пагражае, дзеля нашай правіцы айчызна ня ёсьць айчызнай, але толькі якойсьці яе воддальнай магчымасьцю“ (ст. 15).

Тут ужо, здаецца, і пан Дамброўскі пачынае разумець, што азначае патрыотызм польскай буржуазіі. Можа яго пачынае разумець і польская „лявіца“. Але, як паказваюць падзеі, буржуазіі пакуль што гэтай „лявіцы“ няма чаго баяцца. Яна і не памышляе „пакрыўдзіць“ буржуазію і сапсаваць для яе „айчызну“.

### Хто займае кіруючае становішча.

Напалоханая спачатку буржуазія апомнілася і паволі апанавала становішчам. Дзякуючы бясчыннасьці „лявіцы“, яна замацавалася ва ўрадавых позыцыях. Цяперашні ўрад пана Станіслава Грабскага ёсьць першы чыста буржуазны ўрад у Польшчы. Самая рэакцыйная партыя ў Польшчы— „нарадовая дэмократыя“—ёсьць пануючая цяпер партыя (раней яна была ў опозыцыі ўраду „лявіцы“).

Буржуазія пачала комплектаваць урадавыя ўстановы як вышэйшыя, так і нізшыя, „сваімі“ людзьмі, робячы своеобразную „чыстку“ іх ад усіх, хто не пажаданы для буржуазіі. Гэтую чыстку яна праводзіла, зьмяшчаючы з пасад непажаданы элемэнт з прычыны нібы-та адсутнасьці „спэцыяльнасьці“; хоць, як мы бачым, мэта тут была другая.

Каго-ж польская буржуазія ахвотна ставіла кіраўнікамі ўрадавых устаноў?

„Людзі, з труднасьцю наламваючыя язык да зыкаў польскай мовы, старыя бюрократы, выхаваныя ў лоялізьме да чужых урадаў, заняўшыя свае высокія становішчы, дзякуючы сваёй адчужанасьці для спраў уласнага народу—высшыя вайсковыя, расійскай альбо аўстрыяцкай службы, поўныя каставых забабонаў і папярэджваньняў, яшчэ не цалком выцьвераженыя як з завароту галавы пасьля бліскавічнага ўпадку цэлай гэрархічнай драбіны, усягды яшчэ поўныя ўспамінаў аб даўным добрым часе, яшчэ не цалком аддаючыя адчот у справе станаўленьня палякамі і офіцыяльнага прызнаньня,—гэтая грамада прыбышоў і ўцякуноў убачыла шырока сабе адчыненыя вароты да пашанаў, стану, гонару і знайшла ўсялякія шансы, каб шырэй абаперціся і моцна расьпіхнуць лакцямі, адкідваючы на бок новых людзей“.

„Гэнэралы пабітых армій, багатыры водступаў, гэніі няладу, радавыя падпоры ўрадаў, каторыя лопнулі, як іржавы абруч, чынныя супольнікі катастроф і ўпадку палітычных сыстэм, якія ня вытрымалі спробы жыцьця,—калі-б служылі ва ўласнай дзяржаве і ўласнаму народу, сталі-бы на ўпадку ancien vegime'u, якога былі падпорамі і за які былі супольна-адказныя,—з усім немажлівымі да далейшага скарыстаньня“ (ст. 20).

Вось з каго складаецца польскі „апарат панствовы“. Тут ужо „патрыотызму“ няма што спадзявацца, а аб разумных грамадзкіх рэформах

няма што і казаць. Каб мацней трымаць свой уплыў і лепш бараніць свае інтарэсы, вышэйшыя ўрадавыя пасады, польская буржуазія абсаджвае старанна сваймі людзьмі.

Інтарэсы, якім „пагражае само існаваньне данай установы, бароняцца праз тое, што ўстанова абсаджаецца чалавекам, які гэтыя, уласна, інтарэсы, прадстаўляе. Так, над міністэрствам прамысловасьці і гандлю стала сачыў Левіятан праз сваіх людзей, будзь-та на міністэрскім крэсьле, будзь-та на аднэй з кіруючых пасад. На пасадзе міністра харчаваньня зьявіўся кіраўнік вялікага збожжавага сындыкату і яму-та паверана місія сьцягваць контынгэнты, дзеля існаваньня якіх было шмат сабрана ў сындыкаце ў разрэз з дзяржаўнымі інтарэсамі. У рэзультаце—міністэрства скасавана. На пасадзе камісара барацьбы з дарагавізнай бачылі мы прадстаўніка вывознага таварыства, як відаць пазванага для таго, каб не пазволіў абмежаваць вываз у інтарэсе барацьбы з дарагавізнай. На высокай пасадзе ў міністэрстве грашовых спраў, у момант, калі яно павінна было выступіць з энэргічным процідзеяньнем спэкуляцыі, бачылі мы прадстаўніка саюзу банкаў. Калі дзе-кольвечы інтарэсы ўласьніцкіх колаў разыходзяцца з інтарэсамі дзяржавы, там „для роўнавагі“ дасягаецца назначэньне—ваўка да аўчарні, лісіцы да куратніка“ (ст. 25).

Калі ёсьць такія магчымасьці для польскай буржуазіі, дык як-жа яна ня будзе сябе чуць у Польшчы, як у „сваёй“ айчыне?

**Якой улады хоча буржуазія.**

Абсадзіўшы ўсе ўрадавыя ўстановы сваймі людзьмі, польская буржуазія можа кіраваць дзяржавай паводлуг сваіх мэт і сыстэм. Як-жа выглядае гэта кіраваньне?

„Моцная ўлада ёсьць ідэал, узношаны нашай правіцай пад неба. Як-жа ж гэта ўлада моцная, але не ў адносінах да абшарніка, які адказваецца выконваць колектыўны дагавор з працаўніком, фабрыканта і майстра, якія парушаюць—як-жа ненавісныя!—правілы заканадаўства працы, гуртаўніка, які спэкулюе сродкамі жыўнасьці. Моцная ўлада ў адносінах да слабых! Улада на паслугах уласьніцкага аб‘яднаньня. Нашыя „высшыя дзесяць тысяч“ мараць пра дыктатуру. Цікавая справа, колькі з гэтых марнікаў згадзілася-бы на дыктатуры, якой яны самі мусілі-б падлягаць? Польская мара пра дыктатуру грунтуецца на перакананьні, што ўладу прыдзецца тварыць, а не падлягаць ёй“ (ст. 37).

Буржуазія наогул ня любіць і баіцца толькі дыктатуры пролетарыяту. лічучы яе за найвялікшае злачынства. Дыктатура буржуазіі нават і для польскае „лявіцы“, відавочна, болей падабаецца.

**Як урадуе польская бружуазія.**

Цяпер варта пабачыць, як польская буржуазія творыць уладу—„суд і расправу“. Прыпомнім толькі, хто сядзіць ва ўрадавых установах, каб ня вельмі дзівіцца таму, што дзеецца ў іх.

„У Польшчы пануе максымум пашанаваньня для ўлады і мінімум пашанаваньня для законаў“... „Пануе пераконаньне, што існуе толькі права загадаў, а для грамадзяніна астаецца „молчать і не рассуждать“ (ст. 39.)

„Над нашымі галовамі вырастае дакладна палітычная ахрана, якая прыстасоўвае мэтоды даўнейшай „охраны“, а напэўна і ўжывае яе бышых агэнтаў. Дзейнічае яна зусім самастойна, цешыцца яна прызнаньнем і дазволам судовай улады, якой павінна быць у дапамозе. Дазнаньне належыць да сьледчага, але ў нас папераджаецца яго функцыя, абвінавачваны змушаецца да прызнаньня віны тэрорыстычнымі сродкамі. Біцьцё палкамі ў пяты, ужываньне „алоўкаў“, г. ё. сьцісканьне ў клешчах пальцаў, паміж каторымі ўкладваюцца алоўкі альбо іншыя цьвёрдыя рэчы, выбіваньне зубоў сыгнэтам, размажджэньне нагцей, апроч звычайнага некваліфікаванага біцьця і ламаньня рэбраў,—зьяўляюцца агульна-прынятымі, знанымі праз мяне беспасрэдна способамі судовай практыкі (аўтар кніжкі—пан Дамброўскі, калі ня мылюся, ведамы польскі адвакат. Я. Л—кі). Што-раз чытаем у часопісі пра зьдзекі над сельска-гаспадарчымі працаўнікамі. Даведываемся аб чыёйсь сьмерці ў турме—натуральна на сухоты і па дакладных доктарскіх агледзінах“... „У часе экономічных забастовак поліцыя і прокуратура чуюцца пакліканымі—і бяскарна!—да падтрыманьня працадаўцаў супроць працаўнікоў. Прокурор Галаўня ў Вільні распарадзіўся арыштаваць забастоўшчыкаў і трымаў іх доўгі час у турме. Памяшканьні профэсыянальных саюзаў замыкаюцца і рэквізуюцца. У часе сельска-гаспадарчых забастовак ні праз каго неконтралёваная, заахвочаная абшарнікамі поліцыя робіць карныя экспэдыцыі, арыштоўваючы направа і налева. Тагды, само сабою, памнажаюцца выпадкі біцьця і зьдзекаў—як на рысавых плянтацыях у Танкіне“...

У якасьці ілюстрацыі да таго зьдзеку, аб якім агульна кажа пан Дамброўскі, мы далажым малюнак з другіх, таксама польскіх, крыніц, узятых намі. Вось выняткі з артыкулу пасла Валінскага, надрукованага ў органе П.П.С. „Роботнік“ ад 21 жніўня 1924 г.

„У шэрагу корэспондэнцый з Крэсаў Усходніх я апісваў няэьмерна смутныя здарэньні ў палескіх вёсках. Даваў яскравыя малюнкі палескія‘ даваў прозьвішчы злачынцаў, даваў названьні мясцовасьцяй і даты, ніхто аднак—ні грамадзкасьць, ні ўрад—не рэагаваў на гэта. Пачынаючы ад войта і поліцыянта і канчаючы на старастве з аднаго боку, з другога —ад лясьніка да крэсавага абшарніка—палескі селянін ёсьць крыўджаны, нячуваным спосабам эксплёатаваны, часта няпраўна суджаны і караны і нават біты“.

„Будзе досыць успомніць толькі справу ліквідацыі сэрвітутаў. Як-жа часта супроць лемантарных асноў права земскі камісар разам з абшарнікам і войтам, пры дапамозе поліцыі, аграбляюць ад сялян рэшту пашы. А як-жа часта поліцыя, запрошаная абшарнікам, выкідвае селяніна з яго ўласнай зямлі альбо арэнды бяз суду.“

„Найбольшай, аднак, ганьбай для тутэйшай адміністрацыі ёсьць біцьцё сялян паліцыяй".

„Год таму паведамілі мяне, што сярод арыштаваных адседжвае кару селянін з Кожан-Гарадку, Зімніч Рыгор, акрутным спосабам пабіты. Аб гэтым факце я паведаміў ваяводзкую паліцыю, каторая неадкладна дэлегавала ў Лунінец начальніка сьледчага аддзелу, камісара Рыхтэра. Камісар Рыхтэр пры мне, як пры сьведку, абсьледваў Зімніча ў справе біцьця, не ўваходзячы ў тое, за што і, нават, як доўга Зімніч адседжвае кару. Як-жа білі Зімніча? Вось разьдзелі яго дагала, абвязалі мокрай шматай, заціснулі губы і білі яго ў пяты шомпалам, паступова абліваючы, для атразьвеньня, вадой і зноў паўтаралі гэта самае катаваньне. Зьдзекваліся над ім такім спосабам праз цэлую ноч, каля ранку замкнулі яго ў спэцыяльна ўтворанай камэры з дзьвума печамі, дзе яго пры напаленых печах у ліпені месяцы трымалі праз тры дні, не даючы яму вады, кормячы яго толькі паўфунтам хлеба удзень. Зьдзекваўся так над Зімнічам паліцэйскі перадавік цяперашні—*комэндант пастарунку* ў Кожан-Гарадку".

Папоўшчына ня выдумала большых зьдзекаў, большых цярпеньняў для так званых „сьвятых мучальнікаў", чымсь іх супраўды пераносіць беларускі і ўкраінскі селянін у шляхетнай Польшчы.

Але паслухаем далей пана Валінскага.

„Які-ж канец сьледзтва? Камісар Рыхтэр па „уласнаму жаданьню" вылецеў з пасады, і сёньня яшчэ сьледавацель Гяцэвіч вядзе супроць яго дахаджэньне; пан комэндант-жа пастарунку з Кожан-Гарадку ад быўшага старасты Цыбульскага атрымаў словы падзякі і астаўся далей на сваёй пасадзе. Як-жа ён захоўваецца? Пахвалены за сваю „энэргію", „патрыотызм" і „адданасьць", у досыць кароткі патым час пабіў наступных людзей: 1. Доўгалевіча Тодара—біты па твары; 2. Ховайновіча Рыгора—біты шабляй па твары, са зьвязанымі рукамі; 3. Каратышэўскага Кірылу—біты па твары; 4. Камара Сьцяпана—які атрымаў 50 ран ад біцьця тупым прадметам (доктарскае пасьведчаньне выдаў дзяржаўны эпідэмічны шпіталь у Лунінцы, маю гэтае пасьведчаньне)".

„Наступных білі па твары, закладвалі набоі паміж пальцаў і сьціскалі рукі, паступова ўкладвалі пальцы паміж дзьвераў, каторыя зачынялі: 1. Лушчыка Тамаша; 2. Сьцяпаньню Панасёву; 3. Зофію Кольш; 4. Яна і Мікалая Кротыш; 5. Антановіча Тодара; 6. Мікалая Зімніча; 7. Еўдакіма Зімніча; 8. Рудовіча Кроп'я; 9. Яна Доўгалевіча (два разы біты, ніколі не арыштованы і не караны)".

Вось сьпіс пакрыўджаных людзей у апошніх месяцах, з аднаго мястэчка, з аднаго толькі паліцэйскага пастарунку.

Што дзеецца на цэлым Палесьсі, аб гэтым ведае толькі сам селянін, каторы баіцца перад кім-кольвечы выявіць, хто і калі яго скрыўдзіў. „Б'юць, паночку, б'юць,—і войт б'е, і паліцыя і памешчыкі", чуваць на

кожным кроку з вуснаў палескага селяніна. Дармо, каб хацеў даведацца, хто зьдзекваўся над ім, калі-ж: „паночак ад‘едзе, а біць далей будуць“.

Лідэр партыі „Вызваленьне“ (сялянская партыя), пан Тугут, у сваім часе ўзяўся адкідаць дакоры аб белым тэроры ў Польшчы, палічаныя ў ведамым протэсьце грамадзкіх і палітычных дзеячоў Францыі. Ці не. скарыстае пан Тугут для свайго адкіданьня вышэйпамянёнай характарыстыкі.

Дзейнасьці польскай улады, якую далі паны Дамброўскі і Валінскі, як «pochodzącej ze źródeł polskich» і ведама не „бальшавікоў“, паводлуг-жа поўнага вобразу, які мы ведаем, гэтая характарыстыка вельмі бледная і не абхоплівае дзесятае часткі ўсіх злачынстваў польскай улады. Але абмяжуемся на гэты раз толькі гэтым.

Тут, як мы бачым, усё робіцца паводлуг вядомага польскага лёзунгу: „Свой да свайго“[1]), а парасійску гэта будзе „рука руку моет“; на злоўжываньне польскай буржуазнай улады няма загадаў.

„Што раз часьцей раздаюцца галасы, якія заклікаюць да хуткай адмены фатальнага палажэньня спраў, якія паказваюць, што ў працягу пары гадоў наша ўлада патрапіла зрабіць імя Польшчы ненавісным для чужапляменцаў на Крэсах Усходніх“... „Месцы прошлай русыфікацыйнай палітыкі займае полёнізатарства“.

Гэта ёсьць, ва ўсякім выпадку, тая-ж самая палітыка наадварот— падзел грамадзян на дзьве нероўныя катэгорыі.

„У гэткіх варунках наш урадавы апарат, мала прыстасаваны да цяжкіх задач урадаваньня, заражаны ўсялякімі недахваткамі буйнага нацыяналізму, адсутнасьцю роўнавагі, блізкавокасьцю рэакцыі,—траціць у гэтым бязладзьдзі ўсялякую меру і, б‘ючы ў напрамку найменшага адпору, вядзе заўсягдашнюю барацьбу з элемэнтам украінскім, беларускім, жыдоўскім“... І далей: „тое, што дзеецца на крэсах, дзеецца з прычыны таго самага перакананьня, якое ўтрымлівае ў жыцьці нашую сыстэму ўрадаваньня ў краіне,—перакананьня, што так ёсьць добра, так быць мусіць, такія, уласна, павінны быць належныя адносіны да патрэб і імкненьняў чужапляменных грамадзян,—што, адным словам, гэта, уласца, ёсьць „парадак“ і „моцная ўлада“...

Вось выразны малюнак таго палітычнага стану, які зараз пануе ў Польшчы і які нават гэткіх асоб, як пан І. Дамброўскі і Валінскі вымушае падняць голас протэсту, хоць і з боку іншых, сваіх, буржуйнападгрунтаваных інтарэсаў.

### Польскі фашызм.

Гэта палітыка польскага ўраду яшчэ больш выявіцца, калі мы прасочым за чыннасьцю фашысцкіх організацый, якія стварыла польская буржуазія і якія вельмі блізкі да самога польскага ўраду, інсьпірыруюцца

[1]) Лёзунг фашысцкага „Вшэхпольскага“ клюбу.

ім, кіруюцца й ахоўваюцца самым старанным чынам і, фактычна, паміж якімі і ўрадам немажліва правясьці мяжы. Пацьвярджэньнем гэтага могуць быць вядомыя арышты і вобыскі сярод сяброў фашысцкай арганізацыі (студзень—1924 г.) Pogotowie patryotów polskich, сябрамі якое былі П. Кернік—правадыр урадавай цяпер партыі н. д., быўшы міністар унутраных спраў Пенкапаўскі і інш.

Усе фашысцкія арганізацыі ў Польшчы можна падзяліць на а) кіруючыя, б) вайсковыя і поўвайсковыя, в) пропагандыцкія—„культурныя", г) жаночыя і інш.

Пералічым важнейшыя з іх.

а) Кіруючыя: 1. Ушэхпольскі клюб; 2. Савет нацыянальнай абароны; 3. Польская нацыянальная фэдэрацыя; 4. Саюз памешчыкаў; 5. Вобчаства грамадзкага парадку; 6. Ліга абароны конституцыі; 7. Організацыя абароны дзяржавы; 8. Вобчаства аб'яднаных памешчыкаў „Дзьвігня". б) Вайсковыя і поўвайсковыя організацыі: Саюз галерчыкаў, кіруемы гэнэралам Гальлерам (у часе Эўропэйскай вайны быў організатарам і камандзірам польскіх легіёнаў у Францыі); 2. Саюз доўбаршчыкаў (саюзам кіруе гэнэрал Доўбар-Мусьніцкі быўшы царскі гэнэрал, заядлы монархісты і вораг СССР), у часе Эўропэйскай вайны камандваў рускім корпусам на каўкаскім фронце, а ў 1918 годзе камандваў польскім корпусам у Менску. Памагаў Карнілаву рабіць монархічны пераварот; пасьля Кастрычнікавай Рэволюцыі выступіў збройна супроць Савецкай улады. Наступаў разам з немцамі на Магілёў); 3. Саюз верхнесілескіх паўстанцаў, які налічвае больш 100000 сяброў; 4. Саюз быўшых вайсковых; 5. Вобчаства грамадзкага парадку; 6. Саюз абаронцаў г. Львова; 7. Польская організацыя абароны краю; 8. „Сокол"—патрыотычная, спортыўная організацыя з даваеннага часу; 9. Саюз „Сіла" (Верхняя Сілезія); 10. „Адраджэньне"; 11. Усяпольская моладзь; 12. Саюз гарцэрства (наезьнікаў); 13. Вольны стралок Рэчы Паспалітай; 14. Саюз верхнясілесцаў; 15. Саюз афіцэраў запасу пры саюзе памешчыкаў; 16. Гарадзкая грамадзянская стража (Львоў); 17. Саюз афіцэраў запасу; 18. Ліга рыцараў; 19. Вобчаства грамадзкай дапамогі (S. S. S.); 20. Ордэн фашыстых; 21. Скорая дапамога польскіх патрыотаў; 22. Паморскае стралковае брацтва; 23. Пазнанскае стралковае брацтва; 24. Польскі легіён; 25. Кашубская вайсковая організацыя і інш.

Многія з пералічаных фашысцкіх організацый цалком утрымоўваюцца на ўрадавыя грошы або дастаюць ад ураду субсыдыю. Іх праца накіравана, галоўным чынам, на апрацоўку ў патрэбным сэнсе вайсковае організацыі, на організацыю так званых „баловэк" і штрэйкбрэхэраў для змаганьня з рабочым рухам.

Польскія духоўнікі таксама не далёка стаяць ад гэтага, благаслаўляючы цесны хаўрус ураду з фашыстымі і накладаючы сьвятую санкцыю

на іх паходы супроціў польскіх працоўных гушч і супроціў рабочых ды сялян нацыянальных меншасьцяй.

Гэткім чынам мы бачым, што зьверскі нацыяналізм ёсьць аднэй асаблівасьцю польскай буржуазіі, буйнай і дробнай, як „лявіца“, як ППС, „Вызваленьне“ і інш. Полёнізатарства—адна з складовых частак мэтоду ўрадаваньня польскай буржуазіі.

Нават ксёндз Крупавічус, які стаяў на чале самага сільнага блёку ў Літоўскім сойме, у сваёй прамове адзін раз казаў: „Апалячваньне нашай краіны ёсьць тыфусам, а палякі—гэта вошы, каторыя разносяць тыфус па літоўскім целе“...

Гэта пра палякаў у Літве, дзе яны ня маюць улады і дзе іх, як скардзіцца пан Ул. Студніцкі (консэрватыўны экономісты польскі) у сваёй кніжцы[1]), крыўдзяць: „Палякі ў Літоўскай дзяржаве“, піша ён: „падлягаюць усялякім прасьледваньням, нападам як Літоўскай улады, так і шаўлісаў (стралкоў)—організацыі, якой апякуецца Літоўскі ўрад і якая ёсьць разбойнічая ў адносінах да палякоў. Літоўскія турмы сталі перапоўнены польскімі вязьнямі, каторых вяжуць, катуюць таму толькі, што яны ёсьць палякі і хочуць палякамі астацца“... (ст. 13).

Не падабаецца пану Ўл. Студніцкаму, калі Літоўскі ўрад нядобра абыходзіцца з палякамі (відавочна з польскімі нацыяналістымі—контр-рэволюцыянэрамі). На апошняй старонцы сваёй кніжкі ён кажа: „Няведама, як доўга Польшча будзе пераносіць гэтае прасьледваньне і акруценства да палякоў у суседняй дзяржаве, уласна, малой дзяржаве, дзе зусім латва паслаць трохі войска, каб пакараць вінавайцаў і змусіць іх да пашаны палякаў і польскасьці“...

Можа варта спытацца п. Ўл. Студніцкага і яшчэ каго-кольвек, як можна назваць (і ня толькі назваць) прымусовае апалячваньне беларусаў і ўкраінцаў на Крэсах Усходніх, дзе існуе нічым не абмежаванае польскае панаваньне, дзе ўлада распараджаецца, ня маючы ніякіх законных загадаў альбо ня лічачыся з існуючымі на паперы законамі,—як назваць зьдзекі, акруценствы, якім падлягаюць у Польшчы беларускія і ўкраінскія сяляне? Ад паноў мы адказу не чакаем. Адказ на гэта пытаньне напіша хіба сам беларускі селянін сваім змаганьнем з польскай буржуазіяй. Гэтым адказам будзе: „Мы доўга цярпелі—цярпець больш ня будзем“.

---

[1]) „Państwo Kowieńskie“—Wilno. 1922 г.

# ПАНШЧЫНА НА БЕЛАРУСІ

(*Гісторыка-этнографічны нарыс з жыцьця сялян Меншчыны за прыгонам 1826—1857 г. г.*)

**М. Мялешка.**

Ня плач маё дзетка, ня плач маё роднае:
Вун дзе войт ідзе,
На татку на мамку ён бізун нясе.
У тым у бізуне скураты ўвіты,
На тым на бізуне сьлёзкі паліты.
Тыя слёзкі крывавыя, з сэрца раняныя...
Схавайся ты, дзетка, на божу пасьцельку—
Няхай твае вочкі заплюснуць навекі,—
Ня ўвідзіш ты гора, гора мужыкова
Ня ўзнаеш ты долі, кроўкай палітое...

*З народнай песьні.*

## УСТУП.

Паншчына на Беларусі займае вельмі цікавую старонку ў гісторыі нашага народу. Ня менш цікаўна гэта пара і для дасьледчыка быту.

З этнографічнага боку, амаль што саўсім не зачэплен у навуковым беларускім пісьменстве стан сялянства пры паншчыне, і гэтыя сумныя часы чакаюць яшчэ свайго дасьледчыка. Пры цяперашнім культурным адраджэньні беларускага люду, вывучэньне бытавых умоў мінулага народу зьяўляецца неадкладнейшай патрэбай.

Падыходзячы да вывучэньня сучаснага стану беларускага народу, мы часта ня можам зразумець многіх зьявішч, якія існуюць у яго жыцьці. Мы ня можам, напрыклад, дасканала ўстанавіць прычыну сумнай песьні беларуса, ня можам дакладна высьвятліць яго псыхолёгічныя рысы. Шмат якія бытавыя і экономічныя зьявшчы, якія яшчэ захоўваюцца і цяпер на Беларусі, застаюцца не растлумачанымі. Прыпадымаючы заслону мінулага самога народу, мы адшуківаем запраўдныя прычыны многіх зьявішч, адшуківаем карані, на каторых вырасла цяжкая доля беларускага народу і трымаемся цьвярдзей на тых сьцежках, якія выводзяць нас ад цяжкага мінулага да сьветлае будучыны.

У гэтым сваім нарысе мы задаліся скромнай мэтай—на аснове архіўных дакумантаў паказаць некалькі малюнкаў сумнага і цяжкага жыцьця

прыгоннага люду за паншчынай у Беларусі. Для гэтай сваёй мэты мы скарысталі „Дела Мінскаго Губернскаго предводітеля дворянства“, якія знаходзяцца ў Цэнтральным Дзяржаўным Архіве Беларусі. (Дакуманты прыводзяцца намі ў перакладзе на беларускую мову).

### I. Павіннасьці і матар'яльны стан сялян.

Раней чымсь перайсьці да разгляду стану сялян Меншчыны за прыгонам, ня лішне будзе сказаць некалькі слоў аб узаконеных павіннасьцях для прыгонных сялян. Па дварох Менскай губэрні існавалі тры віды гэтых павіннасьцяй: *падворная, цяглая і чыншавая.* Усе гэтыя віды розьніліся адзін ад другога. Было нават так, што ў адным двары ўжываліся ўсе тры формы павіннасьцяй і ў аднэй і тэй-жа вёсцы былі сяляне падворныя, цяглыя і чыншавыя. Губэрскі інвэнтарны комітэт[1]) пры разглядзе дворных інвэнтароў у 1844 г., прымаючы пад увагу заведзены здаўна парадак прыгону па дварох, лік і якасьць надзеленай зямлі, мясцовы стан двара ў адносінах да збыту продуктаў і іншыя розныя выгады, застанавіўся на ўсіх відах павіннасьцяй, якія існавалі дагэтуль[2]).

Праўда, ужо ў 1850 г. комітэт прызнаваў, што ў Менскай губэрні існуюць толькі два правы прыгону: гэта—надворны і цяглы[3]). На гэтыя правы ў гэты час зацьвярджаліся комітэтам і дворныя інвэнтары. Гэта здарылася, трэба думаць, з прычыны скасаваньня ў Беларусі „Літоўскага Статуту“ і ўвядзеньня расійскіх законаў, па якіх расійцы чыншавых павіннасьцяй за паншчынай ня ведалі. Між тым, чыншавае права фактычна трымалася на Беларусі ўвесь час паншчыны. Пазьней урад вымушаны быў прызнаць яго законнасьць і з юрыдычнага боку.

Пры падворнай павіннасьці сяляне надзяляліся зямлёй ад 5 да 30 дзесяцін на сядзібу. Пры гэтым надзеле павіннасьці пану былі вось якія: *прыгону* ў тыдзень з кожнай сядзібы ад 1 дню з упражкай і 1 пешага да 3 упражных і 3 пешых. *Гвалтаў* [4]) у год з рабочай душы ад 4 да 12 пешых дзён. Былі дазволены гвалты і ўпражныя ад 2 да 6 дзён у год. *Шараваркі* [5])—з сядзібы ў год ад 3 да 12 дзён з упражкай або пехатой. *Падвод* для транспартаў—з сядзібы ад 1 да 6 ў год, але з такім вылічэньнем, каб у год падвода была ў дарозе ня больш як 200 вёрст у вадзін канец. *Варта* і іншыя дадатковыя працы ад 4 да 8 пешых дзён у

---

1) Інвэнтарныя Комітэты ў Беларусі былі організаваны ў 1844 г., з якога часу сталі абавязковымі інвэнтары для двароў.

2) Дело 1005, о новых правілах относітельно отбыванія повінностей помешчічьімі крестьянамі с 1852 г. л. 375.

3) Ibidem л. 123.

4) *Гвалтамі* называліся такія павіннасьці, якія назначаліся дваром у любы час, пры пільных дворных працах. Слова гэта, відаць, сьпярша ўжывалася самым народам, а з часам перайшло і ў офіцыйную мову.

5) *Шараваркі*—гэта тыя-ж самыя гвалты, толькі пры шараварках хадзілі ў двор на будаўнічыя працы.

год з двара; начная варта па чарзе. *Даніна*[1]) лічылася па ацэнцы ад 50 к. да 3 руб. у год. У тых дварох, дзе ў лік даніны ўваходзіла значная ссыпка жыта або, як дадатковая павіннасьць,—грашовы чынш, а гэтак сама розныя паслугі і праца, галоўныя павіннасьці павінны былі зьмяншацца.

Павіннасьці гэтыя падзяляліся на вялікія, сярэднія і малыя, у залежнасьці ад надзелу зямлёй. Пры надзеле лепшай зямлёй, якая дае ўраджай сам-пяць—16 дзес., або пры сярэдняй зямлі, з ураджаем сам-чатыры—20 дзес., ці пры дрэннай глебе, з ураджаем сам-тры і пры балотлівых сенакосах—45 дзес.,—назначаліся самыя вялікія павіннасьці, якія, пры ацэнцы на грошы, павінны былі каштаваць у год 48 р. 50 к. [2]). Пры надзеле зямлёй добрай—10 дзес., ці сярэдняй—15 дзес., або дрэннай з балотамі—30 дзес.,—павіннасьці ўскладаліся сярэднія і ацэньваліся ў год 30 р. 7 к. Пры надзеле добрай зямлі 6 дзес., ці сярэдняй $7^1/_2$ дзес., а дрэннай з балотамі 12 дзес.—ускладаліся малыя павіннасьці: у тыдзень—прыгону 1 упражнага і 1 пешага, гвалтаў 6 з душы ў год і даніна [3]). Памешчык заўсёды мог адабраць ад селяніна зямлю, калі зьмяншаецца сям'я і не астаецца больш аднэй рабочай душы, калі зацягнецца нядоімка ў падатках, пазыках і дапамогах, якая будзе перавышаць гадавы кошт павіннасьцяй і калі гэта здарылася па віне гаспадара, ці калі селянін уцячэць упрочкі і не застанецца ў хаце работніка, здольнага вясьці гаспадарку[4]).

Пры чыншавай павіннасьці пільнаваўся такі самы сямейны парадак і аснова, як і пры падворнай. Розьніца была ў тым, што хаця чыншавік і ня меў права ўласнасьці на зямлю, але ён мог бяз ведама ўласьніка распараджацца надзеленай зямлёй і толькі мусіў плаціць за яе чынш грашыма або нясьці другія павіннасьці двару, якія былі ўстаноўлены законамі або старымі звычаямі; прычым, няўпраўная выплата ўстаноўленых падаткаў чыншавіком не давала права памешчыку сагнаць яго з зямлі, і пан толькі мог накладаць на яго зямлю нядоімку[5]).

---

[1]) Пад *данінай* разумеюцца, галоўным чынам: ягады, арэхі, грыбы, яйкі, куры і інш. якія ў устаноўленым ліку прынасіліся двару.

[2]) Інвэнтарным комітэтам 1852 г. была ўстаноўлена цана рабочага дню ў Менскім, Бабруйскім, Ігуменскім, Барысаўскім, Слуцкім і Навагрудзкім паветах упражнага 15 к., а пешага па 10 к., а ў паветах: Мазырскім, Рэчыцкім і Пінскім—упражнага па 12 к., а пешага па 8 к. Памешчыкі знаходзілі, што гэта ацэнка вельмі высокая і хадайнічалі яе паменшыць. З гэтага відаць, што паказаная ацэнка павіннасьцяй для гаспадароў была цяжкай (Д. 1005, л. 3).

[3]) Дело 1005, л. 378.

[4]) Ibidem, л. 122-123.

[5]) Слова „чынш"—сапсутае нямецкае „Zins", якое ў сваю чаргу, сапсутае латын. census. Расійцы „чынш" перакладалі словам „кортома" (Пабеданосцаў). У большасьці расійцы ўжываюць слова „оброк". Чыншавыя павіннасьці былі некаліcь узаконены „Літоўскім Статутам". Пасьля далучэньня Беларусі да Расіі, указам 25 чэрвеня 1840 г., аб пашырэньні на заходнія губэрні агульных законаў імпэрыі, было адменена ўжываньне Літоўскага Статуту (Статут на Беларусі адменен яшчэ ў 1831 г.), але па моцы гэтага ўказу

Мусі быць пры ўжываньні падворнага і чыншавага права памешчыкамі розьніца была вельмі малая. Памешчык мог надзяляць зямлёй сялян, як яму было лепей і разьмяркоўваць павіннасьці так, як патрэбна двару.

Цяглае права, узятае з Маскоўшчыны, розьніцца ад падворнага і чыншавага тым, што зямля надзялялася не падворна, а падушна, на рабочыя, цяглыя душы, і прыгон патрабаваўся не з сядзібы, а з надзеленых зямлёй душ. Пры гэтым праве патрабавалася ў тыдзень прыгону з цягла, г. зн. з 1 мужчыны і 1 жанкі ад 1 да 2 упражных і ад 1 да 2 пешых; *гвалтаў* у год—ня больш з душы, як 6 пешых; *варта* начная—па чарзе і *даніны* рэчамі—ад 50 кап. да 3 руб. на двор у год. Усе іншыя працы, якія выпаўняліся па загаду двара, залічаліся за паншчыну.

Пры назначэньні з аднаго цягла ў тыдзень прыгону: 2 упр., 2 пеш., гвалтаў—6 пешых з душы ў год і даніна,—усяго на 29 руб.,—надзялялася зямлёй: пры добрай глебе з ураджаем сам-пяць—10 дзес., пры сярэдняй ураджайнасьці сам-чатыры—13 і пры дрэннай, з ураджаем сам-тры, з балотамі—25 дзес. Калі з цягла ў тыдзень назначалася: прыгону пешага і 1 упражнага, гвалтаў 6 пешых з душы ў год і даніна—адпускалася зямлі пры добрай глебе—6 дзес., пры сярэдняй—$7^1/_2$ дзес. і пры дрэннай—12 дзес

Дзеля таго, што пры цяглавым палажэньні, не зважаючы на вялікі лік сям'і, прыгон адбывалі толькі цяглы—то Інвэнтарны Комітэт 11 жніўня 1845 г. даў права паном назначаць прыгон і з другіх душ сям'і, надзяляючы зямлёй больш, як на дзьве душы: але гэта дазвалялася толькі ў такім выпадку, калі сяляне самі гэтага пажадаюць. Павіннасьці ў гэтых выпадках назначаліся па добрахвотнай умове з сялянамі, якія не павінны былі пераважваць $^1/_3$ часткі даходу ад даданай зямлі.

Хаця інвэнтарным комітэтам і ўстаноўлены вызначаныя павіннасьці пры прыведзеных вышэй надзелах зямлі, але тым-жа комітэтам дазвалялася браць гэтыя павіннасьці і з меншых надзелаў, калі зямля добрая і выгадная, так, каб вылічалася на двор $^1/_3$ частка чыстага зыску.

Комітэт прызнаваў, што на ўтрыманьне сялянскай сям'і з 4 рабочых і 4 нерабочых душ, на выплату падаткаў і павіннасьцяй досыць вось гэткага надзелу зямлі:

на сядзібу лепшай $7^1/_2$, сярэдняй 10 і дрэннай 20 дз.
„ цягла „ 6 „ $7^1/_2$ „ 15 дз.

Па даных 1848 году лічылася інвэнтароў па Менскай губэрні: падворных—1692, цяглых—256, а гэтак сама: аб вольных людзях—56, і аб дворных людзях—252.

---

сілу і законнасьці актаў належала вызначаць па законах, якія ўжываліся ў час складаньня гэтых актаў. Такім парадкам чыншавае права аставалася на Беларусі на ўвесь час прыгону і існавала яшчэ і пасьля скасаваньня паншчыны. Чыншавае права вельмі няяснае. І па юрыдычных актах і ў некаторых дасьледчыкаў парознаму яно тлумачыцца. Адзін польскі вучоны юрысты прыходзіць нават да такога выніку: „што нельга зрабіць ніякага вываду ні аб сутнасьці вечна-чыншавога ўладаньня, ні аб яго адзнаках".

Па паветах гэтыя інвэнтары раскладаліся па дварох у такім ліку[1]):

| ПАВЕТЫ | Падворных | Цяглых | Аб дворных людзях | Аб вольных людзях | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| Па Менскім . . . . | 310 | 1 | 32 | 8 | 351 |
| „ Барысаўскім . . . | 235 | 6 | 41 | 20 | 302 |
| „ Ігуменскім . . . . | 178 | 21 | 18 | 5 | 222 |
| „ Бабруйскім . . . . | 64 | 101 | 22 | 10 | 197 |
| „ Мазырскім . . . . | 57 | 61 | 25 | — | 143 |
| „ Слуцкім . . . . | 264 | — | 25 | 8 | 297 |
| „ Пінскім . . . . | 220 | — | 25 | 3 | 248 |
| „ Рэчыцкім . . . . | 34 | 66 | 32 | 2 | 134 |
| „ Наваградзкім . . . | 330 | — | 32 | — | 362 |
| УСЯГО . . | 1692 | 256 | 252 | 56 | 2256 |

Цяпер пабачым, якія выгады маглі мець сяляне ад двара.

Двор мог адпускаць пашу для скаціны сваіх падданых у вызначаным панам месцы, даваць лесу на апал і на гаспадарскую будову ў такім ліку й месцы і такой якасьці, як знойдзе патрэбным сам пан. У тых дварох, дзе лесу няма, сяляне мусілі самі купляць сабе патрэбны лясны матар'ял. Дазвалялася драць лыкі на лапці, калі на дворнай зямлі была лаза, ліпа і інш. Не забаранялася вясьці пчалярства і рабіць для пчол каранікі, зьбіраць у лесе ягады, грыбы і інш. лясьніну за асаблівую плату гэтымі-ж рэчамі. Дазвалялася зьвярыная і рыбная лоўля ў паказаных мясцох, расчыстка пасек для павялічэньня зямлі й сенакосаў. Нават на асаблівыя зборы сялян дазвалялася пану адчыняць больніцы для іх [2]). За карыстаньне гэтымі „выгадамі“ пан меў права накладаць на тых асоб, якім прадастаўляліся гэтыя выгады, павіннасьці. Так, інвэнтарным комітэтам за карыстаньне лясамі з сядзібы павінны адбываць 8 дзён шараваркі ў год (Д. 1005, л. 144). Пчолы маглі трымаць дарма.

Пры выпаўненьні прыгону кожны работнік ад сям'і або ад гаспадаркі павінен быў зрабіць у дзень—пешы: 1) заараць $^{1}/_{3}$ дзесяціны зямлі; 2) забаранаваць $^{2}/_{3}$ дзес.; 3) зжаць жыта або ярыны ад $^{1}/_{6}$ да $^{1}/_{9}$ дзес.;

1) Дело 1005, л. 369.

2) У старыну пчолы трымалі ня ў садзе, а ў лесе. Выдзеўблены з калоды, або зроблены з яловай кары ці сплецены з саломы каранік усьцягваўся на дрэва, дзе і пакідаўся бяз усякага дагляду да восені.

4) скасіць жыта або ярыны пры добрым ураджаі $^1/_3$ дзес., пры дрэнным —$^2/_3$ дзес.; 5) зьвязаць пакошанае збожжа ў снапы пры добрым ураджаі з $^1/_3$ дзес., а пры дрэнным—$^2/_3$ дзес.; 6) скасіць сена на $^1/_3$ дзес., сабраць сена з $^1/_3$ дзес.; 7) растрасьці гной на $^1/_3$ дзес.; 8) змалаціць сухога жыта 1 капу, ярыны $1^1/_2$ капы, сырамалотнага палавіну; 9) насячы $^1/_2$ сажня трохпаленных дроў; 10) напрасьці чыстага лёну 1 тальку ў 40 пасмаў і ў 20 нітак даўжынёй на 15 вяршк. матавіла квадратнай меры, або 1 фунт тоўстых нітак.

З упражкай: 1) перавезьці на далячыні паўвярсты: а) 15 вазоў гною, б) 10 коп жыта, в) 15 коп ярыны, г) 10 вазоў сена па 12 пудоў воз, д) сажань трохпаленных дроў; 2) перавезьці воз у 20 пудоў на далячыню 20 вёрст; 3) на кубічны трохаршыновы сажань лучыны з прыбаўкай капы драніц па 18 пехатой і 8 упражак мужчынскіх душ. Да гэтага былі зроблены заўвагі: 1) што калі зямля ня вымерана, а праца разьмяркована на ўрочна, то праца адбываецца бяз уроку і дзень працы лічыцца за дзень інвэнтарны; 2) усе працы, якія не памянуты вышэй, адбываюцца без вызначэньня ўрокаў; 3) калі панскае поле знаходзіцца далёка ад сядзібы, праца гэтак сама адбываецца бяз уроку; 4) жанкі на прыгоне павінны прыстаўляцца толькі да такой працы, якую яны робяць у сябе дома і забаранялася даваць ім працу, якая патрабуе мужчынскай сілы. Жанкі ўцяжку павінны рабіць толькі лёгкія працы, а пасьля радзін аслабаняюцца ад працы на 6 тыдняў; 5) працоўны дзень лічыцца ад золку да змроку, а з 15 мая па 15 жніўня з 5 гадзін раніцы да заходу сонца. Для супачынку работнікам і для корму скаціны летам давалася 2 гадзіны, а зімой адна гадзіна; 6) скончыўшы сваю дзялянку на паншчыне, работнік мог пайсьці дамоў і раней заходу сонца і 7) пража кудзелі ды тканьне палатна ў лік паншчыны робяцца з панскага матар‘ялу[1]).

Апрача гэтых прац, выпаўняліся яшчэ працы на фабрыках, пры выгану смалы і дзёгцю і розныя дворныя работы. Лішніх сваіх прыгонных памешчык меў права аддаваць у арэнду другому двару або пасылаць яго ў заработкі.

Здольнымі да працы на прыгоне лічыліся мужчыны ад 18 да 60 год, а жанкі ад 16 да 55 год, калі яны былі здаровыя. Хлапчукі ад 14 да 18 год і дзяўчаты ад 14 да 16 г. дапускаліся да працы пры гвалтах, бяз урочных заданьняў, на лёгкую працу[2]).

У такім, прыблізна, становішчы, па афіцыйным даным, сяляне знаходзіліся ў адносінах да двору і такія, прыблізна, ускладаліся на іх абавязкі. Тымчасам, калі паглядзім на запраўдны стан сялян, дык усякага гатунку ўзаконеньні датычна прыгоннага права, усякія рэформы, нават такое здарэньне, як пераход Беларусі з-пад Польшчы да Расіі, мала мя-

1) Ibidem, л. 137—139.

2) Ibidem, л. 127.

нялі становішча прыгоннага селяніна. Памешчык меў неабмежаванае права распараджацца сваімі прыгоннымі сялянамі, як сваёй маемасьцю. І ўстаноўленыя для маёнткаў інвэнтары і адказнасьць памешчыка за разор,—усё гэта было толькі формальнай умовай. Клясавы і матар'яльны стан памешчыка вымагаў, як мага больш даставаць карысьці ад сваіх падданных сялян. Дзеля гэтага памешчыку неабходна было ўсімі магчымымі сродкамі прымусіць прыгонных людзей рабіць, як найболей. З гэтай мэтай вялася бязьлітасная эксплёатацыя сялян. Прыгонныя сяляне амаль-што ўвесь час павінны былі працаваць на двор і толькі ўхопкамі, часам па начам, працавалі на сваёй гаспадарцы. Але і гэтага мала, калі пану неабходны былі гаспадарскія рэчы свайго селяніна, то ён іх забіраў, як сваё, пад тэй ці іншай умовай. Селянін вымушан быў жыць у цесных курных хатах, есьці мякіну, макуху, мялёную салому, ліпавы ліст, розныя травы і іншыя сурогаты, цярпець холад і голад, самыя лютасныя, жудасныя панскія кары.

У 1850 годзе, калі Мікалай I праяжджаў з Бабруйску ў Бярэсьце і калі сяляне вёсак, належачых да маёнтку Новыя-Дарогі князя Вітгэнштэйна падалі яму скаргу на свайго пана, дык нават ён,—такі драпежны і крывавы цар, прымушан быў „з жахам бачыць, што абедзьве вёскі знаходзяцца ў такім непамерна бядачым стане, што іх халупы падобны да клетак для сьвіней, амаль-што ўсе ў разварушаным становішчы да такой меры, што зразумець нельга, каб ня толькі людзі, але і жывёла магла ў іх зьмяшчацца[1]).

Цяпер пабачым, на што жаліліся сяляне, ідучы часам за сотні вёрст каб падаць начальству заяву.

Як відаць са справы 1835 г., сяляне засьценку Стайчаўкі, Барысаўскага павету, жаліліся на памешчыка Палубінскага, уласьніка маёнтку Латыголь, што яны апынуліся „ў няшчасным стане праз нялюдзкія адносіны з імі пана, які заняў іх сядзібы, сам умясьціўся ў іх, усе гаспадарскія прылады, хлеб, скаціну, коняй адабраў і абярнуў у сваю карысьць, часткай аддаў жыдом за гарэлку, а рэшту трымае ў сябе. Самых сялян узяў у пастаянную дворную службу, не дае ім на пражытак харчу, морыць голадам, не дае адзежы і сам займаецца распустай з сялянскімі жонкамі. Усю сваю і сялянскую гаспадарку растраціў і прывёў сябе і іх да крайняга жабрацтва"[2]). Далей адзначаецца, што жыцьцё настолькі было цяжкім, што некаторыя сяляне, каб збавіцца ад пакуты, канчалі жыцьцё сваё самагубствам[3]).

Для параўнаньня цікава зірнуць далей у мінулае. Польскі публіцысты кс. Сташыц у 1790 г. ў „Przestrogi dla Polski" пісаў аб польска-

[1]) Дело 1006. О угнетеніі крестьян помешчікамі, л. 237.
[2]) Ibidem, л. 59—60.
[3]) Ibidem, л. 48.

беларускім селяніне: „Я бачу міліёны стварэньняў, з якіх адны ходзяць паўголыя, другія прыкрыты скурай або грубай сярмягай: усе яны высахшыя, худыя, абросшы валасамі, закурэлыя: вочы ў іх глыбока запалі, грудзі бязупынна дыхаюць“. І далей: „стравай у іх зьяўляецца хлеб з мякінай, а праз чвэрць году (пасьля збору) хлебныя сурагаты: піцьцём зьяўляецца вада і апаляючая нутро гарэлка. Жывуць яны ў ямах або ў будах, якія трохі ўздымаюцца над зямлёй. Сонца там ня бывае. Яны напоўнены смуродам, які і ўдзень і ўноч душыць іх, скарачаючы няшчаснае жыцьцё, асабліва губячы маленькіх дзяцей. У гэтай смуроднай і дымнай цямніцы, на гнілой падсьцілцы спачывае гаспадар, зморany працай удзень: з боку каля яго сьпяць малыя голыя дзеці на тым самым месцы, на якім стаіць карова з цялём і ляжыць сьвіньня з парасятамі“. (Проф. М. В. Довнар-Запольский. Страница из истории крепостного права в XVIII—XIX в.в. Стр. 6).

У маёнтку Канковічы, Мазырскага павету, памешчыцы Сапрыноўскай, па данясеньні павятовага маршалка ў 1847 г., „у 15 сялянскіх сядзібах, якія складаюць маёнтак Канковічы недахватных (нуждающчіхся) душ абодвага роду ад 5 гадоў ёсьць 78, дзе *ня знойдзена ніводнага фунта хлеба* (курсіў мой. М.), аніякіх да спажыткаў запасаў і гародніны. Усе яны (сяляне), а асабліва дзеці, змардаваны да крайнасьці... Жылыя сялянскія хаты і іншая будова прыведзена да надзвычайнай старасьці, хаця ў маёнтку Канковічах лесу шмат. Шмат якія сядзібы бяз стрэх, варот і платоў, а некаторыя нават да жыцьця небясьпечны... Усіх 15 двароў маемасьць вылічаецца ў 1 кані, 27 валох, 4 быкох, 13 каровах, 2 цялушках 8 цялятах, 22 авечках, 8 сьвіньнях і 5 караніках пчол.

У 1856 г. сяляне маёнтку Канковіч, зьявіўшыся да павятовага маршалка ў Мазыры, ізноў скардзіліся яму, што памешчык Сапрыноўскі „загадвае ім рабіць у тыдзень па чатыры дні з душы паншчыны: вызначае дзялянкі на работу ў полі, ня вымераныя каморнікам. А калі адпраўляе якіх на сплаў у заработкі, не зьвяртае ўвагі на засеў іх поля, ад чаго зьяўляецца недахват харчу. Ня робіць рахунку заробленым імі грашом на сплавах. З ліку прысутных Пятрусь Мурашка дадаў, што ў гэтым годзе, пасьля кары, дадзенай яго жонцы Просі ўцяжку, яна спарушыла малое, а пасьля скора і сама памёрла.“[1])

Памешчыкі Сьвентаржэцкія, двору Багушэвічы, Ігуменскага пав. ставілі сваіх падданых у асабліва цяжкія матар‘яльныя ўмовы. (Гэта тыя самыя памешчыкі, якія ў польскім паўстаньні 1861 году прымалі самы чынны ўдзел). У адносьніку гэнэрал-губэрнатара 1851 г. на імя Менскага губэрскага маршалка дваранства, перадаецца скарга сялян, у якой яны жаліліся, што ў іх мала ёсьць ворнай зямлі дзеля таго, што зямля пазарастала лесам. Сяляне часта знаходзяцца ў пабегу, кідаючы сваю зямлю.

---

[1]) *Дело* 1006, *л.* 198.

Не хапае і скаціны для працы на зямлі. Цяпер,—гаварылася далей,—сяляне так мала маюць зямлі, што самы багаты з іх мог засеяць увосень ня больш 6/8 (?) жыта. Ды і засеянае імі забіралася ў панскі двор або зьніштажалася.[1]) З скаргамі аб сваёй нядолі сяляне жаліліся 7 гадоў. Жыць сялянам так было цяжка, што каля 70 душ уцякло, прычым, некаторыя з сялян уцякалі, забраўшы ўсю сваю сям'ю, аддаючыся на волю свайго лёсу. Некаторыя проста канчалі жыцьцё накладаньнем на сябе рук. Пры такіх варунках каля 30 сялянскіх хат саусім апусьцела. Памешчык Сьвентаржэцкі, не жадаючы мець страты ад апусьцелых сядзіб, прымусова перасяляў у пакінутыя сядзібы другіх сялян і ўскладаў на новых жыхароў абавязак выплачваць даўгі, якія засталіся яму вінаваты ўцёкшыя або памёршыя падданыя.

Сяляне маёнтку Садаўшчызна Менскага пав., у 1854 г. жаліліся начальніку губэрні, „што памешчык Яблашэўскі ў адносінах з імі і іншымі сваімі сялянамі жорсткі, уціскае іх лішняй паншчынай, ад чаго былі сьмяртэльныя выпадкі, а некаторыя, даведзеныя да крайняй беднасьці, разышліся, так што з 20 сядзіб асталося 10 і то чатыры сядзібы на чыншу, а другія служаць паншчыну“ [2]).

Памешчыца Іваноўская, купіўшы двор Прылукі, Менскага пав. ад пана Ваньковіча, пачала абыходзіцца з сялянамі па свайму самавольству. У 1832 г. сяляне скардзіліся, што Іваноўская ўстанавіла для сялян новыя павіннасьці і сваімі непамернымі патрэбамі ад сялян „давяла іх да крайняй ступені беднаты“. Гэта самая памешчыца ўстанавіла для сваіх прыгонных сялян вось гэткія павіннасьці: паншчына ад 6 да 7 дзён у тыдзень з хаты і гвалтаў у год па 12 дзён. У сьвяточныя дні летам прымушала сялян зьбіраць ягады і зеляніну для двара. З усякай працоўнай душы плаціць чынш па 16 злотых і падушных па 2 рублі срэбрам. У год даваць даніны 2 курыцы, 10 яек, капу грыбоў і інш. Па чарзе ў г. Менск вазіць дворнае малако, і на выпадак непрадажы—плаціць за яго сваімі грашыма“. „Паадбірала ў некаторых сялян неабходную ворную зямлю і сенажаці і далучыла да панскіх абшараў, праз што сяляне бываюць вымушаны наймаць зямлю ў суседзяў і самой Іваноўскай. За няўплату чыншу забрала скаціну, хлеб і адзежу. Абярнула на свае патрэбы сялянскія магазыны. Не дазваляе сялянам сячы дровы ў лесе, ня толькі на прадажу, але і на свае патрэбы. Накладае лютыя кары і трымае ў калодках. Неспадобных ёй аддае ў салдаты за чужыя маёнткі. Дзеля гэтага ў некаторых сялян, да наступнага ўраджаю, на пражытак мелася хлеба ня больш, як на месяц, іншыя ня мелі рабочай скаціны“.[3]) Як відаць з перапіскі па гэтай справе, сяляне скардзіліся на сваё непамерна-

[1]) Дело 1008. О жестоком обращении помещиков Свенторжицких с крестьянами Игум. у. им. Богушевичи, л. 15 і інш.

[2]) Дело 1003, о Яблошевском, л. 2.

[3]) Дело 996, па справе Іваноўскай з сваімі сялянамі, л. 8—9.

цяжкае жыцьцё з 1818 г., а лёс іх ніколькі не мяняўся. У 1842 г. сяляне з двара Прылук ізноў зьявіліся ў Менск, дзе скаргу іх выслухаў сам губэрнатар. Сяляне жаліліся яму на зьдзек, які чыніла ім пані Іваноўская, скардзіліся, што яны церпяць голад, ня маюць ні зярняці хлеба, цяпер нават, увосень, і што пані адымае ў іх усе сродкі да жыцьця. Калі адзін селянін павёз прадаць воз сена, каб купіць сабе хлеба і солі, то панскі камісар абгаліў яму за гэта палавіну галавы (застрыг у салдаты). „Замораны выгляд гэтых сялян, роспач, з якой кінуліся яны ў ногі з плачам, жалячыся на бядачае сваё жыцьцё, рызьзё, у якім яны прышлі, зьвярнулі асаблівую ўвагу яго правасхадзіцельства, тым болей, што даходзілі прыватным парадкам чуткі, быццам памешчыца Іваноўская вельмі дрэнна абыходзіцца з сваімі сялянамі, празьмерна абцяжарвае працай і ня дбае аб іх пражытку“.[1])

Як відаць з сьледзтва, зробленага на месцы па заяве прыгонных людзей в.в. Цясны і Дзірадзічы, двору Лосвы, пана Вольскага на Мазыршчыне, якія прыходзілі ў 1842 г. з скаргамі на немагчымае сваё жыцьцё ў Менск, сьледавацель „знайшоў у самым цяжкім (жалкім) стане. Некаторыя з іх некалькі дзён саўсім нічога ня елі. З наступленьнем цёплага часу, калі зьявілася на полі крапіва і шчаўе, то для свайго пражыцьця яны (сяляне), зьбіраючы гэту зелень, парылі яе ў гаршчкох і, толькі гэтым адным кормячыся, падтрымлівалі сяк-так апошнія зморанныя сілы“. Некаторыя, атрымліваючы з двара „па аднаму гарцу жыта ў месяц на кожную душу... прымешвалі да гэтага хлеба на адзін гарнец жыта паўтары гарцы мякіны, лускі ад грэчкі, макухі або выжымак ад льнянога семя“.[2])

Беднасьць гэтых сялян (в. в. Цясны і Дзірадзічы), як тлумачыцца ў сьледзтве, здарылася ад таго, што ўласьнік сваіх падданых, якія здольны да працы, „з пачатку вясны высылае на вадзяныя сплавы. Варочаюцца яны дамоў каля кастрычніка і лістапада, не знаходзячы ў сябе дома ніякіх сродкаў да жыцьця. Сёмая частка работнікаў, астаўшыся на месцы, апроч звычайных хатніх заняткаў, прымушана адбываць і наложаную паншчыну“. „Да ўсяго гэтага, звыш паншчыны, якая адбываецца насеньнем, яны плацяць панскаму двару цяжкі грашовы чынш, плацяць за сябе падаткі і іншыя павіннасьці, даюць розную даніну і г. д. З заробленых імі на вадзяных сплавах грошай на рукі нічога не атрымліваюць і нават не залічаецца ім ні за якія павіннасьці“.[3]) З 750 мужчынскіх і жаночых душ у 1842 г. заставалася дома толькі 47, усе апошнія былі на сплаве лесу. На паншчыну ганялі і малалетак, ад 13 да 15 год хлапчукоў. Жанкі

[1]) Ibidem л. 20.

[2]) Дело 998, об угнетении крестьян Речицкого у. д. д. Тесни и Дирадичь, арендуемых владельцем Вольским, л. 1—2.

[3]) Ibidem, л. 2—3.

абавязаны былі выпаўняць некаторую працу замест мужчын, якія адсутнічалі, як, напрыклад: касіць, баранаваць і інш., а ў патрэбны час карысталіся імі для арбы зямлі"[1]).

„У самым мястэчку Лосьве і належачай да яго экономіі вёскі Крупейках сяляне ў такім самым стане, як і ў в. в. Цясны і Дзірадзічы. З м. Лосьвы, у якім лічыцца мужчынскіх рабочых душ 297, адпраўлена на вадзяныя сплавы ў гэтым (1842 г.) 175 чалавек, а з вёскі Крупеяк, у якой лічыцца 124 рабочых душ—90 чалавек, так што на працу ў полі, для пражытку, у м. Лосьве і в. Крупейках, дзе ўсіх мужчынскіх і жаночых душ—1540, пакінута 112 работнікаў, якія, звыш сваёй працы, павінны адбываць яшчэ прыгон панскаму двару па два і па тры дні з душы ў тыдзень".[2]) Самым галоўным продуктам гэтых сялян была мякіна і макуха. „У в. Крупейках знойдзена, што, за адсутнасьцю хлеба, кабеты самі елі і дзяцей сваіх кармілі аднэй макухай, мяшаючы яе на вадзе, як кашу".[3])

Паказаныя вышэй даныя аб цяжкім стане прыгонных сялян не зьяўляюцца выключнымі. Наадварот, цэлы шэраг даных паказвае аб такім самым лёсе сялян і на другіх дварох Меншчыны. Нормы, якія ўстанаўліваліся ўрадам для паншчыны, заставаліся мёртвай літарай на паперы. Сяляне перанасілі непамерна цяжкі ўціск, аддаючы панскаму двару ўсе здабыткі сваёй працы. Жыцьцё за прыгонам было вельмі сумнае. І дарэмна было-б шукаць з боку паноў людзкіх адносін да сваіх падданых;— гэтаму супярэчылі іх клясавыя інтарэсы.

## II. Панскія кары і самагубства сялян.

Непамерна ўціснуты працай на паншчыну, пераносячы з сваёй сям'ёй голад і холад, як нязьменных падарожнікаў у сваім жыцьці, паднявольны селянін у *гэтым толькі* яшчэ ня бачыў меж для сваёй пакуты. Перад прыгонным селянінам яшчэ вечна стаяла пагроза—жудасная панская кара, прадбачачы якую з жахам, вельмі часта ён накладаў на сябе рукі. Розгі, бізуны, дысцыпліны (нагайка на 3 пасы), калодкі, рагаткі, кайданы, падчэпліваньні, самыя размаітыя жудасныя мукі, якія можа прыдумаць толькі злы чалавечы розум, уключна да сьмяртэльнай кары, мусіў цярпець і пераносіць беларускі мужык ад сваіх паноў. Калі перачытваеш дакуманты аб лютых панскіх зьдзеках, дзівішся, як выжыў гэты гарапашны прадак наш і змог захаваць у сябе столькі моцы і здольнасьці!

Урадавыя загады, у вадносінах памешчыкаў да сваіх прыгонных сялян, былі вельмі нясталыя і супярэчныя паміж сабой. З аднаго боку Мікалай I рэскрыптам сваім ад 19 чэрвеня 1826 г. нагляд за абхаджэньнем паноў са сваімі сялянамі ўскладаў на маршалкаў дваранства, а дру-

[1]) Ibidem, л. 3—4.
[2]) Ibidem, л. 5.
[3]) Ibidem, л. 5.

гім рэскрыптам ад 6 верасьня таго-ж 1826 г. былі вызначаны тыя правілы, якімі павінны былі маршалкі кіравацца ў гэтай справе. Законамі таго часу нібы-та „забаранялася“ памешчыкам давадзіць сялян да беднасьці, забаранялася ўскладаць на абавязак сялян непамернай цяжары працу і люта караць. [1])

Але з другога боку рабілася ўсё магчымае, каб захаваць панскую ўладу над сялянамі і даць законную магчымасьць распараджацца сялянамі па свайму самавольству. „Каб асьцерагчыся ўсякіх непаразуменьняў і няўмесных тлумачэньняў“, цыркулярам міністэрства ўнутраных спраў ад 24 сакавіка 1848 г. даводзілася, „што няўхільная воля цара зьяўляецца ў тым, каб пры захове законных і справядлівых адносін паноў да сялян захаваць у той-жа час „непоколебімо“ ўладу і правы валадароў над сялянамі. Па загаду Мікалая I было запрапанована губэрнатарам, каб яны разам з маршалкамі дваранства“ ўсемагчыма клапаціліся аб падтрыманьні законнай улады памешчыкаў і аб абавязковым паслухмянстве сялян; каб пры найменшым нарушэньні такога парадку было на гэта зьвернута „стражайшая“ ўвага і на выпадак патрэбы бяз упуску прыняты былі неабходныя меры для прывядзеньня сялян у належнае паслухмянства“. [2])

Вось вытрымка з дакладу на пасяджэньні Менскага дваранскага дэпутацкага сабраньня 9 кастрычніка 1839 г. аб катаваньні сялян памешчыкам двору Сілічы, Барысаўскага пав., Вільчэўскім: „Юрку Беланоўскага,— як говорыцца ў дакладзе,—звыш неаднакратных пабояў, зробленых яму (Вальчэўскім) па ўспыльчываму характару свайму, чым ні папала, загадаў неяк забіць у кайданы і прывязаць у ваднэй кашулі ў моцны зімовы мароз на дварэ да слупа, дзе і пратрымалі яго дзьве гадзіны, а пасьля гэтага загадаў ізноў яго прывязаць да слупа і даць да 200 розаг. Магдалену Беланоўскую, бяз усякай прычыны, біў ботамі. Якубу Беланоўскаму часта накладаў кару, а адзін раз схваціў яго за валасы, біў неміласэрна і цягаў яго ў руках. Дароту Беланоўскую, якая была ўцяжку, рваў за валасы і біў палкай па далоні, баючыся, каб яна не спарушыла дзіцё, а пасьля таго, як яна радзіла, загадаў ёй тынкаваць і бяліць пакоі, а западозрыўшы яе, што яна давала з току жыта мужу, біў яе вілкамі. Габруся Арлоўскага, ня было таго тыдню, каб люта не караў, а за тое, што ён уцякаў упрочкі, апрача пабояў, зробленых яму палкай, загадаў прывязаць вяроўкай за шыю да слупа і біць вяроўкамі бяз літасьці. Андрэя Качароўскага за тое, што ён перанасіў рэчы гаспадара Юркі ў клець, загадаў увязаць рукі і ногі да слупа і біць неміласэрна скручанымі ўдвое вяроўкамі. Тадору Касароўскую біў адзін раз ў захапленьні рукамі і нагамі, пасьля карамыслам, а пад канец абадом ад каляса так моцна, што ледзь яна збавілася ўцёкам“. [3])

[1]) Св. Зак. Рос. Имп. Изд. 1842 г. т. IX, ст. 1018.

[2]) Дело 1002, разные циркуляры относительно угнетения крестьян, л. л. 40 і 52.

[3]) Дело 993. О жестоком обращении помещика Вольчевского со своими крестьянами, л. 11—12.

Памешчык Іван Траяноўскі ў двары Мількі, Дзісьненскага павету, адшукаўшы ў 1840 г. свайго селяніна Фрыца Швэда, які быў зьбегшы ўпрочкі, загадаў увязаць яго ў аднэй кашулі такім парадкам: рукі зьвязаць назадзе, а пасьля ўзяць вяроўкай пад плечы каля пах і падвесіць да вышэйшага бервяна ў асеці так, каб нагамі не даставаў зямлі: „у гэткім катаваньні,—гаворыцца ў скаргах сялян на Траяноўскага,—быў люта пакараны і прабыў (падчэплены) дванаццаць дзён, на працягу якога часу давалі яму страву адзін раз у суткі. Пасьля гэтага быў забіты ў калодку, гэта значыць у бервяно, даўжынёй адзін аршын тры вяршкі, таўшчынёй чатыры з чвэрцю вяршкі, да якога прыроблена жалезная з прабоямі клямка. Вагай гэта калодка адзін пуд два фунты, і ў гэтай калодцы зморany ў асеці Швэд знаходзіўся цэлы тыдзень і малоў у жорнах сырое жыта“.[1]) Гэты-ж самы памешчык такім самым парадкам падвесіў сялянку Буралёву ў кару за тое, што яна з двору ўцякала ўпрочкі. Буралёва аказалася слабейшая за Швэда і праз некалькі дзён, будучы падвешанай, памёрла. Нябожчыцу Буралёву, каб збавіцца ад формальнага сьледзтва, Траяноўскі сам, пры дапамозе сваёй жонкі, укрыўшы ў салому, вывез у лес, дзе і захаваў. Астаўшыся сіратой, дачка Буралёвай Цярэся 14 год была панам забіта ў калодку на пяць дзён і астрыжаны валасы на палове галавы. „Сяляне (гэтага-ж памешчыка), войт Андрэй Скрыпка, сталяр Янка, Мікіта, нямы Якуб Катовіч і жанчына Марыся ад лютых пабояў, падмацаваных пабоямі самога пана Траяноўскага, памёрлі і пахаваны без сьвяшчэньніка“. Дванаццаць сялян, ня вытрымаўшы лютых кар пана, уцяклі з двору ўпрочкі. „Праз жорсткія Траяноўскага абхаджэньні і праз карыстаньні ад тыдню ўсіх бяз вынятку сялян на паншчыне, пакідаючы толькі адну душу ў хаце для дагляду, (сяляне) прышлі да крайняй беднасьці, трываюць недахват хлеба, ня маюць для працы скаціны, а ў некаторых няма нават ніводнай каровы. Будова і хаты паразвальваліся“.[2]) З далейшай перапіскі аб дзеях гэтага пана відаць, што ў кустах быў павешан селянін і зацкавана сабакамі сялянка, хаця сьледзтву гэты ўчынак пана не даведзен.

У двары графіні Ванесьвічовай, Ігуменскага пав., эконом Сядлецкі са сваім дапамоцнікам Шнэйдарам мелі звычай правініўшыхся прыгонных сялян забіваць у калодкі і пасылаць у іх на працу ў поле. [3])

У фальварку Бернатава, Навагрудзкага пав., у 1846 г. пан Лісіцкі біў сваіх сялян, ня гледзячы нават на тое, што вінаватыя былі хворымі. Гэтак селяніна Худабу два разы так моцна пакараў, што пасьля гэтага ён скора памёр. „Лісіцкі загадаў жонцы Худабы пры сьледзтве не казаць праўды, дакляруючы за гэта адпусьціць яе на волю, а за некаль-

[1]) Дело 994. О назначении над им. Трояновского опеки за жестокое обращение с крест., л. 2.

[2]) Ibidem, л. 4—7.

[3]) Дело 1006, л. 138.

кі год да гэтага (сьледзтва), у халодны час, бяз цёплай адзежы, Лісіцкі прагнаў жонку Худабы, якая ў гэты час была ўцяжку і ад гэтага памёрлі яе дзеці", як выводзіць сьледзтва.[1])

Сяляне Бабруйскага пав. в. в. Калюгі і Разьлевічы, жалячыся ў 1849 г. на свайго пана Юрыя Райкевіча, паказалі, „што памешчык Райкевіч наогул ускладае на іх частыя і лютыя кары, б'ючы бізуном, палкай, розгамі і чым ні папала, ад чаго некаторыя з іх страцілі здароўе. Селяніну Анупрэю Тарасэвічу пан выбіў рукой тры зубы, недахват якіх знойдзен сьледавацелем пры абглядзе. Жонку Рыгора Тарасэвіча, Марылю, пабіў моцна тоўстым паленам на жніве жыта, ад чаго тады-ж яна радзіла да часу няжывое дзіця і была хворая ўсё лета... Агрыпіна Васілёва ад пабояў, зробленых панам тоўстым паленам, мае, як аказалася па абглядзе сьледавацеляў, на руцэ сіня-багрыстую пляму, вялічынёй у далонь, і на абодвых плячох па аднаму шраму ў паказацельны палец".[2]) У далейшым з перапіскі па гэтай справе відаць, што памешчык Райкевіч „абцяжарвае сваіх сялян вымаганьнем непамернай працы, дае ім заданьні на працу (урокі) і па сканчэньні іх часта прымушае рабіць у двары іншыя працы да поўначы. Для павялічэньня паншчыны прымушае сялян сілком дзяліць сям'ю, праз што сяляне трацяць магчымасьць абрабляць уласную зямлю і засяваць хлеб у малым ліку, так што ім не хапае на пражытак, а ад памешчыка ня маюць ніякай дапамогі. Ускладае на сялян бяз усякага разбору лютыя кары".[3])

У маёнтку Багушэвічы, паноў Сьвентаржэцкіх, аб якіх ужо гутарка была раней, панскія адносіны да сялян па сваёй жорсткасьці і лютасьці мала мелі сабе роўных; тут білі мужыкоў за ўсякую драбязу. Для характарыстыкі прыводжу, як прыклад, за што каралі сялян. Кары гэтыя, як у большасьці дазволеныя законам, ужываліся, вядома, ва ўсіх дварох. Вось тыя правінкі і кары, якія адзначаны ў Багушэвічах скаргамі сялян: „За выдачы з адрыны сена для коняй 100 ўдараў, за дрэнны дагляд сьвіней 50 udaраў, 30 udaраў (Кавалёнку), але за што ня ведае. Шавец Антон Вашкевіч пакаран два разы: першы раз за тое, што мала зрабіў працы—80 udaраў і другі раз за позны прыём палатна—30 udaраў. Якуб Саковіч быў пакаран 6 раз: за тое, што не накладаў сам інспэктаў—60 udaраў, за палажэньне ў садзе дрэннага дзёрну—50 udaраў, за дрэнае ўстройства ў садзе дарогі—25 udaраў, за неачыстку саду ад травы—20 udaраў, за малы ўраджай трускавак да 50 udaраў палкай і за тое, што ня было ў садзе—30 udaраў дысцыплінай. Ткач Хведар Бубановіч пакараны быў 3 разы: за папсаваньне калаўроту—50 udaраў, за пабег селяніна з в. Задобрына, які трымаўся ў двары—40 udaраў, і за дрэнную паліўку кветак (?). Столяр Казімір Забаронак быў пакараны за тое, што

[1]) Ibidem, л. 188.
[2]) Ibidem, л. 245—246.
[3]) Ibidem, л. 250.

пры яго варце ноччу двара, нашлі скінуты і пабіты сыр; далі яму 100 ўдараў розгамі і за неадшуканьне ў лесе белай крывой бярозы на бар‘ер пакаран 100 ўдарамі, таго-ж самага дню за неадшуканьне тых-жа бярозак—40 ўдараў, за тое, што майстар сталяр Кіслоўскі напіўся п‘янь: —50 удараў. Нічыпар Ляпёшка, які знаходзіўся пры кухні, у гэтым (1850) годзе наказваўся 4 разы: за тое, што старажы, а ня ён, насілі есьці сьвіням—100 ўдараў розгамі, за тое, што капуста, якая знаходзілася пад ключом ахмістрыні, выцекла—50 удараў, назаўтра-ж за тое, што пераначавалі флякі на дварэ—50 удараў і за тое, што ў лапцёх увайшоў у панскія пакоі—30 удараў дысцыпліны. Вінцэсь Філічонак за бязладзьдзе на кухні—80 удараў розгамі, а за тое, што капуста выцекла—40 удараў дысцыплінай, за флякі—50 удараў розгамі. Марцін Сьвірыдовіч за позны прыход на працу—80 удараў розгамі і за гэты-ж правінак назаўтра станавым прыставам пакаран 50 удараў розгамі. Ігнат Круглік за тое, што на паляваньні прысталі коні—100 ўдараў, праз тры дні за тое, што ён пазычыў у сталяра кажух, а яму даў сваю сьвіту—80 удараў розгамі, за тое, што коні былі дрэнна вычышчаны і за позны прыём аўсу—100 ўдараў розгамі. Тамаш Камель за найдзеныя ў мякіне зярняты—100 ўдараў розгамі, за тое, што раніцай выпіў у карчме кватэрку гарэлкі—50 удараў, за прысланую для перагону на гарэлку гнілую бульбу з фольфарку Гануты—100 ўдараў розгамі“.

Селянін Атрасэвіч, праслужыўшы ў двары Сьвентаржэцкіх 5 год, прасіўся, каб яму пан дазволіў жаніцца або пайсьці на службу. Памешчык забараніў яму адно і другое, узяў яго да сябе за кухара і стаў люта караць. Першы раз далі яму 60 розаг за тое, што пані знайшла кухню ў непарадку, 2-гі раз за тое, што ў капусьце, прыгатаванай на зіму, знойдзен зялёны лісток—40 розаг і ў той-жа самы дзень за тое, што мала нашаткаваў капусты, сама пані ўдарыла яго разоў з 20 па твары, загадала яшчэ даць 50 розаг і адправіла на зіму ў вёску. Калі вясной ізноў яго ўзялі за кухара ў двор, на 5-ты дзень загадалі даць яму 20 розаг за тое, што дрэнна рыбу згатаваў, а праз колькі дзён за тое, што ня сам насіў есьці сьвіням, далі 100 розаг, а пакуль рыхталіся біць лазой, сам памешчык біў неміласэрна яго па шчаках так, што кроў цуркам кінулася праз нос і рот.

„Паказаньні дворных людзей і вясковых сялян праконваюць,—гаворыцца далей у справах сьледаваццеля,—што Сьвентаржэцкія часта, асабліва дворных людзей, за самыя нязначныя, можна сказаць, праступкі, і нават за невыкананьне ўрочных прац накладалі кару па 100 ўдараў, у большасьці лазой. Ужывалі да кары апрача лазы палкі і дысцыпліны і білі па твары так моцна, што кідалася кроў праз нос і праз рот. Некаторых каралі па два разы ў дзень“. „Праз доўгі час ад кары ў Балашэвіча, Нічыпара Ляпёшкі і Ігната Кругліка знойдзены пры абглядзе іх цела знакі ад пабояў, а Балашэвіч пасьля кары два тыдні лячыўся ў больніцы“.[1])

[1]) *Дело* 1008, л.л. 58—103.

На Казіміра Казлоўскага зьявілася падазронасьць, што ён адбіў замок у шапе, і за гэта загадалі яго пакараць. Калі прынясьлі для гэтага розгі і сам пан сказаў, што гэтых розаг мала, дык Казлоўскі перад страхам кары, вышаў у адхожае месца і на паяску павесіўся. Угледзеўшы гэта, зьбегліся дворныя людзі і адратавалі яго ад сьмерці. Калі павялі яго на прачкарню, каб за гэта пакараць, ён шмыгнуў з-пад рук і кідаўся ў прорубку на рацэ, але і адтуль яго выцягнулі і даставілі ў панскі двор, дзе запрошаны сьвяшчэньнік праконваў яго, што хрысьціяніну грэшна класьці на сябе рукі. Пасьля быў адпраўлены на бровар, дзе і дадзена прызначаная кара. Селянін Хведар Ляпёшка гэтак сама перад жахам кары вешаўся, але быў адратаваны цівунам Гарасімам і пасьля адданы ў маскалі. Сялянка Агата Блюзьнікова павесілася на гары панскага дому і сьмерць яе прызнана „наступіўшай ад волі божай“. Такі лёс спаткаў і селяніна Забронку. [1])

Ня менш цяжкімі для сялян былі панскія гвалтаваньні прыгонных жанок, дзяўчат і нават дзяцей. Тут панская распуста прымала шырокі размах. На гэта не зьвяртаў, відаць, ніякай увагі і ўрад. Калі ў 1829 г. сяляне пажаліліся на памешчыка Барысаўскага п. Чудоўскага, што ён згвалтаваў 12 жонак, то справу гэту разьбіралі 16 год, хаця і сам памешчык прызнаўся аб сваім дачыненьні да гэтай справы.

Так лёгка было жыць беларускаму селяніну пад панскай „культурнай“ апекай!

Цяжкі нялюдзкі стан прыгонных сялян вымушан быў прызнаць нават Менскі губэрнатар. Пасьля свайго аб‘езду па губэрні, ён у сэкрэтным адносьніку ад 14 верасьня 1843 году, зварочваючыся да павятовых маршалкаў, пісаў: „Пры нядаўным абглядзе маім, высачайша даверанай мне Менскай губэрні, а гэтак сама з ходу спраў і паступаючых да мяне бязупынна скарг ад сялян на ўціск іх памешчыкамі, я з тужлівасьцю ўпэўніўся, што ў гэтай губэрні амаль-што ўсюды існуе нейкае няпрыемнае становішча сялян да сваіх валадароў. Уваходзячы ў прычыны гэтага сумнага зьявішча, я ўпэўніўся, што нездавальненьні пасялян да сваіх памешчыкаў паўстае, часам, ад падбухторваньня злонамераных асоб, але больш за ўсё ад таго, што ўласьнікі перадаюць сваіх сялян у жорсткія рукі грубых і карысналюбівых упраўіцеляў і арандатараў, якія абцяжарваюць іх празьмернай працай, бязьлітасна зьдзекуюцца карамі, ня гледзячы ні на ўзрост, ні на род (пол), ні на хваробу і адмаўляюць ва ўсякай дапамозе да набыцьця неабходных, да падтрыманьня сялянскага быту, рэчаў. Усё гэта робіцца, звычайна, бяз ведама і наўпрэкі волі ўласьніка, і толькі ў некаторых, дробназначных дварох уціск зьяўляецца проста ад памешчыка. У такім становішчы спраў, жудасныя і неаднаразовыя паўтарэньні забойства памешчыкаў сваімі сялянамі і частыя данясеньні

---

1) Ibidem.

па ведамасьці аб здарэньнях, што такі-то селянін памёр, а такая-то сялянка ўцяжку спарушыла або налажыла рукі на сябе ў выніку лютай кары за малаважныя праступкі, зьвярнулі на сябе ўвагу ня толькі вышэйшага начальства, але і самога гасудара-імпэратара і пагражаюць паставіць Менскае дваранства ў вышэйшага правіцельства ў нявыгодны, у кірунку іх упраўленьня сялянамі, погляд".[1]) Далей, тлумачачы нявыгоднасьць і рызыкоўнасьць для паноў уціскаць сваіх сялян, з настойлівасьцю прапануючы павятовым маршалкам зьвярнуць на гэта ўвагу, губэрнатар дадае: „што абцяжараньне сялян лішняй працай часта здараецца ад неправіловага разуменьня закону, які быццам-бы дазваляе карыстаць сялян на панскую працу ў тыдзень на тры дні з душы, калі закон пазваляе карыстаць сялян для працы на тры дні ў тыдзень ня з душы, а з цягла, гэта знача, з сталага і надзеленага цяглаю зямлёй работніка"[2]).

Жывучы заўсёды пад жахам лютых кар, адны з сялян уцякалі ўпрочкі, куды вочы глядзяць, другія ў помсьце палілі панскія сядзібы і забівалі паноў, а некаторыя, не пераносячы такога жыцьця і ня бачачы нічога лепшага ўперадзе, накладалі на сябе рукі, каб збавіцца назаўсёды ад пякельных мук за панскім прыгонам. Справы аб „угнетеніі крестьян помешчікамі" поўны паказаньняў аб самагубствах сярод прыгонных сялян. У большасьці адзначаецца вешаньне, хаця прыводзяцца выпадкі перарэзваньня горла, тапленьня і інш. Афіцыйныя паведамленьні, якія, трэба думаць, далёка не абхопліваюць усіх выпадкаў самагубства, паказваюць вялікую лічбу, перад якой урад ня мог заставацца спакойным. Праўда, урад не хацеў поўнасьцю ўзлажыць віну за самагубства сялян на іх паноў, а тлумачыў, што самагубства здараецца ад „задумчывасьці" сялян і іншых прычын, хаця ў той-жа час ня мог ня прызнаць, што ў гэтым вінаваты часткай і паны.

Віленскі ваенны гэнэрал-губэрнатар у 1836 годзе пісаў Менскаму маршалку дваранства: „У ведамасьцях пра здарэньні заўважваюцца многія сьмяртэльныя выпадкі між сялян Менскай губэрні, якія здараюцца ад пабояў управіцеляў і памешчыкаў"... Далей рэкомэндуецца „зьвяртаць, на колькі можна, больш увагі на паступкі памешчыкаў або ўправіцеляў з сваімі сялянамі, і на выпадак прымечаных з боку паноў недазволеных учынкаў, ужываць законныя меры да папярэджаньня іх"[3]). У гэты самы час Менскі губэрнатар пісаў да павятовых маршалкаў: „З даходзячых да мяне вестак аб здарэньнях і сьледзтвеных справах, я ўглядаю, што панскія сяляне амаль-што выключна і вельмі часта памыкаюцца на сваё жыцьцё. У некаторых з гэтых выпадкаў прычынай да гэтага праступку было

[1]) Дело 1002, л. 32.

[2]) Ibidem, л. 33. Відаць губэрнатар дрэнна разьбіраўся з існуючымі на Меншчыне правамі прыгону.

[3]) Дело 1009. Об угнетении крестьян и о взятии за то имений в опекунское управленіе, л. 48.

лютае абхаджэньне некаторых памешчыкаў і іх управіцеляў з сялянамі. Ня спыняючыся ва ўгоне віноўных, я лічу патрэбным запрасіць Вас, ласкавы пане, адчуваць па абавязку Вашаму з боку памешчыкаў і ўласьнікаў усе прычыны да гэтых няшчасных выпадкаў".[1])

Але гэткія загады адміністрацыі, само сабою, ня спынялі і не маглі спыніць самагубствы прыгонных людзей. 21 мая 1838 г. Менскі губэрнатар ізноў зварочваецца да павятовых маршалкаў з сэкрэтнымі адносьнікамі. Вось гэты цікавы дакумант поўнасьцю: „У данясеньнях пра здарэньні і з рэвізіі крымінальных спраў аказалася, што ў Менскай губэрні здарылася 80 самагубстваў у 1836 г. і 84—у 1837 г. З гэтых самагубстваў 111 здарылася ў панскіх дварох. Гэткае страшэннае параўнаньне праконвае мяне ў неабходнасьці зьвярнуць Вашу, ласкавы пане, увагу на ўпраўленьне дварамі памешчыкаў. Жорсткае абхаджэньне ўласьнікаў або іх управіцеляў і апошняя ступень распусты або крайняя беднасьць сялян могуць іх, па маёй думцы, даводзіць да самагубства. Сьледзтва, якія вядуцца аб самагубствах, паказваюць, што праступкі гэтыя ў некаторых мясцох здарыліся з прычыны пакараньня, *вельмі ў многіх (мясцох) ад аднаго жаху пакараньня* (курсіў мой. М.), у другіх ад п'янства, а часам ад задумлівасьці (мэлянхоліі). Апошнія тры выпадкі часьцей за другія спатыкаюцца ў справах гэтага роду".

„Жадаючы даставіць п. п. павятовым маршалкам дваранства больш спосабаў да нагляду за ўпраўленьнем сялянамі, я, разам з гэтым, прадпісаў аб дастаўленьні ім неадкладна вед аб усіх самагубствах, якія могуць уперадзе здарацца ў панскіх дварох, бяз вынятку з гэтага і арандатараў двароў, а Вас, ласкавы пане, прашу зьвярнуць на гэта ўвагу і, паведаміўшы мне цяпер-жа заключэньне ваша аб прычынах такога частага аднаўленьня самагубства паміж прыгоннымі сялянамі, пры ўсякім падобным выпадку, незалежна ад дасьледаваньня, старацца адкрываць праўдзівы повад да прыступленьня, які можа, часам па недастатку ўлік або па ўплыву на апытываемага ўласьніка, ухавацца ад сьледавацеля. За ўвагі Вашы і меры па спыненьню гэтага зла, якія вы прымаеце, не адкажэце мне паведаміць датычна кожнага асобнага выпадку".[2])

Урад быццам стараўся спыніць самагубства прыгонных сялян, адшукваючы запраўдныя прычыны. Але, не зачэпліваючы „сьвяшчэнных праў" памешчыка над людзьмі, якім „прыродай дадзена" служыць і пакарацца паном, адшукаць гэтых прычын не маглі і не хацелі. Усякія прадпісаньні губэрнатара маршалкам дваранства прымаліся да ведама і адшукваліся „праўдзівыя повады" самагубства, дзе віноўнымі былі не памешчыкі, а сялянская „задумлівасьць", „п'янства" і „распуства". Панскі дэспотызм і барбарства мелі поўны прастор пад апекай царскага ўраду, а сялянская бедната вымушана была накладаць на сябе рукі.

[1]) Ibidem, л. 47.
[2]) Дело 1002, л. 23.

## III. Сьледзтва па скаргах сялян.

Законамі таго часу забаранялася ад прыгонных сялян прымаць якія-небудзь на іх уласьніка даносы, апрача: 1) аб здрадзе і аб замерах на царскае жыцьцё і 2) аб прыпісных у рэвізію па двары іх памешчыка душах. [1]) На падставе гэтага закону ўсякі селянін, які адважыцца жаліцца на свайго пана, павінен нясьці адказнасьць. Ня гледзячы на гэта, многія сяляне прастадушна верылі, што калі іх скарга дойдзе да вышэйшага начальства, то яно разьбярэ крыўду сялян і не дапусьціць іх у абіду пану. І селянін, не зважаючы на ўсе перашкоды і цяжкасьці, як напісаць заяву, адлучыцца з двара, занесьці гэту заяву часам аж у Менск, ведаючы, што і за адлучку з двара і за скаргу на пана ён, перш чымся разьбяруць яго заяву, панясе кару,—а усё-ж-ткі завальваў скаргамі ўрадавыя ўстановы. Але ўрадам прымаліся ўсе меры, каб не дапусьціць сялян да прынашэньня скарг на сваіх паноў. Павятовыя маршалкі абавязвалі памешчыкаў падпіскамі, што яны „ні пад якім выглядам“ не дапусьцяць сваіх сялян прыносіць на іх скаргі. [2]) І памешчыкі, вядома, зьдзекуючыся над сваімі сялянамі, мелі пэўную магчымасьць не дапусьціць сялян жаліцца на іх. У сьледзтвах часамі гаворыцца, як аб незаконным злачынстве сялян—збор грошай на напісаньне заявы, бо самі сяляне былі няпісьменнымі і заяву трэба было напісаць у якога-небудзь пісара. Напісаць заяву сялянам, даць ім раду ў іх справе гэтак сама лічылася шкоднай для дзяржавы справай. Такіх пісароў шукалі і, калі ўдавалася іх адшукаць, на іх, у адміністрацыйным парадку, накладалі кару, садзячы часам у вастрог. З погляду ўраду, дзейнасьць гэтых людзей была шкодная, накіраваная да падрыву панскай улады над сваімі сялянамі. Па прынятых заявах урад часам рабіў сьледзтвы. Для сьледзтва пасылаўся або ўрадавы чыноўнік, або жандарскі афіцэр, а часьцей за ўсё сьледзтва вялі павятовыя маршалкі. Як вялося сьледзтва па скаргах сялян—відаць са сьледзтва, якое было зроблена ў 1857 г. Барысаўскім павятовым маршалкам на скаргу сялян вёсак: Упіровічы, Зарэчча і Гліўны, якія жаліліся на свайго пана Сьвіду. Сяляне даводзілі: 1) што памешчык, падзяліўшы ўвесь двор на часткі, налажыў на іх цяжкія павіннасьці, якіх нельга моцнымі сіламі выпаўніць, да таго цяжкія, што служачы ўсёй сям'ёй, ня могуць выслужыцца пану і праз гэта ня маюць часу сабе заараць хлеба; 2) што сельскі, запасны, хлебны збор бярэцца ў іх бяз ліку; 3) што ў іх узята ўся лепшая ворная зямля і сенажаці, а ўзамен дадзены балота і кусты; 4) што ў лік падаткаў бярэцца ад кожнай мужчынскай душы па 5 руб. у год; 5) што вынікам такога ўпраўленьня яны даведзены да крайней беднасьці, пазбаўлены ўсіх даўных праў, церпяць недастачу харчу і

[1]) Св. Зак. Рос. Имп. ізд. 1842 г., т. IX ст. 952.

[2]) Дело 1006, л. 77.

пераносяць вельмі цяжкія цялесныя кары не дзесяткамі, а сотнямі і 6) даюць пану нязьмерную даніну.

8 чэрвеня 1857 г. павятовы маршалак, выехаўшы на месца і на другі дзень загадаўшы прысьці да яго тым васьмі сялянам, якія падпісалі заяву, „праведаў", „што сяляне ў загаворы і, стараючыся распаўсюдзіць гэты загавор, паслалі па вёсках сваіх давераных з нейкімі папярэдзінамі, а двое адправіліся ў вёску Навасёлкі пана Гэнрыка Сьвіды, сяляне якога ня прымалі ўдзелу ў жалабе, пададзенай яго высочаству. Затым, 9 чэрвеня а 10 гадзіне раніцай зьявіліся гуртом усе сяляне Глівіна з жанкамі і дзяцьмі, а з імі ўжо і сяляне вёскі Навасёлкі, лікам да 200 чалавек і на пытаньне: зачым сабраліся ўсе без загаду?—адказвалі рашуча, што яны ўсе маюць адну справу, а на маё запатрабаваньне зьявіцца да распросу тым толькі 8 чалавекам, якія падпісаны пад заявай, усе гучна адклікнуліся, што тыя людзі да дапросу па аднаму ня пойдуць і яны ўзяць іх не дазволяць. Дамагаліся, каб былі названы і распытаны разам з імі сяляне з Упіровіч і Зарэчча, як ужо не адзін раз быўшыя і спрактыкаваныя ў падобных справах".

„Убачыўшы з гэтага яўны загавор, з агіднасьцю (пренебреженіем) да маёй улады ды нарушэньнем парадку і цішыні, я, маючы на ўвазе высачайшае павяленьне... аб адсуваньні памылковых думак, што панскія сяляне будуць вольнымі ад прыгону, патрабаваў дапамогі земскай паліцыі. Але калі 11 чэрвеня прыехаў земскі спраўнік, то сяляне двара Глівіна і далучаныя да іх сяляне двара Краснага, пана Гэнрыка Сьвіды, якія з 9 чэрвеня не расходзіліся ўжо з вёскі Глівіны; усё-ж тых 8 сялян двара Глівіна, якія падпісаліся пад заявай, пасланаму за імі пасланцу ня выдалі, а йзноў, разам з імі, жонкамі і дзяцьмі зьявіліся вялікай грамадой у двор. Не зважаючы на гэта, загадана было выступіць з кругу тым, якія падпісалі заяву, але ўсе зьняважліва і гучна адклікнуліся, каб пытацца ўва ўсіх разам на двары, а да адзіночнага дапросу ніводнага не дадуць... што панскімі ня будуць, а маюць надзею быць казённымі... Пасьля ўсіх настойных даводаў, напамінаньняў і папярэджваньняў аб законнай адказнасьці за супярэчнасьць уладзе, аб'явілі аднагалосна, што ні на вошта ня згодзяцца і гатовы стаць вязьнямі ў турме і перанясьці кары. Бачачы такое яўнае абурэньне, каб вывесьці іх з ліхіх думак духоўным угаворам, быў патрабаваны мясцовы сьвяшчэньнік, але сьвяшчэньнік знаходзіўся ў карчме з некалькімі простымі людзьмі і, пасьля трохразовага запрашэньня, зьявіўся толькі тады, калі сяляне вышлі з панскага двара ў карчму. Прабыўшы ў карчме некаторы час, сяляне адправіліся грамадой у двор Зарэчча і Упіровічы, дзе ўзяўшы сілком з-пад людзкога нагляду, сабраных па майму загаду, для распросу людзей, усе вярнуліся йзноў у Глівінскую карчму, толькі шмат ужо большай гурмай. Пры гэткіх абставінах, якія здарыліся зусім нечакана, дапаручанае мне дазнаньне прыняло характар справы ўгалоўнай, якая была падведзена пад

супраціўленьне законнай уладзе, злучанай (сопряженной) з загаворам, дзе заўважана і тайнае падбухторваньне. Дзеля гэтага на аснове 173 ст. XIV т. Св. Зак. статуту аб папярэджаньні і перасячэньні злачынстваў, запатрабавана была дапамога Барысаўскай інваліднай каманды. Пасьля таго, як прыбыла каманда і прывялі сялян двароў Глівіны, Краснага, Упіровіч і Зарэчча ў панскі двор пад конвоем, то сяляне двара Зарэчча і Ўпіровічы, у ліку 45 чалавек, выдучы з кругу, прыкідваючыся, аб'явілі, што з іх да ўдзелу да падачы жалабы на сваіх паноў, (?) [1]) а ўсе ў загаворы, падтрымліваць гэта „*мирское дело*“ (курсіў быў), уцягнуты сялянамі Глівіна настойлівасьцю, устрашэньнем і нават біцьцём. А для гэтага, ня бачачы ўжо ў іх яўнага супраціўленьня законнай уладзе, былі адпушчаны дамоў для далейшага сьледзтва. Мясцовыя глівінскія і красьнянскія сяляне, астаўшыся пры сваёй упартасьці, затрыманы пад конвоем. Тыя-ж, якія былі запрымечаны ў вялікім дачыненьні да падтрыманьня шкодных уражаньняў, няпраўдзівых разуменьняў, былі памяркоўна пакараны розгамі“.

„Пры такіх дзеях усе супакоіліся і страцілі дух недаверлівасьці і ўпартай самастойнасьці проці законнай улады. Разам з гэтым зьявіліся ў сялян узаемныя супярэчкі і яўныя ўжо рашучыя ўсьведамленьні аб тым, што старадаўныя іх мары аб вызваленьні з-пад панскай улады ня маюць пад сабой падставы“.[2])

Скончыўшы, такім парадкам, сваё „сьледзтва“ і разабраўшы скаргу сялян, маршалак прыняўся адшукваць „вінавайцаў“ і тых прычын, адкуль магла ўзяцца ў сялян думка аб вызваленьні іх з-пад панскай няволі. Маршалку ўдалося даведацца, што гэта злачынная думка трымаецца ў сялян з даўнейшых часоў, што ніякія кары, высылка ў Сібір вінаватых „ня мелі моцы выкараніць гэтай думкі і жаданьняў, якія падтрымліваліся старэйшымі людзьмі“ [3]) і яшчэ нечакана даведаўся, што гэту думку ў сялян падтрымлівалі дзяк Багаткевіч і швагер яго, дваранін Марціноўскі, якія, апрача гэтага, падбухторвалі сялян, пісалі ім скаргі на паноў і давалі раду, як трымацца пры дапросах. Выкрыўшы гэткія праступкі, маршалак, як „законная ўлада“, Багаткевіча, Марціноўскага і селяніна Вяржбіцкага адправіў у вастрог.

Разглядаючы матар'яльны стан сялян і ўзаемаадносіны з панамі, маршалак знаходзіць, што сяляне надзелены зямлёй добра, прыгон, чынш, даніну даюць па зацьверджанаму інвэнтару і што жывуць яны ня горш за сваіх суседзяў. Што датычыцца кар, то маршалак знайшоў іх нават слабымі пры такой упартасьці сялян. Адным словам, асталіся вінаватымі ва ўсім прыгонныя сяляне, а памешчыка, калі і можна абвінаваціць, дык толькі ў тым, што ён, пры сваім „благонравственном“ ухіле, надта мякка абыходзіцца са сваімі сялянамі.

---

[1]) Слова ў аўтэнтыку прапушчана.

[2]) Дело 1006, л. 334—336.

[3]) Ibidem, л. 337.

Канчаючы сваё сьледзтва, маршалак дадае: „за такія бязупынныя нарушэньні спакою і цішыні, з нанясеньнем бязьвіннага на пана паклёпу перад начальствам і публікай, што робіць шкодны ўплыў на цэлую акругу, за сьмеласьць клапаціць такой бязгрунтоўнай і недарэчнай просьбай яго імпэратарскае высочаства, вялікага князя Мікалая Мікалаевіча, неабходна ўжыць рашучыя меры, якія павінны зрабіць уплыў ня толькі на самых галоўных падбухторшчыкаў і зачыншчыкаў, але і на ўвесь сялянскі стан, без чаго нельга спадзявацца выправіць іх закаранелай упартасьці“. [1])

Як бачым з прыведзенага разбору сялянскіх скарг, урад не задаваўся мэтай выясьніць запраўдныя прычыны цяжкага жыцьця народу,—ён іх і так ведаў, але стараўся лішні раз напомніць сялянам, што паны іх поўныя валадары. Можна думаць, што пасьля скарг і іх разбору, памешчык, каб памсьціць сялянам, пачынаў яшчэ ў большай меры зьдзеквацца і катаваць сваіх паднявольных. У большасьці выпадкаў сьледзтва знаходзіла скаргі сялян не даведзенымі. Часта памешчыку давалася права пакараць сялян, якія „няпраўдзіва“ жаліліся на яго, „выкарыстаўшы дамашнія сродкі, але без калецтва... каб утрымаць правы памешчыка і ўтрымаць сялян у пакорнасьці і добрым парадку“. [2]) Толькі тады, калі ў дадатак да скарг сялян процi памешчыка маюцца якія-небудзь іншыя абвінавачаньні, як лішні доказ, прыводзяць і абвінавачаньні ў зьдзеках над сялянамі. І саўсім ня дзіва, што ў многіх выпадках сяляне перад сьледзтвам адракаюцца ад сваіх скарг і паказваюць так, як трэба пану. Пры сьледзтве ў двары „Горволя“ адмечана, што „кіраўнічы Пашчанка трымае сялян у такім страху, што пры ўчыненьні сьледзтва па справе аднаго жыда, аб забранай у яго Пашчанскім скаціне, ад страху перад карай, сяляне няпраўдзіва прысягнулі, паказаўшы, што скаціна падохла, тады, калі гэта скаціна знаходзілася наліцо між панскай скацінай“.[3])

## IV. Мары аб волі і барацьба з імі ўраду.

Прыгонныя сяляне на Меншчыне ўвесь час падтрымлівалі думку пра волю, што вельмі клапаціла ўрад.

Урад Мікалая I павёў самую рашучую барацьбу з гэтымі „злачыннымі“ думкамі, якія захаплівалі і хвалявалі сялянскую масу. Грунтуючыся на данясеньнях начальнікаў губэрань, якія сьведчылі аб усё большым пашырэньні сярод сялян чутак і гутарак аб волі, 12 мая 1826 г. Мікалай I выдаў указ, у якім даводзіў: „што ўсякія гутаркі аб звальненьні казённых пасялян ад платы падаткаў, а панскіх сялян і дворных людзей ад павіннасьці іх сваім паном, ёсьць чуткі няпраўдзівыя, выдуманыя і распаўсюджаныя злоўмыснымі людзьмі“. Калі з-за такіх выдуманых

[1]) Дело 1006, л. 340.
[2]) Дело 1006, л. 161.
[3]) Ibidem, л. 274.

чутак казённыя пасяляне будуць адказвацца плаціць падаткі, а панскія сяляне будуць адказвацца слухаць законную ўладу, то з такімі сялянамі прапанавалася ўказам распраўляцца па ўсёй строгасьці законаў. А дзеля таго, што сяляне ня толькі гаварылі, але, паддаючыся гэтым чуткам, зварочваліся з заявамі і просьбамі да вышэйшай улады, то цар, ведаючы, што сяляне няпісьменныя, загадаў „сачыніцеляў або пісацеляў такіх просьб, як абурыцеляў агульнага спакою, аддаваць пад суд і кару па ўсёй строгасьці законаў“.[1]) Каб гэта царская воля была ведама ўсяму народу, загадана было ўказ царскі чытаць народу паўгода ў царквох, на таргох, кірмашох і да г. п. мясцох зборышча.

Урад стараўся ў корані спыніць усякія чуткі і гутаркі аб волі і для гэтага прымаў самыя рэпрэсыўныя меры. Але і самыя строгія ўрадавыя меры не маглі спыніць народнага жаданьня вызваліцца з-пад панскай няволі, не маглі згаснуць мары ў падданых людзей аб лепшай сваёй долі. Жыцьцё за прыгонам штурхала настойна шукаць яе, бо жыць так было немагчыма.

17 мая 1830 г. Менскае губэрскае праўленьне разглядала цыркуляр Міністэрства Ўнутраных Спраў № 1228, дзе гаварылася, „што з некаторага часу людзі „неблагонамеранныя“ або распушчанныя, пачалі, падобна многім папярэднім прыкладам, распускаць чуткі аб замерах ураду даць сялянам волю“. Па загаду цара прапанавалася Менскаму Грамадзянскаму губэрнатару прасьледваць самым строгім чынам усіх тых, хто падобныя няпраўдзівыя чуткі будзе распаўсюджваць, прымаючы разам з гэтым і самыя дзейнейшыя меры да спыненьня драбнейшых адзнак непаслухмянства сялян сваім паном“. Менскае губэрскае праўленьне, разглядзеўшы гэты цыркуляр, прыняло рашучыя крокі для змаганьня з чуткамі аб волі. Быў разасланы цыркуляр ва ўсе ўстановы, ва ўсе прыходы з прапановай давясьці да ведама аб гэтым сялянам і змагацца ўсімі магчымымі сродкамі. [2])

Думкі аб волі больш за ўсё распаўсюджвалі ўцёклыя сяляне, каторыя, ходзячы па сьвету, маглі самі шмат чаго чуць аб долі сялян і перадаваць другім. Гэтыя людзі, вырваўшыся з-пад панскага прыгону, маглі прымаць актыўнейшы ўдзел ў паўстаньнях проці паноў, якія на Беларусі здараліся вельмі часта. У 1841 г. Магілеўскі губэрнатар паведаміў сэкрэтнай паперай Менскага губэрнатара, што па Магілеўшчыне затрыманы сяляне Рэчыцкага павету і паведамляў аб шкодных чутках, якія распаўсюджваліся сярод сялян Магілеўшчыны. [3]) Справа гэта мусіць прымала на столькі сур'ёзны характар, што Менскі губэрнатар, перасылаючы

---

[1]) Царскія ўказы на 1826 г.

[2]) Дело 1002, л. 12.

[3]) Дакумант гэты быў прысланы маршалку дваранства толькі на прагляд і вернут апошнім назад Менскаму губэрнатару. Веды аб гэтым прыводзяцца па другіх паперах.

гэту паперу маршалку дваранства на прагляд дадаваў: „З гэтай паперы вы добра ўгледзіце, якія адгэтуль родзяцца няпрыемныя вынікі“. Далей рабілася прапанова паведаміць усіх павятовых маршалкаў, „каб яны асьцерагаліся і не набылі сабе законнай адпаведнасьці“. [1])

Яшчэ раней гэтага рэчыцкі земскі іспраўнік данёс менскаму губэрнатару, што ў Рэчыцкім павеце, дзякуючы чуткам аб волі, адзін селянін уцёк ад свайго пана. Пасьля таго, як гэты селянін ізноў вярнуўся да свайго пана, іспраўнік „строга намовіў і ўразуміў яго а правох уласнасьці паноў, і, апрача гэтага, аб наглядзе за ўсякімі „оборотами“ і „толками“ сялян, запрапанаваў па сэкрэту станавым прыставом і намовіў паліцэйскіх служачых, каб яны не дапушчалі найменшага вандраваньня (сялян) і ўраз-жа спынялі ўсе шкодныя вынікі належачымі мерамі на першым кроку“. [2])

Гэтая мера іспраўніка вельмі спадабалася губэрнатару. Трэба было з дапамогаю паліцэйскіх мер спыніць „шатательство“ сялян, трэба было забараніць сялянам розных двароў спатыкацца паміж сабой, каб ня даць магчымасьці злучанымі сіламі паўставаць проці сваіх паноў. Трэба было ўсякія гутаркі, якія падтрымлівалі мары народу аб волі, усімі магчымымі мерамі ўраз-жа спыняць. Сродкі, якія былі ўжыты рэчыцкім паліцэйскім іспраўнікам, былі губэрнатарам запрапанаваны ўсім павятовым маршалкам, „каб спыніць беспарадкі, якія могуць здарыцца з боку „*затейливых*“ і вельмі лёгкаверных, у тутэйшым краі, простых людзей“. [3])

Але, ня гледзячы на ўсе гэтыя меры, сялянства выбірала шлях к вызваленьню выключна праз паўстаньні.

[1]) Дело 1009, л. 59.
[2]) Ibidem, л. 57.
[3]) Ibidem, л. 55.

# НЯМЕЧЧЫНА 1924 г.

*(З уласных уражаньняў)*

**С. Вольфсон**

Я ехаў у Нямеччыну пасьля дзесяцёхгадовага нябыцьця.

Я пакінуў яе ў той дзень, калі выбухнула дзесяцёхгодзьдзямі сьпеючая ў нетрах нямецкага імпэрыялізму стыхія—у дзень абвяшчэньня вайны. Я варочаўся ў яе ў адзін з тых дзён, калі Нямеччына вырашала заданьне, якое адзін з яе здольных публіцыстых не без сарказму азначаў так:

„У гэтыя дні мы павінны будзем разьвязаць квадратуру кругу: мы павінны выявіць, што лепей, што прыямней і што больш экономна—калі нашы ворагі будуць забіваць вечка труны, у якой на доўгія гады пахавана наша будучае, або ўзяцца за гэтае нам самім“...

У працягу гэтых 10-ёх гадоў—1914-1924—гістарычная хваля несла Нямеччыну на грэбені перамогі, яна-ж і разьбіла яе аб усхон паражэньня. У працягу гэтых гадоў Нямеччына зламала два дзесяткі тронаў, перажыла цяжэрны гаспадарчы заняпад, перанесла грашовае банкроцтва і шмат разоў асьвячалася полымем клясавай барацьбы.

Ну дык як-жа зьмянілася за гэты час Нямеччына? Як глыбока прасачыўся ўплыў гэтага, ніколі нябывалага па свайму гістарычнаму балянсу дзесяцёхгодзьдзя ў нутро нямецкай дзяржаўнасьці, як глыбока зачэплены ім народныя нетры, быт, культура? Што, адным словам, уяўляе сабой Нямеччына сягоньнешняга дню—Нямеччына 1924 г.?

* * *

Я раней за ўсё спынюся на соцыяльным быце Нямеччыны.

Шматвяковыя ўстоі сямейнай, рэлігійнай, этычнай традыцыі ня зьменены мінулым дзесяцёхгодзьдзем і калі можна заўважыць некаторыя значныя зьмены, дык гэта ў адносінах да быту *соцыяльнага*.

Соцыяльны быт Нямеччыны, бяз ніякіх сумненьняў, значна зьмяніўся пад уплывам дэмілітарызацыі.

Той, хто бываў у Нямеччыне да вайны, добра ведае, які адбітак на ўвесь яе воблік накладвала ваеншчына. Воблік нямецкай дзяржаўнасьці быў перш за ўсё воблікам воінскім; армія концэнтравала ў сваім камандным апараце вярхі кіруючай клясы. Афіцэрства было замкнутай,

прывілегаванай кастай нават сярод свае клясы. Парады, манэўры, дэфіляваньне войска былі галоўным любаваньнем бэрлінскай грамады, выклікалі ўрачыстыя настроі духу ў кожнага нямецкага філістэра.

Цяпер Нямеччына ня мае арміі, няма парадаў і манэўраў. Усяго зрэдзь, будзячы ўспаміны мінулага, пройдзе па вуліцах сталіцы рота рэйхсвэру. Тагды цісну́цца да вакон усіх паверхаў абываталі й абываталькі, ліс́ліва праводзячы вачыма адбіваючых такт рэйхсвэраўцаў, часамі памахваючы ім белымі хустачкамі і выкрыкваючы „гох!“ Крага арміі часамі прымае комічныя формы. У верасьні гэтага году ў Бэрліне адчынілася выстаўка алавяных салдацікаў. Дваццаць тысяч алавяных салдацікаў напамінаюць аб мінулым і заклікаюць да будучага. Прынц Оскар і гэнэрал фон-Сандэрс адчынялі выстаўку алавяных салдацікаў. Алавяных, бо жывых няма...

Нямеччына дэмілітарызована, а разам з дэмілітарызацыяй зьнік і вядомы нямецкі шуцман. Зьнік не як такі, а як тып. Гэта-ж быў сапраўды клясычны тып: статны выгляд, магічныя жэсты, корсэтападобны мундзір, аблізаная беласьнежнай лайкай усёўказуючая рука, густа нафабраныя, сторчма накірованыя ўгору—пад кайзэра—вусы і востраканцовая бліскучая каска. Тып шуцмана—красы і гонару старой Нямеччыны, беспадобнага ўзору палісмэнаў і гарадавых усяго сьвету—больш ня існуе. Немец ужо не гаворыць таго слова „шуцман“, якое вымаўлялася ім з пэўнай павагай і пашанай. Зьявілася новае слова, менш ганаровае, менш паважанае—„шуц“. „Спытайце ў „*шуца*“—гэтак называюць наступніка клясычнага шуцмана—23-гадовага юнака, хілага, нявысокага, пасьпеўшага ў свой час ужо паляжаць у вакопах, адзетага ў мешкаватае зялёнае адзеньне.

Калі шуцмана называлі сымболем нямецкай імпэрыі, то гэты сымболь зьнік разам з імпэрыяй. Але, пэўна, гэта адзін з тых нешматлікіх сымболяў старога рэжыму, якія падзялілі яго лёс.

Вуліцы гарадоў нямецкай рэспублікі носяць імя тварцоў і кіраўнікоў імпэрыі. Іх імёнамі пастарому асьвечаны тэатры, бібліотэкі, музэі. Дух кайзэраў, гэрцогаў, прынцаў, гэнэралаў, каралеўскіх міністраў вітае над пляцамі і вуліцамі нямецкіх гарадоў, як ён вітаў над імі і 20 гадоў таму назад. Шматлікія помнікі рухнуўшага рэжыму аздабляюць сабою ўсю Нямеччыну. Чыгунныя Фрыдрыхі і бронзавыя Вільгэльмы, як і даўней, глядзяць на сваю вотчыну. Я не кажу аб помніках мастацтва і помніках, якія маюць гістарычную каштоўнасьць, але рука рэволюцыі не паднялася на ніводную з тых статуй, адзінная вартасьць якіх усяго ў тым, что яны сымболізуюць адданасьць зьнікшаму рэжыму.

Далей. Знаходзячыся ў Нямеччыне, вам каштуе вялікіх усілкаў пазнаць, які дзяржаўны сьцяг нямецкай рэспублікі. Канстытуцыя ўхваліла сьцяг чорна-чырвона-залатога колеру—у памяць рэволюцыі 48-га году,

але значная частка жыхарства „бойкотуе“ гэты сьцяг і карыстаецца чорна-бела-чырвоным сьцягам скінутай монархіі.

Ось тыя парадоксы, якімі абвеена палітычнае жыцьцё рэспублікі, якая не пасьмела назваць сябе рэспублікай. І ці-ж гэта не найвялікшы з парадоксаў, што ў констытуцыі нямецкай рэспублікі ні разу не ўпамінаецца слова „рэспубліка“: яна ўжывае выключна тэрмін „Reich“—дзяржава. І не адзін з юрыстых змушаны над гэтым стыдлівым тэрмінам мудрыць на манер Чычыкава, які стараўся азначыць пры спатканьні з Плюшкіным: „ан дзед, ан баба?“ Ан рэспубліка, ан монархія?..

„Рэспубліка без рэспубліканцаў“, сказаў калісьці пакойны Вольтэр. Ратэнау, у мяне засталося ад Нямеччыны зусім суцэльнае ўражаньне, ні як аб рэспубліцы без рэспубліканцаў, а як аб імпэрыі без імпэратара. Найрэакцыйнейшы з нямецкіх пісьменьнікаў новага часу Освальд Шпэнглер абмовіўся ў адным з сваіх артыкулаў ядавітым словам: „У нас рэспубліка—гэта не дзяржаўная *форма*, а дзяржаўная *фірма*“. Так, Шпэнглер праў. Рэспубліка—гэта фірма, якую прыняла Нямеччына; гэта фірма, з якога магнацка-банкаўска-фабрыканская меншасьць краю павінна лічыцца ў сувязі з замежнай сітуацыяй і боязьню ўзрыву пры патугах рэстаўрацыі. Рэспубліка—гэта фірма, якую бяз усякіх цэрэмоній, самым наглым спосабам, паносіць экономічна-пануючая меншасьць Нямеччыны.

Нямецкая рэволюцыя не разарвала ніводнай з тых вобрацей, якім і доўгія гады кілзалася псыхіка абываталя, і затым так мала зьмяніўся надворны тэмп нямецкага жыцьця: тая-ж тэхнічная наладжанасьць, той-жа бездакорны парадак, той-жа аўтоматызм, пунктуальнасьць.

Але з гэтай—падкрэсьліваю—надворнай гармоніяй затаены вялікія зьмены ў норавах.

Гэтыя трэшчыны, бязумоўна, ужо псыхолёгічныя прадпасылкі рэволюцыі, а псыхолёгічны вынік, эфэкт дзесяцёхгадовай вайны, рэволюцыі, экономічнага заняпаду.

Клясычная нямецкая сумленнасьць карысталася сусьветнай заслужанай вядомасьцю. „Сумленны, як немец“, гаварылі мы.

Дык вось ад гэтай нямецкай сумленнасьці мала што засталося ў выніку пераржытага. Ужо на пагранічнай станцыі Эйдкунэн вас спатыкаюць вельмі сьцiслыя, але даволі выразныя плякаты — „сьцеражыся зладзеяў“. Гэтыя плякаты за вамі сочаць па ўсёй Нямеччыне — ва ўстановах, магазынах, музэях, бібліотэках. Наколькі гэтыя плякаты шматлікія, сьведчыць карыкатура, якую я бачыў у Ulk'е. Намалёваны габінэт дырэктара бэрлінскай крымінальнай паліцыі, а на сьцяне плякат „сьцеражыся зладзеяў“.

І плякаты, няйначай, не здарма дазволены. Калі я пакінуў паліто ў пярэдняй пансыёну, у якім я спыніўся, дык гаспадар пансыёну прынёс мне паліто са словамі: „Ведаеце, так спакайней — цяпер-жа новыя часы“.

„Новыя часы“ як мае быць падмылі нямецкую сумленнасьць. На гэльдэльбэрскім конгрэсе нямецкіх юрыстых, які адбываўся ў палове ве-

расьня было паведамлена, што лік праступкаў супроць маемасьці і асобы ў Нямеччыне за 1923 г. у $12^1/_2$ раз перавышае такія-ж праступкі за 1913 г. Гэты коэфіцыэнт крымінальнай статыстыкі кажа шмат аб чым падумаць. Ен зьяўляецца найлепшым довадам таго, як у пэўнай соцыяльнай атмосфэры нараджаюцца і плодзяцца мікробы праступкаў і як нікчэмны тыя крыміналістыя, якія ў шуканьні фактару праступкаў ня йдуць далей фізыолёгічнага і біолёгічнага фактараў.

Характэрны ня толькі лічбы, але і спосабы самых праступкаў. Я кожны дзень сачыў за газэтнай хронікай праступкаў і даваўся дзіву тэй тэхнічнай пунктуальнасьці, тэхнічнай трэніроўцы, якая іх характарызуе. „Франкфуртэр Цэйтунг" паведамляе, што лік зьнікшых па крымінальным праступкам і якія зараз адшукваюцца роўны 300.000 чалавек, г. ё. поўпроцанту жыхарства Нямеччыны.

Заслугоўвае таксама ўвагі і тое, што значны лік праступнікаў паходзіць з так званых сярэдніх клясаў і інтэлігэнцыі, на якіх зваліўся найбольшы цяжар эпохі.

У крымінальнай хроніцы знаходзім значны адбітак і факт значнай павышанай нэрвовасьці і псыхічнага ўзбударожжа ў выніку перажытага. Вось шавец Відэр, які застрэліў чыноўніка чыгуначнага аддзелу, які зьявіўся да яго з мэтай рэквізыцыі пакою. Вось тэхнік Плеснэр, які раніў дырэктара фірмы „Гальске" Сухава, хочучы памсьціцца за сваё ўвальненьне з фірмы. Вось студэнт Рэзіке, які, пасварыўшыся ў трамваі з кондуктарам, хватае рэвольвэр і страляе.

Усё—факты бязумоўнай псыхічнай дэзорганізацыі. Гэта, зразумела, аномалія, але гэтыя аномаліі характарызуюць сабой зьмену сумленнасьці сучаснай Нямеччыны, у параўнаньні з тым, што гэтая сумленнасьць уяўляла сабой дзесяцёхгодзьдзе таму назад.

Тыя-ж соцыяльныя прычыны, якія абусловілі сабою ўзрост праступкаў, не засталіся бяз уплыву на простытуцыю.

Гаспадарчая катастрофа, якая зруйнавала дабрабыт дзесяткаў тысяч сямей, што належылі да гарадзкой дробнай буржуазіі і да іншых пераходных клясавых праслоек; выцясьненьне посьле дэмобілізацыі жаночай працы з тых галін, у якіх яна знаходзіла сабе прыстасаваньне ў гады вайны, агульнае беспрацоўе—усё гэта рэкруцірвала ў армію простытутак—новыя сотні тысяч жанчын. З вечару й да позьняй ночы цягнуцца па галоўных вуліцах Бэрліну тоўпы жанчын, якія гандлююць сваім целам.

Па даным санітарнай статыстыкі ў ліпені гэтага году ў Бэрліне значылася 80.000 легалізованых простытутак, а інакш кажучы, на кожных 12 дарослых жанчын нямецкай сталіцы прыпадае адна простытутка. Калі прыняць яшчэ пад увагу, што санітарная статыстыка дае нам лічбы простытутак-профэсыяналак, якія падлягаюць дзяржаўнаму контролю, і што па-за ёй застаюцца шматлікія кадры жанчын, якія займаюцца простытуцыяй, як дадатковым заработкам пры недахватным забясьпечаньні пасадай,

скажам, прыказчыцы або кэльнэршы, дык малюнак стане яшчэ больш жуткім... Зразумела, рэч ідзе ўсяго аб Бэрліне, у провінцыі становішча лягчэй, але ўсе-ж такі...

Я ўжо ўскосна зачапляў гаспадарчае становішча.

У гэтых адносінах я-б хацеў вызначыць яшчэ наступнае. У сучасны момант Нямеччына знаходзіцца ў паласе адноснага гаспадарчага дабрабыту. Перш за ўсё тут патрэбна зазначыць стабілізацыю грашовага звароту. Пасьле доўгага пэрыоду інфляцыі, якая застаўляла конвульсыйна корчыцца ўсю нямецкую экономіку. Нямеччына цяпер мае цьвёрдую валюту. Далей, Лёнданская згода прывяла да таго, што зьнята тамажная застава, якая аддзяляла окупаваную зону ад рэшты Нямеччыны. Аб'яднаньне дзяржаўнай тэрыторыі з районам, які зьяўляецца аснаўным, амаль адзіным пастаўшчыком вугалю й жалеза, таксама прынесла дзяржаве значную экономічную палёгку.

Нямеччына зараз уступае ў паласу фактычнай рэалізацыі Вэрсальскага дагавору. У працягу пяцёх мінулых год Вэрсаль быў жупэлем, быў пагрозай, быў Дамоклавым мячом, які вісеў над нямецкім экономічным жыцьцём. Але ён быў не рэален. Сто трыццаць два міліярды залатых марак рэпарацыі, 2,5 міліярды штагоднай платы—усё гэта было ня рэальна, бо фактычна немагчыма выпаўніць пры якіх-бы ня было ваенных і іншых рэпрэсыях з боку Антанты. Плян экспэртаў перавярнуў Вэрсаль з жупэля ў факт. Тая шкаля ўзносаў, якую ён ухваліў—рашучы факт сучаснай нямецкай кон'юктуры. Гэты факт ужо прывёў да дэнацыяналізацыі нямецкіх чыгунак, якія ў значнай ступені перайшлі пад уладу чужаземнага капіталу; ён узяў у клешчы тавараабварот, паставіў сабе на ўслугі ўвесь бюджэт нямецкай дзяржавы. Ён вымагае вывазу, аснованага на максымальным павялічэньні вытворчасьці, а тут лінія найменшага супраціўленьня—павялічэньне рабочага дню. Рабочая кляса Нямеччыны на сваёй сьпіне пераносіць усе выгады пляну Даўэса.

Вывіхі, якія перанесла нямецкая гаспадарка, не засталіся бясьсьледнымі для, так сказаць, экономічнай псыхолёгіі нямецкага абывателя. Зачым мне капіць, калі ўсё накопленае можа быць абясцэнена новай інфляцыяй або якім-небудзь палітычным здарэньнем? Трэба выкарыстаць гэтыя крэдытныя паперкі, пакуль імі можна карыстацца, пакуль яны даюць якія-небудзь выгады. Гэты прынцып—„лаві момант!“ бязумоўна павялічыў кадр сваіх прыхільнікаў у выніку тых пэртурбацый, якія перажыла нямецкая экономіка ў апошнія гады. Немцы ніколі не напаўнялі ў такім ліку кафэ, казіно, яны ніколі ня ўжывалі так многа шампанскага, як цяпер. „Нашы паразумнелі“, сказаў мне на гэтае адзін кэльнэр. Але „паразумненьне“ адхіляецца ў працівалеглы бок. Амаль у большасьці немцаў яно ўмацавала псыхолёгію ня гулянкі, а псыхолёгію экономіі, скупасьці. Лік нямецкіх Плюшкіных бязьмерна павялічыўся. Гэтыя паны маюць нават свой уласны „саюз“—„Саюз нямецкіх грамадзян, якія ім-

кнуцца да эканоміі“ і свой друкаваны орган „Sparsamkeit“—„Бярэжлівасьць“. Я бачыў усяго адзін нумар гэтай выдатнай часопісі. У ім была зьмешчана перадавіца на тэму: „Што можна зрабіць з старога жылета“...

Вайна зрабіла значны ўплыў і на жабрацтва. У мяне, на правялікую жальбу, няма лічб, якія вызначылі-б узрост паўпэрызму, але тое, што гэты ўзрост даволі значны—у гэтым можна пераканацца, пабыўшы ў Нямеччыне самы кароткі час. І, як я ўжо зазначаў адносна праступнасьці і простытуцыі, жабракі таксама вярбуюцца цяпер у значнай часткы з новых соцыяльных пластоў. Сучасны бэрлінскі жабрак надзвычайна орыгінальны. Некаторыя фігуры па сваёй колёрытнасьці мне так і ўрэзаліся ў памяць.

Высокі, худы, крыху згорблены дзядок. Выцьвіўшыя, патухшыя вочы, пэргамэнтны твар. На ім лёгкае васеньняе паліто, пацёрты і зьлёгка пакурчаны цыліндр, на правай руцэ замшавая падзіраўленая пальчатка, левая працягвае пакрыты сурвэткай іСподак, па якому раскіданы мэталёвыя й папяровыя пфэнігі...

Або вось гэтая маленькая бабулька ў чорным шоўкавым чэпцы. З левага боку прыколата кветка, з правага—надпіс „афяра інфляцыі“.

Нядаўна выявілася, што ў ліку другіх жабруючых на вуліцах Бэрліну—дачка ганаровага грамадзяніна нямецкай сталіцы. Паднялі трывогу. Дума ўхваліла назначыць дачцы свайго ганаровага грамадзяніна пэнсыю ў 200 марак штомесячна. Цікавей усяго, што імя таго ганаровага грамадзяніна, аб якім ішла гутарка,—Рудольф Бірхаў, гэта—гордасьць ня толькі нямецкай, але й сусьветнай мэдыцынскай навукі...

Ніколі не забудзеш жабракоў, сьпячых ноччу на лаўках цэнтральных вуліц і бульвараў. Лежачы, напалову седзячы, зьвярнуўшыся клубком, скурчыўшыся ад холаду, сьпяць яны... Твар не пабачыш, а калі і ўгледзіш, дык не распазнаеш, што застыла на ім, на гэтым твары,—роспач, пакорнасьць, надзея, бясьсільле—ці-ж ня ўсё роўна? Калісьці яны заканчвалі свой дзень там—воддаль ад цэнтру сталіцы ў правэнджаных сажаю рабочых кварталах, брудных вулічных гарадзкіх акраін. Цяпер, быццам, наўмысьля, яны цягнуцца сюды і звальваюцца пад цяжарам якраз,—тут на Курфюстэндаме, на Фрыдрыхштрасэ—пад электрычнымі вясёлкамі рэклям, каля блішчастых, пышных вітрын, мармуравых сьцен, за якімі скачуць фокс-трот, на ваччу ў разадзетага ў шыты золатам мундзір царственага швэйцара... Ім тут, мусіць, лепей спаць пад хлёст асеньняга дажджу і пад наглыя гукі фокс-трота. Ім *лепей*—у гэтым, злосны ўспамін memento mori для ўсіх тых, хто ў трох кроках скача, весяліцца, марнуе дарма час... 27-га верасьня ў Грунэвальдзе быў зьняты з дубу вісельнік—музыкант Кранцлер, іграўшы ў капэле Яц-Банд. Ён пакінуў запіску, у якой пісаў: „Часы Яц-Банда мінулі. Так як я нічога іншага іграць не магу, дык лепей павесіцца. Жадаю вам і надалей весела скакаць, сябры, праз некалькі год будзеце вісець і вы“...

Нарэшце, самая жудасная катэгорыя жабракоў—інваліды вайны. Аб іх можна сказаць усё тое, што я казаў аб жабраках наогул. Але я жадаў-бы ў вашай памяці пакінуць адзін малюнак. Калі-б я быў мастаком, я-б напэўна зарысаваў яго, я-б зрабіў яго сымболічным. Siegesallè—вядомая Алея Перамог. Тут воляй імпэратара сабраны ўсе тыя, хто жалезам і крывёй будаваў імпэрыю. Вялікім продкам—удзячныя патомкі. Яны цягнуцца доўгай лентай уздоўж прыгожай Алеі—помнікі перамогцам... І вось да іх, якія перамагалі, цяпер прышлі тыя, якіх перамаглі... Да Фрыдрыхаў, Вільгэльмаў, Мольткэ, да тых, якія размахваюць шашкамі,—да іх прышлі Фрыцы, Вільлі, Мюльлеры—пакорныя, безаружныя...Да тых, якія ізваяны на мармуры й бронзе, прышлі тыя, якія сатканы з крыві і нэрваў... Да тых, хто перамагаў, прышлі тыя, якіх перамаглі... Яны таксама доўгай, яшчэ больш доўгай лентай цягнуцца па Siegesallè—Алеі Перамог. Сьляпыя, кантужаныя, атручаныя ядавітымі газамі, аднаногія; часамі хто-небудзь з жалезным крыжам: „Mit gott, für König und Vaterland“. Часамі яны з жонкай, часамі з дзіцём, часьцей з сабачкам, на ашыйніку якой адбіты чырвоны крыжык... Голасна просяць і, быць можа, ціха праклінаюць...

Я затрымаўся на экономіі сучаснай Нямеччыны—яна, бязумоўна, неразлучна зьвязана з політыкай.

Азначаючы сучасную політычную сытуацыю, „Форвэртс“ пісаў у вадным з верасьнеўскіх нумароў: „Нямеччына перажывала больш цяжкія і больш небясьпечныя часы, але часамі яна яшчэ не знаходзілася ў такім цяжкім становішчы і такім трагікомічным... Наш дзяржаўны ўвоз ніколі не ўгразаў так брыдка“...

Гэтак піша не газэта опозыцыі, не рэволюцыйны орган, а офіцыйны орган партыі, да якой належыць прэзыдэнт дзяржавы.

Варта ўважна сачыць за рухам нямецкага політычнага жыцьця ў працягу верасьня, каб пераканацца ў тым, што словы „Форвэртсу“ зусім ня былі прыўвялічаны. Момант галасаваньня законапроэктаў, зьвязаных з плянам Даўэса, добра паказаў політычны твар сучаснай Нямеччыны і яе народнага прадстаўніцтва—рэйхстагу. Гэта была дэмонстрацыя ўвасобленага політычнага бясьсільля.

Два дужых баявых крылы, якія вядуць злосную барацьбу з сучасным рэжымам—комуністычнае і фашысцкае: за дыктатуру пролетарыяту і за дыктатуру паноў і банкіраў, за савецкую рэспубліку і за рэстаўрацыю монархіі, серп і молат—жалезны крыж, шэсьцьдзесят і дзевяцьдзесят. Паміж імі балота—250 парляманцкіх крэслаў. Балота, адсьвечваючае ўсімі колерамі політычнага спэктру: соцыял-дэмократы, проста дэмократы, каталіцкі цэнтр, народная партыя...

Політычная карта Нямеччыны ў сучасны момант уяўляе сабою нешта надзвычайнае, рознакалёрнае. У залежнасьці ад большасьці ў ёй таго ці іншага соцыяльнага слою, даная вобласьць становіцца апорай пэўных по-

літычных уплываў. Рурскі басэйн, напрыклад, раён Эсэна, зьяўляецца цытадэльлю комунізму. Комуністычная фракцыя зьяўляецца мацнейшай у органах мясцовай самаўправы.

Уплыў комуністычнай партыі Нямеччыны адчуваецца ўва ўсім мясцовым грамадзкім жыцьці.

У Саксоніі, часткова ў Турынгіі змагаюцца за перавагу комуністыя з соцыял-дэмократамі. Тое-ж льга сказаць адносна асобных буйных цэнтраў, як Гамбург або Брэмэн. У Помэраніі і ўсходня-прускіх провінцыях—панаваньне народнай партыі, з якою спрачаецца каталіцкі цэнтр. Мае Нямеччына і сваю Вандэю. Гэта Вандэя,—вядома, Баварыя. Карл Маркс сказаў неяк, што Нямеччына—гэта край, які ўмудраецца рабіць контр-рэволюцыю, не зрабіўшы да таго рэволюцыі. Нямеччына не стварыла чагонебудзь падобнага Вялікай францускай рэволюцыі, але яна, як і гэта апошняя, стварыла сваю Вандэю. Баварыя—організацыйны цэнтр усіх сіл фашызму, рэакцыі, рэстаўрацыі. Тут, як і раней, жыве дынастыя Вітэльсбэргаў.

Ува ўрачыстыя дні кронпрынц Рупрэхт з членамі каралеўскага дому і сьвітаю, якая блішчыць у прыдворных мундзірах, прымае ў Мюнхэне парады ў двух-трох соцень рэйхсвэру. Разьвіваецца монархічны сьцяг. З натоўпу, які пяліць тут свае вочы, выкрыкваюць: „Няхай жыве кароль баварскі Рупрэхт!“ Будучы кароль казырае свайму вернападданаму народу. Пяюць „Deutschland, Deutschland über alles“.

У Баварыі—гэтым васіным гнязьдзе рэакцыі—чыняць лютую політычную расправу з ворагамі. Шмат соцень комуністых, рэволюцыйна настроеных рабочых і інтэлігэнтаў кінута на шэсьць-восем-дванаццаць год на катаргу і ў вастрог. Для таго, каб зразумець, што такое баварскія суды, досыць сказаць, што „Форвэртс“, той самы „Форвэртс“, які з дню на дзень абзывае комуністых бандытамі, сутэнэрамі, маскоўскімі наймітамі, шымпанзэ,—гэты самы „Форвэртс“ нядаўна заявіў, што прыгаворы баварскіх судоў у комуністычных процэсах зьяўляюцца недапушчальнай расправаю з політычнымі супраціўнікамі. А ўсенямецкі зьезд юрыстых, які адбываўся ў верасьні месяцы ў Гэйдэльбэргу, ухваліў рэзолюцыю, праз якую патрабуе, каб урад перагледзіў прыгаворы, якія зрабіў баварскі суд па політычных справах, бо гэтыя прыгаворы компромэтуюць нямецкую юстыцыю.

З Баварыі йдзе па краіне кліч: „Прэч жыдоў, марксыстых і пацыфістых“—трохадзіная формула, якую нядаўна пусьціла ў ход нямецкая рэакцыя, нешта на манер славутай расійскай формулы: „Православіе. самодержавіе, народность“...

Аднак, думаць, што рэакцыя абкапалася ў Баварыі, было-б памылкова.

Тут яе апора, але наступ яна праводзіць па ўсім краі, усюды, дзе яна не спатыкае досыць энэргічнага супраціўленьня. Яна павольна, крок

за крокам стараецца адваяваць у супрацiўнiка прастор, якi яна страцiла ў першыя годы рэволюцыi.

Нялiшне спынiцца на адносiнах Нямеччыны да iншых дзяржаў, але ня ў пункце высокай полiтыкi i дыплёматычных дагавораў, а так, як гэтыя адносiны выяўляюцца ў побыце, як яны складаюцца ў гушчы.

Характэрна, што шовiнiстычная нянавiсьць да дзяржавы, якую Нямеччына ў часе вайны лiчыла сваiм галоўным i найбольш заядлым ворагам, зьнiкла, разьвеялася. Гэта-ж Англii быў прысьвечаны лiсаўэраўскi гымн нянавiсьцi, якi ў годы вайны стаўся амаль нацыянальным гымнам Нямеччыны. Шмат месяцаў у Нямеччыне вiталiся, кажучы, заместа звычайных слоў вiтаньня, памятныя словы: „Божа, пакарай Англiю". Цяпер няма сьлядоў бывалай нянавiсьцi ў адносiнах да ангельцаў. Можа гэта таму, што яна перанеслася на край, якi немцы з моманту Вэрсальскага дагавору лiчаць за свайго заядлага ворага,—гэта на Францыю.

Францыю ненавiдзяць за тое, што яна дыктавала канiбальскiя ўмовы мiрнага дагавору. Яшчэ больш яе ненавiдзяць за ўсё тое, што Пуанкарэ рабiў яе iмем пасьля Вэрсалю. „Праз тысячу год мы гэтага не забудзем" казаў мне ў Бэрлiне пан Прэйс, гаспадар отэлю „Аiда"... Я быў у францускiм пасольстве ў Бэрлiне, прасiў вiзу, каб паехаць у окупаваную мясцовасьць. „Вам ня трэба", адказаў мне чыноўнiк, „вiзы патрэбны толькi немцам". Поруч стаяў стары немец. „Вiзы патрэбны толькi немцам", паўтарыў ён, „вы разумееце, гэта, каб паехаць на Рэйн", i ў вачох яго мiгнулася такое, што казала, што i ён, як пан Прэйс, будзе памятаць тысячу год...

Окупацыю, пад якую французы занялi значную частку нямецкiх прастораў, немцы часам лiчаць, як да некаторага стопню, формальны акт, як толькi назоўнае падпарадкаваньне пэўнай мясцовасьцi францускаму вайсковаму камандваньню. Няма нiчога такога памылковага, як такое ўяўленьне. Сапраўды, дык гэта самая праўдзiвая военная окупацыя з усiмi яе атрыбутамi. Жывучы ў невялiкiм прырэйнскiм гарадку, я мог давалi праканацца ў гэтым.

На вулiцах гарадку яшчэ да гэтай пары льга спатыкаць выклееныя ў 1919 г. абвесткi, так званай, *Высокай мiжсаюзнай камiсii*,—доўгiя пералiчэньнi забарон i папярэджваньняў, да якiх дадзены адпаведныя каральныя санкцыi. Як сур'ёзна рабiлася окупацыя, можа паказаць прыклад таго-ж гарадку, дзе на 6000 жыхароў быў уведзены гарнiзон з 800 белых i 200 чорных жаўнераў. Часамi окупацыя праводзiлася з нячуванымi зьдзекамi, прыкладам, прымушалi мясцовыя самаўрады стварадь дамы распуства для окупацыйных гарнiзонаў. Гэтыя дамы павiнны былi абслугоўвацца выключна нямецкiмi жанчынамi.

Вялiкая варожасьць Нямеччыны да Францыi. Да гэтага часу iснуе пастанова нямецкага саюзу тэатральных дзеячоў, згодна якой забараняецца ставiць на нямецкай сцэне п'есы францускiх аўтараў. Нядаўна

тэатр „Рэнэсанс“ надумаў паставіць на бэрлінскай сцэне інсцэніроўку раману Эміля Золя „Тэрэза Ракэн“. Аднак, саюз тэатральных дзеячоў забараніў гэту пастаноўку, заявіўшы, што „яшчэ не надышоў час дапушчаць францускіх аўтараў на нямецкую сцэну“.

Поруч з Францыяй часта натыкаешся на самыя варожыя адносіны немцаў да Польшчы. Я думаю, што не малую ролю ў гэтым адыгрывае самая звычайная вялікадзяржаўнасьць нядаўніх паноў значнай часткі Польшчы. Да сяго часу палякі ў вачох нямецкага мешчаніна—нейкі народ другога разраду. Але ёсьць, вядома, шмат такога, што асабліва абвастрае і падгравае гэты зоолёгічны нацыяналізм. Уся палітыка Антанты ў нямецка-польскім пытаньні, польскі калідор, які перарэзвае жывое цела Нямеччыны, адчайная полёнізатарская палітыка, якая праводзіцца ў Пазнані і Сілезіі сучасным польскім урадам,—усё гэта фактары надзвычайнай варожасьці Нямеччыны ў адносінах да Польшчы.

Асаблівай цікавасьці заслугоўваюць адносіны да Амэрыкі. Я не спаткаў у Нямеччыне ніводнага чалавека, які-б сур‘ёзна верыў у тое, што плян Даўэса здолее даць якую-небудзь палёгку нямецкай народнай гаспадарцы. Рабочыя кажуць аб ім з яскраваю варожасьцю, як аб чарговым спосабе ўзваленьня цяжару ліквідацыі Вэрсалю на плечы працоўных гушч. Дробная і сярэдняя буржуазія ішла пляну на спатканьне, як цяжкаму, але няўхільнаму злу. Але калі, у зьвязку з плянам Даўэса, пачынаеш гутарку аб Амэрыцы, то з боку нямецкага абывателя спатыкаеш самыя пачцівыя, пачціва-зычлівыя адносы да вялікай краіны доляраў, да царства жоўтага д‘ябла. „О, гэтыя амэрыканцы, маладзецкія хлопцы, яны—малайцы“, з захапленьнем сказаў мне адзін раз цырульнік. „Папершае, яны вынайшлі паўночны полюс; падругое, яны выдумалі самалёт; патрэцяе, яны перамаглі нас; так, яны, а ня гэтыя пятрушкі“—і ён махнуў рукою ў бок францускіх жаўнераў, якія недалёка праходзілі... Я не ведаю, ці гэта ўласная філёзофія гісторыі цырульніка з Ляништрасэ ці ён гэту філёзофію ад каго пераняў,—толькі так ці йначай яна характэрна для сучасных нямецкіх настрояў. З ніводнага краю нямецкія газэты ня друкуюць гэтулькі корэспондэнцый, лістоў, паведамленьняў, як са Злучаных Штатаў. Самым модным таварам даюцца назвы амэрыканскія. Газэты куды больш улучаюць свае ўвагі прыезду ў Бэрлін якога-небудзь амэрыканца, альбо гаспадару нью-ёрскага готэлю, ніж забастоўцы 3000 рабочых...

Кожнага з нас, вядома, удвайне цікавяць адносіны немцаў да Савецкага Саюзу. Тут, вядома, нельга казаць агульна і патрэбна пільна дыфэрэнцыраваць. Клясавы момант, пэўна, адыгрывае рашучую ролю ў сымпатыях і антыпатыях да Савецкага Саюзу. Але калі перадаць агульнае ўражаньне ад паездкі і шматлікіх гутарак маіх з асобамі самага рознастайнага становішча і пераконаньняў, то трэба сказаць, што гэта ўражаньне *самае спагаднае*. Перад усім Расію сталі проста больш паважаць,

чымся гэта было да вайны, ёю больш цікавяцца, чымся раней. Цікавасьць да расійскага мастацтва і расійскага тэатру проста такі выключная. Уяўленьні аб Расіі ў немцаў часта зусім неадпаведныя сапраўднасьці,—калі яна заўсёды была для Нямеччыны краем разложыстых журавін, то цяпер тым больш... Інформацыя аб Расіі надзвычайна бедная і ў значным стопні выходзіць ад эмігрантаў. „Вы зрабілі ў мяне ў галаве сапраўдны пераварот", сказаў мне адзін профэсар Бэрлінскага Ўнівэрсытэту, пасьля гадзіны гутаркі пра Расію. А пераварот быў у тым, што я яму расказаў звычайна пра пастаноўку ў Савецкім Саюзе народнай асьветы, аховы здароўя, пра вырашэньне нацыянальнага пытаньня. Між іншым, усе, з кім я гаварыў пра Расію, нязьменна казалі, што Расія адзіны магчымы хаўрусьнік Нямеччыны, пры сучасных міжнародных абставінах, што грунтоўны саюз абедзьвюх дзяржаў—заклад іх палітычнага дабрабыту і гаспадарчае моцы. Я пачаў пра адносіны да Савецкага Саюзу, дык дазвольце яшчэ пару рысаў дадаць; праўда, гэта мае адносіны не да немцаў, а да чужаземцаў наогул, але я думаю, яны ня будуць лішнія.

На прыгранічным пункце, пры ўзьезьдзе на францускую окупацыйную паласу, я паказваю свой пашпарт. Француз-прыгранічнік з цікаўствам разглядае мой, вельмі вялікага разьмеру, пашпарт, які надрукованы ў расійскай і францускай мовах. „Le porteur du prèsent, le cytoyen de l'Union des Rèpubliques Sociälistes Soviétistes"... Раз, другі. Паціснуў плячыма: „Што гэта за пашпарт такі і што гэта за край такі?" Я 10 хвілін чакаў вырашэньня свайго лёсу, покуль прыгранічнік пасьпеў разьведаць, што гэта за такі край, маленькі край, які апіраецца адным локцем на Польшчу, другім на Японію. Нашчасьце ён даведаўся, і я пераехаў граніцу.

*Я хачу яшчэ ў некалькіх словах спыніцца на сучаснай нямецкай* літаратуры і тэатры. Пры гэтым я абмяжуюся толькі тым, што перакажу свае ўражаньні ад зьбеглых датыканьняў да нямецкай літаратуры і тэатру нашых дзён.

*У сучаснай нямецкай літаратуры льга адзначыць дзьве грунтоўных* і без канца далёкіх адна ад аднае плыні. Адна—гэта, што вось ужо 6 год—ад самога разбурэньня Нямеччыны—нясе нямецкую грамадзкую думку ў засьветавыя далі. Гляньце толькі на назвы большасьці новых кніжак, *якія разложаны ў вітрыне любое кнігарні: „Як зрабіцца іогам", „Мудра*цы Індыі", „Вечнае быцьцё", „Шляхі антропософіі", „Пэсымізм і містыка", „Таемніца сноў", „Вадзімыя богам" і г. д.

*Профэсар Нэтлінг, які выступае цяпер з цыклам публічных лекцый* аб сучаснай нямецкай культуры, адзначае, як найбольш характэрную яе рысу, нябывалы яшчэ ўхіл у бок окультызму, містыкі, астролёгіі, антропософіі.

*Поруч з гэтай містычнай плыньню вельмі моцна сябе выяўляе дру*гая, зусім процілеглая, наземная, вельмі зямная плынь, якая ставіць пы-

таньні гаспадарчай організацыі, экономічнага побыту. Цікавасьць да гэткай літаратуры ў сучаснай Нямеччыне вялізная. Нямеччына вывучае мэханізм народнай гаспадаркі, стараецца дасьледаваць кожную яе шрубку. Гаспадарственік, організатар, экономісты, выдатны прамыслоўца або банкір—вось хто ў фокусе сучаснай нямецкай літаратуры. Падобна таму, як некалі вывучалі і абкружалі легэндаю ваеннага правадыра або гэроя, так цяпер ствараюць культ гэроя і правадыра гаспадарчага, гэроя экономічнага фронту. Кніжкі, падобныя на мэмуары амэрыканскага міліярдэра Форда, вытрімліваюць шмат выданьняў. Таксама перакладзеная і на расійскую мову кніжка Хюгліна й Уфэрмана пра Стынеса зачытваецца й перачытваецца ня менш, чымся ў свой час самы захоплівоючы роман. Асаблівая зацікаўленасьць прыпала на кніжку Фэлікса Пінэра „Правадыры гаспадаркі“, якая нядаўна вышла ў сьвет. Перад вамі праходзіць доўгі рад—34 тварцы нямецкай гаспадарчай моцы. Тут і тыя, што выкоўвалі гэту моц у эпоху росквіту нямецкага імпэрыялізму; тут і тыя, што пераможна йшлі па руінах гэтай моцы, здабываючы спажыву з вялізнага няшчасьця нямецкага народу; тут і тыя, што цяпер снуюць вакол нямецкіх народных гушч сваю залатую павуціну...

Цэлыя некаранаваныя дынастыі—нафтавыя каралі, каралі бурага вугалю, гэрцогі медзі, князі кальцыя, банкавыя магнаты, каралі інфляцыі: Круп, Сымэнс, Куно, Гэльфэрых, Шарт, Бальлін, Стынес, Ратэнау, Вэрбург, Тытц, Вольф, Бозель... Іх 34—капіталістычная верхавіна нямецкай імпэрыі і нямецкай рэспублікі.

Некаторыя з іх увойдуць у гісторыю, як сымболі цэлых эпох у разьвіцьці нямецкай народнай гаспадаркі.

Альбэрт Бальлін, паўпісьменны гамбурскі жыд, дробны комісіянэр па наборы эмігрантаў, які зрабіўся ўладаром Гамбург-Амэрыканскай лініі. Вялічэзны спрут, ненаедны ў сваёй прагавітасьці да нажывы... Той, які сьціснуў у сваім кулаку 170 акіянскіх параходаў, які безашчадна зьбівае ўсякага конкурэнта; гэрой народнай гаспадаркі, які зрабіўся сваім чалавекам пры імпэратарскім двары. Гэта праз яго Вільгельм II употайкі перамаўляўся з каралём Англіі аб скарачэньні марскога ўзброеньня... Ён быў супроць вайны, заклікаў скончыць яе; вайна перашкаджала яго, Альбэрта Бальліна, параходзтву... Гэта было, аднак, дарэмна. Калі Нямеччына была разбурана, Бальлін забіўся, як паранены зьвер. Вэрсальжа бо зьнішчаў ня толькі трон кайзэра, але і Гамбург-Амэрыканскую лінію... Аж 4 дні ня выходзіў Бальлін з свайго габінэту, усё думаў як-бы выратавацца, але выхаду ня было. На пяты дзень ён скончыў жыцьцё праз самагубства...

А вось другая асоба. Дырэктар усеагульнай кампаніі электрычнасьці, міністар даставы і організатар нямецкае народнае гаспадаркі ў часе вайны, міністар замежных спраў пасьля вайны, філёзоф і публіцыста—Вальтэр Ратэнау... Адзін з першых прадстаўнікоў нямецкай буржуазіі,

прызнаў, што сусьветны капіталізм пачаў трэскацца. Ён пачаў шукаць новых шляхоў... „З усходу йдзе вялізны лясны пажар“, казаў Ратэнау і шукаў паратунку ў цэхавых утопіях гільдзейскага соцыялізму, выдаваў проэкты перабудовы дзяржавы на падставе індустрыяльных саветаў... Тонкі мысьліцель, дыалектычны розум, „эстэт сярод купцоў“, Ратэнау—вы ведаеце—быў забіты фашыстаўскімі афіцэрамі.

Нарэшце, самы яскравы. непаўторны і незабываемы сярод некаранованых каралёў Нямеччыны вобраз Гуго Стынеса. Калі Бальлін быў выгадаваны нямецкім імпэрыялізмам і згінуў разам з ім, то Стынес вырас на касьцях нямецкага імпэрыялізму, ён узьняўся на руінах нямецкае народнае гаспадаркі, гэты гэніяльны і цынічны эксплёататар коньюктур.

Ужо да вайны Стынес быў буйным, але нявыдатным нямецкім прамыслоўцам.

У часе вайны ён становіцца адным з ідэолёгаў гаспадарчага замарнаваньня супраціўніка. Ён—ініцыятар разбурэньня францускіх капалень; ён—ініцыятар разбурэньня фабрык Бельгіі; ён—ініцыятар высылкі французамі бэрлінскіх рабочых; ён—ініцыятар і аўтар славутага анэксыяніцкага маніфэсту нямецкіх прамысловых організацый у 1915 г., які заявіў што Нямеччына ня можа існаваць без антвэрпэнскай гавані і лёнгвійскіх капалень... Ідэолёгічны правадыр цяжкай індустрыі, ён робіцца патайным і аўторытэтным натхніцелем нямецкага галоўнага камандваньня, ён—правая рука Гіндэнбурга і Людэндорфа. Стынес быў адзіным пераможцам у пераможанай Нямеччыне... Абагачваньне Стынеса разгортваецца на грунце нячуваных і цяжкіх бед нямецкіх народных гушч. Інфляцыя, якая нясла бічы і скорпіёны міліёнам людзей, гэта інфляцыя на сваіх хвалях усё вышэй і вышэй узьнімала Стынеса. Стынес рана зразумеў, што такое папяровыя грошы і раней за другіх навучыўся рабіць з банк-нотаў рэальныя каштоўнасьці. Крывая гэтых каштоўнасьцяй, якія знаходзіліся ў руках Стынеса ўзрастала літаральна з дню на дзень... Ён концэнтруе ў сваіх руках адну за другою блізкія галіны гаспадаркі, зьвязвае іх адным інтарэсам, падпарадквае аднэй волі, будуе свой вялізарны концэрн. Яму хутка робіцца цесна ў Нямеччыне, ён запушчае свае рукі ў Аўстрыю, Італію, Аргэнтыну, Аўстралію, Афрыку,—ува ўсе 5 частак сьвету.

Ён гуляе з міністэрствамі... Ніводзін габінэт у 19-21 г. г. ня можа ўтрымацца супроць яго волі ўва ўлады... Уласным нацiскам ён зьніжае курс маркі на 2, на 3, на 5 процантаў. Стынес добра ведае сваю моц. У часе перамаўленьняў з французамі ён заяўляе: „Мы ня згодны на гэтыя ўмовы“. А на пытаньне „Хто гэта *мы?*“ тлумачыць—„Нямеччына і я“...

Я казаў вышэй пра выстаўку алавяных салдацікаў. Гэта выстаўка тых, хто марыць аб рэваншы, хто сьціснуўшы кулакі і зубы рыхтуе рэванш праз 15, 20, 50 год... Гэта выстаўка Людэндорфа, Гіндэнбурга, Тырпіца... Гэта выстаўка тых, хто біткам набіваецца ў памяшканьні модных

рэвю і патрабуе, каб на сцэне зьявіўся Фрыдрых-Вільгэльм. Зьяўляецца Friderikus Rex, за ім маршыруе 24 каралеўскіх лейб-гвардзейцы. У чатырох кутках сцэны напалову голыя дзеўкі махаюць нямецкім сьцягам. Тэатральны натоўп узьнімаецца, шалее і крычыць: „Гох"!..

Але выстаўка алавяных салдацікаў, на шчасьце, ня вычэрпвае сабою сучасных нямецкіх настрояў. Я быў на другой выстаўцы славутага нямецкага мастака Дыкса. Выстаўка прысьвечана вайне.

Маскі вайны. Воблікі вайны... Кускі чалавечага цела на калючым дроце... Мерцьвякі, якія прымайстраваліся выгадна ў акопах. Людзі, якія абярнуліся ў жывёлу...

Кожны штрых, кожны мазок, кожны малюнак Дыкса—праклёны вайне, тым, хто яе выклікаў, тым, хто яе рыхтуе, тым, хто абарочвае людзей у падлу.

У галіне тэатральнай можна з пэўнасьцю зазначыць зьніжэньне сярэдняга ўзроўню. Праўдзівы, сапраўдны, вялікі тэатр адсунуты на задні плян усё перамагаючым кіно, трыскучым, яскравым, балаганным рэвю, опэрэтай, нікчэмнай комэдыяй.. Пасьля Масквы з яе тэатральным фронтам, які цягнецца ад Мэерхольда, праз Таірава, праз Мастацкі да Малога, пасьля Масквы з яе сьмелымі шуканьнямі і вялікімі дасягненьнямі,—Бэрлін здаецца ў гэтай галіне ціхаю провінцыяй. Нават лепшыя Бэрлінскія тэатры, у якіх я пабыў, у большай меры цягнуць старыя традыцыі, ніж прабіваюць новыя шляхі.

Адзінае яскравае і надоўга памятнае ўражаньне, якое ў мяне пакінуў бэрлінскі тэатр,—гэта пастаноўка Рэзыдэнц-тэатрам новай п'есы Эрнста Тольлера „Hinkermann". Тольлераўская драма вытрымана ў рэалістычных, дакладней сказаць, натуралістычных тонах. Яе цяжкі, я-б сказаў, пераважны натуралізм у той-жа час і сымболічны...

* * *

Нямеччына знаходзіцца на гістарычным раздарожжы. Крот клясавай барацьбы, які зарыўся ў нэтру нямецкага грамадзкага жыцьця, далей робіць сваю справу... Ён давядзе сваю справу да канца. Такі прыгавор гісторыі.

Рабочая кляса Нямеччыны, якая складае 3/4 нямецкага народу, зьяўляецца адзінай клясай, якая здольна абнавіць свой край, цяпер прыціснуты нацыянальнымі і інтэрнацыянальнымі драпежнікамі.

Шлях рэволюцыйнага вызваленьня—адзіны шлях, які гісторыя пакінула Нямеччыне нашых дзён.

# ГІСТАРЫЧНЫ МОМАНТ

*(Да гісторыі Савецкай Беларусі)*

**Ж. Х. З.**

З часу організацыі ў Маскве пры Нацыянальным Беларускім Камісарыяце Беларускай Комуністычнай Сэкцыі, праца ў Камісарыяце стала прымаць партыйную афарбоўку. Адпаведныя працаўнікі Камісарыяту павінны былі аддаваць усё большую ды большую ўвагу сэкцыі, якая нясупынна расла, мацнела і пашырала свой аўторытэт.

Нарэшце, камісар, т. Лагун паехаў у окупаваную Беларусь з мэтаю рэкогносцыроўкі і выяўленьня сытуацыі політычна-рэволюцыйнай і рэволюцыйна-нацыянальнай. Яго замясьціцель, т. Чарнушэвіч, адначасова з камісарыяцкай працаю нёс сакратарскія функцыі па сэкцыі. Апошняя з камісарыяту пачала пашыраць сваю працу па-за межы яго. Што-тыдзень рэгулярна адбываліся сходы сэкцыі і пасяджэньні бюро сэкцыі, на якіх абгаварваліся, паміма пытаньняў партыйных, і пытаньні політычна-нацыянальнага зьместу. Здарэньні ў Беларусі не маглі не электрызаваць настрою беларускіх комуністых; дзеля таго і йшла іх організацыя, каб аб'яднаным фронтам перакінуцца ў Беларусь і павясьці ў ёй дружную старанную працу. Паціху справы камісарыяту і напрамак яго наступнай працы таксама падлягалі абгавору сходаў Белсэкцыі *). Камісарыят з савецкай беларускай установы пераходзіў ува ўстанову рэволюцыйнага штабу для беларускіх комуністычных сіл. Восем месяцаў ён вёў падгатоўчую працу, накопліваючы сілы, а зараз мусіў гэтыя сілы выводзіць у чыньне, перакідаць на фронт. Асьветная справа і справа выдавецкая ўступілі месца справам організацыйна-баявым, адпаведна значэньню гэтай установы: адусюль, з усіх канцоў Расіі, куды толькі даходзіла „Дзяньніца", ішлі весткі аб выяўленьні беларускіх комуністых, аб закладаньні імі беларускіх сэкцый.

А гэты сэкцыі, на сваіх сходах выносілі Маскоўск. Сэкцыі прывітальныя рэзолюцыі і разам—пастановы аб неадкладным выстаўленьні на

---

*) У папярэднім артыкуле „Організацыя сіл" (гл. „Полымя" № 2 (10)) абмылкова сказана, што Белсэкцыя ў Маскве залажылася ў канцы жніўня. Сапраўды яна залажылася з лістапада, а ў канцы жніўня толькі распачалася організацыйная праца ў гэтым кірунку.

павестку дню абвяшчэньня Беларускай Савецкай Рэспублікі. Прыклад з Украінай, якая ўжо 6 сьнежня была агалошана рэспублікай, яшчэ болей абвастрыла пытаньне.

Стала выразна і зразумела, што на долю Беларускага Камісарыяту і Беларускай Комуністычнай Сэкцыі гісторыя кладзе вагромністае заданьне—заданьне арганізаваць рэволюцыйную беларускую дзяржаўнасьць. Трэба быць гатовай узяць гэту ношу. З-за гэтага абуяўшы беларускіх комуністычных дзеячоў рэволюцыйны энтузіазм засланяў усе недастачы дзеля гэтага і выпіхаў іх (дзеячоў) насустрэч рэволюцыйнаму разьвіцьцю. У перадавым артыкуле „Дзяньніцы“ ад 10 сьнежня, якая з 3 сьнежня стала весткай і „Маскоўскай Беларускай Сэкцыі РКП бальшавікоў“, пісалася: „Пытаньне аб замацаваньні рэволюцыі на Беларусі становіцца, такім кшталтам, пытаньнем усясьветнай рэволюцыі. Апошняя справа і ставіць перад беларускімі шчырымі соцыялістымі (комуністымі) вялікую задачу—разрэзаць гэты пояс, і тады бяз прыпынку кранущца ўперад, узбудаваць соцыялістычны ўстрой на роднай зямлі і памагаць яму ісьці далей на захад“.

А сьледам, па ініцыятыве Бюро Маск. Сэкцыі, на 20 сьнежня была назначана конфэрэнцыя беларускіх сэкцый РКП бальшавікоў у Маскве. Адначасова з разасланьнем запрашальных тэлеграм і лістоў па сэкцыях, Маскоўская Сэкцыя паслала тав. з дакладамі і зьвярнулася да беларусаў-комуністых з гэткаю адозваю: „Таварышы, беларусы-комуністыя! Новым магутным націскам сусьветнай рэволюцыі зьняты окупацыйныя ланцугі з беларускага працоўнага народу. Слаўная Чырвоная армія нясупынна рухае наперад і дзень-ада-дню ўсё новыя ды новыя соткі тысяч беларусаў становяцца вольнымі грамадзянамі вялікай сям'і Расійскае Соцыялістычнае Фэдэрацыйнае Рэспублікі. Адчыняецца неабмежная праца—будаваць Савецкую Беларусь, і гэта, наперад усяго, шчасьлівая павіннасьць і адказьнейшы абавязак наш, беларускіх комуністых. Вялікая Соцыялістычная Рэволюцыя толькі на малы і прытым цяжкі, з боку надворных умоў, час ваеннага фронту прылучыла Беларусь да агульна-рэволюцыйнага жыцьця Расіі. Жорсткая окупацыя супыніла ўзрост рэволюцыйнага жыцьця краю і пад абсацам захопніка доўгі час нельга было вясьці комуністычнай працы. Цяперака беларускі пролетары і сельская беднота чакаюць сваіх сапраўдных правадыроў у будаўніцтве новага жыцьця, чакаюць тых сьвядомых беларусаў-комуністых, якія, прайшоўшы практычную школу рэволюцыйна-комуністычнага будаўніцтва, магчымуць арганізаваць і з посьпехам павясьці ў сябе дома гэту адказную працу. Заложаная ў Маскве з лістапада гэтага (1918) году беларуская сэкцыя РКП увайшла ў сувязь і заручылася падтрыманьнем з боку беларускіх сэкцый РКП у Ленінградзе, Саратаве, Тамбове і іншых гарадох Расіі ды Беларусі; яна энэргічна павяла працу шырокага арганізацыйнага комуністычнага будаўніцтва на Беларусі і заве вас, беларусаў-комуністых, у

свае рады. Усе беларусы-комуністыя і тыя, што ім спачуваюць, усе, хто аддаў свае сілы савецкаму жыцьцю, ідзеце ў сэкцыю, шчылюйце нашы рады: тысячы комуністых-беларусаў патрэбны цёмнай Беларусі, якая вызваляецца для самае рознастайнае, партыйнае і дзяржаўнае працы. Цяжкі, крыжовы шлях беларускага народу, вялікі заняпад экономічнага й духоўнага жыцьця яго краю, але магутнасьцю комуністычнага аднаўленьня будзе адбудована Савецкая Беларусь, і на гэту працу мы завем усіх беларусаў-комуністых".

Як у дакладах, запрашэньнях, гэтак і ў адозьве конкрэтна ды выразна не казалася пакуль аб пераважнасьці пытаньня пра агалашэньне Савецкай Беларускай Рэспублікі, але між радкоў, у сэнсе многіх сказаў ясна вычытвалася кожным комуністым-беларусам, вакол чаго заверціцца нарада сэкцый.

У паветры само сабою насілася акрэсьленая ідэя стварэньня новае беларускае дзяржавы. Гэта ідэя прасочвалася ў душы беларускіх працаўнікоў, бадзёрыла іх, паднімала натхненьне, акрыляла ў працы.

У Беларускі Камісарыят пачалі надыходзіць запытаньні аб тэрміне гэтага акту, аб яго значнасьці, сталі прыносіцца чуткі і весткі розных вэрсый яго тлумачэньня. У якую роўнасьць вытьлецца ён? У якіх рамках акрэсьліцца прастор і дзяржаўнасьць Беларускае Рэспублікі?

Само сабою зразумела, што самы момант меў значны ўплыў на настрой беларусаў-комуністых, якія чутка прыслухоўваліся да веяньняў часу і самазабыўна прагліся ўвайсьці ў асяродак блізкага сабе здарэньня рэволюцыйнага размаху. Дзень-ада-дню ўсё большы ды большы лік іх пераходзіў з агульных організацый у беларускія сэкцыі. Знаходзілася вялікая колькасьць ахвотнікаў хутчэй-жа адправіцца ў вызваленую Беларусь.

Вядома, аднапасова з гэтым расла надзвычайная цікавасьць да наступнай конфэрэнцыі Беларускіх Сэкцый РКП, ад якой, галоўным чынам, і залежала ўладаваньне многіх беларускіх організацыйных пытаньняў. Гэта цікавасьць чапляла як кожнага сябра сэкцыі, так і цалкам кожную сэкцыю. Не знайшлося ніводнае з іх, якая-б мела хоць што супроціў патрэбы склікаць конфэрэнцыю ў назначаны Маскоўскай Сэкцыяй тэрмін. Наадварот, тэрміновасьць яе гостра падкрэсьлівалася кожнаю сэкцыяю.

Гэтак, па дакладу т. Жылуновіча, які езьдзіў з гэтай мэтаю да Ленінградзкае Сэкцыі, была прынята вось якая пастанова: „Заслухаўшы даклад тав. З. Жылуновіча аб пастанове Маск. Бел. Сэкцыі склікаць у блізшы час зьезд прадстаўнікоў Беларускіх Сэкцый РКП, агульны сход Петраградзкай Беларускай Сэкцыі комуністых прызнае вельмі патрэбным склікаць гэты зьезд, перадаўшы ініцыятыву скліканьня Маскоўскай Беларускай Сэкцыі РКП. Пры гэтым Петраградзкая Беларуская Сэкцыя выказвае пажаданьне: 1) каб зьезд быў сазваны ў Маскве, як асяродку

палітычнага жыцьця, 2) каб на зьезьдзе былі прадстаўнікі з вызваленае і яшчэ занятае Беларусі і 3) каб аб зьезьдзе было дадзена шырокае апавяшчэньне праз увесь савецкі друк.

Лічба 20 сьнежня была прынята за дзень, у які павінна адчыніцца конфэрэнцыя. З гэтым рашчотам сэкцыі й пачалі высылаць сваіх дэлегатаў.

Ужо 19 сьнежня зьехалася ў Беларускі Нацыянальны Камісарыят, дзе адбывалася конфэрэнцыя, каля дзесяцёх прадстаўнікоў, а 20-га даехала яшчэ столькі. Аднак конфэрэнцыю прышлося адчыніць 21 сьнежня пры ліку да 25 дэлегатаў ад Беларускіх Сэкцый РКП—Маскоўскай, Ленінградзкай, Тамбоўскай, Саратаўскай, Казлоўскай, Менскай ды інш.

Павестка дню конфэрэнцыі была апрацована раней Маскоўскай Сэкцыяй і пастаўлена на абгавор конфэрэнцыі пры яе адчыненьні; яна заключала ў сабе гэткія сем пунктаў: 1) інформацыя Комітэту Маскоўскай Беларускай Сэкцыі РКП і абгляд палітычнай працы беларусаў-комуністых на мясцох; 2) нацыянальнае пытаньне; 3) сучасны палітычны стан на Беларусі і ўзаемаадносіны паміж палітычнымі партыямі; 4) стварэньне работніцка-сялянскага правіцельства на Беларусі; 5) наступныя заданьні беларусаў-комуністых: а) стварэньне аб'яднанага бюро, б) рэорганізацыя Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту, в) выданьне партыйнага органу, г) агітацыйна-палітычная і організацыйная праца (беларуская чырвоная армія, сельскія комуны, культурна-асьветная праца, сродкі, адпраўка на месцы і інструкцыя ад'яжджаючым, адозва да беларускага народу і беларускіх комуністых); 6) мобілізацыя беларускіх комуністых і 7) бягучыя справы.

Павестка была прынята аднагалосна, і конфэрэнцыя пры ўзвышаным настроі перайшла да працы. Першым чынам былі заслуханы прывітальныя тэлеграмы з Ленінграду ды Менску і інш. месцаў і тут-жа была вынесена пастанова паслаць прывітальныя тэлеграмы ад конфэрэнцыі: т. Ў. Леніну, т. Сталіну, УЦВК і Вышэйшаму Ваенна-Рэволюцыйнаму Савету Рэспублікі. Тэлеграмы хутка былі напісаны і прыняты конфэрэнцыяй. У гэтых тэлеграмах конфэрэнцыя падкрэсьліла ў тых ці іншых сказах дух часу, які настойна дыхтаваў выявіць хутчэйшае вырашэньне беларускага нацыянальнага пытаньня.

Гэтак, тав. Ў. Леніну конфэрэнцыя пісала: „Першая конфэрэнцыя Беларускіх Сэкцый РКП пасылае Вам, дарагі таварыш Уладзімер Ільліч, сваё гарачае прывітаньне, як натхненаму правадыру пролетарыяту ўсіх краін і ўсіх нацый да сьветлага ідэалу інтэрнацыянальнага соцыялізму". Тэлеграма т. Сталіну казала: „Першая конфэрэнцыя Беларускіх Сэкцый РКП вітае Вас, як шчырага прыхільніка патрэбнасьці вырашэньня нацыянальнага пытаньня з клясавага пункту гледжаньня і як адданага рэволюцыянэра і змаганьніка за інтарэсы пролетарыяту і бяднейшага сялянства ўсіх краін і ўсіх нацыянальнасьцяй. Конфэрэнцыя цешыць надзею, што

пры Вашым аўторытэтным падтрыманьні Работніцка-Сялянская Беларусь зойме належнае месца ў Савецкай Соцыялістычнай Фэдэрацыі“. На імя Вышэйшага Рэволюцыйнага Савету конфэрэнцыя пасылала прывітаньне Чырвонай Арміі, якая вызваліла Беларусь з-пад нямецкай окупацыі. Тэлеграма казала: „У асобе Вышэйшага Рэволюцыйнага Савету Рэспублікі першая конфэрэнцыя Беларускіх Сэкцый РКП вітае гэройскія Чырвоную Армію і Чырвоны Флёт, якія мужна ды самаафярна змагаюцца за ідэалы вялікай сусьветнай соцыяльнай рэволюцыі супроціў міжнародных буржуазіі і капіталу, якія на яе накідаюцца. Нарада ўшаноўвае памяць аб згібшых таварышах у гэтай слаўнай барацьбе і спадзяецца, што Чырвоная Армія, у якой не апошняе месца займаюць сыны працоўнага народу Беларусі, здолее абараніць яе ад замахаў драпежнікаў—паміжнароднай контр-рэволюцыйнай буржуазіі“.

Выразьней усяго свае мэты конфэрэнцыя адзначыла ў тэлеграме на імя Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту. „Першая конфэрэнцыя Беларускіх Сэкцый РКП—казалася ў тэлеграме:—вітае ЎЦВК, як вышэйшую ўстанову Работніцка-Сялянскай Улады Фэдэрацыйнай Савецкай Рэспублікі, якая (установа) няўхільна ды цьвёрда праводзіць у жыцьцё ідэю інтэрнацыянальнага соцыялізму. Конфэрэнцыя спадзяецца, што ЎЦВК, праводзячы ў жыцьцё прынцыпы фэдэрацыйнага соцыялістычнага будаўніцтва, ажыцьцёвіць ідэю стварэньня Савецкае Беларусі“.

Распачатае пасьля абгаварэньне пунктаў павесткі дню пасяджэньне ўнясло жывы абмен думак па кожнаму пытаньню, якія няўхільна вярцеліся ўвесь час вакол двух важнейшых, як „нацыянальнае пытаньне“ і асабліва пытаньне аб „стварэньні Работніцка-Сялянскага Правіцельства на Беларусі“. Фактычна абодва гэтыя пытаньні, зьліўшыся ў адно ў процэсе працы конфэрэнцыі, занялі тры чвэрткі часу яе працы. Яны выклікалі надзвычайны ўздым сярод удзельнікаў конфэрэнцыі, разгарнулі далёка ўшыр ды глыб вакол сябе спрэчкі і прывялі ў скутку іх да наступнай рэзолюцыі: „Сучаснае становішча Беларусі выключна складанае і адпаведнае. Дзяржавы—Польшча, Літва, Украіна, якія стварыў нямецкі браніраваны кулак ды імпэрыялістычная Антанта, кіруюцца прадстаўнікамі буйнай буржуазіі і нацыянал-шовіністымі. Яны з першых дзён свайго быцьця выяўляюць імкненьні да імпэрыялістычнага захапленьня ды прыгнячэньня суседніх з імі народаў, а ў тым ліку і Беларусі. Нямецкая окупацыя зусім зруйнавала Беларусь у экономічных адносінах. Імкнучыся зьнішчыць дашчэнту рэволюцыйны настрой рабочых ды сялянскіх гушч, окупанты нячувана лютымі рэпрэсіямі душылі ўсякі праяў самадзейнасьці і спроб беларускага народу вызваліцца з-пад ярма сваіх прыгнятацеляў. Окупанты-імпэрыялістыя, сустракаючы падтрыманьне сабе з боку духоўнікаў, памешчыкаў, капіталістых і іх паслугачоў featured рознага выгляду, ажно да соцыял-згоднікаў, карыстаюцца несьвядомасьцю ды цемнатою рабочых і сялян і стараюцца рознымі плёткамі на Расійскую Соцыялістычную Рэ-

волюцыю заглушыць іх клясавую сьвядомасьць і адвечную зьнянавісьць да сваіх ворагаў-капіталістых; гэтым яны стараюцца пераняць ці адцягнуць на мажліва даўжэйшы час канец свайму неабмежнаму панаваньню і глуму над працоўнымі гушчамі. Але, ня гледзячы на самае жорсткае прыдушэньне рэволюцыйнага руху сярод беларускага пролетарыяту і сялянства, рэволюцыйны дух у іх ня прыдушаны, а, наадварот, яшчэ больш падняты.

Дзякуючы дзевяцёхмесячнай окупацыі, часткаю зьнішчаны ці адпраўлены ў нямецкія вастрогі, часткаю эміґравалі лепшыя правадыры беларускага пролетарыяту і сялянскай беднаты. Зараз на мясцох беларускі пролетарыят мае вельмі мала сьвядомых і досыць падгатаваных да соцыялістычнага будаўніцтва працаўнікоў. Там асталіся легальнымі розныя соцыял-згодніцкія ды нацыянальна-шовіністычныя партыі, якія стараюцца ўсімі радамі выкарыстаць выгаднае для сябе становішча, што цяперака там стварылася. Але мы ведаем, што паны-згоднікі, якія ладзяць з нямецкім імпэрыялізмам, у момант малейшага павароту сусьветнай гісторыі вельмі лёгка могуць зьмяніць нямецкую орыентацыю на орыентацыю амэрыканска-ангельска-францускую; і гэта яны зробяць з тэю мэтаю, каб зноў здрадзіць справе рэволюцыі на Беларусі, прадаўшы яе ў рукі літоўскіх і польскіх памешчыкаў, капіталістых ды духоўнікаў. Усе гэтыя паказальныя факты настойна патрабуюць стварыць моцнае Беларускае Работніцка-Сялянскае Правіцельства, якое-б выказвала волю беларускай беднаты і якое-б магло з сяброўскай дапамогаю вялікае Расійскае Соцыялістычнае Фэдэрацыйнае Рэспублікі абараніць беларускую беднату ад сусьветнае контр-рэволюцыі, якая сунецца ў выглядзе „вызваленьня народаў ад прыгону расійскага бальшавізму“, і праз гэта даць мажлівасьць беларускаму пролетарыяту ўнесьці свой афярунак у справу агульнасусьветнай Соцыяльнай Рэволюцыі“.

У разьвіцьцё прыведзенай рэзолюцыі была вынесена конфэрэнцыяй пастанова гэткага зьместу: „Даручыць Цэнтральнаму Бюро Беларускіх Сэкцый РКП (абранае з пяцёх асоб: З. Жылуновіч, Ф. Балбека, І. Няцецкі, М. Драко-Дракон і А. Чарвякоў) склікаць Усебеларускі партыйны зьезд“.

Аднак здарэньні разьвіваліся з непамернай шпаркасьцю, урываючыся ў працу конфэрэнцыі і падмацоўваючы яе пляны. Перад зачыненьнем яе з Смаленску атрымалася тэлеграма, якою Вабласны Комітэт Партыі запрашаў беларускія сэкцыі надаслаць у Смаленск на вабласную конфэрэнцыю сваіх прадстаўнікоў. Гэта вымагалася настойнаю патрэбаю коордынацыі чыннасьці, што, з свайго боку, было выклікана ўсё тым-жа пытаньнем аб дзяржаўным будаўніцтве вызваленай Беларусі. Обліскамзапцы не маглі далей спрачацца супроціў вымаганьняў рэволюцыі і мусілі захапіць здарэньні ў абдуманыя рамкі, каб не прапусьціць іх між сябе... І вось, на павестку вабласное конфэрэнцыі яны паставілі таксама пытаньне аб Бе-

ларусі. У інтарэсах рэволюцыі яно мусіла быць вырашана. Конфэрэнцыя Беларускіх Сэкцый сустрэла запрашэньне смаленскіх таварышаў з спачуваньнем і тут-жа выбрала трох таварышаў дэлегатамі. А незалежна ад гэтага прыняла цэлы шэраг пастаноў, якія дапасавала да далейшай чыннасьці Цэнтральнага Бюро Сэкцый. Таксама ёю была прынята гэткая адозва да беларускага працоўнага народу:

„Таварышы—браты беларусы! Вы, якія цэлыя вякі стагналі пад прутамі польскіх ды літоўскіх каралёў, пад казацкімі нагайкамі расійскага самадзяржаўя, вы, па чыёй зямлі прайшоў усё руйнуючы малох жахлівае вайны, кінуўшы міліёны ўцекачоў, сьпярэсьціўшы магіламі сваіх бацькоў, мацярок, жанок і дзяцей—усё неахопнае гала Расіі, вы, бедныя сыны абяздоленай мацеры Беларусі, слухайце:

Настала пара ўваскрашэньня беларускага працоўнага народу; патугамі рабочых ды сялян разбурана расійскае самадзяржаўе; за ім сьледам пакаціліся кароны іншых цароў ды каралёў; воляю нямецкага народу скінуты сусьветны тыран, многагаловы спрут, які стальнымі шчэпцамі душыў свой і суседнія народы,—Вільгэльм Крывавы, прыходзіць чарга і да апошніх крывасмокаў „памазальнікаў божых".

Народы прачынілі вочы, зразумелі, куды вядуць іх крывавыя лялькі ў каронах, што ім гатовяць прыслужнікі каралёў, паны ды духоўнікі, падлізьнікі і паўзуны-гады—прадажнае чынавенства і надышоўшыя к ім на дапамогу соцыял-прадаўнікі.

Народы (Расіі), скончыўшы з прыгнятацелямі, зразу-ж перайшлі да самай простай і ў той-жа час чэснай, непадкупнай, збудаванай на адзінай волі народнай уладзе: к радам рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў; бо рады толькі й дадуць рабочаму справядлівую аплату працы, селяніну—зямлю. Толькі яны прывядуць чалавецтва да сьветлага ідэалу соцыялізму, да вялікай працоўнай пролетарскай комуны. Яны адны ўтрымаюць у сваіх чэсных руках чырвоны сьцяг працы, сьцяг пролетарскага вызваленьня, сьцяг урачыстасьці і перамогі над праклятым капіталам ды самавольствам,—толькі ў радах б'ецца сапраўднае сэрца народнае, толькі рады, абраныя з лепшых сыноў працоўнага народу, радуюцца яго радасьцю, плачуць яго сьлязьмі.

Але калі саветы мілы і дарагі сэрцу пролетара, сэрцу беднага рабочага і селяніна, то яны ненавісны ўсім тым, хто чапляўся ды чапляецца за старую неабмежную ўладу: усім паном і духоўнікам, крывапіўцам памешчыкам, міраедам купцом, усім тым, хто будаваў свой дабрабыт на крывавым поце працоўнае беднаты, хто хоча жыць ад чужое працы, хто хоча таўсьцець, як блыха, ад народнае крыві. Ня мілы саветы і ўсім тым соцыялістым з стану згоднікаў, якія вас клічуць жыць у згодзе з усімі ворагамі працоўнага народу.

І вось цяперака, калі народнымі патугамі спынена сусьветная вайна, гэтая бойня, што вырвала міліёны маладых людзей, сыноў працоўнага

народу, што вымагла сотні міліярдаў народных грошай, калі-б рабочы мог стаяць ля варстату, а селянін пры зямлі; цяперака, калі на варце пролетарскіх інтарэсаў становяцца саветы, з якіх на ўвесь сьвет чуцён сапраўдны голас працоўнага народу, які заве да дыктатуры пролетарыяту, а праз яе да сусьветнага інтэрнацыянальнага аб'яднаньня працаўнікоў,—учарашнія „дбайцы за пакутнае чалавецтва", „асьвечаныя" ўправіцелі Захаду, а з імі ўсе паслугачы старога ладу, апякуны народу пугамі, вастрогамі ды манлівымі тлумачкамі эвангельскіх тэстамантаў—усе гэтыя нягоднікі злучыліся пры салодкіх сьпевах соцыял-згоднікаў, каб ізноў заціснуць туга зашмаргу на шыю вызваленага пролетара-рабочага, на шыю беднага селяніна.

На зьмену адыходзячым немцам рухаюць на нас грамады францускіх, амэрыканскіх, ангельскіх белагвардзейцаў, якія яшчэ ўчора на ўвесь сьвет крычалі, што яны ваююць выключна за вызваленьне і самаўсьведамленьне прыгнечаных народаў. Што-ж патрэбна ім зараз ад вас, калі вы, нарэшце, сталі вольнымі, хочаце кіраваць самі сабою, а ня каб вамі кіравалі бяздушныя лялькі-цары, каралі ды хто з імі? Чаму йдуць „асьветнікі" на Радавую Фэдэралістычную Расію, якая першаю запрапанавала замірэньне ўсім народам, якая першаю стала на шлях сапраўднага народаўпраўства, якая скінула з народу ланцугі векавога прыгону? Чаму „свабодалюбныя" французы, „дэмократы" амэрыканцы, „джэльтмэны" ангельцы натужваюцца, як мага, каб задушыць расійскую свабоду, а з ёю пахаваць свабоды і іншых народаў? Чаму гэтыя „свабодалюбцы" гуртуюць банды з ворагаў народу? Таму, што іхныя словы пра любасьць свабоды—толькі словы. Таму, што францускі, амэрыканскі і ангельскі народы пакуль яшчэ адураны, як былі адураны царамі народы Расіі. Таму, што іх упраўнікі—пакорлівыя служкі капіталу, гэтага бяздушнага вампіру, што сьсе народную кроў. Таму-та „свабодалюбцы" Захаду зьбіраюць чэха-славацкія банды, даюць варужжа і грошы Красновым, Дзянікіным, Дутавым і хэўры; садзяць на пасад Скарападзкіх, пякуць, як блінцы, „памазьнікаў божых", высаджваюць дэсанты на поўначы Расіі, нападаюць на яе з паўдня, з захаду. Але, баючыся згубіць купленую дарагім коштам свабоду, не спалохалася аднаўленая Работніцка-Сялянская Расія. Араты пакінуў плуг, рабочы—варстат і сталі поплеч пад чырвоныя сьцягі на абарону заваёў Рэволюцыі. У момант вырасьлі чырвоныя палкі, дывізіі, корпусы, арміі. Савецкая Расія, краіна рабочых і сялян, паказала ўсяму сьвету, да чаго здолен свабодны народ. З'організаваная маладая Чырвоная армія, командуючыся сваімі-ж братамі пролетарамі, раптам стала біць чэхаў, крышыць Красноўскія, Дзянікінскія ды іншыя „ўдарныя", „жалезныя", ды „бясьсьмертныя" банды. Кожны дзень прыносіць новыя весткі аб тым, што Чырвоная армія перамагае, кожную гадзіну крэпне яе моц. У гэтым волатным змаганьні за свабоду павінны прымаць удзел і мы, беларусы, і наш дванаццацёхміліённы працоўны народ, дагэтуль чорны,

заярэмны вол польскіх ды літоўскіх каралёў і расійскіх цароў, каб стаць свабодным, павінен, як адзін чалавек, абараняць Рэволюцыю, Расійскую Радавую Фэдэрацыйную Рэспубліку, соцыялізм. Цяперака беларускі працоўны народ абкружан з усіх бакоў ворагамі. Польшча, у асобе свайго буржуазна-клерыкальнага правіцельства, імкнучыся стаць вялікаю, ад мора да мора, іначай кажучы, быць ізноў рэспублікаю, але з каралём, зьвярнула з першага дню свайго незалежнага існаваньня „асьвечаны" пагляд у бок „быдла" беларусаў, і сёньня ўжо легіянэры, сынкі польскіх памешчыкаў ды шляхты, топчуць беларускія нівы, паляць сёлы, катуюць жыхарства. Літоўская тарыба замерваецца на нашу зямлю, Украіна Скарападзкага і Пятлюры ўжо адрэзала сабе цэлыя беларускія вобласьці. Адна Работніцка-Сялянская Савецкая Расія працягвае нам руку для сумеснага братняга жыцьця, прызнае наша права быць свабодным народам і як роўнаму з роўным ісьці па вялікаму шляху соцыялізму. Хутчэй-жа ў дарогу, браты-беларуы! Але толькі з Савецкаю Расіяй! На яе чырвоным сьцягу гарыць прызыў да пролетарскага аб'яднаньня, і беларусы толькі з ёю аднэю павінны дзяліць і радасьць і гора, бо не з каралёў-жа, рэгэнцкіх саветаў, тарыб і рад пачнем мы будаўніцтва новага свабоднага жыцьця Беларусі. Рады рабочых, сялян ды салдат—вось форма ўпраўленьня Беларусьсю.

Таварышы беларусы! Сотні вас, выгнанцаў, ужо вярнуліся на зруйнаваныя родныя пажарышчы. Тысячы што-дня прыбываюць з плену. Пачынайце-ж хутчэй будаваць новае жыцьцё, закладайце па вёсках, мястэчках і гарадох беларускія комуністычныя ячэйкі, сельскія комуны, валасныя, сельскія саветы. Закладайце чырвоную беларускую армію. Нясеце замірэньне халупам і няшчадную вайну палацам.

Ня верце паном і іх падлізычам папом ды ксяндзом; ня верце „кулакам-міраедам"; ня верце паслугачом самадзяржаўя і соцыялістым-згоднікам. Ня верце беларускай радзе, якая перагаварваецца з літоўскаю тарыбаю, з польскім буржуазным правіцельствам, з Скарападзкім ды з французскім, амэрыканскім, ангельскім імпэрыялізмам. Ганеце ад сябе гэтую погань, няхай ніводзін з гэтых прадаўнікаў не пападае ў вашу працоўную сям'ю. Верце толькі вашым таварышам комуністым, якія аддаюць сваё жыцьцё за дабро працоўнага народу. Выбірайце ў комітэты, комуны ды саветы беларусаў-комуністых, бо толькі адны комуністыя не прададуць вас у цэпкія лапы буржуазіі і капіталу; толькі комуністыя навучаць вас, як вызваліцца назаўсёды з прыгону, пакажуць шлях да соцыялізму; толькі пры дапамозе комуністых станеце вольнымі грамадзянамі вольнай Беларусі, уліўшыся ў сусьветную армію працы. Няхай жыве сусьветная працоўная комуна! Няхай жыве інтэрнацыянал!. Няхай жыве свабодная Работніцка-Сялянская Савецкая Беларусь у цеснай фэдэрацыі з Савецкаю Расіяй!"

Гэткім чынам конфэрэнцыя беларускіх секцый РКП сігналізавала вагромнай важкасьці думку стварэньня Савецкай Беларусі—беларускім працоўным гушчам. Апошнія горача сустрэлі яе і з нецярпеньнем чакалі далейшага разьвіцьця здарэньняў. Шлях, па якім ішло яно, выразьняўся з дню на дзень. У запэўненасьць пажаданых скуткаў—верылі як комуністычныя беларускія колы, гэтак і згуртаваныя вакол іх працоўныя гушчы выгнанцаў, рабочых і чырвонаармейцаў. Якімсьці цудам паўсюджыліся крылатыя чуткі па вызваленай Беларусі ў глухіх яе кутках, папяраджаючы ходу здарэньняў.

Улічваючы адпаведныя ўмовы, конфэрэнцыя, між іншымі пастановамі, прыняла рэзолюцыю: „Аб організацыі беларускіх палкоў Чырвонае арміі". Гэта рэзолюцыя таксама датыркала пытаньня стварэньня Савецкай Беларусі, сыгналізуючы ажыцьцяўленьне агульнай рэзолюцыі па гэтаму пытаньню. Вось яе зьмест: „Улічваючы выключна адказнае паміжнароднае становішча, у якім знаходзіцца зараз вызваленая Беларусь, конфэрэнцыя прызнала неабходным стварыць беларускія палкі Чырвонае арміі, ганаровым і адказным заданьнем якіх будзе абарона Беларусі, якая ў бліжэйшым наступным будзе адным з форпостаў Вялікае Расійскае Соцыялістычнае Рэволюцыі пры змаганьні з сусьветным імпэрыялізмам. У мэтах практычнага вырашэньня гэтага пытаньня конфэрэнцыя пастанаўляе: 1) Даручыць выбранаму конфэрэнцыяй Цэнтральнаму Бюро Беларускіх Комуністычных Сэкцый усё кіраўніцтва і клапоты аб фармаваньні беларускіх чырвоных палкоў, для чаго сэкцыям, увайшоўшы на местах у патрэбны контакт з вайсковымі савецкімі ўласьцямі, пачаць неадкладна набор чырвонаармейцаў і далейшую патрэбную організацыйную працу. 2) Адправіць сформаваны ў Пецярбурзе добраахвотніцкі атрад беларусаў-комуністых у Менск, дзе ён можа паслужыць харошым комуністычным асяродкам для беларускіх чырвонаармейскіх палкоў, да сформаваньня якіх там прыступлена.

Конфэрэнцыя запэўняецца ў тым, што ў бліжэйшыя-ж месяцы маладая беларуская Чырвоная армія, побач з старымі слаўнымі латыскімі і іншымі чырвонаармейскімі палкамі, зьявіцца першалінейным ваяком і абаронцам Соцыяльнае Рэволюцыі, адкуль-бы ёй не пагражаў паміжнародны ваяўнічы імпэрыялізм ды драпежны капітал".

Усе свае пастановы, якія справодзіліся жывымі, усебаковымі спрэчкамі, у поўным протоколе на другі-ж дзень пасьля конфэрэнцыі былі адасланы ў вышэйшыя партыйныя інстанцыі. Асабіста ад гэтага рэзолюцыя аб беларускіх чырвоных палках зразу была даведзена да ведама Вышэйшага Рэволюцыйнага савету. Таксама, выконваючы волю конфэрэнцыі, абранае Цэнтральнае Бюро з некалькімі дэлегатамі давяло да ведама асабова аб пастановах конфэрэнцыі тав. Сталіна, як народнага камісара па нацыян. справах. З другога боку скуткі конфэрэнцыі трэ' было вынесьці на абгавор беларускіх працоўных гушч. Прадстаўнікі конфэрэнцыі з мест

атрымалі заданьні зрабіць падрабязговыя адчоты ў сябе дома перад сябрамі сэкцый і грамадзянствам непартыйным.

У Маскве-ж Цэнтральнае Бюро назначыла сход на 29 сьнежня. Сход, пад дэвізам—„Беларусы, да хаты!“ у будынку кіно-Арс, прайшоў з надзвычайным уздымам настрою. Перапоўненая заля, да 500 чалавек, настарожана выслухала шэраг дакладаў пра сучаснае становішча Беларусі і пра пастановы конфэрэнцыі Беларускіх Сэкцый. Аднагалосна была прынята гэткая рэзолюцыя аб становішчы Беларусі: „Абгаварыўшы пытаньне пра сучаснае становішча Беларусі, сход беларусаў-комуністых і ім спачуваючых, на якім прысутнічала да пяцёхсот чалавек, пастанавіў:

1) Складнае і адпаведнае перад рэволюцыяй паміжнароднае і ўнутранае становішча Беларусі настойна дыхтуе хутчэй стварыць моцную Савецкую Беларусь для таго, каб можна было з посьпехам бараніць яе, як форпост Социяльнай Рэволюцыі, на які ў першую чаргу стане накідацца паміжнародны драпежны імпэрыялізм.

2) Толькі Беларускай Савецкай уладзе ва ўмовах дадзенага моманту ўдасца пасьпешна вырашыць заданьне—поўна адрадзіць беларускі народ.

3) Лёзунг—„Беларусы, да хаты!“, іначай кажучы, мобілізацыя беларускіх комуністычных сіл і тых, хто стаіць за Савецкую ўладу выключна забясьпечыць маладую Савецкую Беларускую ўладу патрэбным запасам падгатоўленых працаўнікоў і будаўнікоў комуністычнага парадку, якія зразу зробяць моцным новы рэволюцыйны соцыялістычны парадак.

Прымаючы на ўвагу ўсё вышэй адзначанае, сход лічыць патрэбным заявіць, што толькі неадложнае стварэньне Савецкай Беларусі паложыць моцную аснову для народнай улады на Беларусі, прыдасьць сілу і моц беларускай дэмократыі, падніме яе на змаганьне за ўладу саветаў супроціў наступаючага імпэрыялізму.

Агульны сход беларусаў шле гарачае прывітаньне вялікаму правадыру сусьветнай рэволюцыі т. Леніну і іншым змаганьнікам за ўрачыстасьць інтэрнацыяналу з цьвёрдаю надзеяю, што іх патугаю з дапамогаю працоўных гушч, Савецкая Беларусь стане незалежнаю Савецкаю Работніцка-Сялянскаю Рэспублікаю. Далучаючыся да постаноў першае конфэрэнцыі Беларускіх Сэкцый РКП, гэты сход кліча ўсіх беларусаў вярнуцца ў Беларусь—„Да хаты! Да хаты!“

Помеж з шырокаю кампаніяю, якая павялася сярод беларускіх гушч з мэтаю асвоіць іх з бягучым становішчам вызваленай Беларусі і з яе наступным лёсам, пайшла бойкая ўнутраная організацыйная справа. Ужо неўзабаве пасьля конфэрэнцыі Рэволюцыйны Савет Рэспублікі даў дазвол організаваць у складзе існаваўшай заходняй дывізыі беларускі полк. Бюро Сэкцый вызначыла для гэтай справы свайго сябра М. Дракона, назваўшы полк „Полацкім“. Таксама трэба было Бюро правясьці радыкальную пераконструкцыю Нацыянальнага Беларускага Камісарыяту, дапасаваўшы яго конструкцыю да новых надышоўшых у зьвязку вызваленьня Беларусі ўмоў. Усё разам выяўляла пэўную атмосфэру вось-вось надыходзячых важкіх гістарычных здарэньняў, якія лунаві вакол Беларускага Камісарыяту.

І вось, у гэты час конфэрэнцыя комуністых Паўночна-Заходняй Вобласьці ў справе вырашэньня беларускага пытаньня стала на точку гледжаньня конфэрэнцыі Беларускіх Сэкцый і, пасьля дэтальнага абгавору, вынесла гэткую пастанову: „Атмосфэра, якая ўсё больш ды больш згушчаецца на горызонце сусьветнага імпэрыялізму, пагражае зьніштожыць пераможны рух III Інтэрнацыяналу, паўстаўшага міжнароднага пролетарыяту і прыгнечаных нацый, якія становяцца на шлях адзіна-збаўчы для іх Комуністычнай Рэволюцыі. Супроць ваяўніча-захопнага імпэрыялізму згуртоўваюцца шпарка сілы Савецкай Расіі дзеля таго, каб адстаяць свабоду працоўных гушч, паўстаўшых народаў, каб устаяць супроціў націску цесным ланцугом акружаючых нас найміцкіх банд і цёмных гордаў імпэрыялізму, каб яшчэ больш замацаваць заваёвы расійкага пролетарыяту і дапамагчы яму адбіць наступ драпежнага ворага, які задаўся мэтаю зьніштожыць здабыткі пролетарыяту і свабодных праў нацый з мэтай наладжаньня фактычна-буржуазнага самавызначэньня народаў, тым самым беспрасьветнага разгулу капіталу,—VI краёвая (абласная) конфэрэнцыя бальшавікоў лічыць канечным абвясьціць самастойную Социялістычную Рэспубліку Беларусі з тэрыторыяю Менскае, Горадзенскае, Магілеўскае, Віцебскае і Смаленскае губэрань“.

Пасьля таго, як гэта рэзолюцыя была прынята аднагалосна ўсёю конфэрэнцыяю, апошняя абвясьціла сябе першым зьездам Комуністычнай Партыі Беларусі.

Гэткім чынам, паяднанаю воляю беларускіх працоўных гушч у асобе Конфэрэнцыі Беларускіх Сэкцый і конфэрэнцыі Комуністычнай Організацыі Заходняй Комуны, была агалошана Беларуская Самастойная Соцыялістычная Рэспубліка, якая 31 сьнежня 1919 г. палажыла пачатак новай эры ў жыцьці многапакутнага беларускага працаўніка.

З вялікім неапісуючым натхненьнем разьляцелася гэта вестка па ўсіх кутках Беларусі, па абшарах РСФСР, за рубяжом.

Ахапіўшую працоўныя беларускія гушчы ўрачыстасьць адбіла ў сваім гістарычным маніфэсьце Часовае Рэволюцыйнае Правіцельства Беларускай Рэспублікі ў гэтых словах і фарбах:

„Таварышы і браты рабочыя, бедныя сяляне і чырвонаармейцы Беларусі!

Горацешная пакутная Беларусь, Беларусь рабочых і бедных сялян, сьпярша доўгія вякі свайго жыцьця служыўшая сродкам для абагачэньня польскага вяльможнага панства-памешчыкаў, зламыслых грашаўнікоў-купцоў і ўсялякіх багацеяў-крывасмокаў, а потым захопленая пад уціск расійскага крывавага самадзяржаўя з яго гэнэраламі і самаўладным чыноўніцтвам, адурваная ды абманваная з касьцёльных амбонаў ксяндзамі і з царкоўных аўтароў папамі, скутая з ног да галавы ланцугамі няволі, цярпеўшая зьдзекі і глум і перажыўшая цяжкае ярмо нямецкага прыгону, цяпер аслабаняецца ад доўгай векавой пакуты адважным наступам Чыр-

вонае арміі і прычашчаецца да новага вольнага жыцьця, якое будуецца на закладзінах комунізму, на фундаманце міжнароднае злукі працоўнага люду.

Вялікая Акцябрская Рэволюцыя ў Расіі, зруйнаваўшы паганае панства памешчыкаў, фабрыкантаў, ксяндзоў і паноў, панства абману, няволі і ўціску, залажыла фундамант новага ўстрою жыцьця з уладаю самога працоўнага народу. Пачаўшы з Расіі, яна запаліла таксама агонь усясьветнага аслабаджэньня працоўнага народу ад прыгону грашаўніцтва, цароў і багачоў. Полымя гэтага вагню з кожным днём і з кожным часам ахапляе сабою ўсё большыя і большыя абшары зямлі, пераходзіць з аднае краіны ў другую, зганяе ўсюды з працоўнага народу цьму нязнаньня, змоўк і пакору, будзіць пачуцьцё паўстаньня супроціў прыгнятацеляў і помсту да іх, і грозіць затапіць у сябе ўсіх ліхіх ворагаў працоўнага люду, ворагаў волі і шчасьця, ворагаў рэволюцыі, і ачысьціць шырокі чырвоны шлях да панства вольнае працы, да панства комунізму, да панства паміжнароднай братняй злукі працаўнікоў усяго сьвету.

Чуючы і бачачы сваю нямінучую скорую пагібель, ворагі рэволюцыі, нясучай рабочаму і беднаму селяніну, гэтым праўдзівым гаспадаром усяго жыцьця на зямлі, поўную ўладу над гэтым жыцьцём,—мятусяцца ды трапечуцца, нібы няпрытомныя, стараючыся, як мага, абманам ды подкупам сабраць вакол сябе сілы, абрушыцца на рэволюцыю і спыніць яе грозны наступ. Але ўсе іх надзеі дарэмны, усе іх патугі прапашчы.

Магутнаму ўздыму рэволюцыйных хваль, руйнуючых усялякае рабства, нішчачых усякі прыгон і вызваляючых працоўны народ, не знайсьці на пуціне ходу ніякіх прашкод, ні жаднага стрыму!

Рабочыя, сялянская бедната і чырвонаармейцы Беларусі!

Руйнуючы будову цяжкага прыгону, высушваючы моры сьлёз і рэчкі крыві, разьлітых на шырокіх абшарах гарацешнай Беларусі, зьнішчанай страшэннай вайною, узьнятай царамі і багачамі з-за сваіх інтарэсаў і пагубіўшай дарэмна міліёны рабочых і сялян, ідзе да нас у проміну сонца пры сьпеву літаньняў шчасная пара аслабаджэньня, нясе вам, рэволюцыі, поўную ўладу і панаваньне. Паміж працоўнымі народамі Расіі, Літвы, Украіны і Латвіі ад сягоньнешняга дню становіцеся і вы вольнымі і поўнапраўнымі гаспадарамі вольнай незалежнай Беларускай Соцыялістычнай Рэспублікі! Ад сёньнешняга дню Беларусь—Савецкая Рэспубліка—становіцца рэспублікай працоўнага народу, рабочых, сялянскае бедноты і чырвонаармейцаў Беларусі!

Усе, дагэтуль пасягаўшыя на працоўную Беларусь: буржуйныя прадаўнічыя правіцельствы, правіцельствы прыгоншчыкаў, купцоў, памешчыкаў і фабрыкантаў, асьвечаныя прадажнымі духоўнікамі, дзе-б іх улада яшчэ ня ліпела-б, як паганая Рада, нямецкае окупацыйнае начальства, польскае і ўкраінскае пасяганьне—лічацца скінутымі, ня існуючымі і аб-

вяшчаюцца, з усімі сваімі сябрамі і прыхільнікамі, вашымі і ўсяго працоўнага народу ў сьвеце злымі ворагамі, заслужанымі няшчаднай рэвалюцыйнай кары.

*Уставайце ўсе на абарону Соцыялістычнай Савецкай Працоўнай Рэспублікі Беларусі! Уставайце!*

Няхай з усходу на захад і з поўначы на поўдзень прагучыць гэты зычны вокліч па ўсім абшары Беларусі і ўздыме ўсіх да аднаго працаўнікоў і бедных сялян стаць пад чырвоны сьцяг сусьветнае рэволюцыі, каб аб вашы цесныя загартованыя шэрагі разьбіліся ўсе напады ворагаў рэволюцыі і беднага працоўнага народу.

Хутчэй да змогі! Каб не засталі вас у нядбайным спачынку, гатуючыся напасьці на Савецкую Беларусь, чорныя грамады польскіх легіянэраў, сп'янёныя гурты пятлюраўскіх незалежнікаў, а сьледам за імі белагвардзейскія слугі хаўрусьнічага імпэрыялізму!

*Да змогі! Да змогі! Да змогі!*

Іменем вякі цярпеўшай няволю, пакуту і зьдзек, а ад сяго дню— вольнай Савецкай Рэспублікі Беларусі, іменем Чырвонае Арміі, соцыяльнай рэволюцыі, іменем сусьветнага паміжнароднага комунізму, пастаўленае на варту Першым Зьездам Комуністычнай Партыі Беларусі.

*Часовае Работніцка-Сялянскае Правіцельства Савецкай Беларускай Незалежнай Рэспублікі абвяшчае перад усім сьветам:*

1. З гэтага моманту ўся ўлада на Беларусі прыналежыць толькі саветам работнічых, сялянскіх, батрацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў.

2. Захаваўшаяся дагэтуль дзе-кольвечы ўлада нямецкіх, польскіх і ўкраінскіх окупантаў ад гэтага часу лічыцца скасованаю.

3. Прадаўнічая буржуйная Беларуская Рада з яе так празыванымі „народнымі міністрамі“ абвяшчаецца безабароннай законамі.

4. Усе законы, пастановы, распарадкі і прыказы Рады і яе слуг, а таксама нямецкіх, польскіх і ўкраінскіх окупацыйных улад лічацца несапраўднымі; распарадкі-ж і прыказы нямецкіх улад, датыркаючыся способу выхаду нямецкіх салдат з Беларусі, захоўваюць сваю сілу.

5. Ад сяго моманту ўстанаўляецца на Беларусі рэволюцыйны парадак; усе супроціўрэволюцыйныя выступы і патугі зрабіць пагромы, грабествы і гвалтаваньні будуць няшчадна руйнавацца.

6. Рабочыя, сяляне і працаўнікі ўсіх нацыянальнасьцяй, якія жывуць на абшары Беларусі, карыстаюцца роўным правам і знаходзяцца пад абаронаю рэволюцыйных законаў.

7. Уся зямля памешчыкаў і наогул буйных земляўласьнікаў, манастыроў, царквоў, касьцёлаў і духоўнікаў, з усім жывым і мёртвым багацьцем (інвэнтаром), а таксама ўсе лясы, воды і нутры зямлі становяцца дастаткам працоўнага народу Беларусі.

8. Усе чыгункі і ўсе пуці злукі (саабшчэньня), пошты, тэлеграфы ды тэлефоны, фабрыкі, заводы і банкі абвяшчаюцца дастаткам рабочых і беднага сялянства Беларусі.

9. Мясцовыя саветы мусяць абараняць людзкое дабро ад раскраду і псоты і прыцягаць віноўнікаў да адказу.

10. Уводзіцца восем гадзін у дзень працы без зьверхурочных гадзін на ўсялякай рабоце і ўваходзяць у моц усе дэкрэты РСФСР па забясьпецы рабочага стану.

Чырвонай арміі, рабочым і сельскай беднаце Беларусі даручае часовае Правіцельства Савецкай Беларускай Незалежнай Рэспублікі ахову ўсіх гэтых вялікіх заваёў соцыяльнае рэволюцыі.

Яно дапамінае ўсім працаўнікам, што праз абарону Савецкай Беларусі—абараняецца Савецкая Расія, абараняецца сусьветная рэволюцыя, інтарэсы працоўнага народу ўсіх краёў на сьвеце і яскравае панства комунізму.

*Няхай жыве вольная працоўная Беларусь!*

*Няхай жыве Савецкая Расія!*

*Няхай жыве сусьветная Працоўная Рэволюцыя!*

# СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫ КРЭДЫТ У СЫСТЭМЕ КООПЭРАЦЫІ

Я. Пятровіч

Коопэрацыя ва ўсіх яе формах стаіць у сучасны момант у асяродку ўвагі як грамадзянскіх і палітычных, так і савецкіх колаў. Гэтая зацікаўленасьць коопэрацыяй залежыць ад тае значнасьці, якую яна павінна мець у наступныя часы ў справах паступовага пераходу да соцыялізму, у справах аб'яднаньня асобных галін народнай гаспадаркі. У часы пераходу ад капіталізму да соцыялізму, коопэрацыя мае быць тэю формаю грамадзянска-гаспадарчых адносін, якія павінны ўсё больш абымаць і аб'яднаць прамысловую дзейнасьць насельніцтва, пасабляючы гэтым поўнаму згуртаваньню ў руках грамады ўсіх гаспадарчых функцый прыватных асоб.

У зьвязку з гэтымі заданьнямі коопэрацыі, на апошнюю ўскладаецца даволі трудная задача аб'яднаньня сельскага жыхарства, як асноўнага элемэнта ў Савецкіх Рэспубліках. Сялянства, раскіданае па вялізарнаму абшару Савецкага Саюзу, няпрывычнае да хоць-якіх аб'яднаньняў, палітычна ня досыць сьвядомае, прадстаўляе той об'ект, дзе коопэрацыі трэба прылажыць шмат працы і організацыйных здольнасьцяй і дзе работа яе бязумоўна патрэбна. Бяз ухілу работы коопэрацыі ў бок вёскі, да сялянства, закладныя мэты наогул усяе коопэрацыі, а таксама мэты соцыяльнае перабудоўкі будуць адсунуты ў будучыну. Вось чаму ў гэтым годзе ў адносінах да коопэрацыі быў узяты напрамак да ўзмацаваньня яе на вёсцы, да пераносу ўвагі на нізшыя коопэрацыйныя аб'яднаньні. Калі ў мінулыя гады праз цэлы шэраг абставін нельга было дасканальна паглыбляцца ў коопэрываваньне жыхарства, а мець на ўвазе перш усяго гандлёва-загатоўчыя функцыі буйных коопэрацыйных організацый, то цяпер надышоў час пераглядзець гэтае пытаньне ў бок дробных коопэрацыйных адзінак.

Нажаль, пры ўсёй цікавасьці да коопэрацыі, пачатай з пастановы XIII Зьезду РКП, яшчэ да гэтых часоў ня ўстанавілася яснасьць поглядаў на ніжэйшыя коопэрацыйныя адзінкі, на сувязь іх між сабою, асабліва між рознымі формамі коопэрацыі. Адсутнасьць гэтае яснасьці шкодзіць перш усяго цалком коопэрацыі, у пабудову якое трэба было-б увясьці сталую сыстэму, добра распрацованы плян. Пакуль-што, такога пляну няма, і гэты факт зьяўляецца прыметнаю хібаю нашага гаспадарчага

будаўніцтва. У той час, як прамысловасьць, сельская гаспадарка, грашовыя справы мяркуюцца падрабязна, коопэрацыя, якая павінна заняць пачэснае месца ў прамысловасьці і гандлю, мае нездавольнае меркаваньне з організацыйнага боку. Зьнішчыць гэтую хібу павінна стаць галоўнаю мэтаю кіраўнічых коопэрацыйных органаў, бо чым далей, тым болей мы павінны пераходзіць да плянавасьці ва ўсіх галінах гаспадаркі, асабліва ў тых, якія маюць сваёю мэтаю пасабляць аб'яднаньню, „обобществлению" вытворчасьці.

Коопэрацыя на Беларусі яшчэ маладая: яе без абмылкі можна лічыць вытварэньнем Кастрычнікавай Рэволюцыі. Да вайны пры царскім прыгоне ўсякая праява грамадзянскай дзейнасьці, у тым ліку і коопэрацыйнай, нішчылася, бо ўскраіна ў стасунку з поглядамі царскага ўраду магла ад грамадзянскіх устаноў хутка перайсьці да чырвонага штандару. У часы вайны пачалі засноўвацца коопэрацыйныя суполкі, але яны не маглі расквітнуць у такі кароткі час ды яшчэ ў абставінах беспасрэднай блізкасьці фронту. З часаў-жа рэволюцыі коопэрацыя пачала пашырацца вельмі шпарка, але спачатку ёй пашкодзілі розныя інтэрвэнцыі, а таксама кепскія ўхілы пад уплывам кіраўнікоў з розных політычных партый і напрамкаў: у 1917 годзе каля коопэрацыі гуртаваліся ўсе ад меншавікоў да монархістых, бачачы ў коопэрацыйнай дзейнасьці той „защитный цвет", які не дазваляў ім выдзяляцца з агульна-рэволюцыйнай масы жыхарства. Вось праз усё гэта належнае разьвіцьцё нашае коопэрацыі пачалося толькі з 1921 году.

Але 1921—1923 гады ў жыцьці нашае коопэрацыі, як і наогул па ўсіх Савецкіх рэспубліках, засталіся як гады *гандлёвае дзейнасьці* выключна. Пры тых абставінах, якія тагды меліся ў гаспадарчым становішчы, коопэрацыя зьяўлялася перш ўсяго загатоўча-снабжаючым апаратам, і кожны грамадзянін юрыдычна лічыўся сябрам коопэрацыі. Вядома, што на належнае коопэрыраваньне жыхарства, на актыўную прыхільнасьць яго да коопэрацыйных спраў зварочвалася мала ўвагі. Праз гэта коопэрацыя не злажыла ні сваіх сродкаў, ні моцнага коопэрацыйнага апарату. Толькі ў гэтым годзе на гэтую хібу была зьвернута ўвага, законам было абвешчана вольнае сяброўства і пачаўся значны ўступ сяброў. Але вынікі сяброўскага ўступу яшчэ ня досыць здавальняючыя нас: спажыўчая коопэрацыя аб'яднае толькі яшчэ каля 5-6% усяго сельскага жыхарства Беларусі, а рабочая ў гарадох—45-50% усіх асоб, залічаных у профэсыянальныя саюзы. Адгэтуль сьледуе, што нашым коопэрацыйным аб'яднаньням ляжыць уперадзе яшчэ досыць марудная і доўгая праца па ўключэньню ў коопэрацыю жыхарства.

Былі яшчэ і іншыя хібы ў дзейнасьці коопэрацыі. Да іх перш усяго сьледуе далучыць адсутнасьць здольнасьці ў гандлю і ўсягдашні недахват сродкаў. Пачаўшы, можна лічыць, з пустога месца, коопэрацыя, вядома, не магла ў два гады абжыцца так, каб вольна варочаць грашмі, а

праз гэта ёй увесь час даводзілася працаваць на чужыя сродкі, у крэдыт—як таварны, так і грашовы. Асабліва быў шкодзен таварны крэдыт, бо ён прымушаў коопэрацыю браць і гандляваць ня тым, што было патрэбна жыхарству, а тым, што давала крэдытуючая ўстанова. Дзякуючы гэтаму, коопэрацыя шмат траціла як з організацыйнага, так і з чыста гандлёвага боку на вёсцы, сярод сялянства, якое надта мала абслугоўвалася яе апаратам.

А тымчасам вёска патрэбавала ад коопэрацыі надта многа. Тое вялікае зьнішчэньне, якое зрабіла вайна, тая перабудоўка вёскі, што пачалася на прынцыпах соцыяльнае рэволюцыі, адчынілі такія патрэбы, якіх раней вёска ня ведала. Сельска-гаспадарчае начыньне і панарад, зношаныя, паломатыя за часы вайны, павінны быць заменены новымі. З аднаго боку коопэрацыя ня мела тых тавараў, якія-б у дастатку здаволілі вёску, а з другога—сялянства не магло купляць, ня маючы сродкаў і крэдыту. Але толькі рэчамі спажывецкае коопэрацыі вёска не здаволілася-б і не здавальняецца і цяпер. Перад вёскаю стаяць такія заданьні, якія далёка выходзяць за межы спажывецкай коопэрацыі ў сучаснай яе конструкцыі. Гэтымі заданьнямі вёскі зьяўляюцца адраджэньне гаспадаркі і перабудова старога ўкладу жыцьця.

Вёска цяпер ломіць старыя формы землекарыстаньня, нішчыць вузкія палеткі, мяняе трохпалёўку на шматпалёўку, прымае лепшы севазварот. Старая вёска, скучаная, са многімі гаспадаркамі, разрываецца на кавалачкі—пасёлкі. Сяляне перамяжоўваюць зямлю, перавозяць на новыя месцы свае будынкі, закладаюць іншыя сялібы. Гэтая перабудоўка патрабуе шмат сродкаў, як і затраты лішняе працы. Шмат дзе такая перабудоўка яшчэ не пачыналася, хоць яна неадкладна патрэбна: сялянства ў сучасны момант яшчэ ня здолее вытрымаць тых патрат, якія патрэбны на ўсю гэтую перабудоўку. Вось у гэтай вялікай справе сялянства патрабуе падтрыманьня, і чым найхутчэй яно будзе дадзена, тым шпарчэй пойдзе і скончыцца перабудоўка па новаму нашай вёскі.

Далей, вёска пачынае адчуваць сьціслась, недахват зямлі наогул. Яна шукае сабе выхаду з гэтага становішча ў перасяленьні, у скарыстаньні пустых, нядобрых зямель, якіх Беларусь налічвае значныя абшары. Для таго, каб зрабіць з пяску ці з балота добрую зямлю, патрэбна таксама вялізарная праца і шмат грошай. Працу-то селянін можа даць, але грошай—не заўсёды. Такім чынам і ў гэткай справе яму патрэбна дапамога, без якое трудна справіцца з такім вялікім заданьнем.

Далейшым наступным заданьнем нашае сялянскае гаспадаркі мае быць разьвітаньне яе з натуральнай формай і пераход да таварнасьці, якая разумее перш усяго павышэньне здабытку ад гаспадаркі. Гэтае павышэньне можа быць зроблена і праз палепшаньне палёў, сенажацяй і падняцьце іх урадлівасьці, а таксама і праз належную пастанову ў гас-

падарцы пабочных галін, дапаможных стацьцей здабытку. Якраз на апошнія і трэба перш усяго зьвярнуць увагу, бо яны могуць карачэй і хутчэй прывесьці да пастаўленае мэты. Да гэтага дапаможнага здабытку можна далучыць уперад за ўсё *здабытак ад жывёлаводзтва*. У нашы часы гэты здабытак не зьяўляецца значным, бо сучаснае жывёлаводзтва якраз чыста натуральнае, бяз якіх-небудзь ухілаў у бок таварнасьці. Каб жывёлаводзтва стала больш карысным для гаспадаркі, каб яно ня толькі давала назем, але і пачало мець вагу ў грашовым балянсе селяніна, патрэбна замяніць нашу дробную, кволую скаціну лепшымі пародамі—малочнымі і мяснымі. З гэтае мэты вынікае патрэба ва ўзгадаваньні і распаўсюджваньні лепшых парод скаціны: кароў, сьвіней, коняй і г. д. Тут таксама патрэбна дапамога найболей бедным гаспадаром, бо, каб здабыць добрую скаціну, трэба шмат грошай.

Разам з паказанымі агульнымі заданьнямі, якія неадкладна стаяць перад вёскаю, вынікаюць наступныя, як іх сьледзтва. Вёска праз сваю перабудоўку і пераход да новых форм карыстаньня зямлёю, новых спосабаў і напрамкаў у вядзеньні гаспадаркі на нашых вачох павышае сваю вытворчасьць, павялічвае здабытак. Ужо ў апошнія два гады вёска мае значныя лішкі хлеба, жывёлы і інш. Гэтыя лішкі, ідучы на продаж неабробленымі, шмат трацяць у сваёй вартасьці, а часта бывае, што і зусім ня маюць сабе ходу на рынку. У дадатак, праз адсутнасьць ці недастачу ў нас блізка ад вёскі прамысловых прадпрыемстваў па пераробцы продуктаў сельскае гаспадаркі, нярэдка трапляецца, што шмат якія рэчы зусім непатрэбны на рынку: напрыклад, бульба, садовіна ўсякая і інш. Такім чынам, праз гэта селянін шмат траціць у сваёй гаспадарцы ад таго, што няма належнай пераробкі яго вытворчасьці. Праз гэта адным з важнейшых заданьняў коопэрацыі зьяўляецца організацыя на месцы сродкамі самога жыхарства *пераробкі сельска-гаспадарчых продуктаў у больш каштоўныя рэчы і збыту іх*. Гэтую мэту сельска-гаспадарчая коопэрацыя паставіла сабе даўно, з самага пачатку рэволюцыі, але і да апошніх часоў нельга лічыць яе дасягнутай у здавальняючай меры. Прычыны таму ёсьць. Перш усяго адсутнасьць звычайкі да такое дзейнасьці, а другое—недахватка сродкаў, якімі-б можна было даць пачаткова-належны штурх працы. Апрача гэтага, у сельска-гаспадарчай вытворчай коопэрацыі таксама, як і ў спажывецкай, ня выпрацавана дагэтуль сыстэма, плян залажэньня тых ці іншых аб'яднаньняў. Коопэрацыйныя вытворчыя аб'яднаньні закладаліся, працавалі, гібелі, а іншыя марнелі самі сабою, бо, складзеныя выпадкова, яны ня мелі пад сабою моцнага грунту. Толькі тыя з іх, якія залажыліся з поўным падлікам усіх абставін працы, трымаюцца, пашыраюцца і даюць прыклад таму, як трэба працаваць. Але, на жаль, такіх аб'яднаньняў ня многа, і яны далёка ня могуць абхапіць усё сялянства. Для пашырэньня такіх здольных аб'яднаньняў ізноў патрэбна дапамога.

Такім чынам, мы бачым, што ў такіх закладных заданьнях, як перабудоўка вёскі, скарыстаньне няўжывалых зямель, палепшаньне жывёлаводзтва і організацыя збыту і перароб ікі сельска-гаспадарчых продуктаў, вёска ня зможа справіцца без дапамогі. Калі дадаць сюды яшчэ больш падрабязныя патрэбы, як штучныя гнаі, палепшаньне насеньня, сельска-гаспадарчае начыньне і панарад, якія неадкладна патрэбны гаспадарцы для яе належнага росквіту, то нам будзе вочавідным, як многа трэба сродкаў, каб усё гэта вёсцы даць. Адкуль-жа гэтыя сродкі атрымаць? Дзяржава, толькі ў гэтым годзе нарыхтаваўшы гаспадарку і грашовую сыстэму, яшчэ ня мае столькі сродкаў, каб цалком узваліць сабе на плечы ўсе патраты, якія трэба панясьці для наладжваньня сельскае гаспадаркі. Для гэтага павінны мецца іншыя крыніцы, іншыя спосабы дапамогі. *Такім спосабам да адраджэньня сельскай гаспадаркі павінен зьяўляцца сельска-гаспадарчы крэдыт.*

Сельска-гаспадарчы крэдыт павінен быць выдзелены ў асобную сыстэму крэдыту. Гэтае выдзяленьне перш усяго дыктуецца самым характарам крэдыту. Усе мерапрыемствы па сельскай гаспадарцы пачынаюць прыносіць карысьць ня зразу, але праз доўгі тэрмін: напрыклад, абсушка балота можа даць здабытак гады праз два-тры пасьля таго, як будуць затрачаны праца і сродкі. Для гэтага сельска-гаспадарчы крэдыт павінен быць перш усяго доўгатэрміновым, у той час, як звычайны прамыслова-гандлёвы крэдыт такога варунку не патрабуе, а наадварот,—чым ён карацейшы, тым большы ўплыў робіць на хуткасьць кругабегу. Другім варункам сельска-гаспадарчага крэдыту мае быць яго дзяшовасьць. Праз тое, што ў сельскай гаспадарцы кругабег для адных галін яе мае тэрмін ня менш году (хлеб, сена), а для другіх і болей (жывёла), нельга браць высокага проценту, бо ўложаныя грошы прыносяць надта нязначны здабытак. Вось два закладных прынцыпы, на якіх павінен апірацца сельска-гаспадарчы крэдыт. Трэцім, ужо менш прынцыповым варункам, а больш часовым, хоць і надта важным у нашы часы, павінна быць сваечасовасьць крэдыту,—інш кажучы, крэдыт павінен давацца тады, калі ён патрэбен, у залежнасьці ад мэты. Што-ж належыць да мэт, на якія павінен давацца крэдыт, то яны павінны быць цесна злучаны з закладнымі заданьнямі сельскай гаспадаркі. Раскідваньне грошай на падрабязныя патрэбы вядзе толькі да распылу сродкаў бяз значнае карысьці ў агульным становішчы гаспадаркі. Для гэтага, пакуль сельска-гаспадарчы крэдыт ня стане моцным настолькі, каб ахапіць усе патрэбы, ён павінен абслугоўваць у першы чарод найбольш выдатныя бакі сельска-гаспадарчай дзейнасьці.

Цяпер зьвернемся да організацыйных пытаньняў сельска-гаспадарчага крэдыту. Ці павінен быць гэты крэдыт чыста дзяржаўным альбо якім-небудзь іншым? Для адказу на гэтае пытаньне трэба зьвярнуць увагу, на якія мэты патрэбен крэдыт. Гэтыя мэты мы ўжо з большага пералічылі вышэй.

і з разгляду іх павінны сказаць, што хоць яны і надта важныя, але ўсё-ж такі маюць характар пакуль што прыватных. Для гэтага сельска-гаспадарчы крэдыт мусіў-бы быць у сучасных варунках з'організаваны, як прыватная інстытуцыя, падобна коопэрацыйным аб'яднаньням альбо таварыствам узаемадапамогі. Але патрэбы ў крэдыце настолькі вялікія, што залажыць значныя грамадзянскія крэдытныя аб'яднаньні надзеі мала. Вось чаму ўжо больш году таму назад вышэйшымі дзяржаўнымі ўстановамі было парашано організаваць сьпярша губэрскія і вышэйшыя таварыствы сельска-гаспадарчага крэдыту, а затым і Сельска-Гаспадарчы Банк—Цэнтральны і Рэспубліканскія. Гэтыя таварыствы злажылі свае капіталы са сродкаў дзяржаўных устаноў. Сельска-жа Гаспадарчы Банк наогул прайшоў за кошт саюзнага бюджэту.

Таварыствы сельска-гаспадарчага крэдыту пачалі з залажэньнем банку драбіцца і з губэрскіх пакрысе разрабляюцца ў вакружныя і павятовыя. Такім чынам, і ў нас, на Беларусі, залажыліся таварыствы ў Віцебску і Воршы. Але гэтыя таварыствы організаваны па тандэту губэрскіх: частка сродкаў іх належыць Цэнтральным дзяржаўным установам, частка мясцовым установым і організацыям. З гэтага відаць, што ні Сельска-Гаспадарчы Банк, ні вакружныя таварыствы ня могуць лічыцца ні ў якім разе прыватнымі інстытуцыямі: гэта чыста дзяржаўныя ўстановы, пабудованыя на кошт дзяржаўнага бюджэту альбо на кошт дзяржаўных гаспадарчых устаноў і організацый. Маленькую недарэчнасьць уносяць у гэтае адзначэньне ўдзелы сваімі грашмі цэнтральныя коопэрацыйныя аб'яднаньні. Але іх удзел настолькі нязначны, што агульнага характару ўсяе ўстановы ён не мяняе.

Дзе-ж тут крэдытная коопэрацыя, якая па літаральнаму сэнсу прынцыпу сельска-гаспадарчага крэдыту павінна быць у поўнасьці праяўлена? Праўду кажучы, яе трудна прыкмеціць нават тады, як мы зажадалі-б яе шукаць там, дзе ён належыць быць—на вёсцы. Нам праз тое трудна было-б адшукаць яе, што яна дагэтуль ня мае выразнага аблічча. У раёнах, у вёсках, у беспасрэднай сувязі з сялянствам, якое атрымае крэдыты, ролю контрагэнта банку і вакружных таварыстваў нясуць на сабе аб'яднаньні спажывецкай і сельска-гаспадарчай коопэрацыі, якія займаюцца крэдытаваньнем па даручэньню толькі як дадатковаю функцыяй.

Праўда, за апошнія два-тры месяцы пачалося пашырэньне асаблівых крэдытных сельска-гаспадарчых таварыстваў, але і яны так мала маюць адзнакі ад іншых коопэрацыйных аб'яднаньняў у адносінах да коопэраваньня жыхарства, што пакуль іх трудна лічыць выразна коопэрацыйнымі.

Дзейнасьць усяе сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту, з нашага погляду, мае некаторыя хібы, якія часткаю залежаць ад організацыйнай нядбайнасьці. Першаю хібаю зьяўляецца нарушэньне прынцыпу таннасьці крэдыту. Гэтае нарушэньне робіцца праз пераход грошай праз тры альбо

і праз чатыры ўстановы: Цэнтральны банк СССР, Сельска-гаспадарчы банк БССР, сельска-гаспадарчае таварыства, пазычнік. Пакуль грошы пяройдуць праз усе ўстановы, то на іх нарастае значны процант, бо кожнай установе трэба за кошт здабытку трымаць сябе. Такім чынам, з 6-8 проц., якія бярэ па пазычкам Цэнтральны с.-г. банк, нарастаюць 7-9 у нашым банку, 9-11 проц. у таварыстве. З гэтага сьледуе, што трэба знайсьці альбо інакшы спосаб накіраваньня крэдытаў, альбо паменшыць процант, які бярэ Цэнтральны сельска-гаспадарчы банк. Так ці іначай, але трэба зьменшыць пазычковы процант, бо ён якраз будзе затрымліваць пашырэньне крэдытнай коопэрацыі.

Таксама шкодзіць крэдытнай коопэрацыі недахватка ў яе сродкаў наогул. Ня маючы абаротных капіталаў, крэдытныя таварыствы і коопэратывы-корэспондэнты ўсю сваю дзейнасьць абмяжоўваюць выданьнем пазычак. Пры доўгатэрміновасьці пазычак (9 мес., год) крэдытныя аб'яднаньні сядзяць пасыўна пасьля раздачы грошай, бо распаўсюджыць якія-небудзь 2000-3000 рублёў на раён у 8-10 тыс. гаспадарак надта лёгка. Такі мэтод дзейнасьці прыводзіць да таго, што таварыству няма чаго рабіць і што яно ня мае ні званьня абароту капіталу. Праз гэта шмат якія таварыствы ня могуць зарабіць грошай, каб трымаць сябе—яны прыносяць толькі патраты. Вось праз гэта вынікае неадкладная патрэбнасьць павялічыць абаротныя капіталы нізавых таварystваў. Пакуль што значнага павялічэньня зрабіць нельга, але яно павінна быць пачата цяпер, іначай самая ідэя ўдзелу дзяржавы ў сельска-гаспадарчым крэдыце будзе сапсована, бо сялянства ахвотна пойдзе ў тое аб'яднаньне, дзе яно ўсамдзеле зможа атрымаць пазычку, дзе відаць будзе жывы рух у працы. Вось чаму закладнаю мэтаю Беларускага Сельска-Гаспадарчага Банку на бліжэйшыя часы яго працы павінна быць давядзеньне асноўных капіталаў крэдытных таварystваў прынамсі да 5000 руб. на кожнае. Недасягненьне гэтае мэты затрымае пашырэньне росквіту крэдытнае коопэрацыі на нейкі тэрмін, працяг якога будзе залежыць ад хуткасьці вырашэньня гэтага пытаньня. Вядома, справа крэдытнае коопэрацыі не такая, каб можна было адкладаць яе яшчэ надалей.

Праз тое, што крэдытная коопэрацыя не дасягнула яшчэ самастойнасьці ў сваім разьвітку, ад таго, што яна пакуль што займаецца проста пазычковымі функцыямі, яна робіць невялікі ўплыў на коопэраваньне жыхарства. На гэты бок дзейнасьці коопэрацыі трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, бо толькі праз моцныя падставіны коопэрацыйных прынцыпаў можна дасягнуць значнага пашырэньня сельска-гаспадарчага крэдыту. Зацікаўленасьць жыхарства ў дзейнасьці таго ці іншага таварыства, аб'яднаньня будзе ажыцьцёўлена толькі тады, калі яно само будзе прымаць удзел у складзе таварыства, калі капітал апошняга часткова будзе злажаны з сяброўскіх складак. Вось на гэты бок працы, на прыцягненьне мясцовых сродкаў у таварыствы, і павінна быць пакіравана ўвага арганізацыйных сіл, вядучых пабудову сельска-гаспадарчага крэдыту.

Крэдытная коопэрацыя яшчэ не знайшла свайго належнага месца ў сыстэме іншых форм коопэрацыі. Адны мысьляць яе сабе, як зусім абмяжованую ад другіх частак коопэрацыі, другія дамагаюцца начапіць ёй гандлёвыя функцыі, засноўваючы свае думкі на тым, што толькі праз удзел у гандлёвых справах крэдытная коопэрацыя зможа ажывіць сваю дзейнасьць і не застанецца стратнаю; ёсьць, наастатку, і такія, што абараняюць думку поўнага злучэньня крэдытнай і вытворчай сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Якія-ж з напрамкаў гэтых можна лічыць правіловымі?

Бязумоўна, трэба адкінуць зусім думку аб самастойнасьці крэдытнай коопэрацыі. Самастойнасьць будзе толькі падтрымліваць тое становішча, якое маецца і ў сучасны момант, калі ўся дзейнасьць крэдытнай коопэрацыі абмяжоўваецца выдачаю пазычак і пасыўным чаканьнем іх звароту. Даходнасьць ад крэдытных опэрацый у такім разе самая невялікая, і коопэрацыйныя аб'яднаньні такога тыпу вымушаны быць альбо бездаходнымі, альбо нават стратнымі. Такое становішча зьяўляецца немагчымым, бо яно будзе вясьці не да пашырэньня і росквіту коопэрацыі, а, наадварот, да яе заняпаду, што зусім шкодна, маючы на ўвазе тыя вялікія заданьні, якія стаяць перад сельска-гаспадарчай коопэрацыяй наогул і крэдытнай—увасобку.

Надта спакусна другая думка—зьвязаць крэдытную коопэрацыю з гандлёвымі опэрацыямі. Гандлёвы капітал абварочваецца хутчэй за ўсякі іншы і праз гэта можа даць у кароткі час значны здабытак, які будзе павялічваць сродкі крэдытнага аб'яднаньня. Думка надта ўдалая з першага погляду і ўцягнуўшая ўжо некаторыя таварыствы. Яны пачалі сваю дзейнасьць побач з спажывецкімі коопэрацыйнымі організацыямі, мелі некаторы часовы посьпех, а затым зьвярнуліся да таго, чым былі ў пачатку. У чым-жа справа? А ў тым, што гандаль, як гандаль, для вёскі мала карысны і ня мае пад сабою цьвёрдага грунту. Ён мала ўносіць організуючага элемэнту ў сялянства і сам па сабе бяз звязку з сельска-гаспадарчай вытворчасьцю ня можа мець глыбокага карэньня на вёсцы. Праз гэта сьціслае супрацоўніцтва крэдытнае і чыста спажывецкае коопэрацыі можа быць ажыцьцёўлена толькі ў будучыне, калі спажывецкая коопэрацыя, як асаблівая, страціць сваё аблічча.

Нам здаецца, што крэдытная коопэрацыя павінна мець самую цесную сувязь з вытворчай сельска-гаспадарчай коопэрацыяй. Апошняя, маючы ў сваіх мэтах абхапіць усе галіны сельска-гаспадарчага вырабу і вытворчасьці, павінна зрабіцца тым організуючым асяродкам, які павядзе да „обобществления“ сельскае гаспадаркі, закладаючы гурткі, таварыствы і г. д. па апрацоўцы продуктаў, па паляпшэньню спосабаў абрабляньня зямлі, па скарыстаньню рознага багацьця, яшчэ незачэпленага дагэтуль чалавекам. Крэдытная коопэрацыя павінна йсьці побач з вытворчай коопэрацыяй, памагаючы апошняй сродкамі і абарочваючы частку сваіх ка-

піталаў у прадпрыемствах, належных да яе. Такім чынам крэдытная коопэрацыя будзе пасабляць прамысловасьці грашмі і з свайго боку будзе павялічваць ад гэтых опэрацый свой капітал. Такія ўзаемаадносіны пераплятуць абедзьве часткі коопэрацыі ў адну вытворчую коопэрацыю, якая сваёю апошняю мэтаю будзе мець аб'яднаньне са спажывецкаю ў адну сельска-гаспадарчую коопэрацыю. У гэтым аб'яднаньні асобных галін коопэрацыі крэдыту належыць самая пачэсная роля, бо ён зьяўляецца тым асяродкам, вакол якога павінны гуртавацца дзейныя сілы вёскі. Толькі праз пашырэньне крэдытнае коопэрацыі, праз яе ўзмацаваньне зможа адолець сваю часовую кволасьць сельска-гаспадарчая вытворчая коопэрацыя. Моцны крэдыт пры поўным вымаганьні прынцыпаў коопэраваньня будзе тым рычагом, які паверне нашу сельскую гаспадарку да нябывалых дасягненьняў.

# БАРАЦЬБА ЗА КІНО

**Хрысанф Хэрсонскі**

Першыя пяць з паловай год пасьля Кастрычнікавае рэвалюцыі зусім ня мелі сваёй кіно-продукцыі, калі ня лічыць некалькіх выпускаў кронікі. Усе дзяржаўныя сродкі йшлі на вайсковую і экономічную барацьбу, кіно знаходзілася на апошнім вучастку „трэцяга фронту“, у хвасьце ўстаноў Наркамасьветы (Усерасійскі Фото-Кіно Аддзел НК Асьветы),—натуральна пасьля школы. Сродкаў на падняцьце кінэматографіі ня было і доўгі час ня было к ёй сур'ёзнай увагі і гаспадарчага падыходу.

У гэты-ж час буржуазная кінэматографія Заходняй Эўропы, Амэрыкі і руская дарэволюцыйная запаўнялі нашы кіно-тэатры йстужкамі, якія ўкаранялі ў народныя гушчы буржуазную ідэолёгію, зацямнялі сьвядомасьць ідэямі, моральлю з аналёгіяй буржуазнага густу. Уплыў кіно ўсё больш і больш даваў сябе адчуваць. Буржуазнае кіно стала, такім чынам, нашым грамадзкім ліхам. Нам падносілася або „акадэмія бандытызму“, або фальшывая гісторыя, або нікчэмнасьць алькоўных фарсаў і драм з гнілою ідэолёгічнаю сутнасьцю, або калі не актыўна-шкодны, то, ва ўсякім разе, зусім непатрэбны нам сьвет інтарэсаў, ідэй, абставін, якія ўсе далёкія ад нашых думак, пачуцьцяў і ад нашае рэволюцыйнае рэчавістасьці.

Але вясьці барацьбу з гэтым можна толькі праз сваю кіно-продукцыю, заўладаючы кіно-тэатрамі паступовым выпускам сваіх кіно-істужак, даволі мастацкіх, каб конкураваць з заходнімі. Кіно-істужкі павінны быць ідэйна-ідэолёгічна вытрыманымі, каб даць наш зьмест, адказаць нашым запатрабаваньням, адбіць наша жыцьцё, барацьбу і будаўніцтва.

Гэта стала магчымым толькі тады, калі Савецкая ўлада зусім блізка падышла да вырашэньня пытаньняў кіно-прамысловасьці, кіно-пракату і сваёй кіно-продукцыі ў дзяржаўным шырокім абхваце. XIII зьезд партыі з асаблівай упартасьцю настаяў на неабходнасьці скарыстаньня кіно, якое „павінна зьявіцца ў руках партыі магутным сродкам комуністычнае асьветы і агітацыі“.

Гаспадарчы фундамант пад кінэматографію быў падведзены новай экономічнай політыкаю, калі неабходнасьць гаспадарчага рахунку пад-

крэсьліла, што аднабаковае субсыдаваньне кінэматографіі Наркамасьветаю зьяўляецца недарэчнасьцю. Да кіно трэба аднесьціся, як да асаблівай організацыі прамысловае індустрыі, якая патрабуе сваіх фабрык, атэльле, лябораторый, экономічнага вучоту, пракату нш.

Толькі пры моцнай гаспадарчай пастаноўцы савецкай кінэматографіі, кіно здалее ня толькі акупіць сябе, але й даць асьвету і агітацыю ў самую асярэдзіну народных гушч малапісьменнага селяніна і змагаючайся рабочай клясы.

У. І. Ленін адзін з першых прадугадаў вялікае значэньне кіно ў гэтай галіне, калі сказаў А. В. Луначарскаму: „З усіх вашых штукарстваў для Расіі самае магчымае гэта кіно“.

І на самай справе—ні адно з другіх штукарстваў ня здольна так навочна перадаваць ідэі, узьдзейнічаць на сьвядомасьць і псыхіку пры ўмовах нават малапісьменнасьці глядзельніка і многапляменнай рознамоўнасьці Саюзу ССР.

Кіно на сваім палатне можа наглядна паказаць жыцьцё ўсяго сьвету, выявіць любую ідэю, адказаць на запатрабаваньні, думкі і цягі к ведам, хутка паведаміць сваё слова на любым абшары ў самую гушчу насельнасьці і ў самую глуш акрайнаў. Кіно—гэта інтэрнацыянальны, даступны, зразумелы, жывы язык, які псыхічна заражае і заўлякае кожнага. У ім вялізарныя сродкі соцыяльных зносін (наперадзе нават большыя сродкі, чым у друкаванага слова).

Неабходная задача—каб гэта цудоўная мастацкая мова з яе бясприкладным соцыяльным захапленьнем служыла для комуністычных, культурных прамоў; для аб'яднаньня і культурнага пад'ёму сьвядомасьці ўсіх працоўных гушч шматміліённае насельнасьці Саюзу ССР.

У наступным перад намі задача—абхапіць нашым уплывам праз кінэматограф і замежныя рынкі. Толькі ў Савецкай Расіі можа вырасьці асноўны падважнік (рычаг) для інтэрнацыянальнага сусьветнага рэволюцыйнага кіно. Аб'яднаная організацыя Міжрабпому і Пролеткіно (аб'яднаньне гэта вырашана толькі ў сярэдзіне кастрычніка бягучага году)—закладае пачатак гэтай справе.

У сувязі з ростам вялізнае цікавасьці да кіно, ува ўсіх слаёх рэволюцыйнае грамадзкасьці Савецкага Саюзу прабудзілася шырокая творчая ініцыятыва, якая дапаўняе мізэрны дзяржаўны апарат Госкіно. Так узьнікла Пролеткіно, Асоцыяцыя дзеячоў рэволюцыйнай кінэматографіі, грамада будаўнікоў пролетарскага кіно, шматлікавыя кіно-гурткі і г. д. У гэтыя організацыі хлынулі шырокаю хваляю, пад кіраўніцтвам сяброў партыі, рабочыя організацыі, ЛКСМ, нізавыя ячэйкі і новыя сілы, якія ўліваюцца ў справу кіно-драматургіі, кіно-продукцыі, кіно-культ. працы і г. д.

Роўналежна з ростам дзейнасьці кінэматографічных організацый у цэнтры, выявілі шырока сваю ініцыятыву і акрайны, сярод якіх, напр., ор-

ганізацыя госкінпрому Грузіі займае не апошняе месца. Узьнікла Сыбірскае госкіно, Азэрбэйджанскае фото-кіно ўправа і інш. Дзейнасьць у пабудове савецкай кінэматографіі па выпуску й распаўсюджаньню сваіх істужак абхапіла і поўдзень, і поўнач, і ўсход Саюзу ССР, дзе для савецкага кіно маюцца багацейшыя ідэолёгічныя й мастацкія магчымасьці.

Разам з тым перабудоўваўся і перараджаўся рынак спажываньня кіно, складаючы зусім новыя нізавыя ячэйкі глядзельніка-спажыўца: рабочыя клюбы, дамы селяніна, кіно-перасоўваньня ў вёску, кіно сярод народаў малых нацыянальнасьцяй Саюзу і г. д. Кіно ўбачылі міліёны насельнікаў, якія ніколі яго дагэтуль ня ведалі. Л. Д. Троцкі ў свой час адзначыў карысьць кіно ў вясковым быце—у барацьбе супроць гарэлкі, царквы і цемры. Я толькі што атрымаў, да прыкладу, цікавую справаздачу аб першых пачатках кіно-перасоўваньня сярод самай глушы Башкірскай рэспублікі. Там зьяўленьне кіно аб'ядналася з шырокаю асьветнай і палітычнай працаю ў форме кіно-мітынгаў, якія прабудзілі вялізарны культурны пад'ём сярод башкірскіх кабет і моладзі. Тое-ж самае наглядаецца на Ўрале, у Сыбіры, у паўночных губэрнях Эўропэйскае Расіі і наогул усюды ў нашых вёсках і рабочых раёнах.

Аднак апарат савецкага кіно, які так разрастаецца, трэба прывесьці ў стройную сыстэму ўзгодненага організаванага дзеяньня як у галіне ідэолёгічнай, так і ў галіне гаспадарчай. Дзеля гэтага цяпер праводзіцца аб'яднаньне савецкіх кіно-організацый на тэрыторыі СССР у адзіны сындыкат. Для ідэолёгічнага кіраўніцтва пры ЦК РКП (б) з'організавана спэцыяльная комісія, выканаўчым органам якой зьяўляецца мастацкі савет па кіно пры Галоўполітасьвеце.

Пры гэтым-жа Галоўполітасьвеце разьвіла сваю дзейнасьць кіно-сэкцыя, якая абслугоўвае патрэбы мясцовасьцяй кіно-перасоўваньнямі для вёскі. Сэкцыяй практычна апрабаваныя і ўдасканаленыя комплекты лёгкага тыпу, кіно-апарату „ГОЗ“, (Ленінградзкага дзярж. оптычнага заводу) перадаюцца для абслугоўваньня мясцовасьцяй.

Культ.-аб'яднаньне Госкіно дастаўляе для клюбаў і кіно-перасоўваньняў лектароў і йстужкі. Цяпер ім прыступлена да мэтодычнага выпуску йстужак спэцыяльна для вёскі, што зараз абавязкова ўключаецца ў вытворчыя пляны ўсіх організацый. Чырвонай арміі дастаўляе ўсё неабходнае для кіно праз організаваны культурна-пастаўлены пракат істужак кіно-бюро ПУР'у, „Чырвоная Зьвязда“, якое прыступіла таксама да сваёй вытворчасьці. Шырокую культурна-асьветную кіно-працу разьвіло ў провінцыі Пролеткіно, якое таксама ўладае ўжо шэрагамі істужак свайго выпуску.

У цяперашні час наша кіно-вытворчасьць расьце не па днёх, а па гадзінах, хутка згатуецца да выпуску шэраг цікавых буйных кіно-істужак з усіх кіно-організацый саюзу. Мы хутка зыходзім з мёртвага за-

цішша, і цяпер становішча савецкага кіно ўжо зусім не такое, як, скажам, два гады таму назад, калі УУФКУ (Усеўкраінскае фото-кіно ўправа) і Паўночна-Заходняе кіно (у Ленінградзе) пачыналі першыя выпускі мастацкіх істужак у зруйнаваных *атэльле*, пры самых нікчэмных сродках і саматужнай мізэрнай тэхніцы.

Перад намі яшчэ шмат, вельмі шмат неразьвязаных і вельмі трудных пытаньняў і нявыпаўненых задач, якія высьвятліць усе, таксама, як і ўсе нашы дасягненьні—немагчыма ў кароткім артыкульчыку. Але можна ўжо з упэўненасьцю сказаць, што барацьба за савецкае кіно йдзе з посьпехам, і савецкая кінэматографія ўступае ў паласу вагромнай соцыяльнай дзейнасьці, у гэтым у яе маюцца ўдзячнейшыя магчымасьці і прадбачыцца вельмі значнае будучае.

Чарговыя нашы заданьні: аб'яднаньне дзейнасьці кіно-організацый, пабудаваньне савецкай вытворчасьці сырой плёнкі, хэмікалію, апаратуры, зьніжэньне налогаў з гасьцей кіно-тэатраў, разьвіцьцё сваіх ідэолёгічных і мастацкіх мэтодаў у кінэматографіі, выкарыстаньне ініцыятывы і складная організацыя савецкай грамадзянскасьці навакол свайго кіно і задаволеньне новага рынку спажываньня,—насустрач культурным запатрабаваньням рабочых аўдыторый і сялянства.

Аб мастацкіх і тэхнічных пытаньнях, а таксама аб дасягненьнях нашых кіно-істужак пагутарым асобна.

Масква, кастрычнік 1924 г.

# Тав. КАРНІЛ СЬЦЯПАНАЎ ХАДКЕВІЧ

Толькі нядаўна рэдакцыя „Полымя“ атрымала вестку пра загубу беларускага дзеяча, сябра КП(б)Б т. К. С. Хадкевіча, які забіты ў бойцы з палякамі 5 сьнежня 1920 г. пры вёсцы Савічы Бабруйскага павету.

Тав. К. С. Хадкевіч пахаджэньнем з сялян вёскі Барсукі Ціхініцкай воласьці, Рагачэўскага павету, Магілеўшчыны. Дзякуючы беднасьці бацькоў, атрымаў ніжэйшую асьвету і знаходзіўся пры доме, пакуль у 1911 г. не забралі ў салдаты. У салдатах ён дастаў унтар-афіцэрскі чын, з якім і быў змобілізаваны ў пачатку вайны.

Папаўшы двойчы ў акопы, ён хутка сышоўся з партыйнымі таварышамі і адкрыта павёў агітацыю супроціў вайны. За гэта К. Хадкевіча арыштавалі, разжалавалі ў радавыя і перавялі ў рабочую каманду. Адгэтуль ён уцёк у сваю часьць, у 15 Сыбірскі стралковы полк, дзе ў 1916 годзе яго йзноў узьвялі ў унтар-афіцэры.

У гэтым чыне К. Хадкевіч пратрымаўся да фэўральскай рэволюцыі, якая выкінула яго на хібы сваіх хваляй. Зразу ён быў выбран сябрам палкавога комітэту, адкуль і пачаў вясьці беларускую рэволюцыйную працу сярод беларусаў-вайсковых. У кастрычніку месяцы ён пападае на зьезд беларускіх вайсковых паўночнага фронту, на якім папаў у прэзыдыум зьезду, а пасьля ў вайсковы комітэт.

Кастрычнікавая рэволюцыя ўплыла на яго радыкалізм, і К. Хадкевіч зразу пасьля паколу Б. С. Г. на левую й правую частку, прылучаецца да левае і прымае прынцыпы далейшага змаганьня пад сьцягам Кастрычніка.

Пасьля дэмобілізацыі старой арміі, ён на некі час адходзіць ад службы ў войску, але калі пачынаецца організацыя Чырвонай арміі— К. Хадкевіч ідзе ў яе рады. Восеньню 1918 г. ён, стаўшы комуністым, пераходзіць перш памоцнікам, а далей камандзерам Першага полацкага беларускага палку. З гэтым палком ён быў адпраўлены на польскі фронт, дзе знаходзіўся з пачатку 1919 году і да свае загубы. К. Хадкевіч загублен зусім маладым, 31 году, поўны нясустрымнай энэргіі і працаздольнасьці.

Савецкая Беларусь згубіла ў ім вельмі каштоўнага працаўніка, які мог многае даць на афяру яе экономічна-культурнага адбудаваньня.

Удзячныя рабочыя ды сяляне Беларусі ня згубяць памяці аб ім у працягу доўгіх год!

## КНІГАПІС

**Цішка Гартны**. *Трэскі на хвалях. Апавяданьні. Стр. 254, in. 1/8, Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Таварыства „Савецкая Беларусь“, Менск, 1924.*

Ц. Гартны, вядомы беларускі поэта, зьяўляецца адначасна і адным з найбольш плённых беларускіх прозаікаў-бэлетрыстых. Яго мастацкая проза ў форме даволі значных апавяданьняў, раскіданая ў вялікім ліку па розных беларускіх часопісах, заўсёды звярачала на сябе ўвагу сваёй жыцьцёвай праўдай, глыбокім рэалізмам, самабытнасьцю сваёй мастацкай композыцыі і стылю і ўрэшце зусім орыгінальным лексычным матар'ялам. Асабліва выдатнае месца ў гэтым стасунку займае яго буйны соцыяльны роман „Сокі Цаліны“.

Дагэтуль, аднак, яго проза не паказвалася ў сьвет асобнымі выданьнямі (апрача І т. „Сокі Цаліны“), і „Трэскам на хвалях“ у гэтых адносінах прыналежыць пяршынства. Адсюль іх падвойная цікавасьць. Спынімся.

Ц. Гартны—пісьменьнік - рэалісты. Яго мастацкая муза чэрпае сабе натхненьне не ў бязьмежным блакіце індывідуальнае фантазіі, не ў глыбінях любаваньня суб'ектыўнымі перажываньнямі, не! Яго муза—косьць ад косьці самага рэальнага жыцьця. Суб'ектывізм пісьменьніка якбы раствараецца ў жыцьцёвым моры об'ектыўнае рэальнасьці.

Як-бы растварaецца! На першы погляд!

Але прыгледзьцеся да яго прозы з погляду выбару сюжэтаў, з погляду тэматычнае іх ідэалізацыі, урэшце, з погляду іх мастацкае композыцыі—і перад вамі ва ўсёй яскравасьці разгорнецца ў самых рознастайных перавівах той суб'ектыўны элемэнт, самабытны і ўласьцівы толькі Ц. Г., якім прасякнуты ўсе яго апавяданьні, пачынаючы з самых дробна-зарысных і канчаючы яго буйным романам „Сокі Цаліны“.

Так. Рэальнае жыцьцё—гэта грунт; ад яго ні на момант не адрываецца ў сваёй творчасьці Ц. Г. Але-ж рэальнае жыцьцё—бязьмежна. Індывідуум нават найгэніяльнейшага пісьменьніка ахапіць яго ва ўсіх праявах абсолютна ня можа. Яму даступна толькі пэўная частка гэтага жыцьця, пэўная сума яго праяў.

Якія-ж праявы жыцьця пападаюць у кузьню мастацкага натхненьня Ц. Г.?

Вось тут і пачынаецца ўжо суб'ектыўнае ў яго творчасьці, здавалася-б, самай об'ектыўна-рэалістычнай.

Зірнем з гэтага боку на зборнік „Трэскі на хвалях“. Зьмешчана тут 16 апавяданьняў, распрацавана мастацка 16 сюжэтаў.

Якія-ж праявы жыцьця яны адбіваюць?

Перад намі два шыроказарысаваных малюнкі. Раўчакі адных апавяданьняў зьліваюцца ў моры жыцьця, не наогул жыцьця, а жыцьця працаўнікоў, і пры тым працаўнікоў не наогул, а працаўнікоў глухіх местачковых і вясковых закуткаў, якія так шчодра раскіданы на абшарах Беларусі. Напярэдадні рэволюцыі („Лайдак“, „Вялікодная каробка“, „Байструк“, „Распусьніца“, „Штрэйкбрэхэр“).

На другім малюнку—Вялікая Соцыяльная Рэволюцыя на Беларусі ў рознастайных яе праявах („Спатканьне“, „Дойдзем, сынок“, „Сымонка-інжанэр“, „Бягунец“, „На руінах“, „Больш за ўсіх“, „Трэскі на хвалях“, „Чырвонаармеец Панкел Ліпа“).

Дзьве гэтыя тэмы з вялікім закаханьнем распрацованы ў апавяданьнях, зьмешчаных у разгляданым тут зборніку.

З аднаго боку—працоўнае жыцьцё, соцыяльная трагэдыя напярэдадні рэволюцыі.

Вобразы пераважна жудасныя. Колёрыт змрочны. Трагізм.

Хлапчук-пастушок Янка, ня зьнёсшы панскага зьдзеку, топіцца ў дворнай саджалцы. Падвойны трагізм у тым, што ў значнай меры прычыняецца да гэтага родная матка, якая ў протхлі бязьмернага соцыяльнага ўціску як-бы ўтраціла пачуцьцё мацярынскага інстынкту („Лайдак“).

У другім месцы перад намі гамлетаўская трагэдыя на беларускай глебе. Анупрэй—гэты прадстаўнік вясковае беднаты—стаіць перад трагізмам адвечнага пытаньня—як быць? Ці—ці?

Ці зламаць тaварыскую дысцыпліну, здрадзіць сваіх таварышоў і... стацца штрэйкбрэхэрам, ці... няхай з голаду паміраюць дзеці й жонка. Іншага выхаду няма. Выбірай!... („Штрэйкбрэхэр“).

А вось малюнак трагікомічны. Грабар Антось Стуна ня мае граша за душою, каб уладзіць вялікодную каробку. Для сучаснага сьвядомага працаўніка гэта жаднага трагізму не спраўляла-б. Але ня тое было да рэволюцыі. Беспрасьветная цемра, абсолютнае панаваньне забабоннае традыцыі,—папхнулі Антося Стуну на крадзеж і, пры гэтым, на крадзеж пры нязвычайных акалічнасьцях. У царкве адбываецца ўрачыстае вялікоднае набажэнства. Ля царквы фурманкі, паміж іх—Антось Стуна, зьбіраецца ўкрасьці вялікодную каробку. Страх, нерашучасьць, псыхолёгічнае змаганьне розных мотываў, урэшце, нябывалая станоўчасьць... і аглобля, нікчэмная аглобля, выдае яго. Плян разьбіты.

І так скрозь, праз усе апавяданьні, у якіх адмалёвана жыцьцё дарэволюцыйнага пэрыоду, як лейт-мотыў чуецца гэты набалелы енк з глыбіні соцыяльнае трагэдыі.

А на якім-жа фоне разгорнуты апавяданьні, што адбіваюць эпоху Соцыяльнае Рэволюцыі?

Прыгледзьмася.

Малюнак першы. Вясковая дзяўчына Агапа, пасьля доўгіх мук сумненьня, бязраднасьці, нерашучасьці, адважваецца, нарэшце, кінуць ціхае і затхлае балота глухога вясковага закутку і ўцячы туды, дзе прамянее будаўніцтва новага жыцьця, каб злучыцца з тымі, хто творыць гэтае новае сьветлае жыцьцё, каб самой тварыць яго. Але ў гэты момант прывозяць халодны труп яе каханага Кастуся, чырвонага афіцэра, на якога яна ўскладала ўсе свае надзеі, які ёй меўся дапамагчы вырвацца з ланцугоў старэчы. Надзеі разьбіты. Безнадзейнасьць („Спатканьне“).

Малюнак другі. Маланка Груд з шасьцёхлетнім сынам Міхалкам уцякае перад дзікай белапольскай навалай, пазірае на сваё зморанае дзіця і шэпча: „Ці дойдзем мы да якое мэты?“... „Наша поле, сынку, вось з гэткім самым пекным жытам сажнуць польскія паны; сажнуць і забяруць сабе на хлеб. Ужо не будзеш ты, каханы, хадзіць з бацькам на малацьбу“... („Дойдзем, сынок“). Проста, жыцьцёва, але колькі трагізму!..

А далей. Дзесяцёхгадовы Сымонка сьледам за бацькам кідаецца ў крывавую бойку з белапалякамі... і абодвы аддаюць сваё жыцьцё за сьвятую справу („Сымонка-інжанэр“).

Несьцер і Гарасім Грэбені, захопленыя вірам перш імпэрыялістычнае вайны, а пасьля соцыяльнае рэволюцыі і грамадзянскіх войн, адарваныя на шмат год ад родных палеткаў, нарэшце варочаюцца ў сваё роднае гняз-

до—і што-ж там знаходзяць? Адны руіны... („На руінах“).

Платон, гэты тыповы энтузыасты-рэволюцыянэр, да таго захоплен пафосам рэволюцыі, што інтарэсы рэволюцыі даражэй для яго, чымся дабрабыт і нават жыцьцё ўласных бацькоў. Выпраўляе бацьку ў фурманачную павіннасьць, які ў дарозе і памірае („Больш за ўсіх“).

Чырвонаармсец Панкел Ліпа, за тое, што не хацеў здрадзіць інтарэсаў рабочых і сялян, памірае ад варожае кулі („Панкел Ліпа“).

Чорныя крыльлі трагічнай сьмерці бязустанку вітаюць на фоне і тых апавяданьняў, дзе так ці йнакш адбіваецца эпоха Соцыяльнае Рэволюцыі. Ц. Г. у зборніку „Трэскі на хвалях“ бадай-што зусім не паказвае сьветлых старон, прамяністых даляй гэтае рэволюцыі. Адгэтуль пэўная аднастайнасьць, пэўная аднабокасьць, залішняя згушчанасьць панура маркотнага колёрыту, залішняе злоўжываньне трагічных элемэнтаў.

Так, бязумоўна так.

Але цікава, што ўражаньне, якое пакідаюць па сабе гэтыя апавяданьні, найчасьцей не адпавядае гэтай панурай сэрыі сюжэтаў, гэтаму згустку фарб. Прачытаеце апавяданьне— кроў, сьлёзы, руіны, сьмерць, безнадзейнасьць—а на душы ў вас пагодна, бадзёра, надзейна. У чым справа? Ці пэндзаль мастака замала вас пераконвае? Ці мо' гэта няжыцьцёвасьць і штучнасьць апавяданьня не ўзварушае вас? Ці што іншае?

Нам здаецца, што гэта якраз сьвядомы сэкрэт мастацкае композыцыі. Аўтор сьвядома дабіваецца таго, каб яго панурыя апавяданьні не пакідалі па сабе цяжкога настрою.

І гляньце.

Вось апошні штрых, якім пісьменьнік любіць заканчваць свае малюнкі:

„А з усходняга канца мястэчка, праз тры дробных вакенцы, даносіўся ў хату гучны трызвон: то званілі на абедню“,—гэта апошні акорд у апавяданьні „Лайдак“.

„А на дварэ ўжо паднімаўся золак, і лёгкі белы водсьвет яго прабіваўся ў вузкае акенца сянец“—гэтым штрыхом закончана цяжкая драма вясковае дзяўчыны ў апавяданьні „Байструк“.

„Празрыстае сонца ўлівалася сваімі праменьнямі ва ўсе чатыры вакны хаты, змываючы са шкла шыбаў прыгожыя ўзоры марозу“,—гэтым закончана апавяданьне „На руінах“.

І далей. Другі адменьнік таго самага апошняга штрыху.

„А на вуліцы ў гэты час чуўся жудасны зацяжны плач. Зьбіраўся сялянскі натоўп і чуўся пахавальны звон“ („Спатканьне“).

„А вецер крапчэў, глушачы сваім дзьманьнем далёкія водгукі стрэлаў... На станцыі стухлі агеньчыкі, нібы задутыя ім“ — канец апавяданьня „Чырвонаармеец Панкел Ліпа“.

Гэтая мастацкая проэкцыя ці-то ў прыроду, ці то ў новыя нібы пабочныя праявы жыцьця вырывае нас з індывідуальнае шкарлюпы апавяданьня, адкрывае перад нашым зрокам рубок нейкіх новых горызонтаў,—і гэта нас супакойвае, гэта нас абнадзейвае. Мэта дасягнута.

Гэта адно.

Другой уласьцівасьцю композыцыі разгляданых тут апавяданьняў зьяўляецца дынаміка іх заканчэньня.

Напрыклад:

— Ці далёка нам яшчэісьці, мама? —запытаў Міхалка, адышоўшыся крыху.

— Ня так ужо далёка, даражэнькі. Дойдзем, сынок, крапіся крыху,—адказала Маланка, кінуўшы погляд усцяж гасьцінца („Дойдзем, сынок“).

„Абураныя Цімох з Ігнатам пабеглі яму настрэчу („Шукаючы працы“).

„Паўстанцы сьпешна паняські няжывога Сымонку к курганом („Сымонка-інжанэр“).

„А Сідор, не патураючы іх зову, як наўкованы воўк, бег безаглядкі („Трэскі на хвалях“).

Дынаміка заканчэньня. Гэта ня значыць, што апавяданьні Ц. Г. наогул дынамічны! Наадварот,—ім уласьціва больш статыка; сюжэт, звычайна, разьвінаецца марудна, пэрсонажы больш рэзонэры, чымся дзейнікі; вобразы паўтараюцца; аднастайнасьць эпітэтаў надакучае. Так. Але апошні штрых у яго найчасьцей дынамічны, а гэта і надае агульны тон апавяданьню.

Ня месца ў кароткай рэцэнзіі спыняцца на мастацкіх вартасьцях ці недахватах зборніку „Трэскі на хвалях“. Скажам толькі, што муза Ц. Гартнага вызначаецца тым, што яна крок у крок ідзе поруч з жыцьцём, ні на момант ад яго не адстаючы. Гэта ён першы паказаў нам сэрыю малюнкаў эпохі Соцыяльнае Рэволюцыі на Беларусі, гэта ён першы ў мастацкай форме выявіў, як змагаўся беларускі селянін за здабыткі Соцыяльнае Рэволюцыі, гэта ён першы падарыў беларускай літаратуры тып беларускага селяніна - рэволюцыянэра, паўстанца-ваякі ў постацях: Андрэя Кеплі, Грэбеняў, Платона, чырвонаармейца Панкела Ліпы.

Яго ліра найперш адгукнулася на праявы сучаснага новага жыцьця, і, ня гледзячы на пэўную аднабокасьць, усё-ткі найбольш поўна адбіла гэтыя праявы ў беларускай літаратуры, і ў гэтым сэнсе Ц. Г. стаіць на першым месцы дагэтуль.

Жывым довадам гэтага зьяўляюцца „Трэскі на хвалях“, у гэтым іх галоўная і бязумоўная вартасьць і з гэтага боку належыць да іх падыходзіць найперш.

**Улідзе.**

**Бядуля—Ясакар—„Буралом“.** *Выбраныя вершы. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск—1925 г., 54 ст., тыраж—3000 экз.*

Кастрычнікавая Рэволюцыя і барацьба за лепшую будучыну чалавецтва родзіць новых поэтаў, перахоўвае старыя дараваньні, пранізвае іх сваім энтузыазмам, верыць у пабеду, амаладжае іх.

„Амаладзіўся“ і вядомы адраджэнцкі поэта З. Бядуля. З прысутным яму размахам celoнабакова ўрываецца цяпер ён сваімі прыгожа-выгартаванымі вершамі й поэмамі ў вір нашага жыцьця, малюючы панскія зьдзекі—мінулыя й сучасныя—кліча селяніна да барацьбы і працы:

Ратай, ратай ідзі на шнур!
Валы ў саху ты запрагай.
Стаіць пусты ўжо панскі мур;
Ня страшыць ён—сьмялей ступай!
Для самаго сябе арэш.
Пасееш сам і сам сажнеш.
Ня пойдзе хлеб твой гультаём,
Ня пойдзе хлеб тваім паном,
Бо досыць ты чужых карміў,
Бо досыць ты чужых паіў (5 ст.).

Дае поэта наказ моладзі, нашай чырвонай зьмене:

Комсамолься, сяліба ратая,
Заіскрыся чырвонай частушкаю.
Хай жняя твая песьню сьпявае
Вольнай птушкаю.
Выкінь вон гультаёў - багамолаў,
Што туманілі думкі званіцамі.
Парабі ўсе капліцы на школы,
Каб вучыцца ў іх (11 ст.).

„Чырвоны каляндар“ сьцісла выкладае памятныя працоўным этапы іх барацьбы з капіталам (для дэклямацыі—беспадобна).

Наш адраджоны год, замест званоў, малітваў,
Сьпявае вольны гымн на ўвесь зямны абшар;
Ён трубіць на ўвесь сьвет да багатырскіх бітваў,
Ён піша на сябе чырвоны каляндар (30 ст.).

Шкада толькі, што дзе-ні-дзе дзеля асьвятленьня сучаснага, марксыцкага разуменьня *здарэньняў*,—поэта часам карыстаецца старымі, у многіх літаратараў ужо моцна надмагільным камнем прыдаўленымі, нуднымі вобразамі й параўнаньнямі. Напр.:

Бы казак бог (3 ст.).
О, творыць цуд размах рукі (3 ст.).

Бы страшны помсты бог? (7 ст.).
Растоптан зла упыр (10 ст.).
Во драконаў дваццаць мітычных (20 ст.).
Баечныя цуды-пігмеі (21 ст.).
Во, во упадуць, як Ікар той (21 ст.).
Ваал ператварыў (29 ст.).
Падобен ён Афінскаму Амуру (40 ст.).

Ці ведае вёска, куды абавязкова павінна папасьці кніжка З. Бядулі, што-небудзь аб „мітычных драконах“, „пігмеях“, „Ікары“, „Афінскіх Амурах“, „упырох“ і да т. п. нечысьці.

Не абыйшлося і бяз прыкрай друкарскай абмылкі: у „Чырвоным календары“ міжнародны дзень кабеты сьвяткуецца, заместа 8-га,—18-га сакавіка.

Ёсьць і немарксысцкая ацэнка ролі асобы ў гісторыі:

„Гэрой радзіўся з зораў“ (39 ст.).

Няўдачная характарыстыка Беларусі —

„Паміж славян — між каласоў залом“ (?!) (38 ст.).

Але гэтыя недастачы і пахібы губляюцца ў шуме й прызыве да бою, барацьбы заклікаючых на ўсіх старонках па рознаму напісаных,—але адно гаворачых радкох:

Няхай наш сьцяг спрабуе зьдзерці з месца
Ганебны пан, сусьветны капітал:
Тады мы ўсе—чырвоныя армейцы,
Тады мы ўсе—чырвоны, страшны шквал (43 ст.).

Тэхніка вершу мясцамі—мастацкая [напр: „Мяцежнік“ (16-17 ст.) напісаны з мяцежнай дынамічнасьцю], мясцамі няўдалая—„Чырвона-чорная жалоба“ (на сьмерць Леніна),—выраўніваючыся па зьместу, некалькі разоў мяняе рытм, часамі павольна-разьмерана:

Плыў мароз па струнах драцяных
ад слупа і да слупа,
іржавым водгульлем стагнаў
ад каменна-бэтонных валатовак
скрынь вялікіх мест
да шурпатых саламяных стрэх
бабулек згорбленых —
вясковых хатак (22 ст.).

Часамі, як праляцеўшая ў мазгох думка:

— Памёр Ленін,
— Няма Леніна,
— Жыве Ленінізм... (ст. 23).

**Р. Ш.—Тр.**

**Нацыянальнае пытаньне і Комуністычная партыя**. *Зборнік артыкулаў, прамоў і пастаноў, уложаны пад рэдакцыяй У. Ігнатоўскага. Выданьне Коопэрацыйна-Выдавецкага Таварыства „Савецкая Беларусь“. Менск, 1924, 231 стар.*

Зачыненае выдавецтва „Савецкая Беларусь“ у канцы свайго існаваньня разьвінула шырокую працу па выданьню беларускае літаратуры ў розных галінах ведаў. Аднэй з цікавых кніжак, выпушчаных выдавецтвам пры сваім зачыненьні, бязумоўна, ёсьць „Нацыянальнае пытаньне і Комуністычная партыя“. Патрэба ў гэтай кніжцы на беларускай мове была ўвесь час актуальнай. Нацыянальнае пытаньне ў палітыцы Савецкае ўлады прыняло досі выпуклае значэньне з часу Акцябарскае рэволюцыі. Дзесяты і дванаццаты зьезды РКП падкрэсьлілі асабовую важнасьць гэтага пытаньня ў справе будаўніцтва працоўнай дзяржаўнасьці ў СССР. У ўмовах Беларускай Рэспублікі пры палітычнай сытуацыі збоку яе міжнароднага становішча, азнаямленьне як з прынцыповага, гэтак і з практычнага боку з нацыянальным пытаньнем у покаце яго вырашэньня Савецкаю ўладаю,—вельмі і вельмі настойна ў часе. У штодзённым жыцьці, за працаю, часта-густа трапляюцца відочныя непаразуменьні пры вырашэньні тых ці іншых нацыянальных момантаў. Адны перагінаюць палку ў бок непрыдаваньня поўнай значнасьці гэтаму пытаньню, другія занадта па-

шырана яго тлумачаць. Тымчасам варта аглянуцца на працы правадыроў РКП, як т. Ленін і Сталін, на выразна акрэсьленыя пастановы зьездаў—X і XII РКП, на спэцыяльную нараду па гэтаму пытаньню, якая адбылася ўлетку 1923 году, каб мець перад сабою цьвёрдыя і скончаныя падставы ў гэтым пытаньні.

Бязумоўна, тое, што адсутнічала літаратура па гэтаму пытаньню, многім перашкодзіла азнаямленьню з ім шырокіх колаў.

Вышэйадмечанае сьведчыць аб тэй патрэбе ў літаратуры па гэтым пытаньні, якая адчуваецца на беларускім кніжным рынку. Выданьне дадзенага зборніку хоць у малай меры, але запаўняе гэты прабел. Тым болей, што зборнік памагчымасьці зложан поўна і старэнна. Рэдактар яго, т. У. Ігнатоўскі, дасканалы знаўца нацыянальнага пытаньня, падабраў усю квінт-эсэнцыю, памясьціўшы ў хронолёгічным парадку па часу напісаньня кожнай рэчы і па часу прыняцьця тых ці іншых пастаноў па нацыянальным пытаньні на зьездах. Паўней усяго дадзена з працы і прамоў на зьездах РКП і КІ т. І. Сталіна, далей — т.. У. Леніна. Ды гэта зразумела: абодва правадыры Акцябарскай рэволюцыі выключна ад усіх і аддалі ўвагу нацыянальнаму пытаньню.

Артыкулы т. У. Леніна, прыведзеныя ў зборніку, пісаны ім у большасьці ў дарэволюцыйныя часы; артыкулы-ж т. І. Сталіна болей з парэволюцыйнага часу.

Асабістую каштоўнасьць складае другая палова зборніку „Нацыянальнае пытаньне і Комуністычная партыя“—якая цалкам пасьвечаная ходу разьвіцьця з часу Акцябарскае рэволюцыі нацыянальнага пытаньня ў беларускіх умовах. У гэтым аддзеле выключна зьмешчаны розныя дакумэнты, пастановы і проэкты, пачынаючы ад абвяшчэньня Заходняй Комуны Беларускаю Савецкаю Рэспублікаю і канчаючы пастановай V-га конгрэсу Комінтэрну аб беларускім і ўкраінскім нацыянальным пытаньні. Ніякавата ўсяго, што аддзел не абвагульваецца ўводным артыкулам, да якога падходзіў-бы папярэдні артыкул рэдактара „Комуністычная партыя Беларусі і беларускае пытаньне“, пастаўлены за ўводзіны.

Папраўдзе кажучы, „уводзіны“ маглі-бы абмежавацца іншага характару артыкулам. Але гэта ня з большых хібаў. Апошнія трапляюцца яшчэ з іншага боку. Папершае выдаецца дэфэктам недастача сярод артыкулаў тав. Леніна таго, які зьмешчаны ў першым нумары часопісі „Звезда“ і які мае вельмі важнае значэньне ў адносінах да беларускага пытаньня. Далей у аддзеле беларускіх дакумэнтаў прапушчан дэкрэт РЦВК аб зацьвярджэньні апошнім абвяшчэньня Бел. Сав. Соц. Рэспублікі. Было-бы шмат лепш падаць большы лік артыкулаў т. Леніна, з якога дадзена ў зборніку замала. Але пералічаныя недахваткі ня так важны, бяручы на ўвагу першую спробу ў гэтым напрамку. Зборнік увогуле ўсё-ж дае цэльнае прыстаўленьне з боку закранутага пытаньня і ёсьць каштоўным унёскам у каталёг беларускіх выданьняў выдавецтва „Савецкая Беларусь“.

**Аглядчык.**

**З. Бядуля. Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных казках і песьнях.** *Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Таварыства „Савецкая Беларусь“. Менск, 1924 г., 141 стр.* in folio 16. *Тыраж 1500 экз.*

Працы па этнографіі Беларусі Раманава, Сяржпутоўскага, Шэйна, нават Карскага зьяўляюцца ў нашыя часы бібліографічнай рэдкасьцю. З гэтае прычыны працу З. Бядулі трэба горача вітаць; аднак шкада, што аўтар ня зусім уяўляў сябе таго чытача, на якога кніжка разьлічана: дзеля інтэлігента-беларуса яна месцамі занадта популярна, для селяніна (панашаму, гэта галоўнае прызначэньне кніжкі) у кніжцы ёсьць

ў дастатку незразумелыя параўнаньні і іменьні.

Праўду кажучы, што ведае наш селянін аб „Плодах Просвещения“ Л. Гаўстога (27 стар.), „Тавридиаде“ А. Пушкіна (135 стар.), Промэтэі ў старадаўняй Грэцыі (134, 139), калі ён ня толькі што аб Промэтэі ў старадаўняй Грэцыі, але аб Грэцыі нашых дзён (а ня то што старадаўняй) ці зусім ніякага паняцьця ня мае, ці мае аб ёй імглістае паняцьце?!

Калі ўжо нельга было абыйсьціся без падобных параўнаньняў, дык хоць трэ' было растлумачыць іх у заўвагах.

Наогул-жа, панашаму, аўтар вельмі дужы ў вобразах, вытрымках, малюнках. Гэтыя месцы ня чытаюцца, а хціва праглытваюцца—натолькі яны захопліва цікавы.

Месцамі аўтар слабы ў абагуленьнях. Вось некалькі недастач, якія асабліва кідаюцца ў вочы. Спроба аўтара навязаць беларускаму селяніну „адвечнага бога—Працу“ (ст 8, 9, 51) мае права на грамадзянства ані троху ня больш, чымсь імкненьне А. В. Луначарскага разглядаць комунізм сучаснай адменнасьцю рэлігіі.

Ортодоксальны марксызм (пачынаючы з Пляханава, Леніна, канчаючы Сьцяпанавым) наадрэз адмовіўся ад рэлігійнага ярлыку.

Пры новым выданьні кніжкі „адвечнага бога—Працу“ абавязкова трэба зьняць і з цела беларускага селяніна.

Бадай ці можна згадзіцца з упэўненасьцю, што „паганскія сялянскія сьвяткаваньні былі тэй вогненнай кузьняй, у якой спрадвеку тварылася народная вусная літаратура“... Нават акадэмік Е. Ф. Карскі, якім карыстаўся аўтар, зацьвярджае („Беларусы“ т. 3., ст. 5):

„Эпоха ўтварэньня старасьвецкай беларускай вуснай літаратуры належыць яшчэ дагістарычнаму пэрыоду, папярэдняму прыняцьцю хрысьціянства, калі канчаткова былі заложаны новыя пачаткі народнага жыцьця, часта зусім процівастаячыя былому сьветапогляду. Некаторыя роды й віды народных літаратурных твораў, ствараліся і ў наступныя часы, але народ, увогуле кіруючыся старасьвецкімі спосабамі творчасьці, уносіць сюды ўжо новыя погляды. Асабліва каштоўны для нас старасьвецкія творы, адбіваючыя *першабытныя народныя веравызнаньні, сьветапогляды і наогул культурнае становішча*“.

... „Але перш, чымсь чалавек дайшоў да багаслужэнстваў (якіх у расійскіх славян, мабыць, і ня было), да асабістых бостваў, ён меў непасрэдныя зносіны з рознымі сіламі і зьявішчамі прыроды і стараўся так ці іначай накіроўваць іх у сваю карысьць. Гэтак сама сьветапогляд адбіваецца ў замовах.

Не маладзей замоў і абрадавай поэзіі гэтак сама і загадкі. Сільная старасьветчына праглядае ў пасловіцах, а затым і ў казках“ (ст. 56-57).

Коратка бадай ня можна разглядаць „паганскія сялянскія сьвяткаваньні асновай усяе вуснае літаратуры.

Некалькі наіўна гучыць спроба растлумачыць пахаджэньне цудаў („Для першабытных людзей, якія іншых забавак ня мелі, фокусы жрацоў замянялі ім усе асалоды жыцьця“, ст. 31). Мы-ж разумеем, што асновы пахаджэньня цудаў трэба шукаць у пагоні за кавалкам хлеба старых, няпрыгодных да працы ў паляўнічых дружынах людзей.

„Чарадзействы й магічныя рухі для павялічаньня нажывы былі выключным здабыткам старэйшых, хаця пагэтаму помач іх у працы мела фіктыўны характар“ (Г. Эйльдерман: „Первобытный коммунизм и первобытная религия“, ст. 93).

Калі ўжо даваць гістарычную спраўку аб чараўніцтве (ст. 55), дык трэба было ўспомніць і Бабілён, дзе, у часы палону, жыды шмат чаму з гэтай галіны ведаў навучыліся, Індыю, Цібет, Кітай, ня кажучы ўжо аб Мідыі і Пэрсыі, дзе чараўнікі лічыліся нават асобнай клясай. Спраўку трэба

было асноўна перарабіць. Бо ўпамінаньне аб тым, што Хрыстос выганяў чарцей (ст. 56) без навуковага тлумачэньня падобных выгнаньняў можа ўнесьці смуту ў мазгі вясковага чытача.

Бадай ня можна згадзіцца з аўтарам, што „хрысьціянскія міты ўжо даўно перайшлі ў стадыю забаўных баек для маленькіх дзяцей“ (ст. 54). Пераходзяць, але, к вялікаму жалю, яшчэ не перайшлі. Ня можна згадзіцца і з зацьверджаньнем, што „нічога карыснага рэлігія чалавеку не дала“ (ст. 70). Бо вядомую станоўчую арганізуючую ролю рэлігія ў свой час сыграла, і яе прадстаўнікі не заўсёды былі пустагучымі нашых дзён, а й вельмі карыснымі лекарамі, змогшымі знайсьці прымену лячэбных сіл прыроды, галоўным чынам, у галіне расьліннага царства.

Калі ўжо памінаць аб разгуле інквізыцыі, дык нельга, успамінаючы Францыю і Нямеччыну (ст. 57), ня ўспомніць аб Гішпаніі, дзе жыўцом было спалена 49.581 чалавек, дый 291.450 асуджана было пакутна паміраць у вастрогах.

Да ліку недахопаў трэба аднесьці ссылку на „леташні судзебны процэс рабіна“ (ст. 54).

Толькі той, хто ведае Беларусь, зразумее, што справа йдзе аб процэсе рабіна ў 1921 г.

Пры жаданьні лік недахопаў можна было падвоіць. Але ўсе адмечаныя недахопы адкупляюцца надзвычайна багатым фактычным зьместам, і кніжка чытаецца з захопам, ня гледзячы на тое, што аўтар калі-ні-калі паўтараецца.

Гэтая кніжка З. Бядулі павінна пранікнуць у кожную хату-читальню, у кожную сельскую школу таму, што яна наскрозь пранізана беларускім народным гумарам, нагляданьнем (гл. папоўска-жыдоўскі інтэрнацыянал—ст. 33-35); глухоту сьвятога Пётры, які пасылае дождж не калі людзі просяць, а калі людзі косяць (ст. 38); вызначнае чытаньне лісту няпісьменным селянінам (стар. 123), і рэдкай сцэнічнасьцю „мужыка і пана“, якая з маленькай крупінкі пад канец вырастае ў цэлую гору.

Надзвычайна сільна апісана беларуская песьня:

„Песьня гэтая была сплецена з балючых стогнаў, аздоблена бунтарска-гнеўнымі яскравымі вуглямі, асьвечана маланкавым стацьветам сялянскай затаёнай надзеі аб лепшым жыцьці-быцьці.

„Песьня гэтая кіравалася тахтам грабель і цапоў; дзынканьне касы і шастаньне сярпоў на сьпелых каласох тварылі яе рытмы; зычная крынічка, пералівы рэчкі на лузе даравалі ёй час-ад-часу просьценькія вянкі рыфмаў; чырвоная калінка, шэрая зязюленька і зялёны яварок шчыра вартавалі беларускую песьню з абодвых канцоў, служылі ёй загартованымі прыпевамі-замовамі.

„Абцугі нядолі рвалі песьню з гнёздаў сялянскага сэрца, выцягвалі з яе глыбіні з акрываўленымі карэньнямі; нібы ранены сокал, білася беларуская песьня аб родную глебу, цьвярдзела ў зычнасталёвыя кавалкі, кідалася аб каменьні-крушні.

„Водгалас пушчы падхопліваў яе, песьню, прапускаў яе праз сіта галінпляцёнак, расьсяваў яе ветрам віхурным па ўсіх абшарах Беларускага краю. Па разлогах-далінах, па вёсках, сялібах яе сустракалі, як шчыра пажаданую госьцейку-свацьцю, жалейка, дуда, цымбалы і ліра.

— Хадзі, песьня родная, к нам у нашыя сьвятліцы!—на лад салаўіны прасіла жалейка; кволым голасам кленчыла дуда; дробным макам рассыпаючыся, шапталі цымбалы; залацiста-басавым голасам малілася ліра,—пагасьціш у нас і пойдзеш далей у вандроўку. Ніякія пяруны цябе не заб'юць, ніякія вастрогі цябе не зьняволяць, ніякія мячы і стрэльбы ў цябе жыцьця не забяруць.

„Ты, песьня, будзеш жыць вечна, з пакаленьня ў пакаленьне, пакуль прыдуць пісьменныя людзі і пераль-

люць цябе на белы пэргамант для ўнукаў і праўнукаў.

„Нібы слуцкія паясы, нібы зычнабарвяныя дываны беларускіх гарапашных сялянак, будзеш варажыць сэрцы родных песьняроў і вучоных і пакажаш сьвету ўсяму, як жыў калісьці беларускі ратай—твой глебны творца.

„Беларуская песьня, апранутая ў саматканку - мэлёдыю, носячыся на абрусе-самалёце ад вёскі да вёскі, мела асабістасьць надзвычайнай чарадзейкі; дзе-бы яна не пабывала—усюды пакідала свой ценьдвайнік. Кожная з песень мела дзесяткі варыянтаў. Хто дадасьць новае слова, новы штрых, бледны вобраз заменіць болей яскравым—і, такім чынам, яна жыла ў народзе, які хмялеў ад яе, які кідаў яе ўшырку і ўвышку, нібы жыватворчую імшу сваяму акамянеламу ідалу-лёсу. Але гэтая імша ня была малітвай пакоры богу-лёсу—не! гэта быў бунт-протэст процiў цёмнага бажышча, гэта быў крык-праклящьце, кінутае богу папоў прыгнятацеляў у самы твар (ст. 100—102).

А вось і наказ аднэй песьні:

„Браткі, калі-б папоў чорт узяў,
То-б сьвет бяды ня маў.
А без гарапашнікаў мужыкоў
Ня было-б ні хлеба, ні асмакоў.
А каб гэтае ліха зламаць,
Трэба ўсім, як адзін чалавек, стаць,
Ня грызьціся паміж сабою,
Ды ад варагоў бараніцца гурбою“
(ст. 139).

Рэдкі селянін, прачытаўшы гэтую кніжку, не замысьліцца над ашуканствам духавенства ўсіх гатункаў, рэдкі пажадае на сваёй сьпіне спрабаваць прыгожасьці паншчыны, якая ўжо забываецца.

Р Ш.—Тр.

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

## Літаратура.

○ **Якуб Колас** аднаўляе страчаную ім у часе паездкі на Каўказ перапрабленую поэму „Сымон Музыка“. Да гэтых часоў аднаўлены 3 часткі поэмы.

Я Коласам пачата далейшая праца па працягу аповесьці „У Палескай глушы“, напісана ўжо палова другой кніжкі, якой аўтар даў назву „У глыбі Палесься“. Уся гэтая аповесьць аўтарам разьлічана на тры кніжкі.

Ім-жа напісана п‘еса з жыцьця настаўніцтва ў дарэволюцыйны час, пад назвай „Забастоўшчыкі“ ў 2-х актах.

Аўтарам здадзены ў друк: зборнік апавяданьняў для дзіцячага ўзросту „Першыя крокі“, зборнік гумарыстычных апавяданьняў „У ціхай вадзе“ і рэдагуемы ім „Зборнік народных казак“.

Друкуецца зборнік апавяданьняў „На рубяжы“.

Аўтарам падгатаўляецца да друку зборнік апавяданьняў „Казкі жыцьця“.

○ **Міхась Чарот** працуе над беларускім сцэнарыем для кіно.

○ **Янка Купала** выпускае збор вершаў „Безназоўнае“.

○ **Зьмітрок Бядуля** (Ясакар) выдаў збор вершаў „Буралом“.

○ **Цішка Гартны** падгатаваў да друку збор вершаў „Урачыстасьць“.

○ **Я. Неманскі** падгатаваў да друку збор апавяданьняў.

## У „Маладняку“.

○ На сходзе сяброў Усебеларускага Аб‘яднаньня поэтаў „Маладняк“, які адбыўся 17-XI-24 г., пастаноўлена адзначыць гадавіну аб‘яднаньня праз організацыю ў клюбах і Гостэатры вечароў з мэтай популярызацыі аб‘яднаньня. К юбілею выпускаецца хрыстаматыя, якая будзе складацца выключна з твораў сяброў „Маладняку“.

Юбілей адбудзецца ў сьнежні м-цы г.г.

○ Сябром аб‘яднаньня „Маладняк“ М. Гусаком—напісана трагэдыя з жыцьця Заходняй Беларусі пад назвай „На раздарожжы“

○ Малады поэта Н. Чарнушэвіч піша поэму „Комсамолка“.

○ Маладым прозаікам Кузьмой Чорным за апошнія часы напісаны апавяданьні: „Міколавы лапці“, „Зямля“, „Жалезны крык“, „Граніца“; у сучасны момант ён заняты пісаньнем аповесьці.

○ Міхасём Зарэцкім зданы ў друк зборнік апавяданьняў пад назвай „У віры жыцьця“.

○ Поэта А Александровіч прыгатаваў да друку зборнік вершаў „Па беларускім бруку“; ён-жа рыхтуе зборнік апавяданьняў.

○ Поэта Анатолі Вольны за апошні час напісаў апавяданьне з жыцьця паўстанцаў Заходняй Беларусі—„Два“. Ім складзен зборнік п‘ес для вёскі, які ўжо здадзену друк. У сучасны момант А. Вольны пачаў пісаць поэму „Беларуская Комсамолія“.

○ Поэта Я. Пушча рыхтуе да выданьня зборнік вершаў. У сучасны момант Я. Пушча піша поэму „Каліноўскі“.

○ Сябра аб‘яднаньня П. Трус заняты апрацоўкай сваіх вершаў. Ён-жа піша апавяданьне „Марыся“.

○ Поэта У. Дубоўка пераехаў з Масквы ў Менск. Ім прыгатаваны да друку зборнік вершаў. У сучасны момант У. Дубоўка складае зборнік песень для піонэраў.

○ Поэта А. Якімовіч піша аповесьць з жыцьця беларускай інтэлігэнцыі, вышаўшай з вёскі.

○ Поэта Бабарэка піша нарысы з жыцьця студэнтаў пад назвай „Студэнцкія запіскі“, ім напісана аповесьць „Агрызкі жыцьця“.

○ „Маладняк“ зьвяртае асаблівую ўвагу на самаадукацыю сваіх сяброў у галіне літаратуры і літаратурных напрамкаў.

## Навука і культура.

○ У гэтым годзе адчынен у Віцебску Беларускі Вэтэрынарны Інстытут.

○ У Барысаве, у памяшканьні пэдагогічнага тэхнікуму заложан пэдагогічна-краязнаўчы музэй. Музэй папаўняецца рэчамі школьнай працы і дасьледчай працы краязнаўчых гурткоў, якія заложаны ў раёнах.

○ Пры доме асьветы ў Віцебску адчынены курсы беларускай мовы, гісторыі і літаратуры.

○ У зьвязку з прадстаячым Усесаюзным Зьездам Краязнаўства ў Маскве, Цэнтральнае (Маскоўскае) Бюро краязнаўства запрасіла Інбелкульт дапамагчы ў арганізацыі выстаўкі кніжак па краязнаўству прысылкаю матар'ялаў ад Беларусі.

○ На глыбіні 6 вяршкоў ад паверхні зямлі, на ўзгорку каля ручча ў 10 саж. ад шляху Бабруйск-Шчэдрын (Сьцяп. вол.) грамадзянінам с. Цялуш, Туркаўскай вол. Васілём Крычкай знойдзены скарб.

Скарб знойдзен у гаршэчку, аплеценым бяростай, і складаецца з 60 гішпанскіх манэт 1620—1630 гадоў.

○ У гэтым леце дзьве гэолёгічныя экспэдыцыі: адна пад кіраўніцтвам проф. М. Ф. Блюдухі, другая—М. А. Грамыкі рабілі гэолёгічныя досьледы Беларусі.

Першая экспэдыцыя прайшла маршрутам ад Оршы на Копысь, па Дняпры; затым дасьледвала берагі р. Сожа ад верхавін яго да м. Кармы; перабралася з Сожа зноў на Дняпро ў Рагачова і паднялася па плыні на Быхаў і Магілеў.

Другая экспэдыцыя пайшла па Дняпры ад Оршы да граніцы з РСФСР; затым зьвярнула на м. Ляды—Леніна і Горкі, ад Горак на Мсьціслаў і затым па р. Проні да Прапойску, адкуль па шляху—на Магілеў. Экспэдыцыямі сабраны досыць багаты гэолёгічны і мінэралёгічны матар'ял: больш 15-цёх скрынак вагою да 60 пудоў.

Матар'ял экспэдыцый перададзен у Інстытут беларускай культуры і дзяржаўную плянавую комісію для далейшай дэтальнай апрацоўкі.

○ Этнографічная экспэдыцыя А. К. Сяржпутоўскага і Я. В. Прохарава, наладжаная Інбелкультам, якая выяжджала для досьледаў ва ўсходнюю Магілеўшчыну, зьвярнулася, прывезшы, акрамя прадметаў матар'яльнай культуры беларуса (да 30 пудоў), і яшчэ шмат матар'ялу па духоўнай культуры.

Я. В. Прохаравым запісана звыш 100 беларускіх песень, сярод якіх ён спаткаў некаторыя вялікай музычнай вартасьці.

Да 70 з іх запісаны фонографам.

Увесь сабраны матар'ял слоўнага і народнатворчага характару, пасьля яго апрацоўкі А. Сяржпутоўскім, а таксама песенны музычны матар'ял з нотамі, апрацаваны Я. Прохаравым, будзе выпушчаны Інбелкультам асобнай кніжкаю.

Усе сабраныя прадметы па быту беларуса перададзены ў этнографічны аддзел Бел. Дзярж. Музэю.

○ Нав.-Эксп. Комісія НКА даручыла Бел. Дзярж. Музэю ў Менску зьвярнуцца ў Смаленскі аддзел народнае асьветы з прапановай зьвярнуць на Беларусь усе музэйныя рэчы, вывезеныя смаленскімі музэямі з Усходняй Беларусі (Магілеўшчыны і Віцебшчыны).

○ Навук.-Эксп. Комісіяй НКА пастаноўлена пры Дзяржаўным Музэі ў Менску залажыць музэйны фонд для разьмеркаваньня паміж іншымі музэямі рэчаў музэйнай значнасьці.

○ З 16 верасьня пачалі сваю працу ўсе існуючыя пры Інбелкульце тэрмінолёгічныя комісіі.

○ Кончыўшы сваю дасьледчую працу па Віцебшчыне проф. зоолёгіі Фэдзюшын сабраў багаты збор-колекцыю розных жывёлін, птушак і рыб (да 1200 экз.).

Усе сабраныя ім рэчы складуць аснову зоолёгічнага аддзелу Бел. Дзярж. Музэю.

○ Пры клюбе 7-й беларускай вайсковай ім. ЦВК БССР школы заложан беларускі куток, куды зьбіраюцца матар'ялы па беларускай культуры ў розных яе галінах.

○ 2 кастрычніка г.г. а 10 гадзіне ўвечары памёр у Віцебску вядомы беларускі гісторыограф—профэсар А. П. Сапуноў. Па пастанове Саўнаркому Інбелкультам была ўтворана спэцыяльная комісія, якая разабрала рэчы, знойдзеныя ў спадчыне ад А. П. Сапунова, перавёзшы ў Менск усе яго рукапісы і бібліографічны матар'ял, а ў Віцебску пакінуўшы іншыя рэчы мясцовай

значнасьці для ўтварэньня кутку А. П. Сапунова ў музэі.

На організацыю пахаваньня А. П. Сапунова Саўнарком БССР адпусьціў 300 р.

○ Загадчыкам Мазырскага аддзяленьня дзяржаўнага архіву т. Даўгаполавым у архіве Ільлінскай царквы (Тураўшчына) знойдзен трэбнік Пятра Магілы, выданьня 1639 г. Прадмова гэтае кнігі напісана большай часткай на беларускай мове.

У Старажоўцах у царкоўнай кнігарні знойдзен „Апостал“ часу Пятра Магілы, „Рэвішскія сказкі“ пачатку XIX ст. і ўказы часоў Пятра першага.

○ 3 сэсія 6 скліканьня ЦВК БССР, заслухаўшы даклад т. Баліцкага аб Інбелкульце адзначыла правілова праведзеную рэорганізацыю Інстытуту, прызнала патрэбным рэорганізаваць Інбелкульт у пастаянную дзяржаўную навукова-дасьледчую, па тыпу Акадэміі Навук, установу, даручыла НКА папоўніць склад Інбелкульту кваліфікаванымі навукова-марксыцкімі працаўнікамі і зьвярнула ўвагу ўсіх савецкіх органаў на неабходнасьць максымальнага падтрыманьня Інстытуту.

○ Кіраўніцтва Цэнтрархіву БССР мае на ўвазе ў бліжэйшы час выдаць асобнай кніжкай „Матар'ялы 1-га ўсебеларускага зьезду архівістых“.

○ ЦВК БССР адпусьціў Інбелкульту 15.000 руб. на рамонт і абсталяваньне перададзенага яму будынку.

○ У сьнежні г.г. Беларусь сьвяткуе 20 гадавіну рэволюцыйнай і 15 г. беларуска-грамадзянскай дзейнасьці проф. Ўс. Мак. Ігнатоўскага. Да юбілею будуць выданы партрэты т. Ігнатоўскага і яго жыцьцёпіс.

Інбелкульт організуе вечар, афяраваны Ўс. Мак. Ігнатоўскаму.

○ У пачатку лістапада г.г. ў Менску адчынен Беларускі Музычны Тэхнікум.

Для вядзеньня ў ім сталай працы прыцягнуты значныя музычныя сілы, як Бясьсьмертны, Я. Прохараў, Сэлех і інш.

○ У звязку з прадстаячым Ўсесаюзным краязнаўчым зьездам, у Менску адбылася і Ўсебеларуская краязнаўчая конфэрэнцыя.

## Тэатр і мастацтва.

○ Прымаючы пад увагу, што Беларускі Дзяржаўны Тэатр імкнецца падысьці да працоўных мас Беларусі і, прызнаючы культурную каштоўнасьць БДАТ, Саўнарком БССР ухваліў працу БДАТ за мінулы час і выдаў з запаснага фонду СНК 5.000 р. на перабсталяваньне тэатру і інш. патрэбы.

○ 27 верасьня без пары памёрла адна з выдатных балерын БДАТ Мар'я Сямёнаўна Тарасэвіч.

○ 26 кастрычніка ў м. Крычаве сіламі драматычнага гуртку быў пастаўлен першы спэктакль на беларускай мове.

○ 2 дзяржаўная трупа пад кіраўніцтвам У. Галубка ў кастрычніку выяжджала на Ўсходнюю Беларусь (Орша і Клімавічы), дзе паставіла 5 спэктакляў.

У знак падзякі за праробленую працу ЦВК БССР адпусьціў 500 рублёў.

○ Зімовы сэзон БДАТ адчынен пастаноўкай прэм'еры, п'есы Н. Быкаеўскага „Панскі Гайдук“, з часу паўстаньня гайдамакаў (XVI ст.). Другой прэм'ерай ішла п'еса „Савецкі чорт“—з сучаснага жыцьця.

○ Кіно-фільма „Чырвоныя партызаны“ выпушчана з надпісамі на беларускай мове.

○ Саюз працаўнікоў мастацтва, разам з гуртком самадзейнасьці БДАТ, пастанавілі што-тыдзень па суботах уладжваць дыскусіі аб драматургіі і сучасным тэатры. Два гэткіх суботнікі ўжо адбыліся; на іх разьбіралася п'еса Я. Купалы „Тутэйшыя“.

## Новыя выданьні.

○ У верасьні г. г. вышаў з друку першы нумар часопісі „Беларуская Мэдыцынская думка“. Часопісь мае высьвятляць тэорытычную навукова-мэдыцынскую думку і практычныя патрэбы па ахове здароўя жыхарства Беларусі.

○ З кастрычніка пачала выходзіць на расійскай мове часопісь ЦВК БССР „Савецкае Будаўніцтва“ ў складзе аддзелаў: экономічнага, адміністрацыйна-прававога і культурна-асьветнага.

○ Вышаў з друку першы нумар часопісі жаночага аддзелу ЦК КП(б)Б „Работніца і сялянка“. У часопісі зьмяшчаюцца рэчы на беларускай мове.

○ „Витебская Крестьянская газета“ адчыніла беларускі аддзел.

○ Гурткам беларускіх пісьменьнікаў з „Маладняку“ выданы ў Калінінску зборнік пад назваю „Маладняк Калінішчыны“. У зборніку

памешчаны артыкулы, якія высьвятляюць нацыянальнае пытаньне з угляду комуністычнай партыі, агляды разьвіцьця беларускай літаратуры і становішча сучаснае літаратуры, а таксама некалькі вершаў. Зборнік набраны ў Калінінскай друкарні ў тры дні.

### Памятнік М. Багдановічу.

O У Ялце на магіле поэты М. Багдановіча на цамэнтавай абмуроўцы магілы пастаўлена піраміда з мармуру, на якой, апрача формальнага паведамленьня — хто тут пахован, яшчэ высечана савецкая гвязда і пад ёю цытата з аднага вершу поэты аб даўшай багаты плён жмені пшаніцы, знойдзенай у вадпэй з эгіпэцкіх пірамід.

### Беларусы ў Адэсе.

O У Адэсе налічваецца некалькі тысяч беларусаў. Значную частку беларускай колёніі складаюць бежанцы-сяляне з раёнаў Беларусі, захопленых Польшчай.

Цяпер у Адэсе існуе толькі адна беларуская ўстанова—гэта беларускі дзіцячы дом, у якім вучыцца 30 дзяцей-сірот. З гэтага году для іх організуецца школа з выкладаньнем у беларускай мове.

### За рубяжом.

O Па вестках Віленскага куратарства ў 1923—1924 школьным годзе ў Віленшчыне на 1128 пачатковых школ прыходзілася беларускіх казённых—17, прыватных—0.

Беларускія школы расьсеяны па Віленшчыне так: у Вільні—2 з 170 вучнямі, у Вялейскім павеце—5 з 263 вучнямі, у Дунілавіцкім павеце—1 з 73 вучнямі і ў Сьвянцянскім пав.—9 з 394 вучнямі.

O Міністрам асьветы Польшчы—Міклашэўскім забаронена ўжываньне ў школах „Географіі Беларусі“ А. Смоліча.

O Урадам Беларускага Навуковага Таварыства пастаноўлена прыступіць да організацыі выстаўкі сьвяткаваньня 400-летняга юбілею беларускага друку ў Вільні, які прыпадае ў 1925 г.

O У Навагрудку адчынілася нанава беларуская гімназія.

Замест зачыненае ў Нясьвіжы, адкрыта беларуская гімназія ў Клецку.

O У газэце „Przegląd Wileński“ № 16 і 17 за 1924 г. зьмешчаны артыкул нейкага Дрыгвіча *„Новыя моманты ў псыхіцы беларускага народу“*, у якім аўтар спыняецца на апошніх творах Янкі Купалы і даводзіць, што поэта перайшоў да новых шляхаў у ідэолёгічным зьмесьце сваіх твораў.

O Жыдоўская газэта „Тог“ (у Вільні) у № 251 ад 6 кастрычніка надрукавала пераклад вядомага мастацкага апавяданьня Зьмітрака Бядулі „Малітва малога Габрусіка“. Пераклад зроблен жыдоўскім літаратарам П. Конам, які абяцае пасьвяціць пісьменьніку спэцыяльны крытычны нарыс.

O Комуністычная партыя Заходняй Беларусі выдае газэту на беларускай мове пад назвай „Чырвоны сьцяг“.

O Беларускім драматычным гуртком пры Беларускай Радзе ў Празе 18 кастрычніка г. г. ў Юзофаве (у Чэхаславакіі) быў дадзен беларускі спэктакль. Ставілі „Птушка шчасьця“ Ф. Аляхновіча. Спэктакль прайшоў добра і меў посьпех. Чарговы спэктакль меў адбыцца ў Празе.

O На справаздачным гадавым сходзе таварыства „Беларуская Рада ў Празе“ была заслухана справаздача за мінулы год, перавыбраны прэзыдыум і рэвізыйная комісія, абгаворены організацыйныя справы і плян працы на будучыну.

Беларуская Рада зьяўляецца аполітычнай культурна-грамадзянскай організацыяй і мае галоўным заданьнем: згуртаваньне і дапамогу беларусам у Чэхіі і культурнае збліжэньне народаў чэскага і беларускага.

# З КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў СССР

## РСФСР.

○ Інстытутам ім. Леніна выпускаецца з друку другі ленінскі зборнік, у які ўваходзяць каштоўныя матар'ялы па гісторыі выпрацоўкі програмы партыі. Гэты матар'ял, абыймаючы каля 10 друкаваных аркушаў, утрымоўвае рукапісы Ўл. Іл. Леніна, Г. Пляханава, Л. Мартава, В. Засуліч, узаемныя заўвагі і адметкі, а гэтак сама і перапіску па пытаньнях выпрацоўкі програмы паміж Леніным і П. Аксэльродам, Леніным і Патрэсавым, Пляханавым і Засуліч.

Да друкуемага матар'ялуададзены комэнтарыі і прадмова Л. Б. Каменева. У зборніку фототыпічным спосабам будзе адноўлены шэраг рукапісаў.

Гэтым-жа Інстытутам перавыдаецца выпушчаны да XIII зьезду ў невялікім ліку экзэмпляраў каталёг рукапісаў *Ул. Іл. Леніна*, абыймаючы каля 5000 нумароў. Каталёг складзен А. Аросевым і прадстаўляе сабою дэтальны пералік усіх рукапісаў, якія захоўваюцца ў Інстытуце, а гэтак сама і перапіску Ўл. Іл. і займае каля 30 друкаваных аркушаў.

Каталёг абхоплівае і ўсе рукапісы, якія не знаходзяцца ў Інстытуце, але веды аб якіх маюцца ў яго распараджэньні.

Інстытут рашыў прыступіць да складаньня календару жыцьця і працы Ул. Іл. ў гады рэволюцыі. Каляндар павінен абхапіць дзень за днём усю дзейнасьць Ул. Іл. Леніна за гэтыя гады на аснове ўсіх матар'ялаў, ведаў і ўспамінаў. Такі каляндар зьявіцца неацанімым матар'ялам для гісторыі рэволюцыі і паслужыць нявычарпанай крыніцай ведаў для біографа Ўл. Іл. аб складнай і найбольш вялікай эпосе яго жыцьця.

(„Печать и Революция").

○ Групай пісьменьнікаў і поэтаў „Кузьня" прыняты крокі да пашырэньня й концэнтраваньня вакол „Кузьні" маладых пролетарскіх гурткоў — „Перавалу", „Няверайцаў", „Тварыйцаў" і інш. Да свайго пяцёхгадовага юбілею, у лютым 1925 г., групай падрыхтоўваецца мастацкі і тэорытычны зборнік „Пять лет „Кузницы". Літаратурныя бяседы пачаліся з 15 верасьня.

(„Печ. и Рев.").

## Украіна.

○ Украінізацыя савецкага апарату на Кіеўшчыне заканчваецца. Дзелаводзтва Губ. Вык. Комітэту пераведзена на ўкраінскую мову. Усе ўстановы, якія блізка стыкаюцца з вёскаю, украінізаваны.

○ У Кіеве ў будынку комуністычнай асьветы адбылося першае шматлюднае выступленьне ўкраінскай капэлі „Рух" у дзень гадавіны яе існаваньня. Капэляю кіруе Лявіцкі. Складаецца капэля з 60 асоб.

○ Украінскім ЦВК і СНК зацьверджана палажэньне аб усеўкраінскім с.-г. музэі ў Харкаве.

Музэй павінен быць жывым правадыром навукова-агрономічных і тэхнічных дасягненьняў сельскай гаспадаркі.

○ Фото-кіно ўправа Ўкраіны адчыняе па вёсках 20 новых кіно-тэатраў са спэцыяльным падборам цікавячых сялянства кіно-малюнкаў.

# ХРОНІКА ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА ЗАХАДУ

## Англія.

○ Адным з буйных сучасных ангельскіх пісьменьнікаў зьяўляецца **Джон Мэйзфільд**.

Вышаўшы нядаўна *поўны збор яго вершаў* (выд. Heinemann) дае магчымасьць прасачыць яго поэтычную эволюцыю на працягу дзесяцёхгодзьдзя.

Лічацца лепшымі апошнія творы Мэйзфільда, асабліва вызначаецца яго поэма „Мара" (The Dream).

Нядаўна вышлі дзьве новых кнігі Мэйзфільда: „Марцін Хайд" („Martin Hyde") і „Кніга Вынаходак" (A Book of Discoveries).

(„Совр. Зап.").

Аб новым романе **Дж. Конрада** „*Марскі душагуб*" (The Rover) ангельская крытыка адзываецца з вялікай пахвалай. Падзеі роману адбываюцца ў эпоху францускай дырэкторыі і блёкады Францыі ангельскім флётам.

(„Совр. Зап.").

**Х. Бэйлі**. „Бунтар" (H. C. Bailey. The Rebel). Роман з жыцьця рэволюцыйна-настроенага ангельца. Гэрой прымае ўдзел у рэволюцыйнай барацьбе ірляндцаў, у кампаніі Гарыбальдзі і франка-прускай вайне. Ангельская крытыка ўказвае на падабенства між гэроем роману—Бофорэстам і тургенеўскім Рудзіным.

(„Совр. Зап.").

○ Вышаў новы роман **Робіндранта Тагора** „*Гора*" (Gora), пераведзены выдатным індускім пісьменьнікам з бенгальскай мовы на ангельскую; сюжэт узяты з сучаснага ангельскага жыцьця.

(„Совр. Зап.").

○ **Хайдэр Ролінс** выдаў зборнік рэволюцыйнай поэзіі эпохі ангельскай рэволюцыі: семдзесят пяць баляд і застольных песень складаюць зборнік. У зборніку адбіта рэволюцыйная поэзія ўсіх групіровак і напрамкаў.

(„Совр. Зап.").

○ Падыходзячае стагодзьдзе са дню сьмерці **Байрона** выклікае ажыўлёную выдавецкую дзейнасьць. Выходзіць: 1) Антолёгія выбраных адрыўкаў з поэм Байрона пад рэдакцыяй Грырсона (Grierson). 2) Зборнік, у якім прымаюць удзел выдатныя літаратурныя сілы, пад рэдакцыяй Брыско (Briscoe). 3) Проф. С. Ш'ю падгатаваў да друку абгляд „Байрон у Англіі,—што аб ім гаварылі пры жыцьці і пасьля сьмерці".

Акрамя гэтага, выдавецтва „Routledge" выпускае зборнік артыкулаў, афяраваных памяці вялікага поэты.

(„Совр. Зап.")

## Амэрыка.

○ **Сінклер Льюіс** „*Спроба сокала*" (The Trail of the Hawk). Галоўны гэрой роману—амэрыканскі авіатар.

(„Совр. Зап.").

○ Вышла кніга **Бэкхофэра** (Bechofer) „*Літаратурны рэнэсанс у Амэрыцы*".

У кнізе даюцца жывыя нарысы руху „маладых", амаль што ва ўсіх галінах мастацтва. Агульны настрой амэрыканскай моладзі абмалёўваецца, як соцыяльны протэст супроць існуючага жыцьцёвага ўкладу.

(„Совр. Зап.")

## Аргэнтына.

○ Выдавецтва Bayardo ў Буэнос Айрэсе выпусьціла роман вядомага аргэнтынскага романістага, **Туго Вост**,—„*Блакітны гальштук*". (Hugo Wost. La corbata celesta). Француская крытыка раўнае талент аўтара з талентам П'ера Бэнуа.

(„Совр. Зап.").

## Гішпанія.

○ У Мадрыдзе вышаў першы нумар новай часопісі „*Заходні агляд*" (Revista de Occidente). Гэта трэцяя па ліку літаратурная

часопісь Гішпаніі. Да гэтых часоў толькі La Pluma і España ўважліва сачылі за мастацкім і літаратурным жыцьцём Эўропы, прычым España (кожнатыднёвік) заўсёды прызначаў шмат месца пытаньням палітыкі і быту. Новая часопісь ставіць сваёй мэтай вывучэньне ідэёвага жыцьця пасьля-военнай Эўропы.

У часопісі прымаюць удзел—гісторык літаратуры Альфонсо Рэйес (Паўднёвая Амэрыка), здольны публіцыста Корпус Брага, Мігэль-дэ-Унамуно, Асорын, Р. Перэс-дэ-Айала, Ортэга-і-Тассэт і Р. Томэс-дэ-ля-Сэрна.

(„Совр. Зап.").

## Італія.

○ У італьлянскай літаратуры за апошнія часы абазначыўся рух у карысьць звароту да клясыцызму. На чале руху, напамінаючага францускі нэо-клясыцызм стаіць поэта **Вінчэнцо Кардарэлі**, залажыўшы з сваімі аднадумцамі літаратурную часопісь „La Ronda" („Абход"). Самому Кардарэлі належаць дзьве кнігі вершаў: „Пролёгі" і „Вандраваньні па часе", а гэтак сама адрыўкі з незакончаных „Сказаў аб утварэньні сьвету" і кніга дзіцячых успамінаў. Але больш значная яго роля, як крытыка. Ён стаіць супроць галоўных кірункаў учарашняга дню: футурызма, д'анунцыянства, імпрэсыёнізма. Ён протэстуе супроць захапленьня літаратурнай формай, але аднак прасьцярагае ён і супроць надзвычайных шуканьняў новых сюжэтаў. Найлепшы шлях цяпер, на яго думку, складаецца ў новай, паглыбляючай апрацоўцы старых тэм і сюжэтаў: сродкі мовы і думкі ў гэтым кірунку далёка ня выкарыстаны.

Пасьлядоўнік Кардарэлі, Беккелі, піша трагэдыі: „Гамлет", „Спартак", „Скража Арыдыяны". Клясычная манера працы павінна зьмяшчацца ў затрыманьнях імпульсыўнага пачатку ў поэты і падчыненьні яго яснай думкі простай, строгай форме.

Праціўнікі Кардарэлі абвінавачваюць яго творчасьць у мярцьвечыне і акадэмічнасьці.

(„Совр. Зап.").

○ **Габрыэль д'Анунцыо** піша кнігу аб Ісламе, у якой ён дае новае тлумачэньне Корану.

(„Совр. Зап.").

## Нямеччына.

○ **Вальтэр фон-Моло.** „Народ абуджаецца". (Das Volkwachtauf). Замер аўтара — параўнаць Нямеччыну пачатку дзевятнаццатага веку і Нямеччыну сучасную—падкрэсьльваецца ў кнізе ясна, і, магчыма, толькі дзякуючы гэтай жывой блізкасьці тлумачыцца тыраж кнігі: 125.000 экз.

(„Совр. Зап.").

○ **Лео Фрабеніус** „*Кардафанскія казкі*". Мюнхэн, 1923. Кніжка ў 300 старонак—адзін з 15 томаў шырока задуманай і распрацоўваемай аўтарам сэрыі „Атланціда", афяраванай творчасьці народаў Афрыкі. У гэтых пятнаццацёх тамох—вынікі працягненага вывучэньня афрыканскай культуры, загадкавай і чужацкай, але ўсё больш і больш прыцягваючай уважлівасьць Эўропы.

(„Совр. Зап.").

○ У Потсдаме вышла з друку новая пе'са **Юр'я Кайзэра** „*Жуль і Жанна*".

„Жуль і Жанна" напісана на гістарычную тэму. Яна перадае гісторыю Жанны Д'Арк і яе таварыша па бойках Жуля дэ-Рэ.

(„Совр. Зап.").

○ **Альфонс Пако**, аўтар досыць вядомых у Нямеччыне этудаў аб Савецкай Расіі, выпусьціў утапічны роман „*Прадказаньне*".

(„Совр. Зап.").

○ У Клюбюеле памёр аўстрыяцкі пролетарскі поэта **Альфонс Пэцольд**.

(„Совр. Зап.")

○ Нямецкае выдавецтва **„Атэн-эйон"** выпускае „Энцыклёпэдыю сусьветнай літаратуры". У складаньні гэтай працы прымаюць удзел выдатныя спэцыялістыя Нямеччыны на чале з Аскарам Вальцэлем. Выданьне будзе мець назву „Handbuch der Literaturwissenschaft".

(„Совр. Зап.").

○ Адзін з найбольш цікавых нямецкіх крытыкаў **Франц Блей** (Franz Blei) выпусьціў невялікі нарыс аб сучаснай нямецкай літаратуры: „*Вялікі зьвярынец сучаснай літаратуры*" (Das grosse Bestiarium der modernen Literatur). Па водзывах нямецкай прэсы, гэты нарыс, поўны сарказму й крытычнага яду, адзін з лепшых аналітычных прац аб новых цячэньнях у нямецкай літаратуры. („Совр. Зап.").

○ У ліпнёўскім нумары часопісі „Der Neue Merkur" надрукаваны шэраг да гэтых часоў неапублікаваных лістоў Дастаеўскага да яго жонкі. („Печ. и Рев.").

○ Вышаў чацьверты том збору твораў Таўстога, які друкуецца выдавецтвам Cassiener'а ў Бэрліне. Том 4-ты ўтрымоўвае „Воскресение“.

(„Печ. и Рев.“).

○ Роман Верасаева „Ў тупіку“ вышаў у перакладзе на нямецкую мову, пад загалоўкам „In der Sackgasse“ ў выдавецтве Verlag für Literatur und Politik у Вене.

(„Печ. и Рев.“).

○ У бэрлінскім выдавецтве „Der Syndikalist“ вышаў трэці том збору твораў Міхайлы Бакуніна.

(„Печ. и Рев.“).

○ Да досыць значнага ліку кніжак аб Леніне, вышаўшых у Нямеччыне, дабавілася яшчэ некалькі. У тым ліку „Die Segenwart über Lenin“ (выд. Neuer Deutscher Verlag у Бэрліне). Кніга ўтрымоўвае ў сабе водзывы сучасьнікаў аб Леніне, галоўным чынам тыя, якія былі зьмешчаны ці перадрукованы ў рускай прэсе.

(„Печ. и Рев.“).

○ У нямецкім друку зьявіліся веды аб апошнім сцэнічным творы Рыхарда Штрауса: гэта—комічная опэра „Інтэрмэцо“; лібрэта да гэтай опэры напісана Гэрманам Барам.

(„Совр. Зап.“).

### Польшча.

○ Кароль Шыманоўскі (Karol Szymanowsky) найбольш выдатны з сучасных польскіх кампозытараў напісаў опэру „Тагіт“ („Hahith“).

(„Совр. Зап.“).

### Францыя.

○ Аўтар „Гісторыі сучаснай францускай літаратуры“ **Рэнэ Лалу** надрукаваў роман „Правадыр“; у ім ставіцца проблема гэтмана і політычнага правадыра; абстаноўка кнігі—выдуманая. (R. Lalon. Le Chef. Paris. Crès).

(„Совр. Зап.“).

○ Аўтар „Зільбэрмана“ Жак дэ-Лакрэтэль надрукаваў новы маленькі роман „Сьмерць Іпаліта“. (Jacques de Lacvetelle. La mort d'Hippolyte. P.-Nouv. Rev. Française).

(„Совр. Зап.“).

○ У выдавецтве Nouvelle Revue Française вышаў роман ураджэнца Паўднёвай Амэрыкі поэты Жуля Сюпэрвіэля „Чалавек з Пампасаў“ (J. Supervielle. L'homme de la Pampa).

(„Совр. Зап.“).

○ **А. Ван Бэвэр** (A. Van Bever) выпусьціў другі том „Перапіскі (Lettres) Поля Вэрлена“, утрымоўваючы шмат упяршыню надрукованых лістоў поэты, якія даюць багаты матар'ял дзеля біографіі і крыніц творчасьці Вэрлена.

(„Совр. Зап.“).

○ „Пяць контынэнтаў“ (Le cinq continents)—сусьветная онтолёгія сучаснай поэзіі, складзеная **Іванам Голем**, (Ivan Goll) мае мэту даказаць „інтэрнацыяналізацыю“ мастацтва, якая адбываецца ў сучасны момант. Заявіўшы, што „ў Эўропе няма аніводнага вялікага поэты“, Голь зьвяртае асаблівую ўвагу на Ўота Ўітмэна, італьлянскіх футурыстых і іх пасьлядоўнікаў.

У онтолёгіі ўпяршыню прыведзены вершы некаторых вельмі цікавых і да гэтых часоў зусім незнаёмых Эўропе амэрыканскіх поэтаў.

○ Вышла ў дзьвух тамох „Histoire poetique du quinzieme siecle“ П'ера Шампіона (P. Champion). Матар'ял разьмешчан монографічна па асобным жыцьцёпісам і „літаратурным гісторыям“ найбольш выдатных поэтаў гэтае эпохі.

(„Совр. Зап.“)

○ Вышлі з друку першыя тамы дзьвюх вялікіх ілюстраваных гісторый францускай літаратуры; адна з іх колектыўная, пад рэдакцыяй Жозэфа Бэд'е і Поля Азара (дзе Бэд'е напісан у першым томе ўсяго толькі разьдзел аб сярэднявяковай апавядальнай прозе), другая належыць Густаву Лансану, але зусім не зьяўляецца пашыраным паўтарэньнем яго ўсім вядомага падручніку. Вось іх загалоўкі: І. Bédier et P. Hazard. Histoire de la litèrature française illustrèe. Paris. Larousse. t. I i G. Lanson. Histoire illustrèe de la literature française. Paris. Hachette. t. I.

(„Совр. Зап.“)

○ За апошнія месяцы вышла некалькі станавітых прац па друкарскім мастацтве. Адзначым з іх ліку дзьве працы: Ф. Цібодэ „Друкаваная літара“ (F. Tibaudet, La lettre imprimée), і Ш. Саньe „Дэкоратор кнігі“ Ch. Saunier, Le decorateur du livre).

(„Совр. Зап.“).

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# Зьмест „Полымя“ № 4 (12).



---


Б. Д. В. № 31. 1-я Дзярж. друкарня „БДВ“. Зак. № 285. У ліку 2.000. Галоўліт № 5378.

# БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ

## Літаратуры, Палітыкі, Экономікі, Гісторыі

# ПОЛЫМЯ

Далей выходзіць пад агульнай рэдакцыяй
З. ЖЫЛУНОВІЧА, Я. ЛІМАНОЎСКАГА
і І. ШЫПІЛЫ

**з удзелам:** Александровіча А., Байкова М., Барадога М., Бядулі З. (Ясакара), Вольфсона С. проф., Гарбацэвіча В., Гартнага Ц., Грамыкі М., Гурло А., Дзяржынскага Ў., Дубоўкі Ў., Журбы Я., Замоціна І, проф., Ігнатоўскага Ў. проф., Кацэнбогена С. проф., Коласа Я., Купалы Я., Лёсіка Я., Маразоўскага М.. Моркаўкі А., Мялешкі М., Некрашэвіча С., Неманскага Я., Нодэля В., Пічэты Ў. проф., Пушчы Я., Пятровіча Я., Пятуховіча М. проф., Родзевіча Л., Смоліча А., Хмаркі, Цьвікевіча Я., Чарнушэвіча Н., Чарота М. і інш.

*Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Менск, Цэнтральны Дзяржаўны Архіў, Комуністычная, 16.*

Вышаўшыя №№ 1, 2, 3-4, 5-6, 7-8, 1 (9), 2 (10) і 3 (11)

можна выпісваць і купляць ува ўсіх лепшых кнігарнях Беларускай Рэспублікі.

## Зьмест № 1 (сьнежань 1922 г.).



---

## Зьмест № 2 (студзень 1923 г.).

## Зьмест № 3—4 (люты—сакавік 1923 г.).



---

## Зьмест № 5—6 (красавік—май 1923 г.).

## Зьмест 7—8 нумару (чэрвень—лістапад 1923 г.).



---

## Зьмест 1 (9) нумару.

## Зьмест 2 (10) нумару.



---

## Зьмест „Полымя“ № 3 (11).